ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-
МАСТАЦКІ
І
ГРАМАДСКА-
ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС

**Заснаваны
ў 1953 годзе**



# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

**1** ***(250)***

СТУДЗЕНЬ
**1974**

**Выдавецтва
ЦК КП Беларусі
МІНСК**

## У НУМАРЫ






Вокладка **П. Драчова**
(фота **В. Ждановіча**)

На другой старонцы вокладкі
мал. **Г. Дзярагіна**






# ПАЭЗІЯ ✱ ПРОЗА

*Генадзь Бураўкін*
*Міхаіл Дудзін*
*Генрых Далідовіч*
*Глеб Гарбоўскі*
*Вольга Марозава*
*Уладзімір Тарапыгін*
*Глеб Гарышын*
*Віктар Максімаў*
*Анатоль Кудравец*
*Канстанцыя Буйло*

*Генадзь*
*Бураўкін*



ПАЭЗІЯ

# ЛІСТЫ Ў ЛЕНІНГРАД

## Крэйсеру «Аўрора»

Ты для мяне —
                    не грозная рэліквія
На п'едэстале велічнай Нявы,
А вечная гісторыя вялікая,
Майго зямнога лёсу вартавы.

Калі ўзыходзіць раніца па трапу
І над табою паднімае сцяг,
Уздрыгваюць тыраны і сатрапы
У гэты міг на ўсіх мацерыках.

І помніць свет няроўнасці праклятыя,
Што на яго глядзяць з нядаўніх пор
Твае незачахлёныя гарматы,
Як вочы справядлівасці,—
                              ва ўпор.

І ведаюць байцы перад атакай
На векавы нявольніцкі рубеж:
Як стане цяжка —
                    ты падымеш якар
І ў стомленае сэрца прыплывеш...



Калі ж нязвана ўзыдзе ў небе зыркім
Рашучай бітвы ачышчальны дым,
Прашу:
        дай мне таксама бесказырку
З тваім кароткім імем залатым.

## Піскароўскаму мемарыялу

Я стаю на каленях
перад тваім векавечным спакоем.
Я не кветкі прынёс табе —
памяць
        і боль незатоены.
І маўчу,
да халоднага ветру прыпаўшы шчакою.
Я маўчу,
бо няма ў мяне слоў —
толькі стогны.

А навокал —
курганы,
        курганы,
                курганы,
Ці проста вялікія труны,
травою зарослыя,
Дзе па-брацку —
плячом да пляча —
пахаваны
Блакадныя зімы,
блакадныя вёсны.

Я не плачу.
Навошта слязамі трывожыць
Ленінградскую мужнасць,
Ленінградскую гордасць?
На курганах трава —
як на сумных восеньскіх пожнях,—
Пад «нулёўку» падстрыжана,
палынамі прагоркла.

Твае сцежкі —
нібыта рубцы на пакутніцкім сэрцы,
Нібы трэшчыны чорныя
на зялёным ладажскім лёдзе.
Па іх страшна ісці.
Па іх трэба прайсці чалавецтву —
З галавою пахіленай,
як Ленінград кожны вечар праходзіць.

Я прайшоў твае сцежкі.
Твае надмагільныя пліты
Я з плячэй сваёй памяці
не здыму ўжо ніколі, ніколі.
А ў горле —
камяк тваёй цішыні недапітай.
А трава твая шорсткая
колецца,
колецца,
колецца...

## Дому № 45 на 4-й лініі Васільеўскага вострава

Я табе па-сяброўску зайздрошчу,
Бо жыве ў тваім ціхім двары,
Як матыў паўзабыты, стары,
Лёгкіх крокаў купалавых пошчак.

Ты шчаслівы.
Ты бачыў яго.
Калі дожджык балтыйскі цярусіў,
Песні-сны баравой Беларусі
Выпускаў ён з-пад даху твайго.

І ўглядаліся ў цемень вакна
Яго мудрыя сінія вочы,
І гучэў яго голас прарочы
У глухой цішыні да відна...



Ён і сёння паўночнай парой
Часта лесвіцу будзіць старую.
У пакоях тваіх кватаруе
І дагэтуль ягоны настрой.

І блішчаць камяні у двары,
Быццам месяц іх вылепіў з воску.
І прашу я цябе па-сяброўску:
Хоць адзін з іх ты мне падары.

У маўклівым цяжкім камяні
Крок ягоны усё яшчэ стыне,
Як мурашка ў халодным бурштыне,—
Напамінам пра даўнія дні...

## Каскаду Петрадварца

Мне зноў здаецца апантана,
Што я стаю сярод зямлі,
А навакол твае фантаны,
Як жыта, раптам прараслі.

Нібы жывой вады напіўся,
Калі да сонца ў вышыню
Рвануліся твае снапы ўсе
З вясёлак,
з музыкі,
з агню,
Калі над залатым Самсонам
Ускінуўся вясёлы шум
І ўжо ніякім парасонам
Ад пырскаў не закрыць душу,
Калі,
як арфы пераборы,
Скаціўся ўніз крыштальны гром
І промні,
нібы мушкецёры,
Прайшлі праз кроплі напралом,
Калі пялёсткі пены белай

Чаромхай падалі да ног
І ўсё спявала і кіпела,
А я нагледзецца не мог...

Струмені срэбнымі снапамі
Ляцелі звонка на пясок...

Даруй,
        я ўзяў тады на памяць
З тваіх фантанаў каласок.

## Алегу Шасцінскаму

Знаеш, Алег,
толькі вочы заплюшчу —
Бачу скаваную лёдам Фантанку,
Высокі сумёт,
                завіруху сляпучую
І хлапчука згаладнелага з санкамі.

Шалік сястрын над плячом целяпаецца,
Вісне бацькоўскі шынель падкарочаны.
Мёртваю хваткай сашчэплены пальцы
На задубелай, жалезнай вяроўчыне.

Ступіць тры крокі —
                знясілена падае,
Туліць,
нібы птушанят,
да грудзей
Чайнік вады,
пайку хлеба блакаднага,
Заледзянелы агарак надзей.

Як за жыццё,
                за вяроўку трымаецца,
Адчайна грабецца пад снегам і ветрам...
Каго ён ратуе —
хворую маці,
ці Ленінград,
ці зняверанны свет наш?..



Знаеш, Алег,
калі розныя гады
Нам пагражаюць з нянавісцю воўчаю,—
Мне ўспамінаецца хлопчык блакадны
І задубелая ў пальцах вяроўчына.

Столькі дуброў жалудамі адгрукалі!
Па-веснавому Фантанка плюскоча...
Але ўсё цягнуцца, цягнуцца рукі
Дапамагчы згаладнеламу хлопчыку.

Покуль па свеце праносяцца танкі,
Покуль над снамі вісяць самалёты,
Ён усё цягне знясілена санкі
Праз завіруху, па стылых сумётах...



# НАШ ГОСЦЬ — „аврора"



ПАЭЗІЯ

**Міхаіл Дудзін**

## Адліга

*І. Ісаковіч*

Наблытаў нешта каляндар
Пад хмелем наваrоднім.
Стаў студзень, сцюжы уладар,
Красавіком лагодным.

За ноч дажджы сагналі снег,
Прыгрэўшыся ў зацішку,
Ручэй забулькаў і пабег,
Варушацца пупышкі.

Ды зноў лютуюць халады,
Таполі зноў у белі,
Лісты ў пупышках назаўжды
Ушчэнт заледзянелі.

Пад гул вясновых навальніц
Не распрастаюць крылы...
І на душы маёй трымціць
Снег інеем настылым.

З палону па чужой віне,
Па вашай волі мігам
Парадавалі б вы мяне
Вясноваю адлігай!



■

Шукай ты у жыцця віры
Не розніцу, а падабенства.
Вясною ў ранішнім бары
Сініцы клічуць у маленства.

Ігліцай хвоі шапацяць,
З душы сплываюць боль і змора,
У азёры поўныя глядзяць
І падаюць паціху зоры.

Здзіўляе мудры шлях зярнят
І промні, што ў расе іскрацца,
Здзіўляе складнай песні лад
У славу неадольнай працы.

Хвалюе чысты купал дня,
Зямля, трава, лясы і воды,
Дзе ўсё і ўсе — твая радня,
А ты адказны за свабоду.

Вясною салавей пяе,—
Наўкол дзівосны свет зялёны
Чакае шчырасці тваё
І ад самога абароны.

■

Глядзеў я з гораў на масты,
На шлях, на сцежак вецце —
І зразумеў, што пустаты
Няма на белым свеце.

Ёсць невядомасць да пары
У тайнах скал і неба
За тымі пікамі гары,
Куды падняцца трэба.

Пераклаў
Сяргей Грахоўскі.



**ПРОЗА**



*Генрых Далідовіч*

# УСЁ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

АПОВЕСЦЬ

**1**

Нечакана і незаўважна прайшла пара высокага светлага неба, яркага сонца, празрыстых белых воблакаў: набеглі халодныя сіберныя вятры, нагналі нізкіх і цяжкіх хмар. На дварэ стала кожнага дня імжэць, халаднець, а на бярозах жаўцела і ападала долу лісце.

Раней я не заўважаў гэтай свежай пары, не ўмеў добра прыкмеціць, калі пачынаецца ранняя восень,— калі яшчэ ў жніўні аднаго дня лёгенька пацягне цвярозлівай здаровасцю, паніжэе, стане чуйным, шэрым неба, лес і поле запахнуць верасамі і свежаю раллёю. Гэта не адразу ўбачыш, пачуеш; але як прашуміць над табою, праляціць і схаваецца за небакраем плойма шпакоў, толькі тады ясна адчуеш, што гэта не выпадкова: апусцела поле, ужо даўно няма ластавак, адыходзіць цяпло і ідзе штось-

Мал. **Л. Дубара**

ці новае,— і ты ўвесь напаўняешся гэтым новым, сур'ёзным і сталым пачуццём.

Сёлета я пасталеў, адчуў нешта новае,— таму, што выпісаўся, выехаў летам з горада і зноў вярнуўся ў вёску, стаў працаваць настаўнікам. Трапіў я не ў свае родныя мясціны, а «за свет», як кажа мая маці,— на той бок Мінска. Стаў на кватэры ў старэнькім ашаляваным доміку, у пажылых гаспадароў-пенсіянераў, з першых дзён спадабаўся гаспадыні: суседзі сталі шаптацца, што яна задумала ажаніць мяне са сваёй дачкой-пястушкай.

Гэтая Ленка, высокая, поўная, скончыла летам дзесяцігодку, нікуды не паступіла і цяпер гуляе, вылежваецца дома — у саўгас на работу ісці не хоча («дзесяць класаў канчала»), а ў горад не пускае маці. Я колькі разоў паглядзеў на гэтую Ленку, падумаў сабе «добрая дзеўка», але заляцацца не стаў: далей ад спакусы.

Адразу пасля горада мне тут, у невялікай вёсцы, сумна, неяк няўтульна. Моладзі мала, усе ў горадзе, прыязджаюць дамоў толькі суботаю. Сустрэўся я колькі раз на вечарынках з тутэйшымі хлопцамі-аднагодкамі — і адпала ахвота бавіць з імі час: яны думаюць зусім не так, як я, і гутарка ў іх адна — пра сваю работу. Пра трактары і машыны. І яны мне, і я ім не мог нічога многа сказаць. Перакінуліся мы адным-двума словамі пра тое, што ўсе добра ведалі, і яны болей мяне не зачапілі, хоць і на «вы» называлі, і я больш не загаварыў да іх, думаў пра сваё. Пасядзеў крыху, паслухаў іх, вясёлых і бесклапотных, і пайшоў дамоў. Прападаю дзень у школе (даю ўрокі, пакідаю дзяцей на дадатковыя, вяду літаратурны гурток). Калі прыйду дамоў, адпачываю, чытаю ці правяраю сшыткі, пішу сябрам лісты. Толькі вечарам выйду пасядзець на лаўцы, падыхаць паветрам і дапільнаваць паштальёнку (можа, будзе пісьмо). Сяджу і наглядаю, як людзі завіхаюцца, грабуць бульбу, абіваюць кашы і носяць у скляпы поўныя мяхі, валакуць з лесу грыбы. Гляджу на адзінокі, рэдзенькі дымок: цяпер у печы мала хто паліць вечарам, а то і зусім не паліць. І не таму, што берагуць людзі дровы, а напрацуюцца, натопчуцца за дзень, сяк-так уходзяцца па гаспадарцы, пап'юць малака і кладуцца спаць.

Выйсці, зайсці няма да каго: настаўнікі нашы жывуць далёка, у другой вёсцы, а з тутэйшых суседзяў я яшчэ нікога не ведаю. Адвыкаю пакрысе ад горада, перастаў штодня прасавацца, галіцца, чысціць туфлі (пасля дажджу па нашых вуліцах нельга прайсці, я ўжо задумаў пасля першай аплаты купіць боты), забываю горад, толькі сняцца ноччу высокія шматпавярховыя дамы, вялікія універмагі і кнігарні, кінатэатры, шырокі праспект, па якім штохвіліны ідуць і ідуць кудысьці людзі. А ў вушах звіняць нашы студэнцкія гутаркі, калі мы спрачаліся пра вершы Яўтушэнкі, аповесці Быкава, пра «сярдзітых маладых людзей», пра авангардыстаў, пра песні Высоцкага... Ды пра што мы толькі студэнтамі не спрачаліся, у чым толькі не хацелі разабрацца, каго мы толькі не хвалілі і не лаялі!..

Яшчэ слаба верыцца, што я цяпер не студэнт, ранічкамі нават усхопліваюся, хутчэй апранаюся, бягу мыцца — баюся спазніцца на лекцыю.



Гляну на чужую хату, на стосы сшыткаў на стале,— сяду і лаю сябе: «Павел, мілы мой, ты ўжо не Павел, не дыпломнік, а Павел Мікалаевіч, настаўнік, будзь крыху болей салідны і не смяшы людзей. Цяпер ты стаў жыць сталей, вучыць дзятву і зарабляць сабе кавалак хлеба, аддаваць Радзіме доўг, які яна табе пазычала пятнаццаць гадоў...»

Я, калі казаць шчыра, хацеў пасля інстытута застацца ў горадзе, уладкавацца ў мінскую школу ці рэдактарам у якое выдавецтва, але мяне ў сталіцы не пакінулі, сказалі: калі вас пасылаюць у вёску — то і едзьце, парабіце свае тры гады, а там нешта будзе відаць. У аспірантуру таксама не збіраліся мяне запрашаць, не бачылі ўва мне вялікага вучонага, таму я і апынуўся тут, у Міланьскай школе.

Я ехаў сюды і загадзя ведаў, што ў любой вёсцы не сходзіш на «Мелодыі сяброў», на футбол, у тэатр ці ў філармонію, кнігарню, не пачуеш свежых плётак пра артыстак, пісьменнікаў ці футбалістаў... Але ж тых Іванаву, Мар'янавіча, Магамаева, Крысталінскую можна паслухаць і паглядзець па тэлевізары, цяпер не той век, што трэба суткамі дабірацца на конях у горад, што ў вёсках цемната і глухата. Гэта гарадскім вёска мо страшная, а я, вясковы, яе не баюся, буду жыць і працаваць.

«Папрацуем, Павел Мікалаевіч,— думаў я,— папрацуем і паглядзім, што будзе».

Загадчык райана хацеў паслаць мяне на працу ў васьмігодку (калі мяне забяруць восенню ў войска, для васьмігодкі будзе лягчэй; яшчэ ў Міланьках ніхто з маладых больш года не заставаўся, таму, як пасля я даведаўся, мною «заткнулі» дзюрку). Загадчык, калі сватаў мяне ў гэтую школу, хваліўся, што ў Міланьках — вялікі лес, глыбокая рака, разумныя настаўнікі, і мне там будзе выгода.

Я паслухаў яго і паехаў. У школе мне сказалі, што моваведа ім трэба, гадзін вольных хапае, далі мне весці тры мовы — рускую, беларускую і нямецкую. Набралася ўсіх разам дваццаць пяць гадзін. Каб сказаў студэнтам, то жартавалі б: варта яшчэ ўзяць спевы, маляванне, фізкультуру...

Папрацаваў два месяцы і бачу, што стамляюся. Студэнтам было лягчэй: сядзі і слухай або прыкідвайся, што ловіш кожнае слова выкладчыка. А цяпер цяжкавата — нагаваруся так, што ахрыпае голас, баліць галава; прыйдзеш дамоў і не хочацца есці. Гаспадыня пачала ўжо бедаваць, што худнею.

Я думаў, што дзеці ў васьмігодцы будуць невялікія, ціхмяныя, будуць вельмі паважаць і слухацца настаўніка. Але на першым уроку ўбачыў, што памыляюся: здаліся яны мне вельмі шумлівымі і непаслухмянымі; пасля першага тыдня ўбачыў, што многа дзяцей і вучыцца не хоча, не піша дома і не чытае; пакіну пасля ўрока — уцякаюць, а назаўтра не прыходзяць на мае ўрокі зусім.

Надта цяжкі шосты клас. Не клас, а «дзікая дывізія»: сорак вучняў, трыццаць хлопцаў, з якіх пяць ці шэсць пераросткаў і другагоднікаў. З імі цяжка, нават не ведаю, што рабіць: зусім не хочуць слухацца, адвернешся запісаць што-небудзь на дошцы — б'юцца між сабою ці крыўдзяць дзяўчат. І дома за кніжку не бяруцца.

На другім тыдні я падняў аднаго такога «героя» і рашыў перад класам прысароміць.

— Зразумей, сябра,— кажу яму,— ты ж не слухаеш настаўніка, дома сам не займаешся, уцякаеш з урокаў. Ты ж нічога ведаць не будзеш, толькі адны двойкі будзеш хапаць.

— Ну і што? — смяецца ён.

— Я і за чвэрць пастаўлю табе двойку,— палохаў я далей.

— Стаўляйце, вы настаўнік,— кажа вучань, стаіць і ківаецца.

— Будзеш так вучыцца, я і за другую тое ж выведу. Пасля выйдзе, што і за год двойку схопіш.

— Ну і што? — пацiскае ён плячыма, усміхаецца.

— Як — што? — здзіўляюся я.— У сёмы клас не перавяду.

— Пераведзяце,— самаўпэўнена гаворыць вучань.

— Як гэта — «пераведзяце»? Хто цябе з двойкамі пусціць?

— Пусцяць. У нас усіх пераводзяць.

— А я вось не перавяду,— кажу я,— пamру, але невука не перавяду.

— Дырэктар скажа — і пераведзяце,— пасміхаецца,— а то я магу ў шосты зноў не пайсці, дома сядзець. Не пайду ў школу — самі прыйдзеце прасіць, каб хадзіў.

— Ну, брат, не дачакаешся,— кажу я.

— Прыйдзеце. Бо калі я не скончу восем класаў, вас пакараць могуць: цяпер усе павінны васьмігодку канчаць.

— Бач, які ты разумны, як усё ведаеш! — сказаў я і здзівіўся, што я так раней не думаў, здаецца, так не думалі і мае аднагодкі, так не разбіраліся цвяроза, стала, як разбіраюцца дзеці цяпер.— Ты вучыся, каб нешта ведаць, вялікім чалавекам быць.

— А! З нашай школы ніхто нікуды не паступае,— махае рукою вучань.

— Вучыцца трэба, старацца,— кажу я,— канечне, як ты вучышся, дык са сваімі ведамі нікуды не паступіш.

— А я і не буду паступаць,— кажа вучань,— мне бацька сказаў, каб скончыў восем класаў і ішоў вучыцца на трактарыста ці шафёра. А там усялякіх бяруць. Не ўсім жа настаўнікамі быць.

Я маўчаў, нічога не мог сказаць: усе мае інстытуцкія веды, педагогіка не маглі падказаць, што мне цяпер зрабіць, як пераканаць. Я нават разгубіўся, пасля, каб не прамаўчаць, пакінуць за сабою апошняе слова, сказаў:

— Няправільна ты думаеш, Саша. Сядай. Каб быць добрым шафёрам ці трактарыстам, таксама трэба вучыцца.

— Баранку буду круціць і без вашай мовы ці літаратуры,— сказаў вучань,— распісацца я ўжо ўмею...

А аднаго дня я насмяяўся. Заходжу ў сёмы клас, гляджу: няма ля дошкі анучкі.

— Дзяжурны, чым будзем выціраць дошку?

Дзяжурны нагнуўся і пасунуў руку ў парту; дзеці, відаць, на перапынку кідаліся анучкаю ці з другога класа хацелі яе ўкрасці, дык дзяжурны схаваў яе ў сваю парту. Цяпер ён не панёс анучкі, а папусціў яе са свайго месца да дошкі. Глянуў я, глянулі вучні — і абамлелі: на падлозе ляжаў вялікі дамашні блін са скваркамі. Убачыў гэта дзяжурны, зачырванеўся, падбег, схапіў свой блінец і выбег з класа...



2

Мала я пажыў у сваіх гаспадароў, але палюбіў пакойчык, які яны аддялі мне. Светлы, чысценькі, падлога жоўтая, бліскучая, свежыя шпалеры, белая столь. Гаспадыня мая любіць парадак, вялікая чысцёха, век ваюе са сваім мужам, прымушае яго ў кухні разувацца і хадзіць па «залі» ў тапачках, а ён, неахайнік, ці забудзецца , ці палянуецца скідаць у сенцах брудныя боты, заскочыць часамі ў іх і наробіць слядоў...

На сцяне вісіць стары, у драўлянай аправе гадзіннік, ён прыемна цікае, выстуквае гадзіны, вісіць радыё, але яно мала гаворыць, больш хрыпіць: то правады закруцяцца, то іх абарвуць, калі возяць на машынах сена ці салому, то выключаць, калі баяцца грому, а пасля забываюцца ўключыць.

Ложак мой надта пекна засланы, і я не хачу скідаць падушкі, разбураць красу, адпачываю на канапе, бывае, і засну на ёй, прасплю ўсю ноч. Каб яшчэ быў у хаце тэлевізар, то і зусім добра было б. Я паспеў заўважыць, што ў наш час у вёсцы маладому, ды яшчэ настаўніку, без тэлевізара не абысціся: добра і перадачу якую паглядзець, і кіно; не раз бывае і многа вольнага часу, рабіць няма чаго, то ўключыў тэлевізар і глядзі...

На стале, ля сталетніка і стосаў сшыткаў, ляжыць разгорнутая кніга, але сёння чытаць не хочацца. Не быў у школе, не стаміўся, але панерваваўся дарогаю, паслухаў дырэктара і настаўніцу Ларысу — і стала чагосьці цяжкая галава. Гэта бывае тады, калі хочаш нешта зрабіць, але не робіш, думаеш, і думкі разбягаюцца,— тады хутка стамляешся. Цяпер хочацца паляжаць спакойна, абдумаць, што робіцца на свеце, як жыву, што ў мяне наперадзе.

Зняў гальштук, пераадзеўся; здаецца, стала лягчэй, неяк вальней дыхаць; можа, нават і таму, што я цяпер быў не ў школе, не чуў, як шумяць дзеці.

Я заплюшчыў вочы, лёг, у галаве штосьці шумела, цікала, прыслухаўшыся, я нічога не пачуў, чуваць было толькі, як звонка цікаў гадзіннік. Да галавы прылівала кроў, я нават намацаў жылкі на лбе і чуў, як яны то шырацца, то звужаюцца.

Нечакана падумалася: ці люблю я сваю работу, ці задаволіўся, што стаў настаўнікам? Каб спытаўся хто — сказаў бы: падабаецца працаваць у школе, добра быць настаўнікам. Але цяпер я не ведаў, ці гэта так, хацелася мне нечага большага: неяк жа я вельмі сціпла, ціха жыву, непрыкметна працую, і, здаецца, ніхто не бачыць маёй гэтай работы, не паважае яе — ні пахваліць, ні паганіць...

Ларыса, нядаўняя аднакурсніца мая, здаецца, працуе весялей, смялей глядзіць у сваю будучыню, яна любіць дзяцей, і яны ахвотней горнуцца да яе, выклікаюць яе з настаўніцкай на калідор, давяраюць свае сакрэты, прыходзяць да яе на кватэру. Мяне ж саромеюцца, пазбягаюць, і мне здаецца, што не варта было мне вучыцца за настаўніка, трэба было выбіраць іншую прафесію. Але якая мне падабаецца прафесія, я і цяпер не ведаю...

Звялі нас з Ларысаю сцежкі неспадзявана і выпадкова, як зводзяць яны, мусіць, усіх незнаёмых людзей, якія пасля становяцца сябрамі, калегамі па рабоце, сем'янінамі ці ворагамі на ўсё жыццё або разыходзяцца і забываюцца адзін пра аднаго.

Сустрэліся мы ў інстытуце маладзенькімі першакурснікамі, я ўзяў у Ларысы канспект, а яна ў мяне — кнігу. На гэтым наша дружба і затрымалася: у мяне былі свае клопаты, у яе свае, мне падабаліся другія дзяўчаты, а яна хадзіла з «чужымі», з другіх факультэтаў, хлопцамі. Але ні яна, ні я не ажаніліся ў інстытуце, прыехалі ў Міланькі халасцякамі. За нас сталі думаць вясковыя людзі: мяне сватаюць да гаспадарскай дачкі, а Ларысу — да тутэйшага маладога брыгадзіра. Мы ж абое яшчэ не думаем пра сям'ю: я нават баюся жаніцца, як успомню пра гэта, дык «тры дні баляць зубы», а Ларыса пасварылася са сваім кавалерам Віктарам, а брыгадзір, як прызнаецца яна, зусім ёй не падабаецца...

Уладкоўвацца на работу ў раён мы прыехалі «пакоем» — Вася, Слава і я,— усе пяць гадоў мы разам вучыліся, жылі ў адным пакоі.

Мае аднакашнікі прыехалі раней у райана; мы яшчэ вясною, калі абаранілі дыпломы і раз'ехаліся па сваіх вёсках, дамовіліся, што аднаго дня прыедзем уладкоўвацца на работу. Калі хто надумаецца прыехаць раней, то няхай пахітрыць крыху, уведае, дзе ёсць добрыя месцы.

Але гэта аказалася нялёгкім: інспектары былі ў водпуску, а загадчык, хітры чалавек, які «два метры ў зямлю бачыў», расхвальваў усе школы. Як мы пазней ужо дазналіся, ён стараўся, пакуль мы нічога не ведалі ў незнаёмым для сябе раёне, пасляць нас у самыя далёкія школы, бо не кожнага «старажыла» падманеш ці падахвоціш ехаць туды, куды рэдка ходзяць аўтобусы...

Калі я зайшоў у райана, там ужо насіліся з рознымі паперамі Вася ды Слава, а цяпер ужо Васіль Іванавіч ды Вячаслаў Вячаслававіч; убачыўшы мяне, яны пацягнулі за рукаў, загаманілі:

— Хадзі, пазнаёмім цябе з тваім будучым калегам па рабоце.

— Вельмі прыемна,— пачуў я знаёмы голас і пазнаў дзяўчыну, што нават не глянула на мяне, сядзела спіною і штосьці пісала. Пазнаў па шчуплай постаці, доўгіх, па плечы, бела-жоўтых валасах, прыпомніў нават па знаёмай сіненькай сукенцы.

— Ларыса? — здзівіўся я.

— Я, Пашка,— усміхнулася мая аднакурсніца.



— Ніколі не думаў, што са сваім чалавекам траплю ў адну васьмігодку,— сказаў я.

— Як бачыш, трапіў. Ты не рады?

— Заляцацца будзеце пасля, часу хопіць,— зноў пацягнулі мяне за рукаў хлопцы,— ідзі хутчэй, пішы заяву, аўтабіяграфію ды пабяжым у кафэ «Беразіна».

Я паслухаў хлопцаў, пакінуў Ларысу і пайшоў афармляцца. Загадчык падпісаў маю заяву, павіншаваў з пасадаю, прасіў прыязджаць у раён, расказваць, што ў школе на рабоце лёгкае, што цяжкае. Я паабяцаў ездзіць, расказваць, старацца працаваць. Хлопцы не маглі дачакацца мяне, клікалі, і, як толькі я выйшаў, мы пабеглі ў «Беразіну».

...У той жа дзень мы развіталіся і паехалі ў свае вёскі, падаліся знаёміцца са школамі, каб дзе стаць на кватэру.

Ларыса чакала мяне на вакзале, нават узяла мне білет. Пасажыраў было многа, жанчыны завалілі клункамі ўвесь аўтобус; як я зразумеў, час цяпер гарачы, сама жнуць, малоцяць, сянуюць, людзі выбралі вольны дзень і вырваліся сялом у горад, хто сабе вязе хлеб, каўбасы, муку, крупы, хто — сваяку ці суседу. Шафёр злаваўся, гнаў усіх плаціць за «багаж», але на яго так накінуліся, закрычалі, каб «сам паехаў і пажыў у вёсцы, то ведаў бы...», што той здаўся, махнуў рукою і паехаў.

— Ты была ўжо ў гэтых Міланьках? — спытаўся я ў Ларысы.

— Была,— усміхнулася яна.

— Якія яны там, гэтыя Міланькі ці Мілунькі? Святло, радыё ёсць? — пажартаваў я.

— Ёсць, не бойся.

— Якая там школа?

— Так сабе, драўляная.

Я стаяў і разглядаў Ларысу, невысокую, шыракатварую, з даўгаватым носам, і яна зусім мне не падабалася, як і ўсе гэтыя пяць гадоў. Падабаліся толькі яе апушчаныя на плечы светлыя валасы, яна іх ніколі не адразала, берагла, і яны ў яе былі прыгожыя. Але я парадаваўся, што буду працаваць са сваёю аднакурсніцай.

Як выехалі за горад, аўтобус стала спачатку трэсці, кідаць, тых, хто сядзеў на задніх сядзеннях, шпурляла ўверх, раскідвала іх клункі. Жанчыны спярша смяяліся, а пасля сталі злавацца, крычаць на шафёра. Абмінулі першую вёску — аўтобус стаў дымець, ледзь паўзці: дарога была пясчаная, сыпучая, вельмі цяжкая.

— Слаўная дарога! — сказаў я.— У мяне ўжо галава баліць ад дыму і шуму.

— Гэта яшчэ добра,— усміхнулася Ларыса.— Гавораць, восенню, зімою ды вясною аўтобус туды зусім не ходзіць.

— О божа! — усклікнуў я,— не палохай, а то не паеду.

Сказаў так, а ў сэрцы зашчымела жылка, што маім сябрам, відаць, дасталося нешта лепшае. І зусім не верылася, што я еду на работу. Здавалася, праедзем мы яшчэ трохі, аўтобус прыпыніцца, і я сыду ў сваёй вёсцы. Але слухаў я свежую для сябе гамонку, глядзеў на незнаёмых людзей з клункамі — і даходзіла, куды я еду і чаго.

Ларысу каторыя жанчыны пазналі, загаманілі з ёю, сталі дапытвацца: можа і я — іх новы настаўнік, буду рабіць за Волечку, якая не паладзіла з дырэктарам школы і перавялася ў суседнюю дзесяцігодку.

— Настаўнік,— сказала Ларыса.

— Пастарайцеся спадабацца нашаму Рагачу,— пажадала адна рабацiністая кабета,— калі спадабаецеся і яму, і ягонай жоначцы, то будзе лёгка працаваць.

— Ведаеш ты ўжо! — зазлавала яе маладзейшая суседка.— Дырэктар і павінен быць строгі, не папускацца вельмі, парадак у школе трымаць.

— Але ж трэба і чалавека паважаць. Ён вось настаўнік маладзенькі, не меней пятнаццаці гадоў вучыўся,— запярэчыла старая, і маладзейшая зноў з ёю заспрачалася.

Пасля яны забыліся пра нас, пра дырэктара, загаварылі пра сваё, бедавалі, што не ўрадзілі сёлета гуркі.

«Вось, Паша, яны не спрачаюцца пра Яўтушэнку ды «сярдзітых маладых людзей», як ты ў Мінску,— думаў я,— яны жывуць, працуюць, ведаюць сваё. Трэба зразумець іх. Тады будзеш для іх сваім чалавекам».

Пасля ўсе стаміліся, наглыталіся пылу і дыму, замоўклі. Як выехалі з лесу, праехалі полем уніз, у лагчыну,— паказалася вёска. Сэрца мне падказала: Міланькі!

— Наша? — спытаўся я ў Ларысы.

— Наша,— усміхнулася яна.

Аўтобус стаў прыпыняцца ледзь не ля кожнай хаты: прасілі жанчыны. Выехаўшы з лагчыны на груд, стаў. Ларыса памагла адной бабулі падняць мяшок, падалася за ёю, услед пайшоў і я. Агледзеўшыся, убачыў, што запыліўся, ажно пластом на мне ляжаў пыл.

Якраз вечарэла; паглядзеўшы вакол, я ўбачыў, як гаспадыні капалі на вячэру бульбу, пачуў, як пішчэлі ў задворках галодныя свінні, хтосьці вёз сена. Воз пераваньваўся з боку на бок, рыпеў.

«Як і ў нашай вёсцы,— падумаў я,— акурат».

Убачыўшы аўтобус, прыбеглі замурзаныя дзеці. Яны падбягалі да сваіх матак, прасілі гасцінца, дапытваліся, што ім купілі.

— Ох, як стаміўся,— прамовіў я.

— Прывыкай,— сказала Ларыса.— Паглядзіш школу ці адразу да дырэктара пойдзем?

— Давай сходзім да начальства. Спадабаемся, як казала тая кабета.

— Толькі не назаві яго Рагачом,— усміхнулася Ларыса,— гэта так яго дражняць, па-добраму ён Рагатка. Тут усім мянушкі даюць, лепш па іх людзей ведаюць, чым па прозвішчах. Вось і яго домік.

— Нічога сабе «домік»,— здзівіўся я,— цэлы палац, сад які, хлеў. У двары, мусіць, «Масквіч» стаіць?

— Не,— усміхнулася Ларыса,— самазвал.

— Усё роўна буржуа,— сказаў я.

— Не абражай чалавека,— запярэчыла Ларыса.— Раз чалавек жыве ў вёсцы, то павінен, па-твойму, у лапцях хадзіць і гібець у зямлянцы?





— Як ты добра гаворыш,— сказаў я жартам.
— А ты трэплешся,— не адставала і Ларыса.
Мы пастукалі — нам ніхто не адказаў. Тады мы зайшлі самі. У хаце нікога не было; здалося, што ў ёй горача, нават душна, пахла травою сухімі чарніцамі, недзе ў куце звінела муха. На стале ляжала кіпа газет, і я стаў іх праглядаць.
На дварэ ляпнулі варотцы, я глянуў у акно: з саду зайшла пажылая невысокая жанчына, босая, у выцвілай сукенцы, скінула з плячэй дзяружку травы, крыху пасекла яе на калодцы, ускінула ў саган і прынесла ў хату. Тут і ўбачыла нас, усміхнулася, прывіталася па-вясковаму, папрасіла прабачыць, што такая неахайная, высыпала на стол з кішэняў шчаўе і выйшла ў другую палавіну. Ларыса тут жа мне прашаптала, што гэта і ёсць жонка нашага дырэктара, будзе весці сёлета хімію, яна і ёсць тая «дырэктарыха», Вольга Піліпаўна, пра якую гаварылі жанчыны ў аўтобусе.
«Дырэктарыха», пераадзетая, абутая, хутка вярнулася і прынесла нам вялікіх чырвоных яблыкаў, запрасіла пакаштаваць. Яна распыталася, хто я, адкуль, што хачу весці ў школе.
— Працаваць у нас можна,— сказала Вольга Піліпаўна,—месца ў нас харошае, ціхае, праверак усялякіх мала бывае.
— Чаго іх баяцца,— сказаў я.
— Вы яшчэ не ведаеце,— сказала дырэктарыха,— паробіце — самі ўбачыце, што для нас, настаўнікаў, гэтыя праверкі, колькі яны здароўя забіраюць. Усе вучаць, патрабуюць усяго, а ты здолей усё зрабіць. Але ў нас яшчэ можна рабіць, ды і вольных гадзін сёлета хапае: і нямецкая, фізкультура, спевы, праца, і маляванне — усё свабоднае гэта, нікім яшчэ не занятае. Так што грошай у нас можаце зарабіць. Вам жа, маладым, адразу пасля інстытута, гэта вельмі трэба.
— А маладыя настаўнікі будуць у школе? — спытаўся я.
— Будуць. Вось ваша сяброўка, вы самі, павінны яшчэ біёлага, піянерважатую прыслаць, фізік вашых гадоў працуе. Ды ў вёсцы нашай дзяўчат маладых і пекных многа.
Вольга Піліпаўна пачынала мне падабацца, яна здавалася спагадліваю, разумнаю.
— Вы сёння пераначуйце ў нас,— сказала гаспадыня,—вечарам павінен прыехаць Іван Сямёнавіч, тады заўтра ўжо знойдзе вам якую кватэру. Вы пачытайце ці пагутарце, а я свінням дам, а то ўжо вушы празванілі.
— Мы пагуляем,— сказала Ларыса.
— Калі ласка, паглядзіце вёску, школу.
Мы ўзялі па яблыку і выйшлі на двор. Нас сустракалі дзеці, віталіся: відаць, бачылі, што мы выходзілі з дому дырэктара і здагадаліся, што мы новыя настаўнікі.
— Тут жыве наш калега-русавед,— сказала Ларыса,— налета яму на пенсію ісці. А дырэктару нашаму праз пяць гадоў, завучу на год-два пазней.



— Можна спадзявацца, што і ў начальства якое хутка выб'емся,— усміхнуўся я.
— Які салдат не хоча...— сказала Ларыса і папярхнулася.
— Во прагная на дырэктарскія яблычкі! — пажартаваў я, Ларыса адкашлялася і замахнулася на мяне кулаком; я адскочыў, але яна паспела стукнуць мяне па спіне.
Мы засмяяліся, і адна гэтая хвіліна больш зблізіла нас, як усе гады нашай вучобы.

## 3

Мы ішлі па вуліцы, я глядзеў вакол і бачыў, што вёска наша цесная, нізенькая, хаты стаяць у лагчыне. Як які дождж, адліга ці разводдзе,— вада збягае з усіх грудоў на вуліцу, і нельга па ёй тады, мусіць, ні праехаць, ні прайсці, бо і цяпер, у гарачую пару, стаялі на дарозе і не высыхалі лужыны. У іх плёскаліся задаволеныя дзеці і так калацілі па вадзе нагамі, што пырскі аблівалі блізкія платы.
Спадабалася мне, што ў вёсцы многа садоў: бялеліся і чырванеліся яблыкі, з-за якіх амаль не было відаць лісця, паабвісалі на частакол цяжкія лапы са слівамі. Груш было мала: ці год даўся на іх благі, ці дрэвы састарэлі і болей не пладзілі.
Непадалёку булькала рэчка. Не такая вялікая, шырокая, як хваліў загадчык, але плыткая, звонкая, вераб'ю па калена. Дзве пажылыя кабеты паласкалі бялізну, паблізу купаліся дзеці, і адзін рыжы хлапчук хадзіў з відэльцам, нагінаўся—відаць, выцікоўваў слізкі. Падышоў стары дзед, апусціў з плячэй асінавую бочку, скаціў я з берага на ваду. Плынь падхапіла бочку і панесла; стары падабраў на беразе камень, усунуў яго ў бочку, напусціў вады і, калі ўтапіў, пастаяў, паглядзеў на сваю работу і рады, што добра будзе мокнуць дзіравая бочка, пайшоў дахаты.
«Вёска як вёска,— падумаў я,— толькі людзі незнаёмыя мне, а так усё астатняе знаёмае».
Будынак школы, у якім мне выпадала працаваць, не спадабаўся. Стары, нізкі, цемнаваты. Паўднёвая сцяна была яшчэ смалістая, чыстая і зонкая, паўночная — цёмная, сырая, з падгнілымі падрубамі. Курцы павыдзіралі ў ёй дзюркі і хавалі ў іх свае папяросы. Страха ўчарнела, абрасла зялёным мохам. Мне ўявілася блізкае жыццё, праца ў гэтай старэнькай школе: стары медзяны званок, які столькі ўжо названіўся, што страціў чысты звон, старыя тэхнічкі, старыя настаўнікі, аблітыя чарнілам парты, сталы. Усё старое. Нават дзеці будуць нейкімі спалоханымі, баязлівымі, і мне, маладому, будзе тут вельмі сумна; буду працаваць, старацца, і нямілай здасца гэтая работа...
«Аднак не плач, Паўлік,— суцешыў я сябе,— ты малады, здаровы, з дыпломам...»
Падумаў я так, супакоіўся і ўявіў, што я — хоць і не Макаранка ці Сухамлінскі, мне далёка да іх,— але і я нешта зраблю тут, бо тое-сёе ведаю. Быў я студэнтам не зубрылам, аскетам таксама не лічыўся, ез-

дзіў працаваць на канікулы ў Казахстан, займаўся спортам, сядзеў ля кастра на Нёмане, Бярэзіне, хадзіў з дзяўчатамі ў кіно, але не толькі ведаю песні ды помню прагледжаныя кінафільмы. Я стараўся многа чытаць і не толькі тое, што было па праграме, мог расказаць пра Хэмінгуэя, Камю, Апдайка, Фолкнера, Кавабату...

«Няўжо я нічога не магу зрабіць тут?» — думаў я і ведаў, што буду даваць добрыя ўрокі, зацікаўлю дзяцей, арганізую літаратурны гурток, і мае паэты будуць друкаваць вершы не толькі ў раёнцы... Заўважаць і маю работу, маё старанне, раскажуць пра мяне па радыё, тэлебачанні. Фотакарэспандэнты, інтэрв'ю.

І мяне, маладога настаўніка, хваляць, раяць вучыцца ў мяне старэйшым, мне прысвойваюць званне заслужанага настаўніка, запрашаюць працаваць у самыя лепшыя школы.

Старыя настаўніцы будуць усхліпваць ад радасці, а маладыя закахана глядзець на мяне, шкадаваць, каб я не паехаў адсюль, спрачацца між сабою: хто з іх можа сябраваць са мною.

Вучаніцы... Што тут ужо гаварыць!..

— Чаго ты смяешся? — таўханула мяне ў бок Ларыса.— Стаіш і смяешся сам сабе...

— Аб чым ты думала, калі мы нядаўна хадзілі і аглядалі школу? — не адказаў, а спытаўся я.— Толькі прызнайся шчыра..

— Пра што я думала? — паціснула яна плячыма,— глядзела...

— І не думала, як ты будзеш працаваць тут? — здзівіўся я.

— Думала, але раней, калі ўпершыню прыехала сюды. А цяпер думала пра дырэктарыху. Здаецца, добрая яна жанчына. Працавітая, спагадлівая.

— І мне так здаецца,— прызнаўся я.— Але я цяпер стаяў і думаў, як буду працаваць тут.

— Табе не цярпіцца?

— Надакучыла быць студэнтам, надакучыла лайдачыць летам,— сказаў я.— Хочацца быць сталым, самастойным чалавекам. «Малады яшчэ, малады»,— гавораць усе. А мне ўжо дваццаць два гады. Гэта і мала, але ўжо і многа... Вось і хочацца пачаць, праверыць сябе.

— І ты зусім не шкадуеш студэнцтва? — як засумавала Ларыса.— Няўжо забыўся лекцыі, інтэрнат, вечары, сяброў?

— Не забыўся,— прамовіў я,— але ж так век цягнуцца не будзе.

— А я сумую,— сказала Ларыса,— бачу, што наперадзе будзе сумней жыць, таму і баюся пачынаць працу.

— Не бойся,— заспакоіў яе я, хоць і ў самога вялікай смеласці не было.— Усё будзе добра. Праз колькі дзён мы станем настаўнікамі. Паслухай, якое слова — настаўнікі...

## 4

Назаўтра, калі мы паснедалі з дырэктарам і яго жонкаю, паслухалі радыё, прыйшоў завуч — непаголены, у пацёртых, мусіць, ніколі не прасаваных штанах, у гумовых ботах.



Я не мог утрымацца ад смеху. «Ну і вахлак!» — хацеў сказаць шэптам Ларысе, але гэта мне ніяк не ўдавалася.

Завуч пазнаёміўся з намі, сказаў, што бачыў, калі мы праходжваліся ўчора, адразу палічыў нас за настаўнікаў, сёння ў яго суседкі ўжо дапытваліся: мы з Ларысай незнаёмыя між сабой ці сямейныя?

— Вёска заўсёды бачыць усё новае, аглядае, абслухоўвае свежага чалавека,— сказаў Іван Сямёнавіч, дырэктар, пажылы, з маршчынкамі на твары і шыі, але бадзёры яшчэ мужчына. Ён велічна сеў, па-начальніцку глянуў на нас.— Я хачу сказаць другое. Мы, тутэйшыя настаўнікі, людзі немаладыя, сямейныя, абраслі тут сваімі хатамі, хлявамі і садамі. Рамантыка ў нас даўно прайшла, за навуковымі адкрыццямі, славай мы не гонімся, колькі ёсць здароўя, ведаў, вучым дзяцей — словам, выконваем свой грамадзянскі абавязак...

— «Умее гаварыць,— падумаў я,— відаць, часта выступае на сходах».

— Вы ж, маладыя, для мяне пакуль што — самалёты без апазнавальных знакаў...

«Які разумны!..»

— Вы маладыя, адукаваныя,— працягваў дырэктар,— толькі што жылі і вучыліся ў горадзе, прывыклі да яго... Хачу вас загадзя папярэдзіць: дзеці ў нас цяжкаватыя, бацькі не вельмі нам памагаюць, але дысцыпліна з боку дырэкцыі да настаўнікаў строгая, працаваць трэба многа і сумленна. Згодны так рабіць — калі ласка, просім да нас. Не падабаюцца нашы парадкі — загадзя шукайце лепшай школы, лепшага дырэктара...

«Відаць, што строгі»,— падумаў я.

— Вечна ты са сваімі перасцярогамі! — накінулася на мужа Вольга Піліпаўна,— палохае толькі маладых.

— Нічога не запалохалі,— умяшалася Ларыса, а далей дадала павучонаму:— Надзённыя праблемы ставяць надзённыя пытанні.

— Вельмі правільна,— сказаў Іван Сямёнавіч,— і маладыя настаўнікі для нашай школы — вялікая праблема, яны мяняюцца ў нас штогод.

— Будзем працаваць,— сказаў я.

— Во гэта слова,— Іван Сямёнавіч устаў, паціснуў мне руку.— Калі так надумаліся, парашылі, тады пойдзем «прыжываць» вас, шукаць вам кватэр. На часе я знайду, а пасля самі будзеце мяняць ці свае хаты ставіць.

Ларысе кватэру знайшлі хутка: яе ахвотней бралі хітрыя гаспадыні,— ведалі, што яна будзе прыбіраць за сабою, мыць падлогу, бялізну, памагаць выбіраць бульбу, а то і згатуе сабе есці, падоіць калі карову. Яе ўзяла адзінокая старая кабета, толькі папярэдзіла, каб Ларыса не вадзіла хлопцаў: зімою выскрыгатаюць цяпло ды будуць гудзець да паўночы, не дадуць ёй спаць; а так ёй з «маладой разумнай настаўніцай» весялей будзе, ды на старасць ёй і лішніх трыццаць рублёў не пашкодзіць. Так і сказала ў вочы.

Мяне ж ніхто не хацеў браць на кватэру. Гаварылі, што я малады, гарадскі, чыстату люблю, а ў іх дзеці малыя, будуць шумець, ні чытаць,

ні пісаць не дадуць. Ды і на стол таго мне не паставіш, што самі ядуць. «Не, не»,— адмаўляліся жанчыны і пасылалі да сваіх суседзяў.

Так мы прайшлі з паўвёскі.

— Зойдзем сюды,— сказаў дырэктар,— тут нас павінны паслухаць, толькі трэба ўмець падысці да гаспадыні.

Мы зайшлі ў старэнькі, але чысценькі домік, прывіталіся.

— Як жывяце, Іванаўна? — спытаўся дырэктар гаспадыню.

— Добра,— адказала тая, зірнула на мяне.

— Ленка ваша дома ці ў горад паедзе?

— Які ёй горад, калі мы нядужыя зусім, нам трэба памагаць.

— І праўда. А мы вам зяця во падшукалі, маладыя, прыгожы, настаўнікам будзе ў нас працаваць.

Жанчына ўсміхнулася:

— Ленка мая маладзенькая яшчэ, куды ёй замуж спяшацца, пабачыць яшчэ гэтага шчасця, ды настаўнік вучоны, ён сабе вучоных і шукаць будзе.

— Вось і вывучыць вашу Ленку,— сказаў дырэктар і пачаў расказваць, як вялікія людзі жаніліся на простых дзяўчатах і добра жылі.

— Жаніхоў няхай яна сама знаходзіць, а чалавек, калі ніхто яго не бярэ, няхай жыве, яды ў нас хапае, абы зубы здаровыя былі,— сказала гаспадыня.

— Дзякуем,— сказаў дырэктар.

— Я спагадлівая,— сказала гаспадыня.— Як падумала, што чалавек чужы, ніхто яго не абагрэе, не прытуліць, дык і пашкадавала...

**5**

Першага верасня мы ішлі ў школу з Ларысай разам. Быў я ў новым зеленаватым з рудаватым адлівам касцюме, купленым яшчэ за бацькавыя грошы, у белай кашулі, пры гальштуку, у новых, яшчэ цесных туфлях. Такая ж светлая, юная, здаецца, нават і прыгожая была ў новым светлым касцюме і Ларыса.

Учора вечарам я чытаў «На ростанях», хацеў успомніць, як пачынаў працу Лабановіч. Успомніў, супакоіўся, што і ў мяне ўсё добра будзе.

Стаяла светлая вераснёўская раніца, яшчэ было цёпла, суха, далекавата да нізкага цяжкога неба, халодных вятроў, дажджу з дня ў дзень. Шчодра свяціла сонца, ішло цяпло ад зямлі, і ад гэтага было спакойна, добра на душы.

Жанчыны даставалі з калодзежаў, насілі ваду, выпускалі з двароў каровы, злаваліся, крычалі на сваіх дзяцей; так жа звыкла, як і кожнага дня, ішоў з комінаў дым, смачна пахла смажанай цыбуляй, прыгарэлай у саганках бульбай...

Я ішоў у школу, са мной віталіся, і я ківаў галавою, усміхаўся; я нарадзіўся ў вёсцы, доўга жыў і крыху ведаў яе хітрасці, добра знаў, што цяпер у вёсцы гаварылі пра новых людзей — пра Ларысу і мяне: тут усё на воку, усе адзін аднаго знаюць. І я адчуваў: калі не паздароўкаюся, хоць і з незнаёмым, то набярuся ліха — мяне аб'яваць ганарліўцам ці недавучаным, і я стану для іх чужы. У вёсцы здароўкацца — далёкі разлік, гэта нехта мудра прыдумаў. Я ішоў, ківаў галавою налева і направа.

— Падлізваешся,— пасміхалася з мяне Ларыса.

— Я ведаю, што раблю,— гаварыў я.

У гэты дзень на месцы бацькоў я не таптаўся б пры двары, адлажыў бы ўсю работу, а прыйшоў бы ў школу: які сёння дзень! Першага верасня! Нехта сёння выведзе першую літару, рошыць першую задачу — і пачнецца для яго вялікая і цяжкая, цікавая і радасная дарога ў навуку...

На школьным двары ў белых фартушках, з белымі каўнерыкамі, у чырвоных гальштуках бегалі дзяўчаткі, хлопцы былі ў школьнай форме, выглядалі на дзіва стройна і міла. Воддаль стаяла групка дзяўчатак, яны тут былі самыя большыя, лепш адзетыя, і я зразумеў, што гэта нашы выпускніцы-васьмікласніцы.

Калі падышоў да школы, абкружанай зелянінай, дзецьмі, я яшчэ больш захваляваўся,— аж заходзілася сэрца.

Васьмікласніцы заўважылі мяне, хіхікнулі і тут жа пырхнулі кудысьці за школу: відаць, засаромеліся такога маладога, адзетага пад густ цяперашняй моды.

На лаўцы маўкліва, заклаўшы нагу на нагу, сядзеў дырэктар Іван Сямёнавіч, ля яго сядзела і ўсміхалася, загаворвала з дзецьмі Вольга Піліпаўна. Жонка дырэктара, як жартавалі настаўнікі,— гэта тайны і моцны намеснік мужа: што яна скажа,— тое і будзе ў школе. У Вялікабрытаніі ёсць каралева, але яна не кіруе. У школах-васьмігодках дырэктаравы жонкі не маюць пасад, але кіруюць.

Сёння наша «каралева» была вясёлая, усміхалася, прыемна сустрэла мяне і Ларысу, пасадзіла ля сябе, павіншавала нас з першым днём работы.

Насупраць сядзеў завуч, сёння шчокі яго былі паголеныя, белыя, аж нават сінія. Касцюм на ім таксама быў акуратны, адпрасаваны. Ля яго сядзеў стары настаўнік, якому праз паўгода ісці на пенсію; ён быў поўны, сівы, маршчыністы і выглядаў ласкавым дзядулем. Ля яго нясмела трымалася маладая настаўніца біялогіі, якую, як мы дачуліся, прыслалі ўчора.

Гэта былі пакуль што ўсе нашы настаўнікі, новых усіх яшчэ не было.

Дырэктар махнуў рукою — з калідора выйшла на ганак пажылая тэхнічка і пазваніла сапраўды старым медзяным званком. Хоць звон быў глухі, але пачулі яго хутка. Збегліся вучні, выстраіліся, Іван Сямёнавіч устаў, прайшоўся ля дзяцей і павіншаваў іх з новым навучальным годам, уручыў леташнім выдатнікам граматы. Васьмікласнікі паднеслі кветкі, сшыткі і алоўкі першакласнікам, тыя нясмела бралі гэтыя падарункі, каторыя малыя расхваляваліся ці спалохаліся: павыпускалі кветкі на зямлю.

Стары настаўнік адвярнуўся і закрыў вочы хустачкаю, пасля павярнуўся і сказаў Ларысе, якая стаяла паблізу:

— Штогод не магу, калі ўбачу першакласнікаў. Падумаю: мае вы дзеткі, гулялі вы дасюль, былі вясёленькія, добрыя, мілыя, а гэта пачаліся для вас клопаты, і цяпер іх будзе ў вас з кожным годам больш... І на ўсё жыццё...

Роўна ў дзевяць гадзін пажылая тэхнічка зноў пазваніла,— і дзеці, штурхаючыся, смеючыся, пабеглі ў свае класы; усхваляваны ад гэтых першых хвілін работы, ад слоў старога настаўніка, падаўся за імі і я. Калі зайшоў у настаўніцкую, нечакана забаяўся ісці ў клас, спалохаўся дзяцей, іх позіркаў, адчуў, што я не ведаю, што ім цяпер сказаць, як пачаць свой першы ўрок.

— Зараз пойдзеце па сваіх класах, запішаце, хто прыйшоў, хто не мае якіх кніжак,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Сёння раз у год дазваляю рабіць тое, што хочаце.

Я заплюшчыў вочы, узяў класны журнал свайго сёмага класа і пайшоў, адчуваючы, як цяпер трэба мне сказаць дзецям нешта важнае, разумнае, не збіцца, не збянтэжыцца.

— Ні пуху ні пяра, Ларыса!— усміхнуўся я, калі ўбачыў яе.

— Да д'ябла, Павел Мікалаевіч! — махнула яна на мяне журналам — відаць, таксама хвалявалася: усё ж трэба ісці да людзей, хоць і не сталых, але чуйных і разумных.

У класе мяне чакалі — белагаловы хлапчук выцікоўваў з дзвярэй, убачыў, крыкнуў штосьці і пабег да сваёй парты. У класе зашумела, загуло, а пасля стала ціха-ціха, як у вуху.

Я зайшоў у клас; дзеці стаялі, усміхаліся, а то і сур'ёзна пазіралі,— відаць, таксама хваляваліся.

Я прывітаўся з вучнямі і дазволіў ім сесці. Пазнаёміўся, сказаў, дзе вучыўся, што буду весці ў школе. Напомніў, як весці сябе на маіх уроках, прыстрашыў, што буду караць непаслушных.

— Ого!— сказаў адзін вучань і замоўк, я нават не пазнаў, хто такі смелы.

Я спытаўся у іх, дзе хто быў летам, што бачыў, што рабіў. Аказалася, многія не выязджалі нават з сваіх вёсак, былі самае вялікае ў райцэнтры, амаль усе працавалі ў саўгасе, збіралі сабе ягады, грыбы, сенавалі, без работы не сядзелі. Чыталі мала, калі-нікалі глядзелі тэлевізар.

Я стаў гаварыць, што трэба кожнага дня чытаць, якая ад гэтага вялікая карысць; пасля я спытаўся, якіх яны пісьменнікаў ведаюць. Дружна назвалі Купалу і Коласа, той-сёй успомніў яшчэ пажылых пісьменнікаў, што пішуць цяпер, але маладых празаікаў і паэтаў ніхто не назваў. Калі я спытаўся, што такое стыль у літаратуры, то амаль усе паціскалі плячыма. Я адчуў, што прыйдзецца мне з імі працаваць ды працаваць. Відаць, нічога добрага не дало тое, што летась літаратуру ў іх вёў настаўнік фізкультуры — «дагружалі» да стаўкі.

Тады я папрасіў усіх дастаць лісткі і запісаць колькі сказаў. Пагледзеўшы іх, убачыў, што некаторыя напісалі вельмі непісьменна.

«Ёсць што рабіць табе тут, Павел Мікалаевіч»,— думаў я. Пачуў званок і адпусціў вучняў; калі ішоў з класа, успамінаў, чаго не сказаў, падумаў, што тое, нясказанае, было самае важнае, што я заўсёды такі: раблю нешта і не дараблю, як закончу, тады ўжо ўспамінаю, што забыўся, шкадую, але позна.



## 6

У школе пакуль што не знаходзілася каму весці матэматыку. Завучу, Міхасю Рыгоравічу, дазвалялі весці ўсяго дванаццаць гадзін, астатнія гадзіны матэматыкі і фізікі не вяліся, прападалі: леташні іх настаўнік яшчэ не прыязджаў у школу, гаварылі, бегаў па Мінску і шукаў там работы. Ды ён і не быў настаўнікам: вучыўся яшчэ толькі на другім ці трэцім курсе тэхналагічнага інстытута, працаваў паблізу лесніком, паступіў у інстытут — дык і запрасілі ў школу.

Не было настаўніка фізкультуры і працы — той, што рабіў летась, перавёўся ў другую школу, і дзеці сумавалі, хадзілі вялыя, вельмі хацелі бегаць, гуляць у футбол і валейбол. Толькі на днях прыслалі піянерважатай сёлетнюю дзесяцікласніцу, паступала ў інстытут — не паступіла, папрасілася ў школу — зарабіць педагагічны стаж.

Затое хапала моваведаў; старому настаўніку, Алесю Трахімавічу, далі трыццаць шэсць гадзін, дзве стаўкі. Налета яму ісці на пенсію, дык зрабілі, каб яна, гэтая пенсія, была самая вялікая. Мяне «дагрузілі» геаграфіяй, Ларысу — нямецкай мовай, спевамі і маляваннем. Мы не хацелі браць, але дырэктар сказаў:

— Дзівакі, у школе няма пабочных прадметаў, усе важныя і за ўсе аднолькава плоцяць...

Ларысе пасля яшчэ даручылі і бібліятэку — выдаваць дзецям кніжкі, мне — выпускаць газету.

Зайшлі мы ў бібліятэку — і жахнуліся: тут ляжалі старыя карты, паламаныя крэслы, кнігі былі запыленыя. Аказваецца, летась не было бібліятэкара, усе настаўнікі адмаўляліся прымаць і выдаваць кнігі, дык бібліятэка была цэлы год на замку.

— Мне тут адной ніколі не справіцца,— пабедавала Ларыса,— выручай, Пашка, усё роўна табе няма чаго рабіць дома.

— А што мне за гэта будзе? — усміхнуўся я.— У інстытуце дала б канспект перапісаць, а тут мне канспекта не трэба.

— Дзякуй скажу.

— Гэтага мала.

— Тады кавай пачастую.

— І гэтага мала,— усміхнуўся я.

— А ты чаго хочаш? — спыталася Ларыса.

— Не ведаю.

— Ну дык і не мянці языком, і я табе памагу калі выпусціць газету.

— Ладна, падружым,— сказаў я.— Але паслухай, усё гэта на некім жа лічыцца, узяла ключ ты — пераходзіць усё на цябе. А ты ж па кнізе не прымала.

— І праўда,— сказала Ларыса,— так можна і ў турму сесці ці цэлы

год дарэмна рабіць.
Пагаварылі мы так, параіліся — і Ларыса аддала ключ дырэктару.
Той заспакоіў, каб праверыла, прымала, што ёсць, астатняе, чаго няма, але што лічыцца, спіша. Ларыса зноў узяла ключ, мы папрасілі памагчы васьмікласнікаў і пачалі заставацца пасля ўрокаў — выносіць паломаныя крэслы, старыя партрэты, карты, табліцы, ачышчаць ад пылу і павуціння кнігі, падклейваць іх, падпісваць.
Перамацваючы кожную кнігу рукамі, я ўбачыў, што тут ёсць многа добрага, чаго я яшчэ не чытаў. На сваю радасць, знайшоў колькі тамоў Буніна і Дастаеўскага, творы якіх я вельмі тады любіў. Мы раскладалі кнігі не толькі па алфавіце, але і па аддзелах.
— Баяўся, што сумна будзе,— пасміхалася Ларыса.— Трэба знайсці работу, тады ніколі не будзе сумна.
— Работа заўсёды будзе,— сказаў я,— толькі падстаўляй шыю. Гэту работу маглі зрабіць і да нас.
— Нічога, зробім і мы, а праз колькі дзён станем і кніжкі даваць, літаратурны вечар зробім.
— Ого!
— А што ж ты думаў, трэба працаваць,— сказала Ларыса,— сам чуў, як дырэктар гаварыў, што задача наша не толькі ўрокі даваць.
— Ты толькі слухай яго.
— А, ведаеш, ён талковы мужчына, работу сваю знае, і толькі яму ў нашай школе быць дырэктарам.
— Я бачу, што ён і да цябе сімпатыю мае,— усміхнуўся я,— гаворацы, сын яго цяпер у войску, хутка прыйдзе, дык можа за нявестку ўзяць цябе думаюць.
— Не выдумляй,— замахнулася на мяне кнігаю Ларыса,— гэта цябе гаспадыня хоча за зяця ўзяць.
— Плёткі,— сказаў я, і ў мяне адпала ахвота жартаваць, я зірнуў на Ларысу: яна глядзела на мяне і ўсміхалася, відаць, была рада, што добра адпомсціла, таксама падкалола. Я пагледзеў на яе і нечакана ўбачыў, што яна добрая дзяўчына, характвом вельмі не вызначаецца, але працавітая, дбайная. Калі папросяць, то абавязкова ўсё зробіць, ніколі не спіхне на другога. Такім, як яна, падумаў я, трэба верыць, можна з імі сябраваць, і яны будуць надзейныя сябры.
— Чаго ты так на мяне глядзіш? — спыталася Ларыса.
— Так,— сказаў я і адвярнуўся, каб яна не ўведала маіх думак.
Я не вельмі любіў дасюль вялікую кампанію, бянтэжыўся, быў не вельмі смелы з дзяўчатамі, а цяпер з Ларысаю было ўсё проста, цікава, свабодна. І я зразумеў, што буду сябраваць з Ларысаю, памагаць ёй, так, як у Мінску сябраваў з хлопцамі, калі мы таксама стараліся адзін дзеля аднаго.
І тут я ўспомніў, што сёння хадзіў на пошту ў суседнюю вёску, выпадкова ўбачыў там маладую дзяўчыну і яна мне спадабалася. Асцярожна распытаўся ў сваіх вучняў, уведаў, што яна працуе на медпункце.
«Трэба парэзаць заўтра палец і схадзіць на медпункт, пазнаёміцца,— падумаў я,— нельга ж ксяндзом жыць».



— Ну, на сёння хопіць,— сказала Ларыса,— пагаруем яшчэ колькі дзён і зробім усё. Пайшлі паслухаем музыку.
Ларыса замкнула на замок бібліятэку, і мы пайшлі ў настаўніцкую, паслухалі на пласцінцы Магамаева, Татляна, Мар'янавіча, «Песняроў», я хацеў паслухаць яшчэ маскоўскі «Спартыўны дзённік», але Ларыса пацягнула мяне дамоў, напомніла, што нашы гаспадыні могуць злавацца, што мы позна бадзяемся, не даём ім спаць. Мы памаракавалі на сваё кватаранцкае жыццё, выключылі радыёлу, святло, замкнулі школу і пабеглі дамоў.
Нам было па дарозе, я падвёў Ларысу да яе сянец, развітаўся і пабег агародамі дадому, адчуваючы, што мы пасябравалі, будзем памагаць адно аднаму. І гэта добра! Тады адчуваеш, што ты не адзін жывеш на свеце, можна з некім параіцца, пабыць разам. І табе хтосьці, калі трэба будзе, паможа ў любую часіну.

## 7

Калі я папрацаваў два месяцы, то першымі асяклі мяне, спусцілі з неба на зямлю дзеці: няўважліва слухалі, уцякалі з урокаў, а шасцікласнік Саша смела заявіў, што за трактарыста вывучыцца і без маёй мовы і літаратуры.
І зусім адчуў я сябе простым настаўнікам, звычайным працаўніком, такім, як і ўсе, калі вярнуўся ў школу з першых сваіх асенніх канікулаў.
Я правінаваціўся, дапусціў для школы вялікі грэх. На асенніх канікулах я паехаў у сваю родную вёску, да бацькоў, пагуляў з сябрамі, з якімі дружыў многа гадоў.
У раённы горад вярнуўся раніцою, спадзеючыся трапіць у свае Міланькі першым аўтобусам. Але вечарам і ноччу ішоў вялікі дождж, наліў вады, дарогі размоклі, і аўтобус не выйшаў нават з горада.
Я пабег на шашу і стаў прасіцца на машыны. Пакуль я дачакаўся міланьскай грузавой, даехаў, то ў школу было ўжо ісці позна. Я і не пайшоў, пакінуў у гаспадароў сумку і рашыў даведацца, як даехала Ларыса. Яе бацькі жылі таксама далёка адсюль.
Ларыса не спазнілася, аказваецца, яна была хітрэйшая, прыехала за дзень да работы і паспела даехаць аўтобусам. Яна і сказала, што ўзлаваўся на мяне дырэктар, яшчэ больш узлавалася яго жонка. Ларыса абараняла мяне і паспрачалася з ёю.
— Навошта? — спытаўся я.— Я і сам сябе абараню.
Ларыса прамаўчала, адвярнулася.
— Чаго ты? — здзівіўся я.
— Нічога,— сказала яна,— памажы мне праверыць сшыткі.
Я здзівіўся, заўважаючы, што апошнім часам неяк дзіўна стала адносіцца да мяне Ларыса — былая мая аднакурсніца: старалася паменей сустракацца і гаварыць са мною, быццам чаго злавалася.
— І моцна лаялі мяне? — спытаўся я.
— Ды добра заўтра ўляціць.

— Можа, уляжацца за ноч злосць...

— Расклад новы павесілі,— сказала Ларыса.

— Трэба схадзіць паглядзець свае ўрокі,— сказаў я,— а то прыйду заўтра без планаў — зусім прапаў. Не хочаш прайсціся са мною?

— Пайшлі,— згадзілася Ларыса.— Адзін баішся?

— Пры табе не так лаяць будуць,— усміхнуўся я,— хоць дырэктара не павінна ўжо ў настаўніцкай быць.

Ларыса апранулася, і мы пайшлі.

— Ну, што ты рабіў дома? — спыталася яна.

— Весяліўся, адпачываў,— сказаў я.

— А я сумавала, мне хацелася ў школу.

— А я і яшчэ тыдзень не супраць быў пагуляць,— прызнаўся я,— кароткія асеннія канікулы...

— І цябе зусім не цягнула сюды? — здзівілася яна.

— Не вельмі,— прызнаўся я.

— Халодны ты чалавек.

— Да каго? Да цябе? — пажартаваў я.

— Чаму — да мяне? Да школы.

— Школу я люблю,— сказаў я,— ну, можа, яшчэ не люблю, толькі паважаю, але хутка буду і любіць. А ты палюбіла?

— Палюбіла,— сказала Ларыса і так уважліва паглядзела на мяне,— і яшчэ тое-сёе палюбіла.

— Калі не сакрэт, то што?

— Не што, а каго,— паправіла мяне Ларыса,— ты мовавед і гавары правільна.

— Дык каго вы палюбілі, Ларыса Іванаўна?

— Вас, Павел Мікалаевіч.

— Што-о-о? Пяць гадоў вучыліся разам, нават не глядзела на мяне,— сказаў я, ведаючы, што Ларыса сябравала з многімі хлопцамі, але непадоўгу.

— Можа, ты гэтага не бачыў.

— Можа,— сказаў я,— але я другое бачыў...

— Ну, ладна, хопіць блазнаваць,— перапыніла мяне Ларыса,— прыдумвай, як апраўдацца. Чуеш, у настаўніцкай радыё гаворыць? Дырэктар, калі адыходзіць, то выключае. Гавораць, ён нават гадзіннік на ноч спыняе, каб не зношваўся механізм.

Я ведаў, што любіць слухаць музыку і прыбіраць настаўніцкую тэхнічка, цётка Каця.

«Яна, відаць»,— вырашыў я і не падумаў нават, што можна сказаць, калі ў настаўніцкай будзе Іван Сямёнавіч. Калі затрымаўся завуч Міхась Рыгоравіч, то не бяда: чалавек ён памяркоўны, нават чулы, як я зразумеў, прыдзірацца не любіць, ён нават на ўрокі не так часта ходзіць, як дырэктар.

Я штурхнуў дзверы, прапусціў Ларысу, зайшоў сам — і разгубіўся, як школьнік: на канапе, паклаўшы нагу на нагу, сядзеў і чытаў газету Іван Сямёнавіч, побач дыміў цыгарэтаю, правяраў сшыткі Міхась Рыгоравіч. Відаць, школьнае начальства затрымалася, каб удвух пагаварыць аб нечым важным.



Я прывітаўся. Міхась Рыгоравіч кіўнуў галавою, не глянуў на мяне і пачаў спехам укладваць у сваю сумку сшыткі. Ён не правяраў іх, як і не чытаў газеты дырэктар, бо трымаў яе дагары.

Я ведаў, што мяне зараз будуць лаяць, і мне было непрыемна, нядобра. Я ўзяў са стала чысты лісток і стаў перапісваць свае заўтрашнія ўрокі. Калі будуць маўчаць, падумаў я, перапішу і вышмыгну з пакоя. Да заўтрашняга злосць уляжацца, ды і нейкую адгаворку выдумаю.

— Чаму не былі сёння ў школе, сарвалі наш распарадак, Павел Мікалаевіч? — дырэктар зняў акуляры, адлажыў газету, сур'ёзна глянуў на мяне.

За гэтыя два месяцы я крыху ўведаў яго: пажылы, разумны, вельмі любіць, каб усе яго слухалі і нават пабойваліся. Любіць пасмяяцца і вельмі задаволены, калі і ты смяешся, хоць і з сябе. Цяпер ён нават не прывітаўся са мною, і гэта мне не спадабалася.

— Не пайшоў сёння раніцаю аўтобус, я і застаўся ў горадзе. Цяпер на грузавой даехаў,— сказаў я праўду.

— Яна ж паспела,— прамовіў Іван Сямёнавіч і кіўнуў на Ларысу.

— Я спадзяваўся на гэты аўтобус.

— А яна не спадзявалася, раней прыехала,— сказаў Іван Сямёнавіч, устаў, нібы хацеў яшчэ аглушыць мяне сваім вялікім ростам.— Як мы цяпер будзем дакараць вучняў, калі настаўнікі самі не прыходзяць на ўрокі?

— Не мог жа я пяшком прыйсці, паспець на ўрок,— апраўдваўся я.

— Чулі вы, Міхась Рыгоравіч?— глянуў дырэктар на завуча.— Я трыццаць тры гады раблю ў школе і ніколі не спазніўся на ўрок. Ці мяцеліца круціла, ці дождж ліў, ці добрыя, ці благія дарогі былі. А гэта — цэлы дзень прапусціць!

Міхась Рыгоравіч таксама глядзіць на дырэктара, згаджаецца з ім. Сёння мне завуч не падабаецца: няголены, белы гузік на ягонай белай кашулі прышыты чорнаю ніткаю. Цяпер я прыгадваю, што ён часта прыходзіць у школу з зарослымі шчокамі і барадою.

— Раней, адразу пасля вайны, калі аўтобусы зусім не хадзілі, я на ўсе сходы, канферэнцыі пяшком праз дзень у раён шмыгаваў. А моладзь наша праскочыцца для здароўя адзін раз лянуецца! — абураўся Іван Сямёнавіч.

— А я,— цмокае, пачынае ўспамінаць Міхась Рыгоравіч,— я кожнага дня за сем вёрст на работу хадзіў. Іду, снег па пояс, холадна. Змерзну, прыйду ў школу — журнала не магу ў рукі ўзяць. Правяду пяць-шэсць урокаў — дадому, да сям'і бягу, бо яшчэ трэба нешта і дома зрабіць. А што я тады атрымліваў? Ды якія тады грошы былі? Воз дроў каштаваў чатырыста рублёў... І жылі, не бедавалі, не плакалі, яшчэ і весела было...

— Бестурботнасць,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Няма той сур'ёзнасці, якую разумелі мы, якой ад нас патрабавалі. Ніякай сталасці, ніякай боязі. Адны гулі ды танцы ў галаве. А дзе Карчагіны, Матросавы?..

— Затое Фамусавы ды Малчаліны ёсць,— сказала Ларыса.
— Не тая цяпер моладзь, што да вайны была,— як не пачуў яе дырэктар і стаў апранацца, зняў з вешалкі сваё доўгае, да самых костачак, паліто, зусім старое, з абцёртым, абліняльым каўняром. І вушанцы яго было гадоў болей, як мне.
— Не тая,— згадзіўся Міхась Рыгоравіч.— Мы...
— На першы раз сам прыдумай сабе кару,— паказаў на мяне дырэктар пальцам.— На другі — падумаю я. А ты, Рыгоравіч, вылічы яму за гэты дзень.
— Вылічу,— сказаў завуч,— заўтра буду табель складаць.
Дырэктар апрануўся і павольна, як гаспадар, выйшаў з настаўніцкай, з намі не развітаўся.
— Мядзведзь, а не чалавек! — абурыўся Міхась Рыгоравіч.— Цярпець не магу такіх людзей, як ён. Ён «ні на адзін урок не спазніўся!» Каб ты жыў толькі! Бывала, нібы на сход едзе, а на самай справе нешта сваё робіць. Я ж чалавек, сам ведаю, што значыць у такое мокрае і халоднае надвор'е трыццаць кіламетраў адмахаць.
— Хай бы закінулі свае слова,— сказала Ларыса.
— Хіба ён мяне паслухае? — усклікнуў Міхась Рыгоравіч.— Ён толькі сваю жонку слухае. О, яна пілка харошая! І грошы яна загадала вылічыць. Што тут вылічаць, калі вы, маладыя, і так мала палучаеце...
— І тут вы маглі заступіцца,— сказала Ларыса.
— Што я памагу? — хадзіў па пакоі і апраўдваўся Міхась Рыгоравіч.— Не тыя гэта людзі, што некага паслухаюць. Да вас тут многа маладых настаўнікаў прыязджала, і ніхто не затрымліваўся: не мог дагадзіць,— то не так глянуў на іх, не так сказаў...
— А вы працуеце,— сказала Ларыса.
— Што я? Па мне яны няхай што хочуць робяць...
— Вось яны і робяць, што хочуць, бо мы ўсе маўчым ці баімся іх,— сказала Ларыса, і я здзівіўся, якая яна смелая.
Міхась Рыгоравіч асекся, замітусіўся, стаў збірацца дамоў, перамяніў гутарку, спытаўся, як я гасцяваў дома.
— Перажываеш? — спыталася Ларыса, калі мы развіталіся з завучам і засталіся адны.
— Чаго перажываць, усё правільна,— сказаў я.
— Гэта калі мы былі студэнтамі,— вучыліся, адкрывалі для сябе ўсё больш і больш новага,— для нас адкрывалася неабсяжнае, і мы сябе лічылі неабсяжнымі, вялікімі, незалежнымі, а цяпер усё проста: мы — радавыя работнікі, павінны працаваць і падначальвацца дырэктару, дырэктар — раёну, раён — вобласці. І нічога ў нашай рабоце няма геройскага, кожны дзень адно і тое ж.
— Так,— сказаў я,— мы — маленькія людзі, настаўнікі.
— Ну, не маленькія,— не згадзілася Ларыса,— прафесія наша пачэсная, і мы ўсіх вялікіх, міністраў і лаўрэатаў, вучылі і цяпер вучым будучых. Дык я пасля гэтага — маленькі чалавек?
— Ну, ладна, Ларыса Іванаўна,— сказаў я,— хопіць дыскусій, надакучылі яны мне ў інстытуце. Здаецца, дарэмна ты сёння прыдзіралася да Міхася Рыгоравіча.
— Не падабаецца ён мне,— сказала Ларыса,—ён падобны на айсберга — большая палавіна яго пад вадою, а не на паверхні. Ты прыгледзься толькі добра.



## 8

Есці не хацелася, не было што сёння рабіць, чытаць таксама ахвота не брала, таму я не пайшоў дамоў, а завярнуў да Ларысы.
Вечарэла. Выяснівалася неба — значыць, ноччу падхопіцца марозік, сцягне ваду, убеліць аселіцу. І добра будзе: можа, стане сушэй, можна будзе спакойна хадзіць па вуліцы, а не па гародах.
— Во трапілі мы з табой, Ларыса, у вёсачку!— кажу я.— Бадай, інстытута не варта было канчаць, каб ехаць сюды. Што мы тут бачым? Куды выйсці, што рабіць пасля школы?
— Неяк жа жывуць людзі,— усміхнулася Ларыса.
— Вось так і жывуць. Працуюць, пад'ядуць і спаць кладуцца.
— Сказаць табе сакрэт?
— Ну, скажы.
— А я прыехала ў раён наш, у школу гэтую толькі таму, што прыехаў сюды ты. Загадчык мяне ў дзесяцігодку пасылаў, а я кажу: «Не, пасылайце ў Міланькі, больш нікуды не паеду».
— Што гэта значыць? — насцярожыўся я.
— А вось тое і значыць,— усміхнулася Ларыса.— Якія вы, мужчыны, нездагадлівыя, сляпыя!..
— Ты, Ларыса, здзіўляеш мяне,— сказаў я і падумаў, што недарэмна яна гэта ўсё кажа, штосьці недагаворвае, і яна не жартуе, даўно ўжо нешта збіраецца сказаць. Здаецца, калі добра прыпомніць, нават у інстытуце падыходзіла да мяне, жартавала, падбівала на нейкую адкрытасць.
— Сказаць табе яшчэ што-небудзь?
— Ну, скажы,— згадзіўся я і захваляваўся: адчуваў, што яна зараз зноў скажа пра мяне, яшчэ болей схіліць на адкрытую гаворку.
— Еду я на канікулы дамоў — і не хочацца мне ехаць, так сумна стала, што ледзь не плачу.— (Я з палёгкаю ўздыхнуў: Ларыса расказвала пра сябе.)— Прыехала, сыходжу з аўтобуса — Віктар сустракае, кланяецца, капялюш здымае перада мною, чамаданчык з рук забірае. Ты ж Віктара помніш, ён летась філфак канчаў.
— Помню. Гавораць, у вас вялікая любоў была. Нават збіраліся жаніцца.
— Не выдумляй,— злуецца Ларыса.— Я адразу ўбачыла, што ён за чалавек, яшчэ летась. Я ж ведала, колькі ён дзяўчат падмануў. Райка з біяфака нават дзіця ад яго чакала...
— А цябе вось не забывае...
— Ды я ж табе гавару: сустракае, такі рады, нават буську ў шчаку

даў, пытаецца: «Дык дзе ж твой фраер?» «У аўтобусе»,— кажу. Адскочыўся, пазыркаў. Бачыць — няма. Зноў да мяне.

— Што за фраер? — пытаюся я.

— Хвілінку пацярпі, зараз скажу,— усміхаецца Ларыса.— Гавару яму: дзякую, да свайго дому дарогу ведаю, так што праводзіць мяне не трэба.

— Я цябе столькі чакаў,— ліслівіць ён,— я так каяўся за наша мінскае... Ты даруй, я цябе толькі адну люблю, а за тое прабач... Які чалавек не памыляецца...

— Памірыліся? — цікаўлюся я.

— Ды ты слухай,— нервуецца Ларыса,— а то не буду расказваць.

«Бяда вялікая,— падумаў я,— такіх раманаў я тысячу чуў. Банальна і пошла».

— Я яшчэ сказала, каб не ішоў,— ідзе, усё выбачаецца, ліпне,— працягвала Ларыса.— Заходзім дамоў. Гляджу: маці, бацька, дзядзькі мае, цёткі сядзяць, прыбраныя, вычасаныя. Я ўсміхнулася, павіталася. На Віктара глядзяць, таксама ўсміхаюцца — ён жа з суседняй вёскі, тутэйшы, дык яго ведаюць. Маці нават не дала мне распрануцца, адразу пацягнула за руку ў другую палавіну. «Шэльма,— ледзь не трасе мяне за валасы,— напалохала ты нас са сваім Пашкам! Думаем з бацькам, што яшчэ за Павел Мікалаевіч, адкуль ён узяўся?..»

— Не разумею,— здзівіўся я.

— Пачакай,— усміхаецца Ларыса,— усё раскажу. Абураецца маці мая, крычыць на мяне: так напалохаць! Думалі, што здурнела я: не парабіла і двух месяцаў — і замуж ужо задумала выскачыць за незнаёмага чалавека. А які ён? Стары, малады, п'яніца, гультай? Крычыць маці, што дала б веніка і мне, і Паўлу Мікалаевічу...

— Дзівосы, Ларыса! — Мне ажно не верыцца.

— Я ўсміхаюся,— працягвала Ларыса,— і гавару: праўда, ёсць такі Пашка, Павел Мікалаевіч, мы з ім разам вучыліся пяць гадоў, цяпер разам працуем у адной школе, збіраемся пажаніцца... Ехалі разам да Мінска, пасля ён пасаромеўся ехаць са мною, да сваіх бацькоў павярнуў.

— Цэлы дэтэктыў,— адмахваюся я,— не хапае яшчэ, каб твая маці прыехала паглядзець на зяця... Чаго ты ўсё гэта выдумала, Ларыса?

— Мне і маці гаворыць: не дуры, дзеўка. Ходзіць да цябе Віктар, бярэ — дык і ідзі. Чалавек тутэйшы, знаёмы, будзеце рабіць у яго вёсцы, вучыць дзяцей. І нам блізка будзе наведвацца.

— Твая маці і праўду кажа,— згаджаюся я,— тут ты не выйдзеш замуж за настаўніка.

— Дык вось я маме сваёй і кажу: не люблю, мамачка, я яго, ненавіджу. Калі падыдзе да мяне Віктар, дык мяне калоціць. Бывае ж, што іншага чалавека цярпець не можаш, такі ён табе праціўны. «Не дуры, дзеўка, галавы,— кажа маці,— а чаго цябе Віктар сустрэў, чаму разам у хату прыйшлі?» «Ненавіджу я яго, мама». «А чорт вас разбярэ,— узлавалася маці,— рабіце самі, што хочаце, хто цяпер бацькоў слухае...» — Сказала, махнула рукою і пайшла, прамовіла ў другой хаце: «Падманула нас...»



— І чаго ты бацькоў злуеш? — спытаўся я.

— А ты не здагадваешся? — перапытала Ларыса.— Не? Тады скажу я. Думаю, напішу дамоў, што прыеду з табою — бацькі скажуць сваякам, тыя — сваім родзічам... Так і да Віктара дойдзе — і адчэпіцца ён ад мяне.

— А чаму ты іменна выбрала мяне ў «жаніхі»?

— А каго я больш ведаю? Ды і Віктар цябе знае, можа паверыць лепш.

— Ну і паверыў ён табе?

— Відаць, паверыў,— сказала Ларыса.— Загаворваў, прасіўся, але я сказала: «Ідзі і больш мне на вочы не трапляйся, не пераходзь дарогі».

— Дык ты цяпер свабодная?..

— Паўлік!

— Усё, Ларыса Іванаўна, больш не буду,— схамянуўся я, не стаў больш жартаваць,— але ўсё ж ён цябе, відаць, любіць.

— Ты думаеш? Не. Яго мучыць, што я не паддалася яму, што знайшлася адна, якой не засляпіла вочы яго краса, не спакусілі яго абяцанні...

Мы прыйшлі да Ларысінай хаты.

— Зайсці вечарам да цябе? — спытаўся я.

— Заходзь,— сказала Ларыса.— Ты ж ведаеш, што адной вельмі сумна.

«Дзівосы! Сапраўднае кіно! — думаў я.— Ларыса магла і не пісаць дамоў пра мяне, яна, можа, сказала гэта толькі мне, што я падумаю, што скажу... І Віктар... Недарэмна яна расказала мне пра яго. Няўжо яна?.. Не ведаю, не ведаю. Толькі я жаніцца яшчэ не думаю, так што, дзевачкі, не пераходзьце мне дарогі!..»

Прызнацца, усё ж Ларысіны расказы мяне збянтэжылі. Я адчуў, што спакой мой прапаў, кожны новы дзень будзе прыносіць мне штосьці новае. І Ларыса стане мне не толькі калегам па рабоце, але яшчэ і блізкім чалавекам. І невядома, ці трэба ўсё гэта: нешта гляджу я на яе халадна і абыякава — мо і таму, што Ларыса — не красуня вялікая, не такая ўжо прываблівая ў яе постаць, звычайная, як кажуць, дзяўчына. А можа, нічога Ларыса пра мяне не думае, можа, я сам усё прыдумаў ці хачу прыдумаць?

Так я разважаў, пакуль не зайшоў у сваю хату і не павітаўся з гаспадыняй, якой я не бачыў цэлы тыдзень. Апошнімі часамі я стаў яе чагосьці саромецца, губляцца, мітусіцца перад ёю, калі дачуўся ад людзей, што мяне хочуць ажаніць. Людзі сказалі па сакрэце Ларысінай гаспадыні, гаспадыня — Ларысе, а Ларыса сказала мне, нават падкалола: «Жаніся, твае гаспадары — людзі грашовыя. Гавораць, на кніжцы многа грошай маюць. Хатка, хлявок, кароўка, свінні, лазня ёсць. Сам заробіш добра ў школе, жонку ў сталовую ўладкуеш — чаму не жыць? А там, глядзі, дырэктарам станеш, і капейка большая будзе, і павага...»

— Ну, як вы тут жывяце? — спытаўся я ў гаспадыні.

— Якое наша жыццё? Гаспадарскае, топчамся дзень пры хаце,— сказала гаспадыня, села на ўслончыку.— А вы дзе на канікулах былі? Што новага бачылі?

— У бацькоў быў.

— Што там чуваць? — гаспадыня, маршчыністая, акуратная, глядзіць на мяне, і я не магу вытрымаць яе позірку, апускаю вочы.
— Таксама ходзяць дзень пры хаце.
— Маці, можа, папраўілася крыху?
— Папраўілася,— прамовіў я.
— А людзі кажуць, што вы дома не былі.— І гаспадыня зноў пільна глядзіць на мяне.
— А дзе ж я мог быць?
— Гавораць, што вы з Сямёнішынай настаўніцай да яе бацькоў ездзілі.
— Чаго гэта? — усміхаюся я.
— Гавораць, што вы жаніцца думаеце, ходзіце разам у школу, са школы, вечарам падоўгу праседжваеце. Да другіх настаўніц і не заглядаеце.
— Я ж іх мала ведаю яшчэ, а з Ларысай Іванаўнай я разам вучыўся.
— Канечне, вы — малады, адукаваны, вясковай якой дзяўчыны браць не будзеце, вам толькі настаўніца можа быць пáраю...
— Ды не думаю я яшчэ жаніцца! — усміхаюся я.— Нешта выдумляюць людзі, а вы верыце ім.
— Дыму без агню не бывае,— кажа гаспадыня, паднімаецца і ідзе на кухню, гаворыць сама сабе.— Пашчасліўіла во дзеўцы...

9

— Добра вы даяце ўрокі,— гаварыў Міхась Рыгоравіч (ён толькі што хадзіў са мною ў сёмы клас),— у вас свежыя веды, добрая мова; я ўжо не ўмею так чыста гаварыць, слова на адной мове, слова на другой. Вось яшчэ вопыту ў вас мала, і гэта відаць: што трэба зрабіць за хвіліну, вы робіце за пяць, пра што трэба болей гаварыць, вы абмінаеце.
— Вопыт прыйдзе,— сказаў стары настаўнік Алесь Трахімавіч, які чуў, як завуч разбіраў мой урок.— Вось калі ведаў няма ці чалавек не папаўняе іх, тады і вопыт на выратоўвае. На нашай рабоце трэба самому вучыцца, вучыцца і вучыцца, тады і дзеці слухаць будуць і паважаць. Як перастаў чытаць, дык і пакаціўся назад, як воз з гары...
— Добра дае ўрокі, добра,— пахваліў Міхась Рыгоравіч,— па-цяперашняму, па-праблемнаму. Ужо як будзе якая праверка, то мы будзем на вашы ўрокі інспектараў пасылаць. Гэтыя новыя праграмы — гора для нас. Сучасны ўрок, праблемнасць, пошукавы метад... Прымяні ты яго, калі наш вучань простай задачы не рошыць; вось рашаем колькі дзён задачы на яблыкі, раблю кантрольную, тое ж самае дзеянне, толькі ўжо гутарка пра слівы. Усё роўна ёсць двойкі. Рашалі ж, кажу, на падобнае дзеянне. А яны мне сваё кажуць: «А мы на слівы не рашалі, толькі на яблыкі...»
— Бо вучым іх па-старому,— сказаў Алесь Трахімавіч,— як мы дасюль вучылі,— яны мала думалі, спісвалі, паўтаралі за намі. А новыя праграмы, праблемнасць вучыць іх думаць, мысліць. І дарэмна мы, старыя, баімся гэтага...



— Анекдот адзін,— усміхнуўся Міхась Рыгоравіч.— У настаўніка адной васьмігодкі нашага раёна пытаецца інспектар: «Ну, як у вас з новымі праграмамі, праблемай?» А ён: «У мяне ніякай праблемы няма, дзеці ціха сядзяць...»
— Такі настаўнік навучыць! — сказаў Алесь Трахімавіч.— Ён мучыць недзе, а не вучыць.
— Так, трэба цяпер рабіць па-новаму,— сказаў Міхась Рыгоравіч, і я здзівіўся, як ён мяняецца; адно гаворыць, а хтосьці запярэчыць — ён тут жа адмаўляецца ад сваіх слоў, падтрымлівае іншага, і так ніколі ён не абароніць сваёй думкі, заўсёды згаджаецца з другімі. За гэта яго не любіць Ларыса, гаворыць, што трэба асцерагацца такіх людзей; вось Алесь Трахімавіч скажа, што думае, будзе адстойваць сваё, сваё скажа і Іван Сямёнавіч, хоць не раз думае, што сказаў лепш за ўсіх, а вось Міхась Рыгоравіч падумае яшчэ, што сказаць, а то і не скажа свайго, пачакае, пакуль выгаварацца іншыя.
— Ну, добра,— кажа Міхась Рыгоравіч,— Паўлу Мікалаевічу мы дадзім зрабіць даклад пра сучасны ўрок, але вось нядобра, што ён у вялікім даўгу перад намі...
— У якім? — насцярожыўся я.
— Не здагадваецеся? Нядобра, нядобра, Павел Мікалаевіч,— паківаў галавою завуч.— Атрымалі першыя дзве палучкі, першы год робіце ў школе, уладкаваліся на кватэры...
Я зразумеў яго, усміхнуўся.
— Сухія вашы грошы будуць, пагрызуць іх мышы,— сказаў Міхась Рыгоравіч.
— Мы ж настаўнікі, і нам нельга...— пачаў я.
— Хто сказаў? — перабіў Міхась Рыгоравіч.— Мы ж таксама людзі, і нішто чалавечае нам не чужое... Калі я адрабіў, хто не дазволіць мне рабіць тое, што я захачу? Абы ўсё добра было,— ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але ўбачыў, што ў школу ідзе маладая дзяўчына, прамаўчаў, дакачаўся новага чалавека.
Мы таксама ўсе замоўклі, сталі чакаць у настаўніцкай гэтай дзяўчыны. Яна штосьці спыталася на калідоры ў тэхнічкі, пасля пастукала і зайшла.
— Добры дзень,— сказала яна,— я да вас. Мяне накіравалі весці фізкультуру.
— Добра,— сказаў завуч.— Як вас звацЬ?
— Наташа.
— Мы так не называем,— усміхнуўся завуч.
— Наталля Васільеўна.
— Во, гэта па-нашаму. Мы вас чакалі, але цяпер дырэктар дома, падыдзіце да яго, ён вам паможа на кватэру стаць, бо я толькі завуч, такіх спраў не рашаю.
Тая падзякавала і пайшла.
— Во нашаму Паўлу Мікалаевічу жніво! — усміхнуўся Міхась Рыгора-

віч.— Халасцяк адзін, а дзяўчат ажно чатыры: і Ларыса Іванаўна, і біялагіня, і піянерка, і фізкультурніца...

Я засаромеўся і нічога не адказаў.

— Не драмі, Мікалаевіч, ніколі не забывай, што ты мужчына, певень, так сказаць,— Міхась Рыгоравіч зарагатаў, ажно ўзяўся за бакі.

— Не трэба, Міхась Рыгоравіч,— сказаў Алесь Трахімавіч,— Павел Мікалаевіч — сціплы чалавек, малады. У яго яшчэ ўсё наперадзе...

— А я і не кажу яму жаніцца,— сказаў Міхась Рыгоравіч,— певень ля ўсіх курак паходжвае, адной не выбірае, бо другія задзяўбуць, а нашы дзяўчаткі харошыя, павесяліцца можна. Я ў яго гады...

Я засмяяўся, але нічога не сказаў.

— Але мы не кончылі гутаркі пра сучасны ўрок,— сказаў Міхась Рыгоравіч,— праз пятнаццаць хвілін закрываецца магазін...

Праз паўгадзіны Міхась Рыгоравіч, Алесь Трахімавіч і я сядзелі ў маёй кватэры, гаспадыня падала нам на стол, што мела, астатняе я дастаў са сваёй сумкі, з якой хадзіў нядаўна ў магазін.

— Люблю пасля работы пасядзець з калегамі, пагаварыць,— хрумстаў агуркі і гаварыў Міхась Рыгоравіч.— Ужо суседзі мае не тое, у іх свае гутаркі, клопаты... А вы, Павел Мікалаевіч, не бойцеся, за гэта не прагоняць з работы, мы ж пасля працы сядзім, не сварымся, не б'ёмся...

— Але ўсё роўна гэтага не ўбачаць за аграномам, інжынерам, а заўсёды убачаць за настаўнікам,— сказаў Алесь Трахімавіч.— Тое, што даруюць людзі ім, нам не даруюць.

— Бо вы настаўнікі,— сказала мая гаспадыня.

— Настаўнікі! — міргнуў вокам завуч.— Не абы-хто, а — настаўнікі!

— А я зайздрошчу маладым,— сказаў Алесь Трахімавіч.— Цяпер добра жыць. А як пачынаў я... Сорак год таму прыехаў я ў гэту вёску, вучылі дзяцей па хатах, адзін клас тут, другі — там... Але працавалі, весяліліся, раскулачвалі тутэйшых багацееў, а калі і не спалі ноччу дома, хаваліся ад кулакоў...

Міхась Рыгоравіч успомніў каторых з кулакоў, і яны з Алесем Трахімавічам сталі гаварыць пра іх, пра той час, пасля ўспомнілі вайну, як партызанілі, і заспрачаліся: адзін даказваў, што ў гібелі атрада вінаваты нейкі Івашынаў, а другі даказваў, што прадаў людзей ворагу нехта другі...

Я сядзеў і слухаў іх, а яны не бачылі мяне, успаміналі, спрачаліся, і ўсё гэта было крыху тлумна, надакучліва, бо мая гаспадыня даўно ўжо махнула рукою і пайшла ў другую палавіну.

— Памыляешся, Міхась Рыгоравіч!

— Не, гэта вы забыліся, Алесь Трахімавіч!

— Пагаварыце вы што пра цяперашняе,— увайшла і сказала мая гаспадыня,— вы ўжо колькі гадоў пра гэта спрачаецеся, ніхто добра не ведае, хто выдаў тых людзей. А хлопец во сядзіць адзін і не ведае, каго слухаць.

— А і праўда,— сказаў Алесь Трахімавіч,—давайце пагаворым з Паўлам Мікалаевічам, а то яму сумна.



— Гаварыце пра сваё,— сказаў я,— на мяне не глядзіце, я ж тут гаспадар.

— Во і добра,— усміхнуўся Міхась Рыгоравіч,— а вы, Іванаўна, не ўпусціце яго, хлопец добры, разумны, ды і палучае някепска, і ваша Лена — дзяўчына харошая, будуць жыць, як за пазухай у Езуса. Пакуль яшчэ жывяце, дык і ўнукаў падгадуеце.

— Ды ён адукаваную хоча знайсці,— прабубніла гаспадыня.

— Вашай Ленцы і адукаваныя ні красою, ні розумам не дакажуць,— сказаў Міхась Рыгоравіч. Алесь Трахімавіч маўчаў.

— Разумная, але дыплома не мае. Ён да Сямёнішынай настаўніцы ходзіць, тая мае паперы.

— На што табе Ларыса тая? — перайшоў да мяне на «ты» Міхась Рыгоравіч.— Падумай добра: тут у цябе і хата будзе, і ў хаце, і хлеў, і ў хляве — што сыр у масле будзеш плаваць. А як з тою станеш на ногі? На зарплату цяжка жыць будзе, бо ні двара, ні кала няма...

— Ды я не думаю яшчэ жаніцца,— сказаў я.

— Во гэта ён і мне гаворыць,— сказала гаспадыня,— а сам штовечара да яе бегае.

— Угамонім,— сказаў Міхась Рыгоравіч і падміргнуў гаспадыні, тая паднялася і падалася ў бакоўку.

— Не трэба так, Рыгоравіч,— папрасіў я.

— Маўчы,— сказаў ён.— Жэнішся ці не жэнішся, а пажыві, паплавай, ды і Ленку калі-нікалі па галоўцы пагладзь, спраўная дзеўка. Смялей толькі, адзін раз на свеце жывём; што ўхопім — тое і наша...

Вярнулася гаспадыня, прынесла дамашняга піва.

— Хопіць на сёння,— сказаў Алесь Трахімавіч, але завуч не паслухаў яго, разліў піва па шклянках. Мы выпілі, і я пабаяўся, каб сёння для мяне ўжо не было замнога.

## 10

Міхась Рыгоравіч і Алесь Трахімавіч зноў успомнілі вайну, заспрачаліся за партызанства, цяпер закранулі і Івана Сямёнавіча.

Мне хацелася запярэчыць, абараніць дырэктара, але яны лепей ведалі адзін аднаго, таму я толькі аднойчы ўмяшаўся.

— А мне здаецца, што Іван Сямёнавіч перажывае за работу, добры дырэктар і чулы чалавек.

— Ты яшчэ ўбачыш яго чуласць,— гаварыў Міхась Рыгоравіч,— ох, яшчэ адчуеш яго чуласць!..

«Вось і разбярыся ў людзях,— думаў я.— Сябе ўсе хваляць, а другіх ганяць».

Пасля яны зноў успомнілі пра мяне, што я выкладаю літаратуру. Міхась Рыгоравіч палажыў мне руку на плячо і сказаў:

— Я люблю літаратуру. І нашу, і рускую. Я сам некалі пісаў, добра

яшчэ помню дзейнік і выказнік... дапаўненні розныя... Папрасі яшчэ ў гаспадыні, падыдзі, яна табе дасць.

— Не, не, Міхась Рыгоравіч, хопіць,— устаў Алесь Трахімавіч,— я больш не буду.

— Па адной яшчэ толькі.

— Не, не! — адмаўляўся Алесь Трахімавіч, і я быў з ім згодзен.— Пасядзелі, пагутарылі, пара і дадому. Ці ж мы хаткі не маем, што людзём надакучаем, як пяецца?

Міхась Рыгоравіч хацеў яшчэ застацца, міргаў мне, але Алесь Трахімавіч пацягнуў яго дамоў. Я выйшаў іх праводзіць.

— Зойдзем да Ларысы Іванаўны,— сказаў Міхась Рыгоравіч,— яна павінна нас пачаставаць.

— Ні ў якім разе! — адмовіўся Алесь Трахімавіч.— Такім нам больш нікуды не трэба хадзіць, трэба ісці толькі дамоў. Трэба ж, Рыгоравіч, ведаць сваю меру, вы колькі разоў ужо ад гэтага цярпелі, што не ўмелі сябе ў рукі ўзяць. Пасля і ў школе брыдка будзе, і дзецям у вочы сорамна будзе глянуць, і людзі абы-што гаварыць будуць...

Міхасю Рыгоравічу гэта не падабалася, і ён употайкі перадражніваў свайго старога калегу.

Я правёў іх яшчэ крыху, паслухаў, як спрачаліся Міхась Рыгоравіч і Алесь Трахімавіч, развітаўся з імі і павярнуў дамоў. Нечакана мне захацелася зайсці да Ларысы, і я не стаў разважаць, мне было весела і радасна, я пайшоў да яе.

Падняўся на горку, убачыў знаёмую зялёную лаўку, на якой мы часта сядзелі, і мне стала добра, што ёсць такая Ларыса, ёсць да каго выйсці. Прайшоў далей, убачыў ля частакола матацыкл, на якім ездзіў малады сусед-брыгадзір. Ён, як гаварылі, падходжваў да Ларысы, відаць, і цяпер быў з ёю; можа, і не варта мне было цяпер заходзіць. Іншым часам я вярнуўся б дамоў, але цяпер не павярнуў, цвёрда рашыў зайсці, хоць пажартаваць, пазлаваць іх.

Брыгадзір гэты абыходзіў мяне, стараўся не сустракацца — відаць, думаў, што я хаджу да Ларысы і мы з ім становімся супернікамі. Я нават стаў асцерагацца, каб ён не падвучыў вясковых падшыванцаў прыпільнаваць мяне вечарам ды патрэсці добра: я чужы ім чалавек, не паглядзяць, што і настаўнік, заступяцца за свайго сябра, які хоча знайсці сабе «інтэлегенцкую» жонку.

Я зайшоў у хату, прывітаўся з гаспадыняй і спытаўся, ці дома Ларыса. Сямёніха кіўнула галавою на другую, лепшую палавіну хаты.

Я знарочыста моцна пастукаў і, не чакаючы запрашэння, увайшоў і нават разгубіўся — ніякага брыгадзіра тут не было. Ларыса, нейкая сумная, нават кіслая, у дамашнім халаце, укрыўшы коўдраю ногі, сядзела на ложку. Ці яна кагосьці чакала, ці слухала радыё, толькі цяпер яна не выглядала настаўніцай, была звычайная вясковая дзяўчына.

— Ты адна? — спытаўся я, сам сеў на ложак і заклаў нагу за нагу.

— А з кім я павінна быць? — злосна спыталася Ларыса.

— З некім жа павінна быць.





— Вось ты прыйшоў, дык і пабуду з табою.
— Правільна.— Я ўстаў і сеў бліжэй да Ларысы, хацеў прыхіліць яе да сябе, але яна перасела далей ад мяне.
— Пайшлі ў школу,— усміхнуўся я,— закончым сёння наводзіць парадак.
— Ты ўжо добра навадзіўся недзе,— сказала Ларыса,— прыцямнее крыху, дык ідзі дамоў, каб не бачылі людзі. Ды спаць лажыся. А да мяне зараз дзяўчаты нашы прыйдуць, пойдзем з імі на танцы.
— О, і я з вамі.
— Куды ты пойдзеш! Не саромся! — асекла мяне Ларыса.
— Ясна,— сказаў я.— Ты не хочаш, каб я ішоў з табою, замінаў табе. Матацыкл жа стаіць ля частакола...
— І паеду,— сказала Ларыса,— і ў цябе прасіцца не буду. Ён не горшы за другіх хлопцаў...
— Завочна ў інстытуце вучыцца, матацыкл мае, на машыну збірае,— жартаваў, злаваў я Ларысу.
— Ён ужо на «Масквіч» мае.
— Пахваліўся.
— Прызнаўся, таму і я не хачу выпускаць такога хлопца,— жартавала ці злавала і Ларыса, а, можа, і праўду гаварыла.— Вось што ты маеш, што можаш паабяцаць дзяўчыне? Зарплату толькі... А ў яго і хата свая, і садок.
— Давай, давай, не выпускай такога жаніха, не ганіся за жураўлём у небе, калі сініца ў руцэ!
— Дык я і не ганюся, паеду зараз з ім на танцы.
Я быў колькі вечароў у тым клубе, вялікім, пустым, дзе збіраюцца школьнікі, васемнаццацігадовыя здаравякі, якія закончылі сёлета школу, не папаступалі, дык цяпер вылежваюцца дома да войска. Яны кураць у клубе, шумяць, танцуюць мала, таўкуцца толькі па кутках. Прайсці дзяўчатам, як і настаўніцам, ля іх нялёгка, лепш весці ўрок у шумным класе. «О! Каралевы прыйшлі!» — гэтае вітанне іх яшчэ самае бяскрыўднае, пасля яны будуць гаварыць такое, ад чаго будуць вянуць вушы. Каб сам не быў настаўнікам, то здзіўляўся б: хто іх і чаму вучыў у дзесяцігодцы? За сталом у куце будуць сядзець маладыя мужчыны і ляскаць у даміно, пакуль не пачнецца кіно; старэйшыя ў клуб ходзяць рэдка, пазамыкаюцца і глядзяць дома тэлевізары, цяпер ужо і ў вёсцы не збіраюцца на вячоркі, цяпер не ўгаворыш збірацца штовечара да суседа ці свяяка, драць пер'е ці іграць у карты і слухаць вясёлага гаваруна. Штодня па тэлевізары ідзе дзве-тры карціны, знаходзь толькі час, глядзі — і не трэба ісці ў клуб, плаціць грошы.
— І што ты будзеш танцаваць? — спытаўся я ў Ларысы.
— Вальсы, полькі, падыспаны...
— А ты гарадское пакажы,— я злаваў яе,— твіст адстукай, хоць гэта ўжо і не модна. Але для вясковых здаравіл-дзецюкоў будзе добра. Ці уош станцуй, які падобен на мыццё бялізны, урэж хіч хайкер — спробу сесці ў аўтамабіль, нягледзячы на тое, што цябе выпіхае шафёр...



Ларыса глядзела на мяне і здзіўлялася: яна, відаць, не бачыла мяне такім, не верыла, што так можа мяняцца чалавек — звычайна я бываю чалавекам спакойным, нават ціхім.
— А мо пакажы ім джэрк, «Амерыкану» ці «007», здзіві іх крыху,— блазнаваў я.— Ці леткай-енкай, сіртакі, рэдлавам...
— Ніколі не ведала, што ты такі балабон,— сказала Ларыса.— Праўду гавораць людзі, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца.
— Я пакрыўдзіў вас, Ларыса Іванаўна?
— Ладна, не мянці языком, бо заўтра сорамна будзе, што ты такі, а сёння мне сорамна за цябе... Шчаслівай ночы,— сказала і адвярнулася.
— Шчасліва,— сказаў я, пакрыўдзіўся, што Ларыса амаль выгнала мяне, але здолеў стрымацца, выйшаў з пакоя.
Назаўтра была нядзеля, і я спаў да полудня; папалуднаваўшы, зноў заваліўся храпці: балела галава, ды і не хацелася нікуды выходзіць.

## 11

Панядзелкам не зайшоў раніцою да Ларысы, наўмысна позна выходзіў з дому, каб яна паспела пайсці ў школу. Але, калі падышоў да школы і азірнуўся, убачыў, што Ларыса была яшчэ дома, а цяпер спяшаецца подбегам за мной: ці запазнілася з прычоскаю, ці чакала мяне.
Гэты дзень я стараўся з ёю не сустракацца, то затрымліваўся ў класе з дзецьмі і не заходзіў у настаўніцкую, то загаворваў з другімі настаўніцамі: мне было сорамна за сваё суботняе буянства.
Пад полудзень у школу прыйшоў Уладзімір Пятровіч, якога столькі чакалі, праз якога ў школе не вялася фізіка і многа гадзін матэматыкі. Ён быў маіх гадоў, такога ж росту, але значна паўнейшы, шырэйшы ў плячах.
Дырэктар узлаваўся на яго, крычаў, што так нельга рабіць: не звальняцца з работы, трымаць за сабою месца і не паказвацца ў школе. Уладзімір Пятровіч маўчаў, апусціўшы галаву, не апраўдваўся, не прасіўся.
— Што цяпер пайшлі за настаўнікі, не ведаю! — абураўся дырэктар.— Калі не любіш работы дык не ідзі ў школу. Раз прыйшоў — будзь добры працаваць, вучыць дзяцей. Такой вольнасці настаўнікі ніколі не дапускалі, былі самыя дысцыплінаваныя людзі, а гэта прыйшлі пасляваенныя — што хочуць, тое і робяць, нікога не слухаюць, нічога не саромеюцца. Ну і моладзь!..
Уладзімір Пятровіч маўчаў. Відаць, яго не вельмі краналі словы дырэктара, бо сядзеў ён спакойна, не чырванеў, не бялеў, ведаў, што ўсё роўна трэба выслухаць.
— Я перадаю вас на мясцком,— здаўся дырэктар,— хоць пакараю яшчэ і сам.— Пасля як апраўдаўся: — так жа нельга рабіць, гэта школа...
— Ох, чалавек! — стаў абурацца Міхась Рыгоравіч, калі дырэктар выйшаў з настаўніцкай.— Ну і лютуе. Толькі і хоча, каб жылі работаю, сядзелі дзень у школе, а ёсць у цябе сям'я ці не, здаровая яна ці хворая,— гэта яго не турбуе...

— Чаму ж вы гэта не сказалі, калі быў тут Іван Сямёнавіч? — спыталася Ларыса.— Цяпер спачуваеце, а чаму тады не заступіліся?

Міхася Рыгоравіча гэта раззлавала, збіла з толку: ён і сам нагаворваў на Уладзіміра Пятровіча дырэктару, абураўся, а цяпер хацеў перад ім палаяць дырэктара. Узлаваўся і на Ларысу: заўсёды яна асякае яго, не прамоўчыць.

— Ну і пілка! — калі Ларыса выйшла, пайшла на ўрок, апомніўся, сказаў Міхась Рыгоравіч.— Ну і сякеру ты сабе падабраў, Павел Мікалаевіч.

— Жаніцца думаюць? — спытаўся Уладзімір Пятровіч.

— Ходзяць,— сказаў Міхась Рыгоравіч і таксама пайшоў на ўрок.

Мы засталіся з Уладзімірам Пятровічам адны ў настаўніцкай.

— Я, канечне, не ведаю ні вас, ні гэтую дзяўчыну,— сказаў ён,— але не раю жаніцца, хадзіце яшчэ да трыццаці халасцяком. Я сам цяпер не перакаюся, што жаніўся, узяў такое гора на галаву... Хутка во родзіць, хацелі ў Мінску застацца, прыпісаліся, работу знайшоў, дык ніхто на кватэру не хоча з дзіцём браць. Гойсаў, гойсаў, ды і прыйшлося вярнуцца ў гэту глухмень... А тое, што шэф крычыць, гэта мала важна, яму трэба крычаць, яму за гэта грошы плацяць. А мне жыць трэба, і ніхто за мяне не пастараецца, калі я сам не зраблю...

Я маўчаў: не ведаў Уладзіміра Пятровіча, не знаў, што прамовіць, толькі адчуваў, што і праўда нядобра — цэлы месяц гуляць, не прыязджаць у школу, і дырэктар, калі казаў пра гэта, не прыдзіраўся, як нядаўна гаварыў Міхась Рыгоравіч, а заступаўся за дзяцей, для якіх стольні часу не вялася матэматыка і фізіка. Тут ужо дырэктара нельга ў чымнебудзь благім вінаваціць, на яго месцы любы не пахваліў бы Уладзіміра Пятровіча.

— А вы дарэмна прыехалі ў гэту школу, у гэту глухмень,— сказаў Уладзімір Пятровіч,— трэ было распытаць ды дабівацца лепшага... Ды я ніколі не вучыўся б за настаўніка, чатыры гады я прарабіў, а што я бачыў? Урокі, урокі, урокі... Праробіш і яшчэ пяць, дзесяць гадоў — урокі, урокі... Можаш яшчэ на якога завуча ўзбіцца, але ж у школе-васьмігодцы толькі адзін завуч ды дырэктар патрэбны, усе не зоймуць іх месц. Значыць, будзь век настаўнікам... Я раблю, бо мне вучыцца трэба і капейку мець. Закончу інстытут — і нагі маёй у школе не будзе...

— Але ж некаму трэба рабіць і настаўнікам,— сказаў я,— дзеці ж самі вучыцца не могуць.

— Хай робіць той, хто ніякіх талентаў не мае,— сказаў Уладзімір Пятровіч,— ды не ўсе думаюць: «трэба ж вучыць і дзяцей», многія глядзяць, дзе лепш. Ды ты сам паглядзі: закончыў ты інстытут, пятнаццаць год вучыўся, а што ты маеш? Сто рублёў. Ні кватэры, ні павагі. Я парабіў ужо на вёсцы, ведаю, што цяпер не так настаўніка паважаюць, а брыгадзіра, бо ён каня, лепшую работу дасць, паважаюць і магазіншчыка, бо ён прадасць табе самае ходкае, лесніка на чарку зазываюць, бо ён лесу можа адпусціць, пра шафёра не забудуцца, бо ён прывязе штосьці, адвязе...



— Можа, гэта таму, што раней на вёсцы настаўнік быў самы адукаваны,— сказаў я,— а цяпер ёсць яшчэ і аграномы, і інжынеры, і ўрачы.

— Філасофстваваць я не люблю,— сказаў Уладзімір Пятровіч,— але настаўнікам не буду. Не хачу. Бо бачу: прарабу, які закончыў тэхнікум, дзіцё яшчэ, а яму матацыкл далі, ветурачу «дук» далі, раскатваецца, як на таксі, пра дырэктара няма чаго ўжо і гаварыць — ён дзяржаўны «Масквіч» за свой лічыць. І ў цябе, і ў іх вышэйшая адукацыя, усе жывяце ў вёсцы, але зраўняйся ты з імі...

— А я і не думаў пра гэта,— усміхнуўся я.

— Бо па кніжках яшчэ жывеш, жыцця не бачыў,— сказаў Уладзімір Пятровіч.— А мяне, брат, не абхітрыш. Мне меней за ўсё баліць, што дзеці не вучыліся матэматыцы, мне трэба было пра сябе думаць, каб жыць па-людску. І перад шэфам я не маўчаў бы, каб не рабіць яшчэ тут, і перад жонкай яго не пасміхаўся б...

Я прамаўчаў, толькі здзіўляўся гэтым яго словам, яго такой ранняй «мудрасці».

— Я табе скажу, што і схітраваць трэба калі. Бо цяжка пражыць без хітрасці,— Уладзімір Пятровіч, мусіць, заўважыў маю іранічную ўсмешку.— Усе могуць быць Чацкімі ды Рахметавымі, ці як там па-вашаму... Прыязджае аднойчы да мяне дырэктар саўгаса, ён тады яшчэ вучыўся завочна. «Ратуй, Пятровіч,— просіць,— трэба хутка экзамен здаваць, а ў мяне нават кнігі гэтай няма. Я чуў, што ў цябе ёсць, выратуй, дай пачытаць, бо ў ніякай бібліятэцы няма». У мяне была тая кніга, можна сказаць: «Бяры, Аляксандравіч, стаіць вунь на этажэрцы»,— ці самому падаць, але я нахмурыўся і кажу: «Няма, Аляксандравіч. З вялікай радасцю вам даў бы, але няма». «Што ж рабіць?— бядуе дырэктар.— На адных вас была надзея». «Ой-ёй-ёй,— бядую і я,— як вам памагчы? Паеду да сваіх знаёмых, нос разаб'ю, але дастану вам». Праз колькі дзён сам прыношу яму гэту кнігу і падаю яе як вялікую знаходку, нібы з-пад зямлі дастаў яе. Як ён радаваўся, дзякаваў мне, абяцаў таксама памагчы. Я не прасіў тады абы-чаго, а прыкусіў язык, падумаў пра дом, што будуецца ў суседняй вёсцы для рабочых; папрашу кватэрку і сабе — павінен не адмовіць. Вось як, Павел Мікалаевіч... А абавязкі... Заўсёды яны яшчэ будуць, гэтыя абавязкі...

— Але так жа прыніжаеш сябе, ганьбіш,— сказаў я,— смяяцца будуць, папіхаць.

— А ты папіхайся, сціскай зубы ды пра сябе думай, гадай, што табе будзе за гэта,— сказаў Уладзімір Пятровіч.— Будзе час, ты даб'ешся свайго, трэба ўмець і крыху пацярпець, і памаўчаць.

«Калі я вучыўся, я не думаў пра гэта,— падумаў я,— цяпер я стаў рабіць— стаў і жыць. І як усё цікава, проста і незразумела. Сапраўды, я дасюль жыў па кніжках, толькі цяпер я пачынаю глядзець на ўсё сваімі вачамі».

— Я, можа, табе такога не сказаў бы, каб не паглядзеў гэтых колькі хвілін на цябе,— сказаў Уладзімір Пятровіч.— Не тую ты ўзяў ноту. Абломіць Іван Сямёнавіч цябе, казлом адпушчэння будзеш.

— Чаму? — здзівіўся я.— Што ж я раблю такога благога?

— Мне яшчэ гэта Міхась Рыгоравіч учора гаварыў, а гэта вёрткі і хітры чалавек, усё ён разумее, бачыць,— сказаў Уладзімір Пятровіч.— Прыглядаецца да цябе Іван Сямёнавіч.

— Хай прыглядаецца,— сказаў я.— Што ведаю, так і вучу дзяцей.

— Мы, як людзі малыя, па-свойму робім,— усміхнуўся Уладзімір Пятровіч. Хацеў яшчэ штосьці сказаць, але празвінеў званок з урока і зайшоў у настаўніцкую дырэктар, за ім увайшла яго жонка, паглядзела на мяне, нібы стараючыся ўведаць, аб чым мы маглі тут гаварыць. Уладзімір Пятровіч змоўк, узяў ручку, перапісаў заўтрашні расклад і стаў збірацца дамоў, на сваю кватэру.

— Паслухайце, што ўчора было,— сказаў Іван Сямёнавіч.— Мілецкая абазвала Каўняровіч аграноміхай, Каўняровіч тую — шляхцянкай, і завяліся бабы біцца, ледзь мужыкі расцягнулі,— дырэктар расказваў і смяяўся. Зарагатаў і Міхась Рыгоравіч.

Не ўтрымаўся, усміхнуўся і я, глянуў на Ларысу і сцяў губы: была яна невясёлая, так зняважліва глядзела на мяне, што мне стала няйдобра. Я адвярнуўся і стаў корпацца ў сваёй сумцы, перакладаў сшыткі, заглядаў у свае планы.

— Літаратары,— сказаў Іван Сямёнавіч,— пастаўлю таму пяць, хто адкажа, як зваць па імю і па бацьку Плюшкіна. Дачка мая, дзевяцікласніца, калі летась спыталася настаўніка аднаго ў дзесяцігодцы, дык ён не адказаў.

— Сцяпан Дзмітрыевіч,— сказаў я, бачачы, што ўсе маўчаць.

— Адкуль вы гэта ведаеце?— здзівіўся дырэктар.— Я ў інстытуце аднаго выкладчыка на гэтым пасадзіў.

— Там у адным месцы гаворыцца пра дачку Плюшкіна...

— Добра, стаўлю вам пяць,— падышоў да мяне дырэктар і падаў кнігу.— Раю пачытаць.

Я глянуў на пацёртую кнігу і па вокладках пазнаў: «Братья Карамазовы».

— Дзякую,— сказаў я,— чытаў у інстытуце. Нават адказваў на экзамене па гэтым рамане, трапіўся мне вобраз Паўла Смердзякова.

— Ну і хто загубіў, па-вашаму, старога Карамазава?

— Іван Карамазаў і Павел Смердзякоў,— адказаў я.

— Гм,— хмыкнуў дырэктар і працягнуў другую кніжку.— А гэта чыталі?

— Нават нядаўна,— сказаў я.

— І вы зразумелі, чаму Раскольнікаў зрабіў злачынства, для чаго ён ступіў на такую сцежку?

— Цяжка сказаць,— прызнаўся я,— але ўся логіка аўтара...

— Гм,— зноў хмыкнуў дырэктар і выйшаў на калідор: нечага вельмі шумелі вучні ў пятым класе.

— Іван Сямёнавіч бярэ на зуб нашага Паўла Мікалаевіча,— сказаў Міхась Рыгоравіч.— Ён кожнага года задае гэтыя пытанні маладому настаўніку, і ніхто не мог на іх адказаць,— вось гэтым і пацяшаўся Іван Сямёнавіч. Вы...

— Што за праверкі? — здзівіўся я. — На дыплом я ў інстытуце экзамены здаваў.

— Гэта ўсё фокусы яго,— сказаў Міхась Рыгоравіч.— Чытаў малады настаўнік сур'ёзнае, учытваўся — значыць, свой характар, настойлівасць мае. Вы цяпер, Павел Мікалаевіч, будзьце асцярожныя з ім, ён вельмі не любіць, калі хто больш за яго ведае. Тады і праверачкі будуць, і падкавырачкі; хоць вы ўрокі даяце і выдатна, але ўсё роўна...

— Дзіўна,— сказаў я,— усё гэта далёка ад нашай задачы — вучыць дзяцей. Я раблю, колькі ўмею, колькі выходзіць.

— Ты небяспечны для яго чалавек,— сказаў Міхась Рыгоравіч.

— Чым я небяспечны?

— Ты разумны, адукаваны, зараз у партыю ўступіш, работу школьную добра зразумееш...

— Дык гэта ж і добра!— здзівіўся я.— Дай бог, каб такое было.

— А для Івана Сямёнавіча гэта небяспечна,— сказаў Міхась Рыгоравіч.— У вуллі павінна быць адна матка. Калі з'яўляецца другая, то між імі завязваецца адразу ж барацьба.

— Не разумею,— сказаў я.

— Дырэктарам цябе тады могуць паставіць. Ясна?— сказаў Уладзімір Пятровіч, развітаўся і выйшаў.

Я разгубіўся і маўчаў.

— У цябе яшчэ многа рамантыкі ў галаве, на вачах — ружовыя акуляры, а тут штодзённае жыццё. Помніш, як ён гаварыў табе ў першы дзень: «Мы — людзі немаладыя, абраслі сваімі хатамі, хлявамі і садамі. Рамантыка ў нас даўно прайшла...» Калі ён дырэктарам, у школьным садзе два разы траву сабе выкасіць, яблыкаў, гуркоў, капусты возьме,— сваю капейку зберажэ. Ёсць людзі, якія любяць быць хоць маленькім начальнікам... Пажывi сам...

Міхась Рыгоравіч замоўк, хапіўся гартаць нейкі часопіс: у настаўніцкую зноў зайшлі дырэктар і яго жонка; мне аж стала няёмка, што гаварылі дасюль пра яго, я нават хацеў гэта сказаць, але стрымаўся.

— Міхась Рыгоравіч,— сказаў дырэктар завучу,— мне здаецца, што нашы маладыя настаўнікі даволі холадна адносяцца да работы, доўга ўцягваюцца. На ўрокі ходзяць акадэмікамі, толькі з указкаю ці крэйдаю ў руках, пазакласнай работы амаль ніякай, бібліятэка ўсё яшчэ закрыта, а вучні якія! — пазарасталі, неакуратныя... Падленьваецца рабіць наша моладзь.

— Падленьваецца,— падтрымаў Міхась Рыгоравіч,— мы больш ахвотна некалі пачыналі рабіць.

— Трэба нам больш з табою патрабаваць,— сказаў дырэктар,— правяраць і патрабаваць, на ўрокі часцей хадзіць.

— Трэба, Іван Сямёнавіч,— зноў згадзіўся Міхась Рыгоравіч.

Я глянуў на завуча: толькі што ён хваліў мае ўрокі, а цяпер згаджаецца з дырэктарам, што мы, маладыя — Ларыса, настаўніцы біялогіі і фіз-

культуры і я,— лянуемся, не стараемся. Міхась Рыгоравіч адвярнуўся, махнуў на дырэктара рукою, зморшчыўся і падміргнуў мне, каб не зважаў я на гэтыя словы.

— А дзе наш шныранец?— спытаўся Іван Сямёнавіч.

— Дамоў пабег,— першым сказаў Міхась Рыгоравіч.

— Ох смоўж, прыстасаванец! — паківаў галавой дырэктар.— Малады, а такі хітры. Ніякіх абавязкаў не хоча ведаць. Толькі пра сябе думае, на ўсё згодны, абы яму добра было.

— І адкуль толькі такія бяруцца? — здзіўляўся і Міхась Рыгоравіч.— Бацьку ж яго ведаю,— франтавік, рабацяшчы, каваль.

— Вось мы, відаць, і сапсавалі сваіх дзяцей,— сказаў дырэктар.— Мы трыццатыя гады, вайну цяжкую перажылі, нічога добрага не ўбачылі, думалі: няхай хоць нашы дзеці пажывуць цяпер, дагаджалі ім, а яны выраслі і толькі ведаюць, што ім трэба, а таго, што павінны яны рабіць, добра не знаюць, гэтага не ўталкавалі мы ім,— дырэктар гаварыў і, відаць, меў на ўвазе і сваіх дзяцей.

— Гэта праўда,— сказаў Алесь Трахімавіч, які дасюль маўчаў і не ўступаў у гаворку (увогуле ўбачыў я, што ён рэдка на перапынках з кім гаворыць, сядзіць, слухае ўсіх ці газеты чытае), — распесцілі мы сваіх дзяцей, кволымі, безадказнымі і спажыўцамі выгадавалі, а вучні нашы цяпер яшчэ ў большым дастатку жывуць, з імі яшчэ цяжэй будзе...

— Мы, канечне, такімі не былі,— сказаў дырэктар,— мы больш пра работу думалі, як пра сябе. А цяпер яны саромеюцца высокія словы гаварыць, вялікія аўтарытэты сабе выбіраць.

— Ахайваеце вы нас,— паспрабаваў абараніцца я.

— Як ні апраўдвайцеся, але няма ў вас нашай загартоўкі,— сказаў дырэктар.— Мацнейшымі, смялейшымі мы былі, нават дзяўчат мацней любілі, нейкую бескарыслівасць большую да работы, справы ведалі.

Калі мы з Міхасём Рыгоравічам засталіся адны, я сказаў, што наглядаю за Алесем Трахімавічам, здзіўляюся і ніяк не зразумею яго: вечна ён маўчыць, спытаешся што-небудзь — адкажа, не загаворыш,— дык і прасядзіць дзень у настаўніцкай моўчкі.

— Я табе скажу: настаўнік ён залаты, цяпер не многа такіх знойдзеш,— сказаў Міхась Рыгоравіч,— сорак гадоў працуе ў школе, ды як працуе! Дай бог нам палавіну такой працавітасці і сумленнасці мець. А вось з Іванам Сямёнавічам не ладзяць. Даўно Іван Сямёнавіч дачакацца, мусіць, не можа, калі ўжо выправіць старога на пенсію. Алесь Трахімавіч і прыпісак не любіць, дырэктара на педсавеце за работу крытыкуе, за гарод і за іншае, а Іван Сямёнавіч пасля злуецца, на другім выязджае.

— А я думаў, што ў школе ўсё добра, зладжана,— сказаў я.— Аказваецца, тут таксама ўсякае ёсць.

— Ёсць,— усміхнуўся завуч,— папрацуеце, дык яшчэ больш убачыце. А вы сур'ёзна хочаце з Ларысай Іванаўнай жаніцца?

— Я зусім пра жаніцьбу не думаю,— сказаў я.



— Не бяры яе,— падтрымаў Міхась Рыгоравіч.— Ох, брат, і пілка, ды яшчэ тупая. Яе сама Вольга Піліпаўна асцерагаецца.

— Ларыса сумленная,— сказаў я,— гэтага ўжо ў яе не адбярэш.

Завуч прамаўчаў, усміхнуўся і незразумела кіўнуў галавою.

## 12

У сярэдзіне лістапада стала холадна; моцны вецер нагнаў нізкіх цяжкіх хмар, і аднаго дня пайшоў вільготны шэры снег. Ён доўга не мог улежаць, раставаў на мокрай зямлі, пакуль не сцягнуў вады,— тады стала бела, прасторна, падхапіўся марозік, усё падшэрхла, пацвярдзела, і было відаць, што легла зіма.

Адным днём я нават доўга стаяў на двары і здзіўляўся: было сонечнае, з густым блакітам неба, па якім плылі па-летняму белыя воблакі, іскрыўся снег, капала са стрэх і раставала ля сцен — і здавалася, што стаіць сакавік, калі суцішыліся, збеглі мяцеліцы, аслабеў мароз, з кожным днём вышэй паднімаецца сонца.

Тады я выйшаў са школы, захваляваўся, што такі светлы, іскрысты дзень, і нават не хацеў ісці дамоў, як убачыў Ларысу. Я замітусіўся, паспяшаўся ісці, але Ларыса дагнала мяне, пайшла побач.

— Чаго ты ўсё дзьмешся?— спыталася яна.

— Я не злуюся.

— Што я — дурная, не бачу? — сказала Ларыса.— Баба ты вясковая. Гэта я павінна была прагнаць тады цябе з хаты, а цяпер не гаварыць з крыўлякам. Хоць бы папрасіў прабачэння...

Я ўсміхаўся і маўчаў, стараўся не глядзець на Ларысу. Цяпер я разумеў, што вінаваты быў я, рабіў тое, што падказвала злое зелле.

— Чаго маўчыш?

— А што табе сказаць?— усміхнуўся я.

— Ганарлівы,— сказала Ларыса.— Ну, як хочаш. А мне Віктар пісьмо прыслаў.

— І што ён табе піша?

— Просіць, каб замуж выйшла, клянецца, што будзе любіць да смерці. Ад бацькоў маіх не вылазіць...

— Ну, а ты што?

— Як і раней... Калі ўжо за яго ісці, дык лепш векавухай быць.

— Глядзі — упусціш шчасце.

— Гляджу,— сказала Ларыса.— Што ты сёння будзеш рабіць?

— Чытаць ці сшыткі правяраць,— адказаў я.— Што мне яшчэ рабіць?

— Памажы ты мне яшчэ сёння кнігі падклеіць. А то і дзеці хочуць чытаць, і дырэктар падганяе, дзесяткаю, якую плаціць за бібліятэку, папракае. Прасіла дзяўчат памагчы, дык не хочуць, гавораць: часу няма, нейкім вязаннем заняліся.

— Памагу,— згадзіўся я.— Толькі чым ты мне плаціць будзеш?

— Заплачу нечым, не бойся. Ты ж любіш штосьці, пачастую... Хоць гаваркі будзеш, бо так слова з цябе трэба выцягваць.

Я зачырванеўся і нічога не мог сказаць, ішоў і слухаў, як рыпіць пад нагамі снег, гадаў, што сказаць, як апраўдацца, але так нічога і не прыдумаў.

— Не чырваней,— сказала Ларыса,— я ўжо забылася пра ўсё.

Пасля полудня і кароткага адпачынку я пайшоў да Ларысы. Яна ўжо чакала мяне, сядзела абутая і апранутая.

— Сёння пасядзім хоць да раніцы, але трэба прывесці гэтую бібліятэку ў парадак,— сказаў я.— Колькі мы ўжо будзем таптацца там, ґлытаць старажытны пыл.

— Надакучыла?— спыталася Ларыса.— Ці на другое што час трэба?

— Што ты хочаш сказаць?

— Можа, чытаць трэба, пісаць ці Ленка не пускае? Ёй жа сумна адной дома...

— Як гэта цябе брыгадзір адну са мной пускае? — жартаваў я.

— Брыгадзір да мяне ўжо не ходзіць. Як не паехала з ім на танцы, дык больш і не заглянуў,— адказала яна.— Гэта Ленка ваша, гавораць, плацце ўжо белае заказала, а гаспадар гарэлкі стараецца.

— Давай не будзем пра гэта больш, Ларыса, а то мы сапсуём адно аднаму настрой,— сказаў я.— Ты дарэмна на сябе ўсё бярэш, магла і тэхнічкам сказаць, каб памаглі.

— Зробім і самі,— сказала Ларыса.— Ты вось яшчэ мне памажы: напішы ты Віктару, што я не люблю яго.

— Дзівосы,— усклікнуў я.— Хіба я ведаю: любіш ты яго ці не, можа, вы толькі паспрачаліся і хутка памірыцеся...

— Не, Паўлік. Я, мусіць, няшчасны чалавек.

— Чаго?

— Я баюся, што я ўмею любіць, магу, а мяне вось ніхто так і не палюбіць.

— А Віктар?

— Гэта не любоў. Я хачу лепшага кахання, вялікага, хоць, здаецца, цяпер няма яго такога. Як пачытаеш, паглядзіш у кіно,— некалі лепш любіліся, неяк усё гэта было высока, чыста, недаступна...

— У наш час і дзяўчаты не тыя,— падтрымаў яе я,— нешта страцілі яны. Многія кураць, п'юць, непастаянныя, памужчынелі, ды гэтыя моды... Раней мужчыны млелі, калі бачылі ножку жанчыны, а цяпер сядзіш у аўтобусе і не ведаеш, дзе вочы дзець ад гэтых ног... Дзяўчаты нейкія зусім не гордыя, а мне здаецца, і цяпер шукаюць Тацяну Ларыну, Ядвіську ці грынаўскую Асоль...

— А яны і ёсць, толькі іх трэба знайсці,— сказала Ларыса.— Сама бачыла, як могуць любіць дзяўчаты, гараваць, таіць у сабе каханне, бо не могуць такога знайсці ў адказ. Ці мала ёсць такіх матылькоў, якія



прыліпаюць, ашукваюць дзяўчыну, кідаюць і не думаюць, як цяжка ёй потым... Вось як сумна бывае...

— Ведаеш што?— сказаў я.— Магу штосьці параіць.

— Што?

— Сачыняць оперу. Садзіся і пішы оперу; сум пяройдзе да другіх, а самой будзе лёгка.

— Ты жартуеш, бо сур'ёзна яшчэ не жывеш, не думаў пра гэта,— сказала Ларыса.— Зачыні, калі ласка, дзверы.

— Чаго нам зачыняцца,— усміхнуўся я,— не будзем жа мы цалавацца тут?

Ларыса ўсміхнулася, схапіла нейкую тоўстую кнігу і накінулася на мяне: «Грубіян!» Я ледзь паспеў выскачыць на калідор, вярнуўся толькі тады, калі Ларыса паабяцала, што не будзе біцца. Я зачыніў дзверы, каб не было скразняку, і мы пачалі раскладаць, падклейваць парваныя кнігі, бачачы, што гэтым вечарам ужо ўправімся і заўтра Ларыса зможа выдаць кніжкі дзецям.

Я прынёс вады, цёр венікам падлогу, а Ларыса ўслед мыла. Калі яна сабрала ля парога ваду, выцерла ўсё суха, то міла было глянуць вакол — як не тая была бібліятэка.

— Ой, як спіна баліць! — паскардзілася Ларыса.

— Во гультайка! — сказаў я.— Відаць, што песціла цябе маці. Дырэктар правільна гаварыў, што моладзь цяпер такой загартоўкі не мае, як раней...

— Трапло!— сказала Ларыса.— Але дзякуй за помач. Каб спадзяваліся на каго, самі не папрацавалі, то і гэты год яшчэ бібліятэка закрытая была б.

Мы абчысціліся, памылі рукі, выключылі ў школе святло і пайшлі дамоў: было позна, нават музыкі не паслухалі.

— Ну, як табе падабаецца работа?— спытаўся я.

— Не вельмі,— сказала Ларыса.— Вучылася, думала: буду неяк лепш працаваць, а гэта вельмі ўсё ж неяк проста. Планы, урокі, сшыткі, дзеці не так вучацца, як я хацела, настаўнікі не тыя... Адно і тое ж у іх: дзе што купіць, дзе хто сказаў. Каб яшчэ ў сярэдняй школе рабілі, можа б, які большы прастор быў, весялей, больш рамантычней было б. А то сухая, сумная проза...

— А ёсць дзеці, што хочуць вучыцца,— сказаў я.

— Ёсць,— згадзілася Ларыса.

— Ты толькі не смейся,— пачаў я,— парабіў я толькі два месяцы, паглядзеў на дзяцей, іх вучобу і ўбачыў, што сама ахвотна са старэйшых класаў вучацца ў чацвёртым і пятых класах; стараюцца, цікавяцца; праўдзі добра ўрок — яны будуць за бога цябе лічыць, давяраць табе ўсе свае тайны.

— І я ўбачыла гэта,— прызналася Ларыса.

— Не перабівай, я яшчэ не закончыў свае «педагагічныя назіранні». У шостым дзеці нечакана адчулі, што яны пасталелі, што дзяўчынкі

і хлопчыкі — не толькі вучні, але і людзі рознага полу. Прыходзіць першы абдуманы сорам, хлопцы шукаюць ідэалаў і ніколі не палічаць ім жанчыну. Пугачоў, Кутузаў, Чапаеў, «Няўлоўныя мсціўцы», Банівур — вось іх ідэал... І яны тут жа ахаладнелі да навукі.

— Праўда! — не ўтрымалася Ларыса.— Ой, прабач...

— І чаму, чаму яны халаднеюць? Ці не таму, што пасталелі, што цвяроза глядзяць на жыццё, ужо неакрэслена бачаць сваё месца ў ім?— гаварыў я, пра што сапраўды многа апошнім часам думаў.— А сёмы клас... Гэта пераломны клас. Тут ужо ідзе рэзкі падзел на тых, хто вўчыцца і будзе вучыцца, і на тых, хто не хоча, не ўгаворыш яго нічым. Сямікласнікі ведаюць: трэба ім вучыцца ці не, што дасць ім вучоба, яны ўважліва прыглядаюцца да старэйшых і часта бяруць ад іх не самае лепшае. Дзяўчынкі-сямікласніцы яшчэ працавітыя, старанныя, яны гуляюць дома са сваімі меншымі брацікамі ці сёстрамі, мыюць падлогу, бялізну, яны і ў школе ахвотней пойдуць спяваць, выпускаць газету. А вось хлопцы... Яны нейкія абыякавыя, і я тут яшчэ не зразумеў: дзе, хто дапусціў памылку, што яны такія выраслі? З чаго гэта пачалося?..

— Ты і праўду другім Сухамлінскім будзеш,— усміхнулася Ларыса,— ці паробіш яшчэ трохі — і кандыдацкую напішаш.

— Не смейся,— працягваў я.— Многа вінаваты бацькі, што іхнія дзеці такія. Але я пра нас, настаўнікаў. Дзе памыліліся, не дарабілі, не дагледзелі мы? На педсаветах, у класах мы злуемся на гэтых двоечнікаў, гультаёў, лаем іх, лаем штодзень. Але пра тое, што яны добра рабілі летам у саўгасе, цяпер многа памагаюць дома, любяць тэхніку і іншае, мы мала думаем. На ўроках мы бачым іх «распусту», іх не «матэматычную» і не «філалагічную» здольнасць, іх пасіўнасць. Мы здзіўляемся, чаму яна ёсць, але мала шукаем, адкуль яна бярэцца, як яе выкараніць...

— Так, далёкія мы ад вучня,— сказала Ларыса.— Пабудзем з ім сорак пяць хвілін, пагаворым афіцыйна, а так добра і не ведаем, чым ён і як жыве...

— І вось мне здаецца, Ларыса, яны пасіўныя таму, што іх прымушаюць толькі «вучыцца». Можа быць, дзеці ў многа раз ахвотней і вучыліся б, каб у школе, а дома асабліва, былі і добра цаніліся другія віды працы, якую якраз любяць яны, у якой яны моцныя. А то яны цікаўныя, усёзнайкі, хочуць ведаць многае, а бацькі гавораць: «Адчапіся!»,— і мы тое не раз гаворым: то нам часу няма, то ахвоты. Вось дзеці і асякаюцца... А то бацькі гавораць: «Ты вучыся, а не працуй. З віламі паспееш напрацавацца».

— Ой, Паўлік, ды ты — педагагічны геній! — усклікнула Ларыса.

— А ты думала, я дарэмна настаўніцкі хлеб ем?— мусіць, ганарыўся я.— Часу вольнага хапае, вось і думаю. Ды і ўцягваюся пакрысе ў работу, пачынае яна нават падабацца.

— Ты разумны, Паўлік,— сказала Ларыса.— Ты сапраўды хутка пачнеш педагагічныя артыкулы пісаць,— і я нават у цемнаце ўбачыў, як яна міла, радасна, з нейкай незразумелай мне павагай, захапленнем ці зайздрасцю глянула на мяне.



— А ты пра гэта не думала?

— Ды думала, гадала, але так выказваць усё, як ты, не магу,— прызналася Ларыса.— У мяне не хапае на гэта і розуму і назіральнасці, настаўнікаў я неяк лепш пазнаю.

— Розныя людзі ў школе робяць,— сказаў я.— А мы хто?

— А мы з табою яшчэ і не рыба і не мяса,— сказала Ларыса,— «самалёты без апазнавальных знакаў». Без сваёй цвёрдай думкі, свайго голасу, мы часта робім не тое, што думаем, а так, як гэта падабаецца другім. Мірымся са злом, баімся паказаць на яго пальцам, назваць уголас.

— Нам дваццаць два гады,— я пачынаў ужо гарачыцца,— а мы ўсё яшчэ маладыя, зусім не сталыя, і, канечне, ніхто нас сур'ёзна не прымае, не цэніць.

— І ці ацэняць яшчэ?

— А гэта ўжо будзе залежыць ад нас,— даказваў я,— чалавек цэніцца не тым, як і што ён думае, нават што робіць, а тым, што ён зробіць, які пакіне след.

— Дык ці будзе гэты наш след глыбокі, чаго мы тут даб'ёмся, у гэтай васьмігодцы? У гэтай маленькай вёсачцы?

— Не ведаю, не ведаю,— пацішэў я.— Пакуль што мы даём толькі ўрокі, адкрылі бібліятэку, правялі бацькоўскі сход у далёкай вёсцы і выпусцілі баявы лісток на свінагадоўчай ферме.

Мы падышлі да кватэры Ларысы, я яе і сёння правёў да сянец, прыпыніўся. Стала і Ларыса, не падзякавала, як заўсёды, і не пабегла ў цёплую хату; тады бег і я, марыў, што хутка траплю ў цяпло, а пасля лягу ў халодную пасцель, але хутка сагрэюся і мне будзе цёпла, утульна, добра і крыху трывожна. Але скажу сабе: спаць, спаць — і засну, рады, што пражыў дзень, гадаючы, што будзе заўтра...

Было холадна, стыла: халадзіў снег, моцны вецер, які выдзімаў астатняе цяпло, наганяў сівер, і неба было цёмнае, нізкае, халоднае.

— Холадна! — я сказаў праўду і пажартаваў, паскакаў на адной назе, прылажыў сваю шчаку да шчакі Ларысы.— Ратуй сваім цяплом, памажы сагрэцца.

Ларыса не адхінулася і не адняла сваёй шчакі, я прыцiснуўся мацней, трэба было жартаваць, пакуль не скажа свайго слова Ларыса, не адхіне мяне.

Я чуў, што і яе шчака халодная, нават пякучая, але яна хутка сагрэлася, я чуў, як яе вейка шоргала па маім воку. І нечакана я падумаў, што Ларысе ўсё гэта падабаецца і яна жартуе са мною; вусны яе, таксама халодныя, сасмяглыя за дзень, былі блізка, і я не ўтрымаўся, прыхіліў Ларысу да сябе і пацалаваў яе.

Ларыса не адрывалася, абхапіла маю шыю рукамі і таксама пацалавала, задыхалася, пасля адарвалася, але не адпіхнула мяне, прытулілася да маіх грудзей.

Мне было няёмка, я не ведаў, што рабіць і ці жарт гэта быў.

— Паўлік, я чакала гэтага,— прашаптала яна, хоць у такую познань нас ніхто не мог пачуць, і тут я мігам здагадаўся, чаму яна расказвала

мне раней пра свайго Віктара, злавала брыгадзірам, прызналася, што прыехала сюды толькі таму, што трапіў сюды я.

Я спалохаўся, што гэта ўсё шчыра, стала, а я не магу быць да Ларысы такім жа шчырым, добрым.

— Ты не ведаеш, чаму я чакала гэтага?

— Не,— зманіў я.

— Які ты сляпенькі! — зноў прытулілася, прылажыла сваю шчаку да маёй.— Ды хіба ты не бачыш, што люблю я цябе? Ці хочаш, каб я яшчэ сказала гэта?

— Ты жартуеш?— Я ўсё яшчэ не верыў.

— Не, Паўлік, не,— адказала яна.— Я даўно з табой не жартую...

Прызнацца, я разгубіўся: гэта, відаць, было так, Ларыса за штосьці пакахала мяне, цяпер яна не жартавала, таілася дасюль, чакала добрай, удалай хвіліны, а цяпер прызналася. Другою парою і я сказаў бы: «І я люблю цябе»,— сказаў бы, тут жа забыўся б пра гэтыя словы, загаварыў пра кіно ці надвор'е, нашых вучняў, але цяпер я баяўся пакрыўдзіць Ларысу: усё гэта было сур'ёзна і важна. Яна мне стала цяпер блізкая, знаёмая, як сястра. Я паважаў яе, мог бы пайсці цяпер за яе ў халодную ваду, але, мусіць, не любіў яе і не ведаў, ці палюблю. Я адчуваў, што магу быць добрым, паслухмяным, кахаць, але не зусім верылася, што яно, маё каханне, будзе толькі для Ларысы.

— Ты дакараеш ці насміхаешся з мяне? Скажы.

— Не. Я... — я замоўк: не ведаў, што сказаць.— Я думаю: насміхаешся ты...

— Не верыш? Я яшчэ ў інстытуце глядзела, каб якая цытра не прычапілася да цябе.

— Што ты гаворыш? Я не заўважаў...

— Ты і цяпер не вельмі відушчы...

— Можа.

— Ты не любіш мяне? — спыталася Ларыса.

— Не ведаю, Ларыса, не буду маніць, я аб гэтым не думаў,— прызнаўся я.

— Чалавек заўсёды да чалавека горнецца, ён не можа адзін,— сказала Ларыса.— Я не змагла больш маўчаць, мучыцца. Толькі ты скажы...

«Што я ёй скажу?»

— Скажы мне толькі адно: ты ненавідзеш мяне... ну, зусім не любіш?

— Не, Ларыса, я прывык да цябе.

— Значыць, не любіш, будзеш горам для мяне і мукаю.

— Ларыса, я не ідэал. Ды ты не ведаеш мяне, які я... Я нічога не магу табе абяцаць, я нічога не маю...

— Што ты гаворыш, Паўлік? Мне не трэба ніякія выгоды, мне трэба сам ты, твая адданасць і каб ты быў мой. Мне трэба зусім мала, але і столькі многа... Ты ненавідзіш мяне цяпер, скажы, калі ласка?

— Не, Ларыса,— сказаў я.

— Хоць я не вінавата, ты, можа, больш вінаваты. Сама дзіўлюся, што ты зрабіў са мною, як засланіў мне свет...



Я маўчаў і думаў, што дзяўчына гаворыць мне аб важным, прызнаецца сур'ёзна, стала, з душою, і забываць гэтых слоў не трэба, смяяцца з іх тым больш. «Што рабіць, што сказаць, думаў я, хоць бы знайшоўся хто, падказаў».

— Я разгубіўся, Ларыса,— прызнаўся я,— зусім не чакаў гэтага, цяпер не ведаю, за што мяне можна любіць. Я сур'ёзна яшчэ нікога не любіў.

Цяпер маўчала Ларыса.

— Можа, Ларыса, табе стала сумна і табе здалося...

— Здалося... пяць гадоў таму назад,— абарвала яна мяне.— Я ўжо ведаю цябе, як і сябе. Бачу, калі ты злуешся ці радуешся, нават адчуваю, калі ты штосьці хочаш сказаць і маўчыш,— тады ты дыхаеш не так... Цяпер я толькі паверыла, што могуць яшчэ кахаць людзі і ёсць, жыве яно, гэтае каханне... Ідзі цяпер, я хачу пабыць адна.

— Добрай ночы,— сказаў я і, прызнацца, зарадаваўся, што яна так сказала, адпусціла,— відаць, рашыла, што і мне лепш пабыць аднаму, падумаць. Я задумаўся: цяпер нельга нават гаварыць і не думаць, трэба ўсё добра ведаць, сачыць за кожным сваім словам, за кожным сваім крокам.

«Божа мой, якое яно, гэтае жыццё! Як цяжка быць сталым, пачынаць стала жыць...»

У тую ноч я сагрэўся хутка, але доўга не мог заснуць, думаў пра сябе, Ларысу, што будзе заўтра.

## 13

Было цёпла, выяснілася, і мы, мужчыны, выйшлі пакурыць, прасвяжыцца. Бегалі па двары і радасныя дзеці, біліся снежкамі, выслізгалі сцежку і коўзаліся па ёй, піхаліся, крычалі і смяяліся.

— Усё жыццё наша праходзіць у гэтым крыку, смеху,— сказаў Міхась Рыгоравіч,— дзеці мяняюцца, а для нас яны аднолькавыя.

— Гэй, Карпека! — закрычаў дырэктар.— Хадзі сюды, падшыванец!

Шэравалосы пяцікласнік перастаў бегаць, апусціў галаву і падышоў да нас.

— Ідзі, прынясі той куст, што зламаў,— вярнуў яго дырэктар.

Вучань паслухмяна прынёс зламаныя галіны.

— Ты і дома па кветках, кустах бегаеш? — спытаўся ў яго Іван Сямёнавіч.

— Не...

— Дык чаго ты тут пасадкі ломіш? — дырэктар узяў гэтыя дубцы і патрос імі перад вучнем.— Дык ці можна ламаць? Чаго маўчыш?

Вучань сказаў, што не будзе больш бегаць, і адышоўся.

— Дзеці, — прамовіў я.— І мы так бегалі...

— Ды не трэба цяпер патураць,— сказаў дырэктар.— Як быццам гэта мне толькі аднаму трэба глядзець за партамі, частаколам, дрэвамі.

— Вы трохі груба з ім абышліся,— сказаў я,— ён пакрыўдзіўся.

— Дык выходзіць, што я павінен быў хваліць яго? Ці баяцца, што паважаць, слухаць на маіх уроках не будзе? Не, пакуль я дырэктар, то яны мяне будуць баяцца. Ды і вы, калі што якое, то да мяне шумлівца вядзіце.

— Раней і настаўнікаў баяліся,— уставіў сваё слова Міхась Рыгоравіч.

— І вучыліся лепш,— дадаў Іван Сямёнавіч.— А цяпер вучань можа аблаяць настаўніка, і часта ў гэтым толькі сам настаўнік вінаваты. З вучня, калі патрабуеш, то будзе толк, распусціш — тады плач...

— І ўсё ж з дзецьмі трэба быць ветлівым,— стаяў я на сваім.

— Пачакай, гэта ты яшчэ толькі адну восень робіш,— парабі гадоў пяць, я пагляджу, якія тады ў цябе будуць нервы. Канечне, Уладзімір Пятровіч наш захавае іх. Іду сёння па калідоры і чую: пяцікласнікі шумяць, аж клас, здаецца, паднімаюць. Адчыняю дзверы — дзеці бегаюць, б'юцца, а Уладзімір Пятровіч сядзіць за сталом, сабе работу ў інстытут рыхтуе. «У нас самастойная работа цяпер»,— апраўдаўся.

— О, ён робіць важна,— падтрымаў дырэктара Міхась Рыгоравіч,— абы даць урок, абы прабыць дзень у школе, каб толькі было гэта ў зарплатнай ведамасці. А дзеці ўсё ж гэта бачаць.

— Ды цяпер яны яшчэ такія хітрыя...— сказаў дырэктар,— кіно, тэлевізар, кабінеты — усё ёсць, а вучыцца ахвоты не прыбаўляецца. І ў нас добра вучыць жадання мала: адны — старыя, стаміліся, другія — маладыя, лянуюцца.

«Не так усё гэта проста,— падумаў я,— мы кожнага дня гаворым, што дзеці не хочуць вучыцца, але ніхто не скажа: чаму? Хоць бы хто прасачыў за якім вучнем, паглядзеў за ўсім яго рабочым днём».

Мы вярнуліся ў настаўніцкую.

— О, боты новыя! — усклікнуў Іван Сямёнавіч, аглядаючы боты на нагах настаўніцы біялогіі. Тая збянтэжылася і схавала ногі, пасля закрыла іх хусткаю.

— Добрыя боты,— гаварыў дырэктар.— Цяпер ужо хлопцы павінны вас заўважыць і ацаніць. О, як сёння нафарбавалася Ада Іванаўна, на вочы, мусіць, сажы з паўпуда намазала,— і засмяяўся, за ім зарагатаў Міхась Рыгоравіч.

— Смяюцца ўсе, церпяць знявагу,— сказала ціха мне Ларыса.

Я згадзіўся, кіўнуў галавою.

— Аб чым вы там усё шэпчацеся? — падышла да нас Вольга Пліпаўна.— Усё нешта сакрэтнічаеце, не падабаецца вам усё ў нашай школе.

— Чаму не падабаецца? — спакойна сказала Ларыса.— Школа як школа. Але ж можна і падумаць, сказаць штосьці сваё.

— А вы гаварыце, каб усе чулі,— халаднавата сказала жонка дырэктара.— Я ж па вас бачу, што не падабаецца вам Іван Сямёнавіч.

— Ён жа не маладзёнак-халасцяк, што павінен падабацца,— не ўтрымалася Ларыса.— Вам спадабаўся, дык вы і выйшлі за яго замуж...

— Ох! — выдыхнула Вольга Піліпаўна і адвярнулася. Відаць, стрымлівала сваю злосць, сказала толькі: — Калі будзеце дырэктарам самі, то і заводзьце свае парадкі. А пакуль другія тут, то падпарадкоўвайцеся і не жартуйце так са старэйшымі калегамі: вы — дачка мне...

— Распарадку школьнага я не парушаю,— стрымана адказала Ларыса.— Вы, калі ласка, не блытайце адно з другім,— і пайшла на калідор, хоць мы ўсе зразумелі, што яна хацела сказаць.

— Ох, дзевачка! — сказала толькі Вольга Піліпаўна.

— Перастань,— спыніў жонку Іван Сямёнавіч.— Чаго ты прычапілася да яе?

— А ты патурай больш! — узлавалася на яго жонка.— Яны, нашыя маладыя, яшчэ пакажуць сябе, сядуць табе на шыю.

— Не выдумляй,— суцешыў яе Іван Сямёнавіч,— можа, мы замнога да іх прыдзіраемся...

Вольга Піліпаўна хмыкнула і нічога больш не прамовіла. Дырэктар сеў, таксама маўчаў, а пасля стаў чытаць газету. Ідучы на ўрок, я падышоў да Ларысы, супакоіў яе.

— Тралі-валі,— сказала яна.— Проста я не хачу смяяцца, калі смяецца Іван Сямёнавіч, не хачу абгаворваць за вочы сваіх калег, калі абгаворвае яго жонка, не хачу кожнага дня пытацца ў яе, як яе здароўе, ці добра еў сёння іхні парсюк...

Я і сам, калі пажыў, папрацаваў у школе, прыгледзеўся да Івана Сямёнавіча, то ўбачыў, што ён любіць пасмяяцца з каго-небудзь. Многія не любяць, а то і баяцца яго жартаў, а жартаваць ён умее, можа прыкмеціць такую дробязь і так высмеяць яе, што пасля тыдзень не паднімеш на яго вачэй. Яму толькі быць Крыловым, Салтыковым-Шчадрыным ці Сэрвантэсам, а так вялікі яго талент прападае на падкавырачкі...

Калі цяпер я зноў перачытаў «Гора ад розуму», сам убачыў, як я глыбей глянуў на Фамусава, Чацкага, Малчаніна, як выдатна пісаў Грыбаедаў, як ён умеў бачыць, любіць і ненавідзець...

Я хацеў, каб гэта добра зразумелі і мае васьмікласнікі, каб яны нават за гэты час падраслі, пасталелі, многа чаго ўбачылі, прачытаўшы «Гора ад розуму». Яны смяяліся, калі я чытаў, як выкручвалася, маніла Ліза Фамусаву, добра слухалі тое месца, дзе апісвалася, як з-за мяжы «прыляцеў» Чацкі...

Прыйшоў назаўтра я на ўрок і пачаў апытваць. Тое, што чыталі, разбіралі ў класе, расказалі добра. Пра тое, што давалася чытаць дома, ніхто сам не прасіўся адказваць.

Я не люблю такіх урокаў. Люблю, калі вучні паднімаюць рукі, просяцца адказваць, многа гавораць, нават не вытрымліваюць і выкрыкваюць з месца, не згаджаюцца ці просяць расказаць пра тое, чаго няма па праграме.

Сёння яны былі вялыя і нецікавыя, апускалі галовы. Я зразумеў, што не чыталі дома, а калі і чыталі, то не разабраліся: хацелі чытаць лёгка, не задумваючыся, а трэба было ўдумвацца ў кожнае слова...

Я спытаўся яшчэ раз, хто хоча гаварыць, але ўсе маўчалі. Мне стала

крыўдна, што ніхто не хоча; значыць, няма ў класе тых, хто па-сапраўднаму моцна любіў літаратуру, тое, што вельмі люблю я, выкладаю у школе, што стала маім жыццём.

Я стаў выклікаць па журнале. Ніхто не мог нічога сказаць талковага. Пераказвалі, як пісалася ў кнізе, не бачылі, што было пад радком... Так жа яны раней не маглі зразумець «Недарасля», вершаў Рылеева, Дзяржавіна, і я падумаў, што нядобра ў школе выкладалася літаратура, настаўнікі не вывучалі з вучнямі яе, а толькі гаварылі пра яе. А дзяцей трэба вучыць так, каб яны ўсё разумелі, умелі думаць. Ох, уздыхнуў я, як гэтага дабіцца?

— Што — усяму класу двойкі ставіць?— спакойна спытаўся я.— Такая сіла, моц, прыгажосць, а вы не чытаеце...

— Нецікавае, Павел Мікалаевіч, гэтае «Гора...»,— сказаў Іван Пакрыла, сын дырэктара саўгаса.— Вось каб «Следства вядуць знатакі» ці які шпіёнскі фільм расказаць... А гэта нудна.

— Каб мы так, Ваня, адносіліся да фізікі, матэматыкі,— перапыніў я яго,— то не было б у нас Курчатава, Келдыша, Каралёва, не было б атамных электрастанцый і ледаколаў, палётаў на Месяц.

— Павел Мікалаевіч, то ж матэматыка, фізіка,— усміхнуўся Іван,— а гэта — «Гора ад розуму». Тата мой кажа: ты зубры матэматыку, фізіку і хімію, гэта галоўнае, а кніжак ты пасля начытаешся... Ён сам толькі хімію добра вучыў, бо хацеў аграномам стаць. Цяпер ніякіх кніжак не чытае, толькі фільмы глядзіць, гаворыць: «Мне і без раманаў, вершаў тых клопатаў і думак хапае».

Я, мусіць, пачырванеў, бо ўзлаваўся: не люблю, калі хто так зняважліва гаворыць пра літаратуру. Наш Міхась Рыгоравіч і то маракуе, што многа на яе даюць гадзін, лепш прыбавілі б на матэматыку. Цяпер век фізікі і матэматыкі, кажа ён.

Клас заціх, глядзіць на мяне, чакае, што я скажу. Іван Пакрыла амаль на кожным уроку спрачаецца з настаўнікамі, і маладыя настаўнікі баяцца яго,— каб не падлавіў на якой дробязі. Вучыцца ён слабавата, але здольны, смелы, задзірысты,— што ён скажа, тое робіць увесь клас. Гаварылі з бацькам, прасілі памагчы — нічога не змянілася...

— Добра, што ты сказаў тое, што ты думаў,— сказаў я і ведаў, што гэтым крыху саб'ю яго задзірыстасць.— Згодны з табой, што мастацкая літаратура непасрэдна не ўплывае на развіццё сучаснай фізікі, хіміі, кібернетыкі ці біёнікі. Але вялікі Эйнштэйн неаднойчы гаварыў, што ў яго думках пра тайны космасу яму вельмі памаглі творы вялікага Дастаеўскага, памаглі рабіць адкрыцці.

— Толькі памаглі,— злавіў мяне на слове Іван Пакрыла.

— Ты пачакай, паслухай,— стрымана сказаў я.— Вось яшчэ адзін вучоны, Ламаносаў. Асабліва ім хваляцца фізікі, хімікі і матэматыкі. Цудоўна! Але ж вялікі памор быў вялікі не толькі ў руднай справе, але і ў паэтычнай прасодыі. Ён не толькі стаў поплеч з вялікімі вучонымі Лавуазье, Лапласам, Эйлерам ці Франклінам, але і заснаваў навуковую граматыку рускай мовы, стаў адным з вялікіх паэтаў свайго часу. Усе лічаць, што ў яго рабоце паэзія дапамагала фізіцы так, як фізіка — паэзіі. Другі вялікі вучоны, Барадзін, пісаў музыку, а хіба мала значаць для людзей геніі слова Пушкін, Талстой, Бальзак...

— Тата гаворыць, што цяпер Пушкіных няма,— махнуў рукою ўсё той жа Іван,— многа паэтаў, але так ніхто не напіша.

— Не ведаю, ці так іменна гаворыць твой тата,— сказаў я,— ды тут іншая гаворка...

— Ну, цяпер матэматыка ды фізіка болей чаго дае,— зноў не ўтрымаўся Іван,— болей, чым «Гора ад розуму»,— усміхнуўся, глянуў на клас — усміхнуліся і хлопцы, дзяўчаты стрымаліся і глядзелі на мяне, чакалі маіх слоў.

— Мы жывём у атамны век,— стараўся не расхвалявацца, абараняўся я,— і бачым, што свет цяпер ідзе такім шляхам, што «прафілiруючымі» навукамі сталі навукі фізіка-матэматычныя, звязаныя з тэхнікай. Таму воляй-няволяй мы гэтым навукам аддаём першае месца на «шумным балі ведаў».

— І я гэта гаварыў,— усміхнуўся Іван, глянуўшы на сваіх сяброў.

— Памыляюцца тыя,— сказаў я і не паглядзеў на гэтыя ўсмешкі,— хто думае, што чалавек можа быць вялікім, разумным, калі будзе ведаць толькі тыя навукі, якія выйшлі цяпер уперад. «Прафілiруючымі» для росту асобы з'яўляюцца ўсе кругі навуковага пазнання, гуманітарныя навукі таксама,— сказаў я і падумаў, што, мусіць, незразумела гавару, трэба неяк прасцей сказаць, дадаў: — І пашана на гэтым «шумным балі ведаў» «Гору ад розуму», «Анегіну», «Вайне і міру», «Новай зямлі», «Ціхаму Дону», «Людзям на балоце»...

Іван скрывіўся, але змоўчаў. Я ў душы ўзлаваўся на яго, але стрымаўся, не крыкнуў «Замаўчы!», сказаў:

— Вось чаму вучыць, развіваць вас, моладзь, на фундаменце толькі адной з гэтых ліній развіцця чалавечай культуры ніхто не збіраецца, хоць той-сёй і пасміхаецца з гуманітарнага, не цэніць яго, але некалі зразумее, што «Гора ад розуму» шмат чаго дасць, паможа зразумець такіх Чацкіх, Малчаліных, якія ёсць і сёння, дапаможа і самому стаць чалавекам. Па літаратуры мы пазнаём эпоху, час, людзей, мы глыбей можам вывучыць саміх сябе.

Я папрасіў адкрыць кнігі, пачаў чытаць п'есу і расказваць, тлумачыць.

Празвінеў званок. Вучні, як раней, не ўскочылі са сваіх месц і не пабеглі ў калідор, а павольна падняліся і падышлі да мяне.

— А скажыце, Ленін чытаў «Гора ад розуму»? — спытаўся мяне выдатнік Мікола Купрэй.

— Канечне,— сказаў я,— Ленін вельмі добра ведаў рускую літаратуру.

— А праўда, што і цяпер ёсць такія Малчаліны?

— Відаць, ёсць,— сказаў я.

— А хто Малчалін у нашым саўгасе?— спыталася Ніна, бойкая вучаніца.

— Не ведаю,— усміхнуўся я.

— А мы ведаем,— сказала Ніна.— Наш дырэктар...

— О, так не трэба,— перапыніў я яе,— так не трэба.

— Вы, Павел Мікалаевіч, таксама баіцеся яго?

— Чаго мне баяцца, ён — мой калега.

— А мы баімся яго.

— Не трэба баяцца,— сказаў я.— Трэба паважаць і слухаць,— і ўсё роўна ўбачыў, што не пераканаў іх, што яны недалюбліваюць Івана Сямёнавіча.

Яшчэ я падумаў, ідучы ў настаўніцкую, што ўсё ж я слаба гаварыў. Толькі адчуў, як нялёгка, але добра быць настаўнікам, вучыць дзяцей; але буду настаўнічаць, і не таму, што больш нічога рабіць не ўмею, а таму, што школа за гэты час паспела мне спадабацца.

Толькі цяпер я адчуў сябе настаўнікам, які зробіць тое, чаго іншыя не зробяць.

## 14

Нядобрым быў гэты дзень і для Ларысы: спярша яе невядома за што папракала Вольга Піліпаўна, а пасля яе засмуцілі васьмікласнікі.

У гэтым класе Ларыса вяла нямецкую мову. З настаўнікаў ніхто панямецку не ўмеў чытаць і пісаць, як яна. Спачатку дырэктар прасіў, каб вучыў нямецкую я, але калі не ўпрасіў, то «дагрузіў» Ларысу.

Хвілін за дзевяць да канца ўрока Ларыса, як яна сама расказвала пасля мне, напісала на дошцы колькі сказаў і выклікала перакласці іх самага шумнага вучня — Івана Пакрылу. Той паглядзеў на сказы, падумаў, а пасля паклаў крэйду на палічку.

— Што такое? — спыталася Ларыса, якая была ўвесь урок разгубленая.

— Гэтыя сказы, Ларыса Іванаўна, нельга перакласці і за пяцігодку,— адказаў вучань.

— Што гэта значыць? — успыхнула Ларыса, якая яшчэ з перапынку не магла супакоіцца.

— Словы вашы напісаны не зусім правільна і артыклі пераблытаны.

— Ты не запісаў слоўнікавых слоў і не запомніў іх,— злавалася ўжо Ларыса.— Я пастаўлю табе зараз двойку.

— Новыя словы раней вы запісалі з кніжкі правільна,— сказаў вучань,— а вось сказы запісалі цяпер няправільна.

— Ты — грубіян! — не ўтрымалася Ларыса.— Садзіся! І не думай, калі твой бацька...

Іван не даслухаў, павярнуўся і выйшаў з класа. Ларыса разгублена глядзела яму ўслед, пасля не вытрымала, не дачакалася званка, а схапіла журнал і прыбегла ў настаўніцкую. Кінула на стол журнал, села на канапу і закрыла твар рукамі.

— Што такое?— спытаўся Іван Сямёнавіч.



Ларыса маўчала. Мусіць, моўчкі плакала.

Празвінеў званок, і ў настаўніцкую пачалі заходзіць настаўнікі. Дырэктар паслаў Уладзіміра Пятровіча, класнага васьмікласнікаў, схадзіць да дзяцей і спытацца, што было на ўроку.

Уладзімір Пятровіч хутка вярнуўся і расказаў, што здарылася.

— Самім яшчэ вучыцца трэба, а не фарсіць,— сказала Вольга Піліпаўна.

— Перастань! — сыкнуў на яе Іван Сямёнавіч. Вольга Піліпаўна сціснула вусны, схапіла стос сшыткаў і, раззлаваная на мужа, выскачыла на калідор.

— Разбярыце гэты выпадак на камсамольскім камітэце,— сказаў дырэктар піянерважатай, і тая пабегла сказаць, каб засталіся, не ішлі дамоў камсамольцы: урокаў больш не было, і дзеці маглі паразыходзіцца.

На камітэт пайшлі і мы, настаўнікі, толькі Ларыса засталася ў настаўніцкай. Камсорг Ніна Пятрэвіч, збіваючыся, чырванеючы, адкрыла сход, абвясціла парадак дня — «Аб невучнёўскіх, некамсамольскіх паводзінах Івана Пакрылы».

Той даволі бойка сказаў, што ён зрабіў на ўроку, напісаў словы так, як іх напісала настаўніца, а пасля паправіў, як трэба пісаць, пераклаў сказы. Стаяў ля дошкі і пасміхаўся.

— Што будзем рабіць? — спыталася камсорг.

Дзеці маўчалі, піянерважатая паглядзела на Івана Сямёнавіча, Міхася Рыгоравіча, Уладзіміра Пятровіча, але тыя маўчалі.

— Хай папросіць прабачэння ў настаўніцы за нетактоўнасць,— сказаў я.

— Не буду,— адказаў Іван.

— Як гэта — «не буду»? — спыталася піянерважатая.

— Я не вінаваты перад ёю,— сказаў Іван.

— А чаго ты пайшоў з класа?— спыталася піянерважатая.

— Яна мяне зняважыла. Я пайшоў, каб не нагаварыць...

— Не будзеш прасіцца?— спыталася піянерважатая.

— Не.

— Тады галасуем,— сказала піянерважатая камсоргу. Дзяўчаты і хлопцы паднялі рукі, каб Іван першы падышоў да настаўніцы і папрасіў прабачэння.

— Трэба больш да ўрокаў рыхтавацца, Ларыса Іванаўна,— зайшоўшы ў настаўніцкую, сказаў Іван Сямёнавіч.— А ты, Пятровіч, зайдзі да Пакрылы, раскажы яму пра сына.

— Ларыса Іванаўна, не перажывайце,— калі ўсе, акрамя мяне, выйшлі, сказаў Алесь Трахімавіч.— Я разумею, чаго вы сёння расчуліліся, памыліліся ў класе... І мы, маладыя, памыляліся, і цяпер, пасля трыццаці гадоў работы, зрываецца часамі памылка. Важна не тое, што настаўнік асекся. Важна тое, як ён пасля сябе павядзе. Узлуецца, будзе крычаць — палічаць вас дзеці за недавучаную, зусім паважаць не будуць. Вучань сказаў, што няправільна запісана, настаўніку можна лагодна ўсміхнуцца: «Праўда? Давайце разбяромся! Сапраўды, праўда! Малай-

чына, разумны, уважлівы! Так як запісана, нельга перакласці. Прашу прабачыць, дзеці. Давайце паправі́м. Правільна. А цяпер — перакладзём...»

Ларыса нават нечакана для мяне ўсміхнулася.

— Я так рабіў,— прамовіў Алесь Трахімавіч,— і дзеці мне верылі, здаецца...

— Дзякую, Алесь Трахімавіч,— сказала Ларыса і паклікала мяне ісці разам дамоў,— і я нешта зраблю такое заўтра...

Алесь Трахімавіч усміхнуўся, зірнуў на нас і паківаў галавою; зноў усміхнуўся; ён, відаць, маладзеў з намі, успамінаў сваю маладосць...

Вечарам я пайшоў да Ларысы. Яна сядзела і афармляла газету для чырвонага кутка свінагадоўчай фермы; колькі мы ні прасілі заатэхніка, ветурача памагчы — адмаўляюцца. Дадуць лічбаў, назавуць людзей — і стараюцца збегчы: вы, настаўнікі, умееце пісаць, дык і пішыце, а ў нас і сваёй работы многа...

— Ну, як настрой? — спытаўся я.

— Ай,— адмахнулася яна.—Трэба неяк спакайнейшай быць. Табе гэта ўдаецца, а мне не.

— Што там удаецца,— сказаў я,— сярэднія ўрокі...

— Цябе дзеці палюбілі,— не згадзілася Ларыса.— Ты мужчына, цябе болей слухаюць, а я часамі гавару, даказваю, ледзь не крычу, а яны — сваё. А дырэктару нічога не скажаш, ён адкажа табе адно: ты вядзеш урок — ад цябе і ўсё залежыць. Не ўдаецца — трэба было не ісці ў школу, шукаць лягчэйшай работы. Дык у мяне, мусіць, і таленту вялікага няма быць настаўнікам: умець расказваць, зацікавіць дзяцей, павесці іх за сабою...

— У нашай школе Алесь Трахімавіч, мусіць, толькі такі,— сказаў я.

— І цябе Іван Сямёнавіч хваліць, гаварыў сёння Уладзіміру Пятровічу, каб вучыўся ў цябе, як урокі даваць, да дзяцей звяртацца, заваёўваць аўтарытэт.

— Я проста, можа, хутчэй падключыўся, паробіш — у цябе выходзіць будзе.

— А ўсё-такі талент трэба...

— Ды не выстаўляйся ты бяздарнасцю,— не вытрымаў я.— У інстытуце ўсё амаль на пяцёркі здавала, а тут заплакала. Усе мы яшчэ толькі пачынаем рабіць, і адзін бог ведае, што будзе з нас праз пяць ці дзесяць гадоў... Можа, яшчэ абрасцём тут гаспадаркамі, садкамі, пчолкамі, зусім забудземся пра «души прекрасные порывы», будзем толькі жыць ад зарплаты да зарплаты, збіраць грошыкі, ад пятнаццатага да васемнаццатага, напіхаць панчоху грошыкамі...

— Пра гэта ўжо і сёння думае твая гаспадыня,— сказала Ларыса,— хоча зрабіць цябе вялікім гаспадаром.

— Не выдумляй, Ленка яе зрабіла пашпарт і паедзе ў горад.

— А табе не шкада?— яна і жартавала, і пяражывала.

— Глядзі,— усміхнуўся я ёй, узяў з яе рук ручку і напісаў: «Я цябе л....».

Ларыса пачырванела, усміхнулася.



— Я цябе людзям аддам,— сказаў я.

Ларыса прамаўчала, і я зразумеў, што яна пакрыўдзілася на мяне, што я абы-што ляпнуў не падумаўшы.

— І хочацца табе здзекавацца з мяне,— толькі і сказала яна.

— Не злуйся,— папрасіў я,— больш не буду.

— Ладна,— сказала яна і пайшла вячэраць. Зайшла гаспадыня і паклікала перакусіць з імі і мяне, але я адмовіўся, сказаў, што пад'еў дома.

— Вас Пётрычыха добра глядзіць, мусіць,— сказала Ларысіна гаспадыня з хітрынкай, але ўбачыла маю стрыманасць і паправілася: — Ды яна і мае ўсяго, не тое, што я, гаротная ўдава.

Я застаўся адзін. Па радыё перадавалі знаёмую песню, я паслухаў яе і ўспомніў Веру, у якую я закахаўся ў дзевятым класе, з якой перапісваўся колькі гадоў, а пасля яна мне перастала пісаць, напісала: нічога ў нас не выйдзе... Я нямала памучыўся, а пасля быў і рады, што так у нас скончылася: з Верай я толькі нацярпеўся б гора — лёгкая і бяздумная яна была... Адно шчымела сэрца: затое прыгожая і стройная — так міла магла глядзець, смяяцца, было ў яе лёгкае дыханне, высокія грудзі, што ўздымаліся пры смеху...

Але цяпер я не страціў бы з-за яе галавы, не адчайваўся б так, як некалі, хоць і не мог нікога палюбіць, чакаў, што вось-вось сустрэне мяне гэтае каханне; калі Ларыса прызнавалася мне, я не мог паверыць, што яно само, гэтае каханне, прыйдзе за мною ў Міланькі...

Вярнулася Ларыса. Была яна хмурная, нават злосная, прыйшла, села і нават не загаварыла са мною.

— Што такое?

— Нічога,— адмахнулася Ларыса.

— Ты ўзлавалася на мяне?

— Ай, у мяне сваё...

Зайшла гаспадыня, маленькая, гарбаценькая, таксама не сказала і слова, пабралася на чарэнь.

Падбіла сабе пасцель і пачала мацаць вянок цыбулі. Я зразумеў, што яна хоча штосьці сказаць нам.

— Пенсіі мне яшчэ не далі,— сапраўды хутка сказала яна.— Гаспадаркі вялікай трымаць не магу, таму грошай мне ледзь на хлеб ды цукар хапае, а свет у нас позна гарыць, накруціць за яго нямала...

— Не бойцеся, цётка,— сказала Ларыса,— буду я плаціць за святло.

— Людскія бабы з мужчынамі, а я век адна гаравала,— як заплакала гаспадыня.

Ларыса мігнула мне, выключыла святло, і мы выйшлі на кухню.

— Ох, заесць яна мяне, Паўлік,— уздыхнула Ларыса.— Кожнага дня бульбаю і сырым салам корміць, чаем поіць. Я трыццаць пяць рублёў ёй плачу. Вушы яна мне прагудзела, што ў яе нічога няма, а сама бакоўку замыкае, праз дзень грошы пералічвае і перахоўвае. Толькі нядаўна парсюка на базу здала, смятану і яйкі на кірмаш валачэ, а мне ўсё плача, што бедненькая, і абы-чым корміць.

— А ты памяняй кватэру,— сказаў я.

— Прыйдзецца, мусіць,— згадзілася Ларыса, села ля акна, да яе падсеў і я.

Узышоў, холадна засвяціў месяц; снегу вялікага яшчэ не было, але ад марозу было бела. І добра было, што на дварэ холадна, стыла, патрэсквае частакол, а тут цёпла і светла ад месяца, добра, што сядзіць Ларыса, ласкава глядзіць на мяне. Да мяне падкацілася нейкая цёплая хваля, радасць, і я прытуліў Ларысу да сябе, пачаў лашчыць яе галаву.

— Не бядуй,— сказаў я,— пакуль я тут, то не дам табе прапасці.

— Праўда? — яна ўзняла галаву, і я ў святле месяца ўбачыў яе твар, які засвяціўся нейкай жаночай дабратою, радасцю, і сама яна цяпер была добрая, нават прыгожая.

Я глядзеў на Ларысу і не мог зразумець, чаму яна так папрыгажэла, што яе ажывіла, напоўніла, толькі душою адчуў, што да яе цяпер прыліла вялікая сіла, якая робіць жанчыну неразважлівай, але гордай, мужнай, моцнай, калі яна можа зачараваць мужчыну сваім каханнем. Гэтая сіла, усё тое невыказнае перадалося і мне,— я не разумеў, што робіцца са мною. Я пацалаваў Ларысу, задыхнуўся, у галаве маёй затуманілася, і разам з тым я адчуваў, што ніколі так не цалаваў дзяўчат.

— Як я люблю цябе, Паўлік! — прашаптала Ларыса.— А ты любіш мяне?

— Ага,— азваўся я.

— Агацька мой! — сказала яна і прытуліла галаву да маіх грудзей.— Разумееш, хадзіла з Віцем, з другімі — нічога і блізка такога не было, а гэта проста не разумею... Я ўсё зраблю, што ты захочаш,— я нават хачу, каб ты камандаваў мною, заўсёды быў са мною.

— Тады мацней абдымай мяне.

— Ты ўсё жартуеш, а я сур'ёзна. Ты — маё шчасце і маё гора.

— Мусіць, найбольш гора,— сказаў я.— У мяне дрэнны характар, многа благіх прывычак, ды і эгаіст я вялікі.

— А хіба ёсць бязгрэшныя людзі?

— Можа, і ёсць,— сказаў я.

— Тады мы з табой,— прашаптала Ларыса.— Гэты твой кірпаты носік, надзьмутая, вечна злосная твая верхняя губка... Але божа мой, каб уведалі нашы вучні, аб чым тут мы, настаўнікі, гаворым!..

— Пра ўрокі жыцця,— усміхнуўся я,— без чаго і школа не мілая...

— Ох, як успомню пра школу, дык настрой псуецца: зноў будуць глядзець на цябе дзяўчаты, а ты хіхікаць з імі,— сказала Ларыса.— Але табе пара ўжо дадому, ідзі, а то і твая гаспадыня дасць чосу.

Мы выйшлі ў сенцы; пацягнула халадком, было чуваць, як на дварэ патрэсквае, мацнее наНач мароз.

— Ну, бывай,— сказала Ларыса, але я не пайшоў, прытуліў яе, і мы задыхнуліся ў пацалунку, не маглі цяпер разысціся, стаялі і цалаваліся.

І хутка я пачуў, што ў мяне баляць вусны, шчымяць, на іх так і чуецца Ларысіна цяпло.

— Ну, ідзі,— адпраўляла мяне Ларыса, я ступаў, вяртаўся развітацца, і мы зноў цалаваліся, ніяк не маглі разысціся.





У школу зусім нечакана прыйшла Пакрыліха — жонка дырэктара тутэйшага саўгаса. Была яна ў пуховай хустцы, крыху даўгаватым паліто, у замшавых чорных ботах, убачыўшы якія, нашы дзяўчаты-настаўніцы аж зяхнулі ад зайздрасці.

Як я чуў, гэтая Ада Сямёнаўна не мела ніякага дыплома, не была вялікаю красуняю, і Пакрыла не хацеў яе, сваю былую сакратарку, браць нават і тады, калі яна была цяжарная ад яго. Гавораць, яго прымусілі, і ён ажаніўся, прыдбаў і другое дзіця, але жонкі не любіў.

— Івану часу няма, дык я прыйшла,— сказала цяпер Ада Сямёнаўна.— Што вы ніяк з нашым сынам не паладзіце?

— Гэта сын ваш ніяк з намі не паладзіць,— сказаў я.

Ада Сямёнаўна глянула на мяне, але нічога не сказала, звярнулася да дырэктара школы:

— Я слухаю вас, Іван Сямёнавіч.

Дырэктар расказаў ёй пра ўрок нямецкай мовы, праўда, ён стараўся ўсяляк абараніць Ларысу, зрабіць больш вінаватым сына Пакрылы.

— Ваня гаварыў, што настаўніца памылілася, а ён яе толькі паправіў,— абараняла Ада Сямёнаўна свайго сына.

— Ну, гэты эпізод мы разбіралі на камсамольскім сходзе,— сказаў Іван Сямёнавіч,— і дзеці самі рашылі, што ваш сын павінен прасіць выбачэння перад Ларысай Іванаўнай, хоць ён і не думае гэтага рабіць. Мы вас яшчэ выклікалі і з-за другога: сын ваш часта хуліганіць на ўроках — кідае настаўнікам зневажальныя рэплікі, прымушае дзяцей не адказваць, маўчаць, зрывае ці крэсліць насценную газету, калі яго пакрытыкуюць.

— Бо некаторыя настаўнікі і прыдзіраюцца да яго,— Ада Сямёнаўна расчырванелася, не даслухала Івана Сямёнавіча.— Вось хто ў восьмым вядзе літаратуру?

— Я,— азваўся я.

— Чаму вы парторгавай дзевачцы за чвэрць паставілі чатыры, сыну эканаміста вывелі нават пяць, а нашаму — дык толькі тры?

— Яны лепш ведаюць, болей вучаць, чым ваш сын.

— А я б гэтага не сказала,— запярэчыла Ада Сямёнаўна.— Усе яны часта ў нас збіраюцца, гуляюць ці тэлевізар глядзяць, дык я сама апытвала іх — усе яны аднолькава ведаюць літаратуру, наш яшчэ і больш фільмаў глядзіць... Ён усё — сама малое — на чатыры ведае. Ды хлопцу цяпер і не вельмі трэба гэтая літаратура, яму трэба добра ведаць матэматыку...

— Але ж летась спецыяльная пастанова выйшла, што цяпер і сачыненне і дыктоўка — тыя ж «прафіліруючыя» прадметы,— сказаў я.— Так што кожны адукаваны чалавек павінен ведаць не толькі фізіку, матэматыку, але і літаратуру. А сын ваш яе не хоча ведаць, чытае толькі дэтэктывы, гаворыць, што яго бацька ўладзіць у інстытут на агранома і ніякая літаратура яму не трэба...

Ада Сямёнаўна ўспыхнула, глянула на мяне і не ведала, што сказаць.

— Схадзі, Павел Мікалаевіч, паглядзі, чаго там дзеці шумяць,— мусіць, наўмысна адаслаў мяне на калідор Іван Сямёнавіч.

Я паслухаў і выйшаў.

У мяне была «фортачка», і я згадзіўся пайсці разам з Ларысаю ў восьмы на ўрок нямецкай мовы — пасядзець, паглядзець, як будзе сябе паводзіць Пакрыла.

Ларыса зайшла ў клас, павіталася — дзеці таксама прывіталіся і сядзелі як укапаныя, нават не варушыліся. Відаць, адчувалі няёмкасць перад настаўніцай.

А яна, нічога не гаворачы, запісала на дошцы сказы, глянула на клас:

— Ну, хадзі, Іван, выпраў памылкі,— сказала, усміхнуўшыся Ларыса.

Пакрыла нехаця падняўся, прыйшоў да дошкі, сцёр адзін артыкль, напісаў новы, больш не знаходзіў памылак. Тады Ларыса ўзяла з рук вучня крэйду і паправіла ўсё сама.

— Хто яшчэ заўважыў на мінулым уроку гэтыя памылкі?— спыталася яна.

Дзеці маўчалі.

— Ну, што ж, Іван, ты самы ўважлівы быў тады,— усміхнулася Ларыса.— Я, можа, і дарэмна пагарачылася. Была расхваляваная і не заўважыла, як дапусціла памылкі. А гэта яшчэ раз даказвае, што да ўсяго, здаецца, нават і просценькага, трэба падыходзіць сур'ёзна і ўважліва...

Дзеці пераклалі сказы, адчулі сябе смялей, ажывіліся, Ларыса пачытала ім па-нямецку, дала новыя словы, і яны пачалі перакладаць далей тэкст самі.

...Ужо вечарам Ларыса расказвала мне, што пасля ўрокаў яе чакаў на двары Іван Пакрыла, таптаўся, бянтэжыўся, пасля папрасіўся:

— Я не буду болей так, Ларыса Іванаўна...

— Ладна, Іван, згода,— усміхнулася Ларыса, нацягнула яму на вочы вушанку.

Іван усміхаўся і доўга глядзеў ёй услед.

**16**

Канец лістапада прынёс школе і мне асабіста многа нечаканасцяў. Пачалося ўсё з таго, што ў райана выклікалі нашу настаўніцу біялогіі Людмілу Карпаўну і сказалі ёй пераязджаць у другую вёску. Людміла Карпаўна, якая працавала першы год у школе, паспела палюбіць Міланькі, ёй не хацелася выязджаць. Яна плакала і расказвала, што да нас на яе месца прыйдзе тутэйшы аграном, які ідзе з саўгаса «па ўласнаму жаданню» і хоча дацягнуць год да пенсіі ў школе. Людміла Карпаўна плакала, што Іван Сямёнавіч пра гэта ведаў, але нічога не гаварыў, даў згоду адпусціць яе і ўзяць агранома.

Тутэйшага агранома, адзінокую, пажылую жанчыну, я крыху ведаў,



бачыў колькі разоў, як яна праязджала на машыне. Чуў пра яе многа. Гаспадыня мне расказала, што гэтая Святлана Міхайлаўна «не баба, а чорт»: баявітая, смелая, п'е, курыць, па-мужчынску лаецца.

Нават гаспадыня здзіўлялася, што бяруць «аграноміху» ў школу, бедавала, што тая ўсіх дзяцей паразганяе.

— Методыкі ў яе ніякай не будзе, гэта я ведаю,— гаварыў Іван Сямёнавіч,— але агарод яна нам зробіць. Будзе ўсяго: і яблыкаў, і бульбы, і памідораў, і капусты...

Для мяне ж лістапад быў нечаканы яшчэ і таму, што сталі выклікаць мяне ў ваенкамат, пагаворваць, што адзенуць хутка на мяне вайсковае; я прасіўся ў начальства, каб цяпер не бралі, далі да вясны павучыць дзяцей, але мне коратка і ясна сказалі: калі будзе трэба, тады і возьмуць.

— Тады ладна,— згадзіўся я.— Той не мужчына, хто не пабываў у войску.

Пра гэта ўведалі і ў вёсцы, сталі гаварыць, што ў школу прыйдзе «аграноміха», што бяруць у войска «таго маладзенькага, што жыве ў Пётрычыхі», што зажурылася, бядуе Сямёнішына настаўніца, а яшчэ праз колькі дзён да нас з Ларысаю дайшло праз дзесятыя вусны, што «так яно не абышлося, калі позна сядзелі, не палілі святла — настаўніца стала пры надзеі...»

...Педсавет прызначылі на шэсць, але пачаўся ён ля сямі: не было дырэктара. Мы бачылі, як ля шасці гадзін выганяў паіць карову, насіў ваду, дровы ў хату.

Нарэшце прыйшлі Іван Сямёнавіч і Вольга Піліпаўна, абое разам, задыханыя: спяшаліся.

Пра вучобу і дысцыпліну за першую чвэрць зрабіў даклад Міхась Рыгоравіч.

Апошнім часам я стаў прыслухоўвацца да яго, разумець, што ён за чалавек. Цяпер ён гаварыў пра задачы, якія стаяць перад школай, пра тое, што мы ўжо зрабілі. Ён пахваліў «змястоўныя, выхаваўчыя» ўрокі Івана Сямёнавіча, Вольгі Піліпаўны, Алеся Трахімавіча, сказаў, што стараецца Ларыса, я, пра Уладзіміра Пятровіча, Наталлю Васільеўну і настаўніцу другога класа, з якой даўно не ладзілі дырэктар і яго жонка, прамаўчаў. Затое наваліўся на Людмілу Карпаўну, якую колькі дзён таму назад перавялі з нашай школу ў другую. Аказваецца, яе ўрокі былі і антынавуковымі, і без методыкі, а сама настаўніца была непісьменная, грубая з дзецьмі, зусім не старалася.

Я слухаў і здзіўляўся, чаму не гаварылі такога, калі Людміла Карпаўна была ў нас, калі Міхась Рыгоравіч хадзіў на яе ўрокі і... хваліў яе.

Я слухаў і асцерагаўся, што пакрытыкуюць зараз за літаратурны гурток і мяне: ідзе другая чвэрць, а я выпусціў толькі адну газету і то вершы, апавяданне, надрукаваныя ў ёй, амаль сам напісаў: не пішуць іх дзеці, калі і пішуць, то саромеюцца мне даваць. Але Міхась Рыгоравіч не назваў мяне, сказаў толькі: «Амаль не працуюць у школе гурткі, за-

пушчана пазакласная работа...» Ён яшчэ называў недахопы, упушчэнні па школе, але ніводнага прозвішча настаўніка, які быў вінаваты ў гэтым, не назваў.

— Хто хоча выступіць?— спытаўся Іван Сямёнавіч, калі завуч скончыў свой даклад.

Усе маўчалі і апускалі галовы, тады дырэктар пачаў паднімаць усіх па парадку. Першай ён падняў настаўніцу другога класа, але тая сказала, што з усім згодная, што сказаў Міхась Рыгоравіч.

— А што ў вас добрага, дрэннага?

— Дзеці вучацца, толькі не ўсе слухаюцца,— адказала настаўніца.

— Дысцыпліна ў класе, ды яшчэ ў пачатковым, залежыць толькі ад настаўніка,— сказаў Іван Сямёнавіч. Настаўніца села і замоўкла.

Мне многа чаго хацелася сказаць: і пра свае ўрокі, і пра лянотy вучняў, і пра бацькоў, да якіх я заходзіў, пасылаў запіскі,— дзеці па-ранейшаму ўрокі прапускаюць, не чытаюць.

Я і пачаў з таго, што цяжка рабіць першы год у школе.

— Наталлі Васільеўне цяжка: ёй няма ўмоваў. Нам, моваведам, нейкія ўмовы ёсць, але зноў-такі рабіць нялёгка. Можа, і таму, што многае нам не даецца, не выходзіць.

— А мы не думаем вас вучыць,— перапыніў мяне Іван Сямёнавіч.— На гэта вы інстытут канчалі, дыпломы маеце. Калі мы арганізуем для вас яшчэ тут курсы, то гэта дзяржаве дорага абыдзецца.

— Я не пра гэта,— збянтэжыўся я,— я пра другое. Не раз і добра знаеш матэрыял, але не ведаеш, як яго даць. А да нас на ўрокі ходзяць Іван Сямёнавіч і Міхась Рыгоравіч, людзі сталыя, што не адзін год папрацавалі ў школе, сядзяць, слухаюць, штосьці запісваюць, але нічога табе не скажуць, не паправяць, не адзначаць. Толькі ўжо ад другіх людзей чуеш, што сказалі пра цябе і твой урок. А варыцца ў сваім саку нялёгка...

Я хацеў яшчэ сказаць, што тая ж дзяржава дырэктару і завучу плаціць грошы не толькі за тое, што яны ходзяць на ўрокі настаўнікаў, але і за тое, каб хадзілі часцей, разбіралі гэтыя ўрокі, дапамагалі расці настаўніку, лепш рабіць; думаў, хацеў сказаць, але стрымаўся: не вельмі смелы я быў.

Уладзімір Пятровіч не захацеў выступаць, сказаў, што тут ужо аб усім гаварылі; Алесь Трахімавіч, які быў задрамаў ля грубкі, падхапіўся, гаварыў ясна і разумна пра сваю працу, а пасля падтрымаў мяне, што маладым сапраўды трэба памагаць, а ў нас, у школе, няправільная з імі работа.

Сам Іван Сямёнавіч гаварыў спакойна, пачаў ён з цытат пра асвету, пасля перайшоў гаварыць пра веды, дысцыпліну, сказаў, што многа мы ўпусцілі за першую чвэрць, і маладыя настаўнікі рабілі напаўсілы, але цяпер за імі будзе большы кантроль, ён і завуч будуць часцей хадзіць на ўрокі, кантраляваць, хваліць, крытыкаваць, папраўляць.

— Я асабліва да вас звяртаюся, маладыя,— закругляўся дырэктар,— вы павінны не толькі гаварыць высокія словы, але і працаваць, ахвяраваць усім дзеля свайго прызвання. Толькі тады мы штосьці зробім у школе.



На гэтым педсавет закончыўся. Усе сталі апранацца і разыходзіцца.

— Дарэмна гарачыўся,— сказаў мне Уладзімір Пятровіч, калі мы выйшлі на школьны двор,— гэта ўсё роўна нічога не зменіць. Ці ты хочаш у начальства прабіцца?

— Нашто гэта мне? — сказаў я.— Няўжо няможна сказаць праўду, каб нешта паправіць, зрабіць лепшым?

— Можна, чаму не,— усміхнуўся Уладзімір Пятровіч,— але ці варта яе заўсёды гаварыць? Ёсць праўда, якую ўсе ведаюць, але якой ніхто не гаворыць. Ды можна так толькі сабе пашкодзіць...

— Калі ваўкоў баяцца, то не трэба ў лес хадзіць,— не здаваўся я.

— Пачакай, смяльчак, ажаніся, пажывi, павыступай,— тады многае ўбачыш,— усміхнуўся Уладзімір Пятровіч.— Будзеш рамантыкам, Дон-Кіхотам — ад бяды не ацярэбішся. Жонка першая адхінецца ад цябе. Пакіне, пойдзе за другога, хто ўмее жыць.

Я глянуў на Уладзіміра Пятровіча — у модным паліто, модных туфлях, з шырокім, па-цяперашняму, гальштуку — і нічога не сказаў.

Мы падаліся са школьнага двара.

— Нам у розныя бакі,— я развёў рукамі.

— Давай, будзь здароў,— усміхнуўся Уладзімір Пятровіч.— Падумай добра.

Я пачакаў дзяўчат і пайшоў разам з імі.

— Але мы сёння крыху падсыпалі свайму шэфу,— радавалася Наталля Васільеўна.— Не такія мы ўжо бяззубыя, як яны думаюць.

(Заканчэнне ў наступным нумары.)



# НАШ ГОСЦЬ — „аврора"



ПАЭЗІЯ

*Глеб Гарбоўскі*

## Веру я ў зямную прыгажосць

Гай бярозавы — на снезе белым,
сінь нябёс, як глянуць — на вярсту.
І хлапчук,
які зрабіў няўмела
росчырк лыжнай палкай
на ляту.
Прыгажосць якая...
Даль, бязмежжа.
Назаўжды б тут зараз
ашклянець.
Па-над вёскай
рыцарскаю вежай —
вадакачка, цёмная,
як медзь.
Цэгла ў снезе інею
густога...



Дзе ты, смутак і туга душы?
Сцежкаю
дубцом адзін другога
ў школу паганяюць
малышы.
Да валёнкаў прыстае дарога,
кіламетры выклікаюць злосць...
Але зноўку урачыста, строга
веру я ў зямную прыгажосць.

■

Вырастаюць з вёскі людзі ўсе,
усё роўна — як з дзіравых штонікаў.
Вуліца малая пакрысе,
дзе ты жыў, падскокваў, нібы конік.

Прымярай раённы гарадок.
Ды і ён не падыходзіць, быццам...
Ну і плечы ж у цябе, браток!
Самы раз — прасторная сталіца.

Ды расце хлапчына напралом.
Дужы многага ў жыцці чакае.
Вось ужо зямля яму, як дом,
хоць і дарагая, ды — малая...

Ён стаіць нагамі на зямлі,
а вачмі — ў паветры навальнічным,
дзесьці там, у ззянні, між імглы,
у далёкіх таямнічых знічках...

Пераклаў
Мікола Аўрамчык







Вольга Марозава

# ВАЕНФЕЛЬЧАР КСЕНЯ

АПАВЯДАННЕ

Мал. П. Лысенкі

У красавіку 1942 года, пасля першай блакаднай зімы ў Ленінградзе, я скончыла курсы медсясцёр і пачала працаваць у дзіцячай бальніцы. Калі заставалася толькі адно — памерці ад галадання і знясіленасці, мяне мабілізавалі, і пасля доўгіх перамяшчэнняў я апынулася ў адным з ленінградскіх ваенна-марскіх шпіталяў. З павагі да таго, што я заўчасна пасівела, мяне, малодшага камандзіра, змясцілі ў «афіцэрскім» кубрыку, г. зн. да жанчын, якія мелі ваенную спецыяльнасць. Гэта былі лабаранткі, тэхнікі, фельчаркі. Усе яны лічыліся афіцэрамі, а я была ўсяго-наўсяго старшына І-й стацці і насіла матроскую форму.

Я займала апошні ложак у цёмным кутку, і гэта не засмучала б мяне, калі б не пацукі — яны ўночы бегалі па маёй коўдры.

Я прыйшла сюды сапраўдным дыстрофікам, і праца медсястры была мне амаль не пад сілу. Дзяўчаты, што прыехалі з ускраін, былі вясёлыя і здаровыя і за вочы называлі мяне

эрзац-матросам, пасмейваліся з мае фізічнай нямогласці. На шчасце, мяне прызначылі загадчыцай зводнай бібліятэкі, і справа пайшла куды лепей.

Усё гэта я расказваю замест прадмовы да гісторыі Ксені. Мне чамусьці здаецца, што я не магу пакінуць Ксеню без сябе, што яе гісторыя будзе больш зразумелая, калі я буду ўдзельнічаць у ёй.

Ксеня з'явілася ў шпіталі на месяц пазней. Ваенфельчар Вятрова, Ксенечка, ці «Птушка».

У той дзень у прыймовым пакоі за пісьмовым сталом дзяжурыла капітан медыцынскай службы Каверына. Каля яе ўвесь час было многа афіцэраў — хто па справе, а хто і проста з-за капітанскіх бясспрэчна чароўных вачэй. Капітан Каверына была маладая, суровая, не любіла жартаў. Яе вельмі добра падагнаны кіцель, манеры і выразнасць начальніцкай гаворкі можна было браць за прыклад наваспечаным афіцэрам.

...Нечакана ў дзверы хтосьці падрапаўся.

— Зайдзіце! — сказаў адзін з афіцэраў.

Капітан Каверына ўзняла вочы і скамянела. Перад сталом яна ўбачыла маленькую жанчынку ў кіцелі не па росце, у бярэце, што звісаў на маленькі задзірасты носік, і ў белых бальных туфлях старамоднага фасону. У дадатак да ўсяго яе слаўныя блакітныя вочы ззялі ў густой чорнай абводцы.

«Што яны, калёснай маззю падмалёўваюць іх, ці што?»

І капітан Каверына з абурэннем вымавіла:

— Гэта што яшчэ за птушка?

«Птушка» адрэкамендавалася па ўсёй форме. І тут жа, зразумеўшы прычыну гневу, пачала горача апраўдвацца: кіцель выдалі ў экіпажы мужчынскі, у кірзавых ботах 42-га памеру яна «ўся схавалася»; самае лепшае, што знайшлося дома, былі бальныя туфлі на французскіх абцасіках.

Капітан Каверына, стомлена засланіўшы рукой вочы, суха абарвала тлумачэнні ваенфельчара:

— На трое сутак,— і, звярнуўшыся да матроса, дадала: — Завядзіце.

«Вось табе і маеш!» — здзівілася Ксенечка Вятрова.

Гэтак пачалося яе ваеннае жыццё.

У Ксені ў дваццаць два гады была сям'я: мама, легкадумны муж, спартсмен, які не падаваў вестак з фронту, і аднагадовы сынок. Яна скончыла два курсы медыцынскага інстытута, з пачатку вайны працавала інструктарам лячэбнай фізкультуры, і ёй адной даводзілася думаць і адказваць за сям'ю. Ксеня сама недаядала, ад свайго пайка адрывала, каб лепей карміць малога і маці, і ўсё роўна маці памерла. Дзіця ж давялося тэрмінова забраць у шпіталь. Каб ратаваць хлопчыка, урачы і медперсанал рабілі ўсё, што маглі, але надзеі было мала.



Пра Ксеніну бяду дазналіся параненыя, і ў той самы дзень Ксеню паклікаў дзевятнаццацігадовы матрос Валя Варанцоў. Ён быў з самых «цяжкіх», яго рыхтавалі да эвакуацыі ў тыл і выдалі асобы паёк з НЗ на дарогу. Валя ляжаў закаваны ў гіпс, абяскроўлены, толькі круглыя чорныя вочы яго жыва блішчэлі, неяк здзіўлена пазіраючы навакол. Моўчкі ён працягнуў Ксені мяшэчак з цукрам-пяском. Яна адмовілася, але адразу ж спалохалася, што пакрыўдзіла чалавека, заплакала і прыняла дарагі падарунак. Але і цукар не памог. Хлопчык памёр. Тады палітрук Федзя паціху загарнуў лёгкае цельца ў коўдру і занёс у морг, каб пахавалі ў брацкай магіле з чырванафлотцамі.

Але што б там ні было, жыццё ў Ленінградзе не спынялася. А Ксеня жыла на свеце, каб суцяшаць людзей і памагаць ім. Была яна сапраўдная руская жанчына, нягледзячы на мешаніну спадчыннай крыві. Толькі руская жанчына, гэткая лагодная і яснавокая, умее спалучаць у сабе бесшабашную жыццярадаснасць з сусветным смуткам. У шпіталі праводзіліся канцэрты і практыкаваліся выезды шпітальнай самадзейнасці на перадавую.

Я не хадзіла на канцэрты, але Ксеня славілася як лепшы канферансье. Пасля ўсяго, што ўбачыла і перажыла ў блакаду, я жыла аўтаматычна і засынала з адной думкай — каб ноч прайшла спакойна, без рэву сірэн і эвакуацыі параненых у сутарэнне. Я тады была яшчэ слабая, і мне было не да канцэртаў. А ўвогуле сярод разбурэнняў, пакут і смерцяў, у пастаянных налётах фашысцкай авіяцыі, а пазней пры артылерыйскіх абстрэлах горада з найвялікшай удзячнасцю прымалася ўсё, што памагала пазбыцца: канцэрты самадзейнасці былі самым жаданым святам у шпіталі.

Аднойчы суседкі прымусілі мяне пайсці на канцэрт, каб паглядзець на незаменнага канферансье і лепшую актрысу — ваенфельчара Вятрову, так званую «Птушку». Жанчыны вельмі смяяліся, угаворваючы мяне, шапталіся, пераглядваліся, і цяжка было ўгадаць, як яны самі ставяцца да Вятровай.

Угаварылі. І я пайшла. Усё-ткі цікава.

Сцэна як сцэна, з суфлёрскай будкай, якія сустракаліся яшчэ ў гарадскіх садах, і з заслонай з байкавых коўдраў, што адслужылі сваё. І агні рампы былі, але свяцілі яны па-блакаднаму слаба, асвятлялі толькі сцэну, а зала хавалася ў змроку. Але колькі было ў ёй народу! Наперадзе, у крэслах «бенуару», сядзела начальства, рады займалі параненыя, а моладзь, найбольш дзяўчаты ў белых касынках ці матроскай форме, якія замянялі чырванафлотцаў, што пайшлі на фронт, туліліся ўздоўж сцен, шапталіся і перасмейваліся з рэдкімі хлопцамі, якія чагосьці затрымаліся ў шпіталі.

У зале стаяў прыцішаны гоман нецярплівага чакання, пахла карболкай і лякарствамі, заслона ціха калыхалася; нейкія спрэчкі за ёю чуваць былі і ў зале. Публіка хвалявалася, ці будзе Вятрова, бо які ж без яе канцэрт? Хоць і кажуць, што незаменных людзей няма, але народ не згадзіўся б тут ні на якую замену. Зала патрабавала Вятрову, а яна чамусьці не з'яўлялася, і тут я пачула ад суседзяў, што ў апошняй камандзіроўцы яна

трапіла ў аўтамабільную катастрофу і параненая, што з Вятровай заўсёды што-небудзь здараецца. Яе шкадавалі і засмучаліся, што можа і канцэрта не будзе.

Але раптам перад заслонай з'явілася маленькая жанчына. Яе галава была абвязана касынкай так, што канцы тырчэлі, як заечыя вушы. Адно вока знікла пад сіняком, да ўсяго — жанчына яшчэ і накульгвала. Гэта зусім не вясёлае відовішча выклікала ў зале смех і дружныя воплескі.

Падбадзёраная гэткім прыёмам, Вятрова падышла да рампы і раптам знікла. Гледачы замерлі, але праз секунду ў зале грымнуў смех, калі ўсе ўбачылі, што, ступіўшы ў пустату аркестра, канферансье праваліўся і вісіць галавой уніз, бо спадніца зачапілася за крук.

Калі б не крук — было б горай. А пакуль што над сцэнай тырчэла адна нага абцасам угару.

Вятрову кінуліся ратаваць і паставілі з галавы на ногі. І яна, лаючыся, смеючыся і кульгаючы яшчэ больш, уцякла са сцэны.

— Во гэта канферанс! — смяяліся гледачы.

Я пайшла на сцэну павіншаваць артыстку з надзвычайным поспехам. Яна смяялася, а слёзы дрыжэлі ў яе на вачах.

— Правільна,— сказала яна.— Гэта мой бенефіс!

І тут жа ўзялася клясці сваё падбітае вока, кульгавую нагу і гэтае самае, каб яно спрахла, блакітнае трыко, выстаўленае напаказ.

З таго часу я і пасябравала з Ксеняй-Птушкай.

Успамінаю вечары ў Ксеніным кубрыку. Мы, яе сябры, збіраліся часам, каб паслухаць, як яна расказвала пра сябе, і тых расказаў хапіла б на тысячу і адну ноч. Мы смяяліся, бо расказвала яна нават пра цяжкія свае прыгоды лёгка і весела. Яе добрая душа была невычэрпная ў суцяшэннях. І ўсё, што яна рабіла і ўмела рабіць, было падпарадкавана гэтай мэце. Яе сэрца было адкрытае насцеж — уваходзь і грэйся, хто хоча.

І наш палітрук Федзя таксама прыходзіў. Ён утульна прымошчваўся каля печачкі, хатнім голасам спяваў старадаўнія рускія песні, акампануючы сабе на гітары. Але спяваў ён толькі дзеля Ксені і толькі на яе паглядваў з добрай і хітраватай усмешкай. Яна крышку любіла яго за тое, што ён быў адзінокі і нязменна аддадзены ёй.

Марыла Ксеня пра подзвігі на фронце, а ёй даручылі справу лячэбнай фізкультуры з параненымі.

Ксеню хвалілі і матросы і адміралы, яе любілі параненыя і ўрачы, а капітан Каверына, тая, што сустрэла яе гэтак сурова, гатова была душу ёй аддаць і называла дачкой. Але былі ў Ксені і ворагі, якія не мірыліся з яе свавольнасцю і адкрытым характарам.

Мы сустракаліся не часта, але заўсёды з радасцю. І дзіўна — мы шмат смяяліся разам; мабыць, таму, што вясёлага вакол было мала, даводзілася яго выдумляць. У горадзе цяжкая блакада рабіла сваю справу: пасля ўстанаўлення «Дарогі жыцця» паляпшэнне пайка было такое мізэрнае, што не магло выратаваць асуджаных. Час ішоў пад вясну 1943 года. Бушавалі мяцеліцы.



Ксеня была апанавана імкненнем ратаваць гінучых. Знайшла недзе стары пагнуты бітончык і з ім пасля абеду абыходзіла кают-кампанію. У некаторых талерках заставалася крыху баланды, яна злівала яе ў бітончык і выносіла праз прахадную на вуліцу, дзе яе чакалі дыстрофікі з ашклелымі вачамі. Калі на другі дзень каго-небудзь з іх ужо не было, дык гэта значыла, што ён ужо не прыйдзе і яго месца зойме другі.

Маладыя хлопцы з блакітнымі каўнярамі дзяжурылі ў прахадной; яны пасмейваліся з Ксенінага дабрадзейства. Хмурыліся і некаторыя з начальнікаў. Ратавала Ксеню заўсёдная яе заступніца — урач Каверына.

Падкормлівалі Ксеню яе сябры, а найболей палітрук Федзя. Гэта быў добры, дужы чалавек, яго любілі параненыя і ўсе ў шпіталі. З ім было лёгка і спакойна. Але Ксеня рвалася на фронт, нішто яе не трымала больш у горадзе, апроч Федзі, і не пад сілу было яму ўтрымаць яе, калі б і захацеў. На ўсе просьбы адправіць яе на перадавую адказу не было, і Ксеня, каб не траціць марна часу, узялася за розную грамадскую работу.

Аднойчы, у цяжкую хвіліну, я зайшла «на агеньчык» і спынілася на парозе кубрыка. Гарэла ў печцы, і каля яе на падлозе сядзелі дзяўчатысёстры і з імі Ксеня; палітрук Федзя стаяў каля акна. Уся гэтая кампанія абкружыла крэсла, на якім амаль што ляжаў стары чалавек, захутаны ў коўдру і абвязаны аблезлай хусткай. Ён драмаў, а на кончыку яго носа блішчэла кропелька, з кутка рота сцякала палосачка сліны.

Ксеня павярнулася да дзвярэй і сіпела на мяне. Я хацела ўзлавацца, але Федзя падаў мне знак: «Заходзьце, маўляў, усё ў парадку, вы ўсё хутка зразумееце»,— і паказаў рукой на вольнае месца каля печкі.

Стары ўздыхнуў, адплюшчыў вочы. Ксеня спрытна сунула яму ў рот кавалачак цукру. Стары ўстрапянуўся, пажаваў губамі і загаварыў рыплівым голасам. Я праскочыла на вольнае месца і замерла. Што ён гаварыў — божа мой!..

— ...У гамераўскіх паэмах мы знаходзім упамінанне пра далёкія і першабытныя народы Поўначы як пра народы «шчаслівыя і справядлівыя», якія не ведаюць разбуральнага дзеяння тых сіл, што раз'ядалі антычнае грамадства...

Сказаў і зноў змоўк... Я паглядзела навакол. Гэта быў не сон. Гэта азначала, што людзі хацелі вучыцца. Можа, гэты прафесар, якога Ксеня падабрала, гаварыў незразумелыя рэчы — гэта няважна. Важна было тое, што ўсе рваліся да духоўнай пажывы.

Усе былі задаволены: і Ксеня, і дзяўчаты, якія ўпершыню слухалі гаворку мала зразумелую, але цікавую, і стары прафесар, які за лекцыі па антычнай культуры атрымліваў крышку цяпла, перапечку, кубак кіпятку і добрую ўвагу дзяўчат.

Пасля вайны Ксеня выпадкова прачытала яго прозвішча ў друку, і мы даведаліся, што не такі ўжо стары быў блакадны лектар, як тады здавалася. Ён быў проста дыстрофік.

— Дзе ты знайшла яго? — запыталася я ў Ксені пасля вечара.

— А як хадзіла па кнігі ў бібліятэку, дык прайшла праз сталовую

універсітэта. Яны там, гэтыя вучоныя, адзін за другога страшнейшыя, не людзі, а цені, сядзяць за сталамі, чакаюць, калі пададуць што з'есці, не размаўляюць, не варушацца. Гэты сядзеў і жаваў газету... Мне ажно нядобра зрабілася. Я падышла да яго і загаварыла, запрасіла прыйсці ў шпіталь, нібы па справе, і абяцала накарміць. Вось ён і прыйшоў, і справа знайшлася. І мы з ім дагаварыліся, што ён будзе рэгулярна чытаць лекцыі па гісторыі, усё роўна, з якога канца, нам жа ўсё цікава і ўсе мы нічога не ведаем.

У неспакойным і цяжкім жыцці Ксені чытаць не было калі, ды і вучылася яна ўрыўкамі. Занадта многа было ўсялякіх нястач. Цяпер кнігі запаўнялі яе ненасытнае ўяўленне.

У вольныя ад службы дні Ксеня ішла ў паход па букіністах. Калі грошы і хлеб яна раздавала галодным, дык пайковы тытунь зберагала, каб выменьваць на кнігі. Вечарам яна вярталася з бліскучымі вачамі, адсопваючыся ад цяжару набітай кнігамі супрацьгазнай сумкі.

— Во! Глядзіце! Дэкамерон! Шэкспір! Пакуль што адзін том. Дагаварылася. Дастане яшчэ.

— З кім дагаварылася? — цікаўлюся я.

— Ну, з кім! З Лебедзевым, вядома. Во чалавек! Не чалавек, а золата.

Яна ўжо забылася, што два тыдні назад такім залатым чалавекам быў Іван Іванавіч, які ўзяў тытунь наперад і пакінуў яе з носам.

— Усе ў цябе золата... — бурчу я знарок, каб распаліць яе, ведаючы наперад усё, што яна мне нагаворыць.

Усё благое ў людзях выклікала ў ёй гарачае абурэнне, але хутка забывалася. І спатрэбілася шмат гадоў і новых выпрабаванняў, каб прытупілася ў ёй неабачная даверлівасць да людзей, яе безразважнасць, яе сваволле і адкрытасць.

Ксеня такі пасварылася з начальствам, яе збіраліся «спісаць». Пакуль яе афармлялі, адбылася важная падзея: гарком дазволіў шпіталю вымыць у лазні ўсіх ваеннаслужачых, прычым на мыццё далі дзве гадзіны. Жарты сказаць: дзве гадзіны, тады як людзі не мыліся шмат месяцаў! З гоманам і крыкамі прынялі рашэнне: пляваць на ўсе буржуазныя ўмоўнасці! Гігіена важней. Будзем мыцца ўсе разам, і мужчыны і жанчыны. І вось мыюцца, спяшаюцца, захліпаюцца ад шчасця і ад мыльнай пены, сварацца за шайкі і за месцы...

...Прыйшоў дзень адпраўкі Ксені на фронт.

Да сустрэчы, Ксеня!

У эвакашпіталі, размешчаным непадалёк ад пасёлка Ірынаўкі, быў невялікі асабовы склад: два хірургі, аперацыйная сястра, некалькі санітараў і Ксеня ў якасці сястры і фельчара. Не лічачы, вядома, начальніка шпіталя і камісара.

У кастрычніку 1942 года маленькі ладажскі востраў Суха абкружылі варожыя караблі і адкрылі па ім ураганны агонь. Астравок гэты прыкрываў «Дарогу жыцця» на апошнім яе ўчастку. На абарону астраўка кінуліся суседнія вайсковыя часці, новаўтвораная контрдэсантная рота, вылецелі самалёты, а пакуль што катэр ды наземныя гарматы адбівалі атаку. Калі падаспела падмога, бой ішоў ужо на самім востраве. Неўзабаве варожы дэсант быў разгромлены, але на востраве засталося шмат забітых і параненых, неабходна была тэрміновая медыцынская дапамога. Уночы ў эвакашпіталь прыйшла тэлефанаграма. Начальнік шпіталя аддаў загад тэрмінова адпраўляцца на востраў.

Старшы хірург быў чалавек пажылы і грузны, да таго ж мірны і сухапутны. Нялёгка было яму пасля сонечнай Грузіі ва ўмовах паўночнай Ладагі! Ён баяўся вады і пакутаваў ад непагоды, але ўмеў перамагаць свае страхі і цяжкасці і самаахвярна змагаўся за жыццё параненых. Атрымаўшы загад, ён заявіў, што адправіцца толькі з Вятровай. Падобна было, што тут вырашалі справу не адны толькі дзелавыя якасці Ксені.

Ранічкай кананерская лодка адчаліла ад пірса. Дзьмуў штармавы вецер, хвалі білі лёдам аб борт судна, ісці наперад было цяжка. Пасля некалькіх гадзін упартай барацьбы са стыхіяй, на змярканні, кананерская лодка падышла да вострава. Каля берагоў тырчэлі з вады затопленыя баржы і катэры, падобныя на знявечаныя шкілеты дагістарычных жывёл.

Вада вакол вострава метраў на сто была зацягнута лёдам, крохкім і прыцярушаным снегам. Давялося кінуць якар. Рэзкі штармавы вецер шпурляў дробныя снегавыя крупы ў твар. Вока Суханскага маяка міргала ў гусцеючым змроку. Вырашылі спусціць шлюпку, каб падысці на ёй да самага лёду, у якім трэба было прабіць маленькую бухтачку. Зрабілі... Але да берага яшчэ далёка. Што рабіць цяпер? Каму прабірацца па гэтым тонкім лёдзе да вострава?

Матросы кураць, паглядваюць адзін на аднаго, уздыхаюць і маўчаць. І тады Ксеня сказала:

— Вось што, хлопчыкі, я меншая за ўсіх і лягчэйшая за ўсіх. Ісці трэба мне, і я не баюся!

Ксеню адпусцілі. Яна нацягнула на боты вялізныя валёнкі і пачала асцярожна прабірацца да вострава. А тым часам салдаты суханскага гарнізона сабралі на востраве ўсе лыжы і пачалі пракладваць па лёдзе дарогу, па якой трэба было пранесці насілкі на шлюпку, што пагойдвалася ў бухце.

Старшына 2-й стацці Косця Цітоў быў цяжка паранены ў жывот, ён ляжаў на насілках каля самага берага. Праз яшчэ не густы змрок ён нерадыўна сачыў, як набліжаецца невялічкая постаць, і хваляваўся. Ды і хто не хваляваўся за яе ў гэтыя хвіліны! Ксеня і самы лёгкі і маленькі з матросаў панеслі насілкі з Косцем. Ксеня старалася не слухаць, як пагрозліва патрэсквае лёд. Цяпер то ёй было вельмі страшна!

Вецер зноў пасвяжэў, узняліся сярдзітыя хвалі, і дарога на шлюпцы назад вельмі здоўжылася. Шлюпку кідала з боку ў бок, і матросы з усіх сіл веславалі да судна. Калі нарэшце падышлі да кананеркі, шлюпку ўзняло на грэбень хвалі і з размаху кінула аб борт. Неспрактыкаваны ў марскіх справах хірург не паспеў адхапіць руку, і ўдарам яму разбіла пальцы. Ён выйшаў са строю, і на Ксеню зваліліся клопаты ўжо пра двух па-

раненых. Іх ледзь паднялі на борт і толькі пад раніцу даставілі ў Мор'е, дзе чакала шпітальная машына.

Рэшту ночы ішла барацьба за жыццё Цітова; раніцой знясіленая Ксеня заснула ў сваёй зямлянцы. Яе разбудзілі:

— Вятрова, Цітову вельмі нядобра. Кліча вас. Ідзіце да яго хутчэй!

Ксеня прыбегла, убачыла, як змяніўся, пацямнеў твар у Косці. Хлопец цяжка дыхаў і прашаптаў з перапынкамі:

— *Верабейка, пацалуй мяне...*

— Чаму верабейка?— запыталася Ксеня і нахілілася да яго.

— Я ж... бачыў, як ты... нібы верабейка... па лёдзе скакала...

Ксеня пацалавала яго ў сухія пасінелыя губы, а калі выпрасталася, ён ужо быў мёртвы.

Жыццё ішло сваім парадкам. Засмучэнні і спагнанні не пакідалі Ксеню. Яе ўчынкі часта даводзілі да роспачы камандаванне шпіталя.

Каля шпіталя непадалёк стаяў напаўразбураны вайной хлеў, і яго выкарыстоўвалі як канюшню. Апроч коней, там жылі прыгрэтыя Ксеняй галодныя сабакі, якіх яна карміла са шпітальнага камбуза.

Неяк уночы, калі Ксеня была дзяжурная, ад канюшні пачуўся страшэнны шум: коні іржалі, адчайна брахалі і вішчэлі сабакі, Ксеніны сабакі. Ксеня змярцвела. Уявілася, што гэта дыверсанты! Забіраюць коней! Што рабіць?! Вахценнаму матросу, якім на той час была Маруся, дзяўчына мажная і спакойная, быў дадзены загад страляць у паветра. Сам жа дзяжурны афіцэр па палявым тэлефоне звязаўся з суседняй часцю і запатрабаваў неадкладна выслаць узброены нарад. Усіх узнялі на ногі. Салдаты на чале з маладзенькім лейтэнантам абкружылі хлеў і пасвяцілі электрычным ліхтаром у сярэдзіну. І тут усе ўбачылі «дыверсантаў»: галодных вясковых сабак, якія пранюхалі, што тут іх сваякі грызуць косці. Калі няпрошаныя госці палезлі ў хлеў, гаспадары пачалі з імі грызню. Сабакі круціліся клубком пад нагамі ў коней, а коні іржалі і адбіваліся ад сабак капытамі.

Сабачая дыверсія так не прайшла. Начальнік шпіталя выклікаў да сябе дзяжурнага афіцэра і, схапіўшыся за галаву, прастагнаў:

— І што мне з вамі рабіць! На гаўптвахту пасадзіць ці паслаць з вахценным на камбуз абіраць бульбу?

«Хай бы лепей бульбу»,— падумала Ксеня. Гэтак было і зроблена.

А праз тыдзень новая бяда. Зноў няўрымслівая Ксеня паставіла камандаванне ў нялёгкае становішча.

Чакалі высокіх гасцей. З дня на дзень павінны былі прыбыць флагманскі хірург і вялікі начальнік з галоўнага палітычнага ўпраўлення.

Усе рыхтаваліся і хваляваліся. І, як на бяду, зноў дзяжурны афіцэр — лейтэнант Вятрова.

І вось да прахадной падкаціла бліскучая чорная машына, а з яе выйшлі два маладыя палкоўнікі. Ксеня набірае поўныя грудзі паветра, каб на ўвесь гарнізон гукнуць: «Смірна!». І раптам бачыць, што адзін з гасцей — былы галоўны хірург шпіталя, яе верны абаронца, сабрат па самадзейнасці, натхнёны партнёр на сцэне. І ў тую ж секунду, пакінуўшы каманду, Ксеня з віскам кідаецца яму на шыю. «Ксенечка, Птушка! Во дзе ты жывеш!» — і флагман кружыць Ксеню, якая вісіць у яго на шыі.



Праз некалькі гадзін, калі госці паехалі далей па дарогах вайны і жыццё шпіталя зноў набыло свой нармальны ход, дзяжурны афіцэр Вятрова стаяла перад камандаваннем.

Яна яшчэ спрабавала апраўдвацца і штосьці гаварыла пра самадзейнасць, пра тое, які гэта цудоўны хірург і чалавек, але нішто ёй не памагло.

Здаўшы дзяжурства, яна адправілася на «губу».

Лета 1943 года. Рашучы пераход у генеральнае наступленне, буйныя перамогі Чырвонай Арміі і стабілізацыя на Ленінградскім фронце. Мы прывыклі да абстрэлаў. Штодзень я абходзіла параненых, мяняла кнігі, чытала ўголас. Вельмі крыўдзіліся на выбар кніг: іх было мала, аднастайныя, а ў тыя дні была асаблівая прага духоўнага ўзбагачэння, імкненне да сапраўднай літаратуры, дзе паказваецца прыгожае, цудоўнае ў жыцці. Я прыносіла з дому тое-сёе з мастацкіх кніг. З-за гэтых кніг, а праўдзівей, з-за малюнкаў у іх, сварыліся. Прасілі што-небудзь пра каханне... «Няўжо нічога няма?» Адкуль мне было браць кнігі пра каханне? Вельмі ў нас іх мала. А калі і трапляліся такія, найбольш перакладныя, раманы, дзе пра каханне і страсць гаворыцца адкрыта, без абмежавання ўмоўнай цнатлівасці, дык іх зачытвалі да дзюрак.

Гэтая натуральная патрэба моладзі — марыць, думаць, гаварыць пра каханне, пра жанчыну так, каб дыханне займала — у нас не заахвочваецца. Гэта «табу». Зрэшты, узамен выдаецца рэцэпт сямейнага шчасця, узгоднены з медыцынскімі звесткамі з гэтай страшнай галіны. Вось талстоўства на новы лад!

Мне было прыкра. Хоць садзіся ды пішы сама пра гэтае самае каханне з усімі яго салаўямі, пацалункамі і хваляваннямі.

З параненых, якія не прасілі кніг, запомніўся Міця, малады настаўнік з Далёкай Поўначы, які страціў руку. Міця ўпарта маўчаў, сарамліва ўсміхаўся і адводзіў убок невясёлы позірк. Ён тэмпературыў і пакутаваў ад нагнаення, урачы з ім шмат вазіліся. Але ніхто не чуў, каб ён калі на што скардзіўся.

Я доўга не магла падабраць ключ да яго, хоць ён быў вельмі ветлівы, з нейкай сарамлівай удзячнасцю за кожную нават найменшую паслугу адказваў мне. Нарэшце я ўсё-ткі выведала, што ў яго ёсць жонка Каця, ён не хоча, каб яна ўведала пра яго няшчасце, і вырашыў не вяртацца да яе. Як гэта здаралася на вайне неаднойчы, ён баяўся сапсаваць жыццё каханай жанчыне і лічыў, што лепей хай яна перажыве гора адразу, чым будзе пакутаваць з калекам усё жыццё.

Я падумала — ці не якая асаблівая красуня яго Каця, калі з гэткім страхам ён думае пра сустрэчу з ёю ў сваёй бядзе? І ўсё-ткі я ўведала яе

адрас; нічога не кажучы Міцю, паслала ёй пісьмо, а пасля пакутавала ад сумненняў і страху. Але яна прыехала, яна прымчалася ў Ленінград, знайшла мяне ў шпіталі, і я яе завяла да мужа. Трэба было бачыць іх сустрэчу, якая адкінула ўсе нашы домыслы, сумненні і страхі. Убачыўшы жонку, Міця працягнуў да яе сваю адзіную руку. Яна пастаяла на месцы з шырока расплюшчанымі, светлымі, поўнымі слёз вачыма, потым упала да яго на грудзі. Ён разгублена ўсміхаўся, гладзіў яе светлыя растрапаныя валасы. Гэтак яны ляжалі моўчкі, не саромеючыся слёз.

Пажылы салдат з перавязанай галавой, які звычайна шмат бубніў, прыдзіраўся да суседзяў, узнімаў крык з-за глупства, ціха выйшаў у калідор пакурыць, а ўслед за ім захацелі курыць і ўсе хадзячыя. Ляжачы сусед заплюшчыў вочы; сястра была сунула ў палату сваю цікаўную мордачку, але спешна прычыніла дзверы...

Гэтыя маленькія адступленні прыйшлі мне на памяць тады, калі я думала пра Ксеню, якой каля мяне ўжо не было. Мне яе вобраз адкрыў і растлумачыў тое, што недаацэньвалася раней; яна стала нібы жывым увасабленнем жаночай душы нашага часу, дзе нацыянальнае і савецкае злілося ў адно.

18 студзеня 1943 года. Сляпучая марозная раніца. У бібліятэцы шпіталя цішыня. Ружовыя водбліскі на сценах. Па радыё перадаюць адажыо з «Лебядзінага возера». Ні ў шпіталі, ні за вокнамі няма нікога. Горад чакае. Чаго? Увайшоў мой старэйшы сын, палкоўнік, які прыехаў з фронту, абняў мяне, і мы знерухомелі ад неўсвядомленага чакання.

І тады адбылося тое, чаму мы не адразу маглі знайсці назву. Радыё сціхла. У глыбокай цішы грымнулі, вухнулі ўсе гарматы горада разам. Здавалася, сам горад уздыбіўся, зароў і ашчацініўся.

Успомнілася землетрасенне, перажытае з малым у Крыме. Жах невядомага, захапленне ад таго, што стала зразумелым.

Паветра дрыжэла, зямля скаланалася. Мы стаялі, не заўважаючы сваіх слёз.

Так пачалося для мяне наша вялікае наступленне. Артылерыйскі шквал не сціхаў, як мы дазналіся пасля, сто хвілін. Ім была змецена першая лінія фашысцкіх умацаванняў пад Пулкавам, пачаўся штурм і цяжкія баі за поўнае вызваленне ад блакады...

І вось — 9 мая!

Адсвяткавалі. Адгрымелі салюты, і нагаманіліся людзі. Пачаліся будні аднаўлення, гады напружанай працы. Раны, прычыненыя вайной, залечваліся не адразу. Слёзы па тых, што загінулі, не вярнуліся, высыхалі на ветры. «Усё роўна — хто ўпаў, не падымеш, усё роўна — хто адышоў, не вернеш». Доўга яшчэ недаядалі. Вярнуўшыся з эвакуацыі, мой сынок быў падобны на дзікае, згаладалае ваўчаня. Шмат перажыў і ён: і смерць бацькі, і адзіноту.

Але трэба было будаваць жыццё нанава. На мне цывільная вопратка. Якая гэта вялікая радасць — зноў убачыць сябе жанчынай, хоць і з пабялелай галавой. Першы час на вуліцах даводзілася моцна трымаць правую руку, каб не казыраць па прывычцы.

На вуліцах расла трава. Козы яе скублі. З'явіліся дзеці. У парку каля свайго доміка заспяваў шпак сваю скрыпучую любоўную песню. Мы будавалі жыццё на руінах. За два гады па горадзе прайшлі і пераможцы і пераможаныя. Першых сустракалі кветкамі, ад другіх адварочваліся. Шмат было шчаслівых сустрэч, але шмат і слёз, бо густа былі замешаны радасць перамогі з горам страт..

Здарылася і ў мяне шчаслівая сустрэча.

Улетку падвечар, калі ідзеш па Неўскім у бок Адміралцейства, сустрэчнае сонца не дае глядзець наперад, даводзіцца жмурыцца і штурхацца сярод людской плыні.

Наляцеўшы на кагосьці, я з прыкрасцю замітусілася: куды я, туды і ён, паўтарае мае рухі. Расплюшчыўшы вочы, я ўбачыла перад сабою Ксеню, Ксенечку з бліскучымі вачыма і хрыплаватым смехам. Ад радасці мы пачалі абдымацца, як гэта робяць баявыя таварышы, ляпаючы адна другую па спіне.

Ксеня, каб парадаваць старую какетку, гаворыць смеючыся:

— А вы ўсё такая самая, маладая і прыгожая! Бабулькі з вас, відаць, не будзе!

— Ну, дзіва што! Мы ў агні не гарым, у вадзе не тонем, і старасць нас не бярэ. Але ж і ты з таго самага цеста!

Мы пайшлі да яе дамоў. А дома, у яе пакоі,— ніякіх слядоў ад вайны: усё на месцы, чысціня, парадак (бываюць жа гэткія людзі!). Ксеня ставіць на стол розныя пачастункі — адкуль толькі ўзяла? І гаворыць з гордасцю:

— Гэта я ўчора гасцей прымала, усё сама сатварыла, нібы ведала, што і вы сёння прыйдзеце!

І пакуль яна клапоціцца і гамоніць, я разглядаю яе. Нібы і тая самая Ксеня: спрытныя рукі, блакітныя вочы і прыўзнятая верхняя губа адкрывае зубы, ад чаго ўсмешка заўсёды напагатове, вось-вось пырсне па ўсім твары. Але ёсць і нешта новае, што засланіла дзяўчынку-свавольніцу. Перамену адразу вызначыць цяжка, але, гледзячы на Ксеню, думаеш аб тым, як вайна перакройвае людзей. І яшчэ, што затоены клопат і трывога робяць яе старэйшай. Ці ўсё ў яе добра? Каго яшчэ магла яна страціць? Я спыніла яе гамонку:

— Давай, Ксеня, расказвай галоўнае!

— Галоўнае? — і, смеючыся да вушэй, Ксеня выцягнула з-за шафы, якой адгароджана частка яе вялікага пакоя, дзіцячую каляску.— Во яно!

— Ну!! — сказала я і, не верачы вачам, сунула нос у каляску. Там спала «яно». Як заўсёды, калі гляну на будучага чалавечка, я адчула цёплы штуршок у сэрца. Але тут я хмыкнула няпэўна:

— Ну, куды ты з ім, адна?

І яшчэ падумала, што не час цяпер раджаць. Але гэтага не сказала. І добра зрабіла — без слоў лепей.

Ксеня дапытліва паглядзела мне ў вочы і запыталася з усмешкай:

— Харошы?

— Ну, вядома ж, харошы!

Ксеня ўсміхнулася на мае затоеныя думкі.

— Я раскажу ўсё, што было са мною пасля таго, як мы рассталіся. І згубілі, і знайшлі адна адну. І не магло быць іначай.

Яна ўзялася расказваць сваю няхітрую і слаўную гісторыю дзяўчыны ваенных гадоў.

Яна апынулася ў Клайпедзе, партовым горадзе каля германскай граніцы. Працавала хірургічнай сястрой у манеўранай групе. Тады гэткія групы ствараліся ў дапамогу армейскім шпіталям. Начальнікам быў вядомы і вопытны хірург, яго паслалі туды таму, што становішча было вельмі напружанае: ішлі апошнія баі, удзень і ўночы з перадавой навалам везлі параненых. Тут і Ксені дасталося; перажыла ўсё тое, аб чым марыла, калі ішла на вайну. З усімі сваімі здольнасцямі і самааддачай, бясстрашшам і дабрынёй, а можа якраз у сілу сваёй няўпыннай дабрыні і спагады, яна часам гублялася ад відовішча пакут і крыві і падала духам. Уцячы б куды вочы глядзяць, ды не ўцячэш! А да таго ж **ён** не губляўся. І трэба было стаць вартай яго дружбы, проста памагчы яму, бо і яму патрэбна была дапамога. Ён, Сяргей Іванавіч, начальнік групы, пажылы чалавек, худы, у акулярах, з сіваватай, коратка пастрыжанай галавой. Што яшчэ можна было сказаць пра яго? Маўклівы, рассеяны і вельмі ветлівы. Ніякіх асаблівых прыкмет, акрамя, бадай, дзвюх зморшчын, якія праразалі твар уздоўж шчок; дзве каляіны — глыбейшыя, чым належала па ўзросце, а калі ён здымаў акуляры, позірк яго светлых вачэй у цёмнай кайме павекаў быў бездапаможны і дзіцячы. Але варта было яму надзець белы халат і падысці да аперацыйнага стала, як ён ператвараўся ў льва. Кожны, хто робіць з майстэрствам сваю работу, выклікае спачуванне і павагу, ну, а хірург — тым болей. Ксеня, натуральна, закахалася ў чалавека, які ўвасабляў для яе вобраз любімай прафесіі, усе якасці, якія яна сама хацела б мець.

...Ідзе аперацыя. Белыя, запырсканыя крывёю халаты, яркае святло над распасцёртым целам. Лёгкі звон інструментаў ды зрэдку ціха і ўладна вымаўленае слова. І заварожаныя рухі Ксені каля стала з інструментамі. У нетрах чалавечага цела вялікія, умелыя рукі хірурга арудуюць з такім дзелавым спакоем, з якім корпаюцца ў машыне шаферы ці механікі.

Нарэшце Сяргей Іванавіч выпростваецца, глуха вымаўляе:

— Усё. Канчайце,— і адыходзіць ад стала.

Побач з аперацыйнай — пакой з канапкай і пісьмовым сталом. Калі б ні скончылася аперацыя, Сяргей Іванавіч лажыўся не адразу: Ксеня прыносіла яму шклянку гарачага чаю. Ён сядзеў у крэсле каля стала з газетай у руцэ і, здаецца, не мог чытаць. На ціхія Ксеніны крокі аглядваўся, нібы здзіўляючыся кожны раз, што яна прыйшла. Здымаў акуляры, праціраў пальцамі цёмныя павекі запалых вачэй і казаў:



— Гэта ты, дружок? Чаму не спіш? Ідзі адпачні.— Часам дадаваў: — ...Галубачка.

Ксеня садзілася на падлогу каля яго крэсла і замірала, паклаўшы кучаравую галаву яму на калені. Яны адпачывалі разам. І гэта было шчасце.

Са здзіўленнем іншы раз Ксеня ўспамінала сваё мінулае, свае захапленні і прыгоды. Усё гэта быў адзіны паток спроб і памылак. У час вайны для многіх гэта былі непераборлівыя пошукі суцяшэння. Прага спатольвалася іншы раз чым папала, і ад гэтага заставаўся смак мыла ў роце. Да Ксені ў агні і крыві прыйшло шчасце; было яно атручана асуджанасцю і ад гэтага рабілася ярчэйшым.

У Клайпедзе надышла нечаканая перадышка. Полк стаяў у вёсачцы, усе жыхары якой пахаваліся ці паўцякалі. Ксеня, праспаўшы прынамсі суткі, устала ачмурэлая і вылезла на двор панюхаць вясну.

Прайшлі дажджы. Вецер налятаў на лужыны і размахваў веццем кустоў пад вокнамі доміка. Пасярод двара на кучы гною ашалела шчабяталі вераб'і. І сонца свяціла на ўсю сілу.

За парканам і зялёнай лагчынай з боку гайку нечакана заляскалі стрэлы. Ксеня насцярожылася. Бязладная страляніна не была падобная на франтавую перастрэлку, але Ксеня спалохалася, паспрабавала зачапіцца за рукаў чыйгосьці бушлата. Хлопцы прамчаліся міма да будынка палітаддзела, і Ксеня пусцілася ўслед, убегла ў хату і, не разабраўшыся ў абставінах, пачала крычэць, што страляюць. У адказ з дыму і смеху перапоўненай народам хаты пачуліся здзіўленыя выгукі:

— Ды ты што?! З неба звалілася? Нічога не ведаеш? Учора ж яшчэ падпісаны акт капітуляцыі!

У рукі Ксені нехта сунуў баявы лісток. Тады нарэшце да яе дайшло: канец вайне! Стралялі ад радасці! Яна выйшла з хаты ў натоўп, дзе весяліліся і гаманілі матросы, пакрычэла з усімі разам, паплакала і пацалавалася, а потым шмыганула за вугал дому, села на бервяно і сціхла. Ёй была пра што падумаць. Яна заставалася адна. З кім падзяліць радасць перамогі, мары пра будучыню?.. Няма з кім. Ён цяпер не яе. Каханне з ім цяпер забаронена, яно павінна знікнуць разам з вайной. І напярэдадні самае страшнае, аб чым яна нікому не казала, адмахвалася з надзеяй, што ўсё як-небудзь абыдзецца само. Яна папалася. А час ішоў, і некалі было думаць, што будзе. Усё жыццё было тут, на гэтай запырсканай крывёю лагчынцы. І апроч гэтага жыцця, гэтай работы і абяздоленага кахання нічога не існавала.

«Што ж,— думала Ксеня,— паеду не развітаўшыся, нічога яму не скажу. Трагедыі тут не да месца. Ён не з тых, што могуць ісці супроць усіх у асабістым жыцці. Ён не створаны для бурных перажыванняў і ўсялякіх псіхалагічных эксперыментаў. Супрацьпаказана. Ён бы не вытрымаў, сумленне загрызла б насмерць ад віны перад жонкай, дзецьмі. Даволі і таго, што ён перажыў са мною, што перажывае, калі страчвае мяне. Галоўнае для яго — праца і спакой душы. Ён сказаў мне аднойчы: «Вось, на старасці гадоў пакахаў цябе, і гэтак, як не кахаў ніколі. На гора сабе і на радасць, і чаго болей — не ведаю сам».

І нельга мне яго пакрыўдзіць. Хай застаецца адна радасць у яго ўспамінах. Мужчыны — народ слабы. У іх заўсёды застаецца нешта дзіцячае і жаласнае. За гэта мы іх і любім. А ў кім дзіцячага няма — тыя не сапраўдныя».

Наступным вечарам адбылася важная для Ксені падзея. Яна канчаткова вырашыла будучую прафесію.

Усё начальства выехала ў Лібаву, і дзвюм дзяўчатам, што засталіся ў Клайпедзе, даручылі сабраць і ўкласці медыцынскі інвентар.

Нечакана падвечар два салдаты прынеслі насілкі.

— Хто тут прымае параненых?

Ксеня выскачыла насустрач і замахала рукамі:

— Урача няма, медыкаментаў няма, работу закончылі.

— На міне падарваўся,— сказаў у адказ адзін салдат.

Яны паставілі насілкі на падлогу і выйшлі.

На насілках ляжаў хлопчык гадоў дзесяці, вельмі бледны, з застылым позіркам, кісць яго рукі вісела на абрыўках тканак, белыя костачкі былі відаць, і кроў цякла з раны. Хлопчык не стагнаў, не плакаў, ён быў у шоку.

Ксеня схапілася за галаву і заплакала. Што было рабіць?! Як памагчы? Як маглі яны ўзяцца за аперацыю? Ды яшчэ без анестэзіі!.. Нічога, апроч морфію, што выпадкова застаўся ў паходнай сумцы.

— Ой, бяда якая! Машка, што рабіць, што рабіць?!

Маша, дзяўчына спакойная і разважлівая, сціснула ёй локаць і ціха сказала:

— Сціхні... Ты ж добра ведаеш, што ён памрэ, калі не зрабіць аперацыі. Чакаць Сяргея Іванавіча мы не можам — калі ён прыйдзе! Трэба зараз жа рабіць, зразумела?

— Дзіва што зразумела!

І Ксеня ўзяла сябе ў рукі. Яна і сама ведала, што аперацыю рабіць будзе, але выкрычацца было ёй неабходна. У галаве ў яе круціўся адзін медыцынскі выраз: «Умяшанне па жыццёвых паказаннях» — гэта як апраўданне, як дазвол.

І Ксеня набралася адвагі.

Дзяўчаты наклалі жгут, каб спыніць кровацячэнне, абклалі хлопчыка грэлкамі, далі гарачага чаю, і ўсё пайшло само сабой, без супынку і без страху. Так, як бывае на экзамене, калі раптам перастаеш дрыжэць і ўсё ў галаве становіцца на сваё месца. Ксеня зрабіла адзінае, што магла: увяла морфій. Адзін раз, счакаўшы — яшчэ раз, і ўсё.

А потым, надзеўшы халат, памыўшы рукі, яна падышла да стала. Старалася не глядзець у твар хлопчыку і не слухаць стогнаў. Яна жартавала з ім, як магла, рабіла ўсё лёгка і асцярожна. А сястра Маша ў той час, наваліўшыся на хлопчыка, думала адно: толькі каб не пачаў кідацца. Але ён не кідаўся, ён толькі пішчэў.

Калі Ксеня пераканалася, што ўсё зроблена як трэба, яна раскісла,



пайшла ў куток, лягла на тапчан і ўжо не ўставала. Але і заснуць не магла.

Позна вечарам прыехаў Сяргей Іванавіч. Ксеня чула, што ён ціха размаўляў з Машай, якая сядзела каля хлопчыка. Той спаў. Потым Сяргей Іванавіч з ліхтарыкам у руцэ пачаў шукаць Ксеню паміж пустых ложкаў. Знайшоў. Сеў на краёк тапчана і запытаўся, усміхаючыся ў змроку:

— Ну як? Вельмі страшна было?

Ксені не давалі гаварыць спазмы ў горле. Ён нахіліўся і пацалаваў яе.

Яна і раней ведала, што пойдзе ў медыцынскі інстытут, каб яго скончыць. Да вайны яна з гэтага пачала сваё свядомае жыццё. Але пра тое, каб стаць хірургам, Ксеня баялася і думаць. Бывала, Сяргей Іванавіч злаваў на яе ў час аперацый. Ды яшчэ як злаваў — успомніць страшна. Пасля Ксеня пакутавала за сваю бесталковасць, а ён выгаворваў ёй спакойна і спагадліва: нельга быць эмацыянальнай і парывістай у рабоце. Трэба вучыцца кіраваць нервамі, вучыцца быць засяроджанай. Без гэтага — справа прапашчая, не быць хірургам.

Неўзабаве Ксеню дэмабілізавалі. Тады яна не вытрымала і прыйшла да Сяргея Іванавіча развітацца. Уночы яна яму ўсё расказала. Не думала, што ўсё гэта ён будзе перажываць цяжэй, чым яна. А можа, мужчынскія слёзы гэтак уражваюць, што здаюцца страшнейшымі за жаночыя?

Тады яны амаль не маглі гаварыць. І Ксеня думала: хай выплачацца. Ён — як дзіця, у якога нечакана адабралі цацку, а можа, і што большае. Пасля яны ўсё-ткі пагаварылі, як быць далей Ксені. Ён прасіў яе — калі будуць цяжкія хвіліны, хай яна звяртаецца да яго, ён паможа. Абяцаў, што і так будзе памятаць і памагаць рэгулярна. Яны дагаварыліся, што раніцай яшчэ раз пра ўсё пагавораць: нельга ж гэтак, наспех, і трэба запісаць адрасы. Нарэшце, знямоғаны, ён заснуў і ўздрыгваў праз сон. А калі развіднела, Ксеня ціхенька прыняла яго руку, якая замінала ёй устаць, паціху адзелася і выйшла на мокрую шашу, па якой ішлі ваенныя машыны на ўсход. Прагаласавала і паехала. У машыне яна дaплаквала сваё гора на вачах у салдатаў. Яны — нічога, не здзіўляліся.

— Дык ты з ім больш і не бачылася?

Ксеня ўсміхнулася:

— Вы ж ведаеце, што без лукатак не пражывеш і поля простай дарожкай не пройдзеш. Убачыліся. Ён знайшоў мяне. Усё не так проста робіцца. А можа, гэта я толькі так пакутую? Як вы думаеце? Можа, і другія, ды не толькі асобныя людзі, а і ўся гісторыя чалавецкая ўлукаткі ідзе?..

Ну, вось... Прыехала, абжылася. Мяне прынялі на вячэрняе аддзяленне інстытута. На трэці курс. І нарадзіла Арцёмку. І адгуляла, што належыць. Во колькі ўсяго!

— Як жа ты,— пытаюся,— адна справілася?

— Адна? Дзіва што адна! Ды адбою ад сяброў не было! А найболей памагаў мне — хто б, вы думаеце?.. Ну, ён, вядома, Федзя!..

— Вось чалавек! — кажу я і з усмешкай успамінаю яго мядзведжую гламаздаватасць і добры спакойны позірк.

— Ну! — адказвае Ксеня.— Цудоўны! Але што зробіш: відаць, занадта ўжо харошы. Гэткага і любіць цяжка і дараваць яму няма чаго... Як толькі нарадзіла, пачалі прыходзіць перадачы невядома ад каго. У бальніцах бабкі ад нудоты ўсе свае сакрэты расказваюць і ўсё ведаюць адна пра адну. Ну, і пра мае справы, вядома, ведалі — давер за давер... Нельга іначай: пакрыўдзіш! Шкадавалі мяне і палохалі, колькі я ні казала, што не крыўдую на свой лёс і нічога не баюся.

Калі прыйшла першая перадача ад яго, яны ўсе ўзрадаваліся і пачалі віншаваць мяне. З таго часу я пачала чакаць. І ён прыйшоў, як толькі я вярнулася з бальніцы, каб развітацца астатні раз...

— Ох, бязбацькавіч, не даеш ты нам пагаварыць! — Ксеня выцягнула свайго крыкуна Арцёма з каляскі, памяняла пялёнкі і пачала карміць.

Мне не захацелася парушаць добрую цішыню і замінаць ім. Я пацалавала схіленую кучаравую галоўку і запыталася ціхенька:

— Усё ў парадку?

Ксеня ўзняла на мяне спакойныя вочы і ўсміхнулася.

— Усё,— сказала яна,— цяпер усё ў парадку.

Белай ноччу я вярталася на Васільеўскі востраў. Над нябачным морам патухала вячэрняя зара, а там, за Петрапаўлаўскай цытадэллю, ужо свяцілася неба.

Жыццё ішло сваім парадкам.

Пераклала
Алена Шарахоўская



## НАШ ГОСЦЬ — „АВРОРА"

## ПАЭЗІЯ



*Уладзімір Тарапыгін*

■

Толькі гмахаў каменныя цені,
ды сюды з першым ветрам вясны
даляцела з нябёс шапаценне
і трымценне пявучай струны.

Аж паверыць было незвычайна,
што над ранішняю сінявой
незнаёмае гэта гучанне —
проста майскі прылёт журавоў.

Уяўляеце? Недзе над дахам,
над халодным гранітам Нявы,
над каменнай маўклівасцю гмахаў —
журавы,
        журавы,
                журавы.

■

Паклон вам, ленінградскія дамы!
Застыўшы караблямі на прычале,

вы мне ключы ўручалі, выручалі
і грэлі сярод лета і зімы.
Паклон вам, ленінградскія дамы!

Я помню дом насупраць каланчы,
высокі, ля Абводнага канала,—
тады было гадоў мне гэтак мала,
а ён мяне так многаму вучыў!
Я помню дом насупраць каланчы...

А дом, дзе ты, каханая, жыла?
Няхай дамоў святлейшых сёння многа,
але няма мне болей дарагога —
Гагарынская, першы ад вугла!
Ах, дом, дзе ты, каханая, жыла!..

Ёсць і другія добрыя дамы:
у гэтым верш я напісаў калісьці,
люляў дачку маленькую ў калысцы,
а ў тым з сябрамі балявалі мы.
Ёсць і другія добрыя дамы!

Дом, дзе жыву, і ты прымі паклон!
Хаця цябе я пакідаю часта,
але і ты мне даў часцінку шчасця,
ты прытуляў і клопат мой і сон.
Дом, дзе жыву, і ты прымі паклон!

Паклон вам, ленінградскія дамы!
Застыўшы караблямі на прычале,
вы мне ключы ўручалі, выручалі
і грэлі сярод лета і зімы.
Паклон вам, ленінградскія дамы!



Зірніце, у горадзе — белыя ночы.
Адкрылася гораду ў людзях краса ўся,
і ён прачытаць жыхарам сваім хоча
верш, што раптоўна ў яго напісаўся.
Радкі ў ім —
прамыя і звонкія вуліцы,
рыфмы —



не чутыя ў свеце дазвання.
У вершы гэтым цудоўна рыфмуюцца
слёзы і шчасце,
любоў і прызнанне.
Радасцю
кожнае слова клякоча,
гарэнне трапеча,
застыць не паспеўшы...
Чуеце, чуеце?
Белаю ноччу
горад чытае лірычныя вершы.



Можна ў лес па неруш прыходзіць.
Можна ў лесе вершы знаходзіць.
Ей, паэзіі, да спадобы
жыць пад елкай ці ля ажыны...
Калі трэба каму — я добры,—
пакажу ўсе свае мясціны.

Пераклаў
Генадзь Бураўкін



толькі ласкава паглядзеў на жонку. Марыя Аляксандраўна сарамліва заўсміхалася і таксама не знайшла, што сказаць. Умяшалася дачка Галя:

— Не, тады нас ужо сямёра было...

Старэйшаму сыну, Уладзіміру— 33 гады, самаму малодшаму, Ігару— шэсць. Мне, староннему чалавеку, адразу нават цяжка запомніць імя кожнага, не тое што разабрацца, дзе хто працуе ці вучыцца, якія ў каго схільнасці і здольнасці.

Маці з прыемнасцю расказвае пра сваіх дзяцей. Сярод іх ёсць выдатны муляр і паважаны слесар, работніца сталовай і рабочыя льнокамбіната, начальнік паштовага аддзялення і студэнтка педвучылішча. Дома можна стварыць камсамольскую арганізацыю і піянерскае звяно.

Пра аднаго сына маці расказвае з роспаччу і крыўдай:

— Ведаеце што, ажаніўся, пачаў выпіваць. Мы яго і саромелі, і ўгаворвалі...

Бацькі—людзі рабочыя і патрабуюць ад дзяцей, каб сумленна трымаліся добрых сямейных традыцый.

У вялікія святы Марыя Алясандраўна прышпільвае да кофты ордэн «Маці-гераіня». Робіць гэта з прыкметным хваляваннем. І вось тады ўнукі—а іх ужо шэсць—наперабой лезуць на рукі да бабулі пакратаць гэты цікавы «значок». Марыя Аляксандраўна песціць малых. Твар яе свеціцца шчаслівай усмешкай.

А ў нашых колішніх суседзяў быў адзін сынок, і яны часта ўздыхалі: «Даканае ён нас. О-о-о, і замучыліся ж мы з ім».

З цікавасцю прачытаў пісьмы Максіма Горкага да сына. Зайздросныя адносіны існавалі паміж імі: даверлівыя, простыя, як у сапраўдных сяброў. «Мой дарагі сябар», «любы мой сын», «сын мой уласнаручны», «адзіны мой блізкі чалавек», «дарагі таварыш сын»,—так звяртаўся пісьменнік да свайго наследніка. У пісьмах Горкага шмат такіх радкоў, якія могуць быць аўтарытэтным адказам на пытанне: «Што значыць знайсці сябе ў жыцці?»:

«...Галоўнае, міляга мой, імкніся ведаць больш, а па магчымасці—усё: і музыку, і навуку, усё, чым прыгожае жыццё. Чым больш чалавек ведае, паўтараю табе, тым цікавейшы і даражэйшы ён для людзей.»

«...Мне ўсё хочацца, каб ты ў мяне быў паэтам, музыкантам, вучоным, трэба кім-небудзь быць, а то вельмі сумна і стамляюча на гэтай зямлі.»

«...Гэта, брат, таксама добра, не знайсці спакою, таму што тыя людзі, якія знаходзяць у жыцці спакой,— пры жыцці і становяцца нябожчыкамі.»

«...Вучыся. Гадоў праз 30—35 ты сам пераканаешся, што навука куды больш прыемная, чым жанчыны, тытунь, віно і іншыя асалоды жыцця...»

Сёння ў зале бюро ЦК ЛКСМБ шмат гасцей—каманда савецкіх гімнастаў. Спартсмены праходзілі трэніроўку ў нашай рэспубліцы. Праз дзень яны паедуць у Мюнхен на XX Алімпіяду.

Звычайныя юнакі і дзяўчаты. Гэткія ж вясёлыя і сарамлівыя, як і ўсе. Але пад іх блакітнымі элегантнымі касцюмамі—сталь мускулаў, пра якія Маякоўскі пісаў: «Няма на свеце цудоўней вопраткі, чым бронза мускулаў і свежасць скуры».

Сярод нашых гасцей—Оля Корбут, Люда Турышчава, Тамара Лазаковіч, Тоня Кошаль, Міша Варонін, Мікалай Андрыянаў...

Усе мы хваляваліся тады—і ад такой блізкай сустрэчы, і ад прадчування будучых стартаў у Мюнхене. Не маглі ўтаіць гэтага хвалявання і праслаўлены генерал Герой Савецкага Саюза Іосіф Сямёнавіч Жыгараў, і сакратар камітэта камсамола будаўнічага трэста Саша Драздоў, і камсорг каманды гімнастаў, абсалютная чэмпіёнка Еўропы Людміла Турышчава.

На развітанне гаварыў першы сакратар ЦК ЛКСМБ Уладзімір Падрэз. Ён уручыў алімпійцам наказ камсамольцаў і моладзі рэспублікі, у якім былі такія радкі: «Будзьце ж смелымі і рашучымі, настойлівымі і мэтанакіраванымі, дужымі і спрытнымі. Ведайце, што ў хвіліну напружанай барацьбы мы будзем у думках



побач з вамі. Чакаем вас дадому з найвышэйшымі алімпійскімі ўзнагародамі. Чакаем з перамогай!»

Цяпер мы ўжо ведаем, якімі героямі сталі ў Мюнхене нашы гімнасты, колькі золата і срэбра дасталося нашым спартсменам.

Моладзь і спорт. Ёсць у іх шмат агульнага, што аб'ядноўвае і родніць: прыгажосць і мужнасць, сіла і грацыя, спрыт і адвага. Усяго гэтага не так ужо і мала для развіцця гарманічнай асобы.

Сын народа, волат думкі, чараўнік слова, пясняр савецкага брацтва, вучоны, грамадскі дзеяч—гэта ўсё пра выдатнага пісьменніка, незабыўнага Якуба Коласа. Гэта ўсё шчасліва спалучалася ў адным чалавеку. Якой жа сапраўды чалавечай глыбай трэба быць, каб увабраць усё гэта ў адной асобе!

Сёння дзень нараджэння дзядзькі Якуба. 90 гадоў яму. Як жывы, выйшаў ён на адну з цэнтральных плошчаў Мінска, прысеў на хвілінку, задумаўся. У руцэ—запісная кніжка. А вакол—дамы-гмахі, філармонія, паліграфічны камбінат, інстытут фізкультуры.

Сёння, у дзень урачыстага свята, імя Коласа, творы яго—у сэрцы кожнага юнака і дзяўчыны. Хто з нас не ведае ўзнёслых слоў паэта пра савецкую моладзь, слаўны Ленінскі камсамол:

Прывет вам, племя маладое,
Зямель савецкіх яснацвет:
Дарога ваша—шлях герояў,
У новы дзень бліскучы след...

Бронзавай фігурай выйшаў на плошчу Якуб Колас. А ў сэрцах кожнага з нас ён—жывы. З намі яго літаратурныя героі—і легендарны дзед Талаш з сынам Панасам, і Сымон-музыка з Ганнай.

З сённяшняга дня яны разам з песняром будуць вітаць на плошчы мінчан і іх шматлікіх гасцей.

На Коласава свята прыехалі прадстаўнікі братніх народаў. З гонарам і ўдзячнасцю гавораць яны пра яго.

Узбек Ібрагім Рахім: «Ён—аксакал усёй нашай савецкай паэзіі».

Украінец Барыс Алейнік: «Колас— зорка першай велічыні на небе вялікай савецкай літаратуры».

Казах Хамід Ергаліеў: «Якубамата любоўна называюць яго ў Казахстане».

Малдаванін Богдан Істру: «Ён застаецца для нас прыкладам вернага служэння Савецкай Радзіме».

Сын народа... Які просты і разам з тым глыбокі сэнс гэтых двух слоў!

На сходзе было сумна. Ці то сорам стрымлівае ўсіх, ці то сапраўды гаварыць няма пра што? Ні ў тое, ні ў другое не хацелася верыць. У зале ж—моладзь! Няўжо ж яны, гэтыя юнакі і дзяўчаты, такія лянотныя на думку і такія абыякавыя да свайго ўласнага быцця?

Раптам падняўся з апошняга раду юнак. Прыгладзіў непаслухмяны чуб, памаўчаў, потым выпаліў:

— Мы—як арэхі ў торбе! Усе разам, а кожны ў сваёй шкарлупіне.

Зала заварушылася.

А калі хлопец сеў, адразу папрасілі слова некалькі чалавек.

— Сапраўды, крыўдна быць разам і ў той жа час—кожны паасобку. Гэта ж праяўленне эгаізму і мяшчанства,—падтрымала прамоўцу дзяўчына.

— Я за тое, каб людзі былі актыўныя, не гарадзілі платоў паміж грамадскім і асабістым,—гаварыў юнак у акулярах.

— А я за шкарлупіну!—гукнуў хтосьці.—Арэхі розныя—па смаку і па велічыні. Так і людзі. Што ні чалавек, то натура...

Тут жа ўключылася ў гаворку яшчэ некалькі чалавек. Ад былой абыякавасці не засталося і следу. Што значыць падкінуць жывую думку, закрануць набалелае!

Якая гэта страшная штука—шкарлупіна абыякавасці! Як яна часта перашкаджае чалавеку жыць змястоўна і цікава!

Каб праявіць сябе, чалавеку трэба перш-наперш скінуць з сябе «шкарлупіну». Спытаецеся, дзе праявіць? У нашай краіне для гэтага самае

спрыяльнае поле дзейнасці. А як правіць? Гэта ўжо залежыць ад вас саміх. Можа, пачаць так, як той прамоўца на сходзе—першы папрасіце слова...

Машыніст Мікалай Кудашкін заканчваў начную змену—падцягваў і адцягваў вагоны на станцыі.

Бяда прыйшла нечакана. На паўдарозе паравоз зачмыхаў і спыніўся. «Што за ліха?»—занепакоіўся Мікалай. Уважліва агледзеў лакаматыў. А калі знайшоў прычыну, цяжка ўздыхнуў—расплавілася засцерагальная пробка. Пары не ўтрымаць.

Сабраліся спецыялісты, пачалі раіцца. Але што прыдумаеш, калі такая гарачыня...

— Ды што там гарачыня... Палезу,—сказаў Мікалай.

Начальства б і не супраць, але ж—тэхніка бяспекі.

— Калі што, сам вырашыў!—сказаў машыніст.

«Дэсантніка» рыхтавалі ўсе. Знайшлі ватоўку, старыя валёнкі, рукавіцы.

...Спёка ў катле нясцерпная. Смыляць дошкі пад нагамі. Пот залівае вочы. Хоць бы тую пробку не згубіць у гэтым пекле. Яшчэ хвіліна, яшчэ момант... Гатова!

Даведаўшыся пра выпадак на станцыі Гарадзея, я адшукаў машыніста Кудашкіна—захацелася напісаць пра яго.

— Кінь ты,—паляпаў ён мяне па плячы, усміхнуўся.—Падумаеш—пробку замяніў... Дык гэта кожны змог бы зрабіць. Ты што, стаяў бы рукі склаўшы? У нас, браток, усе такія. Чорту рогі скруцяць, калі трэба...

Гэты выпадак прыгадваецца мне часта. Чаму? Пастараюся растлумачыць.

Мы часта спрачаемся аб праблеме сучаснага героя, але спрачаемся падчас увогуле, забываючыся пра канкрэтных людзей. Больш таго, скажам шчыра: мы часам не ведаем сённяшніх нашых герояў, цудоўных людзей, якія жывуць і працуюць зусім побач...

З хваляваннем еду я ў Лагойскі раён, з нецярплівасцю чакаў сустрэчы з Клаўдзіяй Міхайлаўнай Гуліс. Яшчэ ў Мінску даведаўся пра цікавыя штрыхі яе біяграфіі: дваццаць гадоў працуе кінамеханікам сельскай кінаперасоўкі, абслугоўвае сем вёсак, мае чацвёра дзяцей, узнагароджана ордэнам Леніна...

Пытаюся ў сакратара райкома камсамола: дзе жыве Гуліс? Паціскае плячыма: не чуў пра такую.

Прыехаў у вёску Корань, цэнтр саўгаса, заходжу да дырэктара мясцовай школы. Зноў пытаюся пра Гуліс. Ведае такую, чуў, што ўзнагароджана, але ў школу на сустрэчу з вучнямі не запрашалі...

Быў на камсамольскім сходзе аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў Мінска. Выступае сакратар:

— У нас ёсць шмат добрых працаўнікоў. Некаторыя з іх выконваюць план на 110—120 працэнтаў. Вось мантажніца з 32 участка, прабачце, прозвішча забыўся. Дык яна аднойчы ў тры разы норму перавыканала...

Ад усяго гэтага сумна і прыкра на душы.

Памятаю, у раён, дзе я тады працаваў сакратаром райкома камсамола, прыехала адразу дваццаць выпускнікоў сельскагаспадарчых тэхнікумаў. Сабраліся ў раён усе старшыні калгасаў на агледзіны. Прапаноўваюць маладым спецыялістам пасады заатэхнікаў, аграномаў, брыгадзіраў, абяцаюць кватэры, расхвальваюць свае гаспадаркі. А ў канцы нязменна задаюць адно і тое ж пытанне:

— Ці доўга збіраецеся ў калгасе працаваць?

Выпускнікі ўспрымалі гэтае пытанне, як абразу:

— Ну што вы! Мы вучыліся для таго, каб працаваць.

Праз тры гады паехаў я па старых адрасах. Што ж атрымалася? Добрая палова тых колішніх маладых спецыялістаў здрадзіла набытай прафесіі. Аднаго заатэхніка я знайшоў у гарадской аптэцы, агранам працаваў касірам, брыгадзірка ўладкавалася на заводзе...

Я добра ведаю саліста опернага тэатра ў Мінску Валодзю Любінскага, які ў свой час закончыў будаўнічы тэхнікум. Але ж «здрада» гэтага чалавека сваёй прафесіі апраўданая. З гадамі зразумеў Валодзя, што яго прызванне—быць спеваком.

А чым кіравалася тая аграномка, што кінула поле і пайшла працаваць на завод? Бачыце, ёй было сумна ў вёсцы і нецікава.

Не, што ні кажыце, а мы павінны быць больш патрабавальнымі да сябе.

Вітольд Грыц, механізатар-жывёлавод з калгаса «Ясная Паляна» Ашмянскага раёна... Я некалькі разоў сустракаўся з ім, гутарыў. На першы погляд—звычайны, просты, мо нават і залішне сціплы хлопец. А між тым... Вітольд Грыц—лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, кавалер Ганаровага Знака ВЛКСМ, дэлегат XVI з'езда ВЛКСМ. Ды ніякія высокія ўзнагароды і слава не «сапсавалі» хлопца. Ён гэткі ж сціплы і просты, цягавіты ў працы і прагны да ведаў. Вітольд Грыц—цяпер галоўны механік калгаса.

Папрасіў аднойчы Вітольда адказаць на пытанне маёй анкеты.

— Не,—кажа,—трэба падумаць. Я лепш адказ па пошце прышлю.

І прыслаў. Вось што ён піша: «У жыцці часта ўзнікаюць пытанні, над якімі прыходзіцца моцна задумвацца. І адказваць на іх іншы раз мусіш цэлымі гадамі працы. Пытанне аб маім месцы ў жыцці паўстала перада мной з усёй сур'ёзнасцю пасля службы ў радах Савецкай Арміі. Рашэнне стаць механізатарам было цвёрдым. І гэта невыпадкова. Я рос у вёсцы. Бацькі—хлебаробы. На маіх вачах перайначваўся калгас. Усё больш тэхнікі прыходзіла на службу чалавеку. Калгаснік станавіўся сапраўдным тэхнолагам зямлі. Так я і застаўся дома, у роднай Будзёнаўцы. Самае галоўнае, лічу—трэба з любоўю аднасіцца да той справы, якую робіш. Я адчуваю, што механізатар-жывёлавод сёння—вельмі ганаровая і патрэбная прафесія. А, значыць, і працаваць трэба ад душы. Моладзь выбрала мяне сваім камсамольскім важаком, аднавяскоўцы—дэпутатам сельскага Савета. Значыць, людзі давяраюць. Гэта надае новыя сілы. Хочацца рабіць людзям добрае, і я гэта імкнуся рабіць. Вось у гэтым і ў сваёй працы бачу я шчасце свайго жыцця».

Трэці дзень хаджу па Пінску. Мне падабаецца гэты гарадок з яго шырокай плошчай і красуняй-набярэжнай. У звычайны шум горада час ад часу ўрываюцца ахрыплыя гудкі рачных суднаў. Па вуліцах—ад прыстані да ўскраіны—натужна прапаўзаюць «МАЗы»—будуецца новая фабрыка. Над старым горадам—яскравая прыкмета нашага імклівага веку: краны-жураўы.

Абуджаецца Палессе—«край балот і туманаў глухіх». Сёння Пінск—штаб меліярацыі Палесся. Нам паказалі незвычайную карту: ад горада цягнуцца стрэлкі па Брэсцкай, Гомельскай, Ровенскай абласцях. 900 тысяч гектараў трэба адваяваць у балотаў.

Мы праязджалі там, дзе пабывалі ўжо меліяратары, будаўнікі. Густой сцяной, як вокам кінуць, каласіцца збажына. На асушаных тарфяніках растуць рабочыя пасёлкі: белыя цагляныя дамы, сучасныя механізаваныя жывёлагадоўчыя фермы, школы, яслі, стадыёны.

Меліярацыя Палесся—усесаюзная ўдарная камсамольская будоўля. 11 тысяч маладых энтузіястаў прыехалі сюды па камсамольскіх пуцёўках.

Маладым меліяратарам мне давялося ўручаць камсамольскія білеты. Мы ішлі ўрачыстай калонай па вуліцах Пінска. У парку, ля помніка-абеліска вызваліцелям горада, прыпыніліся. Да помніка, дзе гарыць Вечны агонь Славы, падняліся імяннінікі. Я і сёння адчуваю іхнія поціскі рук, моцныя і гарачыя. Памятаю іх адкрытыя, усхваляваныя твары—Толі Даніленкі, Пеці Дзем'янчука, Машы Рывейкі, Галі Бублеўскай, Сцяпана Буйкевіча, Валодзі Сражэвіча, Ніны Швайкоўскай, Пеці Рудніцкага. Кім вы станеце, камсамольцы? Як праняcеце ганаровае імя па жыцці?

Пінск і пінскія ўражанні нагадалі мне словы Дзяржынскага пра тое, што ў чалавека павінна быць «песня любові да жыцця». Любіць жыццё— я разумею так: умець радавацца непаўторнасці жыцця, бачыць прыгажосць і заўважаць прагрэс, змагацца за іх усёй душой.

Пра гэта я гаварыў маладым будаўнікам, калі ўручаў камсамольскія білеты ля Вечнага агню Славы.

Пасля спектакля «З любімымі не расставайцеся» разгарэўся сыр-бор: па просьбе рэжысёра гледачы выказваліся пра змест пастаноўкі і ігру акцёраў. Спрэчка ўсчалася вакол таго, што лепей для чалавека: розум галавы ці чуласць душы.

— Жыць толькі розумам—гэта практыцызм,—даказваў адзін.—Драпежнікаў і тых можна нечаму навучыць, але ж яны былі і застануцца драпежнікамі.

— Я супраць!—падскочыў малады чарнявы хлопец.—У наш век галоўнае—розум. Электроніку пачуццямі не закілзаеш. Трэба веды і перш за ўсё веды. Яны—галава ўсяму.

Тут папрасіла слова жанчына.

— Не, малады чалавек, не магу пагадзіцца з вамі. Перш за ўсё ў нас павінна быць душа, добрая і чулая. У вайну я была ў Сталінградзе, і страшна падумаць, каб у той жудасны час людзі кіраваліся толькі ведамі...

Чыя ж праўда ў гэтай спрэчцы?

З Эдуардам Карніловічам мы знаёмыя яшчэ з таго часу, калі ён быў цесляром. Даўнавата гэта было. Тады мы бегалі з ім разам на заняткі ў школу юнкораў пры «Знамени юности». Цешыліся сваімі першымі поспехамі—невялічкімі заметкамі ў газеце. Потым сустракаліся ўсё радзей і радзей. Наша знаёмства працягвалася ў сустрэчах завочных—на старонках газет.

Сёння Эдуард Карніловіч—у кагорце маладых вучоных рэспублікі. Ён—кандыдат гістарычных навук, выкладчык навуковага камунізму ў інстытуце. Ці знайшоў ён сябе ў жыцці? Як разумее сэнс гэтага пытання?

— Па-мойму,—гаварыў мне Эдуард,—якіх бы вяршыняў чалавек ні дасягнуў, усё роўна толькі ўмоўна можна сказаць, што ён знайшоў сябе. Можна стаць выдатнікам у школе, алімпійскім чэмпіёнам, ударнікам працы, наватарам, выдатным арганізатарам вытворчасці, таленавітым спецыялістам, вучоным. А ці азначае гэта, што ты знайшоў сябе? Не будзем спяшацца з адказам. Калі чалавек смела крочыць па свядома абранай жыццёвай каляіне, калі ён можа пераадолець цяжкасці і займацца самаўдасканаленнем,—тады, здаецца, можна сказаць, што ён падрыхтаваўся да выпрабаванняў жыцця, што ён знайшоў сябе. Адным словам, у словы «знайшоў сябе» я ўкладваю перш за ўсё здольнасць і ўменне чалавека выхоўваць у сабе гатоўнасць да барацьбы, да змагання за свае ідэалы, за свае жыццёвыя вяршыні, якія, безумоўна, не павінны разыходзіцца з агульначалавечымі, агульнадзяржаўнымі. «Знайсці сябе» зусім не азначае, што чалавек можа спыніцца на дасягнутым, што стымулы развіцця ўжо вычарпаны, што сцяжынкі пошукаў адрэзаны. Калі ты па душы абраў прафесію, стаў передавіком вытворчасці, паважаным чалавекам— гэта не азначае, што ты спакойна можаш плысці па цячэнні. Утрымаць вышыню, на якую ўзняўся, ісці далей па шляху развіцця сваёй асобы, яшчэ паўней раскрываць свае творчыя магчымасці, каб больш прынесці карысці грамадству, пакінуць пасля сябе добры след і добрую памяць— вось наша чалавечае прызначэнне.

Аднойчы ў часе сустрэчы з чытачамі Васіль Вітка сказаў: «Лічу прафесію педагога самай пачэснай і самай неабходнай на зямлі».

Сапраўды, быць настаўнікам—трэба мець прызванне. Інакш гэта будзе проста «служэнне рабоце». Аднаго разу я меў неасцярожнасць запытацца ў ветэрана адной школы:

— Скажыце, Сафрон Іванавіч, як вы адносіцеся да таго, што вашы вучні абагналі вас, сталі вядомымі людзьмі ў рэспубліцы?

Настаўнік хітравата ўсміхнуўся, ля воч збегліся маршчынкі. Ён адказаў:

— Гэта ж самая вялікая радасць, самы вялікі поспех, што вучні ідуць далей, чым настаўнік. Але... Кім бы яны ні сталі,—яны ўсё ж для мяне вучні, а я для іх—настаўнік.

Вочы Сафрона Іванавіча высвечвалі радасць.

Купляю ў кіёску газеты. Сёння яны святочныя—споўнілася 50 гадоў СССР. Вось па гэтых газетах ды па ўспамінах ветэранаў нашы дзеці будуць намагацца ўявіць, што за свята было, як да яго рыхтаваліся, як адзначалі. А мы—сведкі ўсяго гэтага і непасрэдныя ўдзельнікі!

Той-сёй гаворыць, што наш час бедны на падзеі. Мне думаецца, такія людзі самі бедныя—душой.

Гэтаму запісу ў дзённіку мне хацелася б даць такую назву: «Сустрэча з дзедам Марозам». Якраз жа і Новы год прыйшоў. Толькі снегу няма. А дзеда—сустрэў. Самага натуральнага. Дзмітрыю Паўлавічу Марозу споўнілася 80 гадоў. Увесь гэты час ён жыве і працуе ў вёсцы Палачаны на Маладзечаншчыне. У цёплай ватняй паддзёўцы і валёнках, чырванашчокі, ён сапраўды нагадваў Дзеда Мароза.

Уявіце сабе: гэты дзед калісь ствараў мясцовы калгас. Хадзіў па хатах, агітаваў за арцель, збіраў заявы. І ўдалося: арганізаваў першы калгас у сельсавеце. Было гэта ў вёсцы Блудава. Даўнавата, праўда, было. Цяпер калгас аб'ядноўвае дзесяць вёсак. І назва ў яго—«50-годдзе Кастрычніка». Ды і сам арганізатар яго Дзіма Мароз даўно стаў дзедам Марозам.

Скупы на словы Дзмітры Паўлавіч, але ж пакрысе разгаварыўся. Не магу забыць яго ўсхваляваныя словы:

— Шчаслівы я, што дажыў да цяперашняга жыцця, што з'яўляюся сведкам казачнай явы. У мае гады можна было б спакойна сядзець на печы, адпачываць, ды я так не магу. Працую кладаўшчыком, покуль здароўе дазваляе.

Дарэчы, кладаўшчыком дзед Мароз працуе... 22 гады. На яго вачах мацнела гаспадарка. Гэта ж, бывала, у адзін сялянскі свіран звязуць увесь ураджай і радуюцца: багацце якое! Зараз у калгасе чатыры склады, адзін з іх механізаваны — на тысячу тон зерня. Тут і працуе Дзмітры Паўлавіч. Усё роўна цесна ўраджаю. Трэба будаваць новы склад.

Разам з Дзмітрыем Паўлавічам працуюць яго сын Аляксандр і дачка Мар'я. Сямейная дынастыя. Памятаю прымаўку, якая ў вуснах дзеда Мароза гучала вельмі пераканаўча: «Хата славіцца не вугламі, а тымі, хто ў ёй жыве».

Тое ж ён гаварыў і пра сваю работу: «Не мае, сынок, значэння, дзе працуе чалавек. Варта ўлічваць толькі, як ён працуе».

■

Элігій СТАЎСКІ



# СТАРЫЯ ДРЭВЫ ЛЕНІН-ГРАДА

Мал. **Г. Дзярагіна**

Невысокага, асабліва поруч са сваёй жонкай, росту, апрануты гэтак жа сціпла, як і яна, задуменна-засяроджаны, ён зрэдку хутка, аднак жа стомлена кідаў сюд-туд пагляд, зрэдку даставаў цыгару, ахутваючыся блакітнаватым воблакам дыму, а калі была выпіта першая ранішняя кава і падрулíла, віскнуўшы, і спынілася, нібыта натыкнуўшыся на перашкоду, доўгая машына, ён спачатку падаў скупы знак жонцы, адчыніўшы перад ёю чорныя бліскучыя дзверцы, вяла ўсміхнуўшыся, паказаў мне рукой, каб я сядаў наперадзе, і, урэшце, умасціўся побач з жонкай на задняе сядзенне, тут жа патануўшы ў ім. Перакладчыца адкінула сабе крэселка, і машына паволі рушыла. Ён быў разважліва-спакойны і, бадай, добры, англійскі пісьменнік, які ведаў, што такое бомбы, зацямненне і ваенны Лондан, хоць усё гэта было даўно, і да таго ж крышачку філосаф, к старасці ўсё больш схільны пакорпацца ў таямніцах часу і жыцця.

Гледзячы перад сабою, я прыкруціў акно, у якое дзьмуў пругкі, як заўжды ўвесну, неўскі вецер, і спытаўся, не паварочваючыся:

— Што ж вы хочаце ў нас паглядзець? У Ленінградзе ж вы ўжо не першы раз?

Ён адказаў амаль адразу ж, а я ў люстэрка заўважыў, што яго жонка паклала букет бэзу сабе на калені, выпрасталася і стала ўжо багатай дамай-падарожніцай з берагоў чужой Тэмзы, і поплеч — яе паважны муж у мяккім танным капелюшы. Перакладчыца неўзамет правяла пальцамі па сваім лакіраваным туфліку.

— Блакадныя мясціны,— пачуў я яе паспешны голас.

— Гэта самае галоўнае, дзеля чаго я прыехаў сюды яшчэ раз. Загадка сорак першага года...

Я кіўнуў яму ўдзячна.

— Так, але... што, што менавіта? — спытаўся я, па-ранейшаму гледзячы перад сабою, пазнаючы кожны прадмет.

— Такія блакадныя мясціны, каб я зразумеў, чаму вы перамаглі. Калі, вядома, гэта не ваша дзяржаўная тайна,— і ён нягучна засмяяўся.

Мы павярнулі направа, і ў машыну спярша зазірнула набярэжная, маёвая і чыстая, як быццам гэта быў калідор палаца, а потым каменныя львы, зеленаватыя ад сонца хвалі, вясёлка Дварцовага моста, які разам са мной чуў выбухі, бачыў і апалчэнцаў, і салдатаў, але заўсёды сваіх салдатаў, чужых — толькі палонных... і над намі пранёсся вось ужо два стагоддзі ззяючы на сонцы Адміралцейскі шпіль.

У тым вось і справа, што ўсё ж ён быў пісьменнік з берагоў Тэмзы. І я думаў над тым, што ён можа зразумець ва ўсім гэтым, што ёсць мая зямля, вялікая і розная, што ёсць мой народ.

— Значыцца, блакада, і чаму мы перамаглі? — перапытаўся я.

І тут жа грымнуў стрэл. Нас падкінула, так што ўсё ўсярэдзіне абарвалася, і паветра зазвінела па шкле. Я зверыў свой гадзіннік.

— А вы ведаеце, што гэтая крэпасць ніколі не страляла? — спытаўся я і ўбачыў іх на імгненне застылыя твары, а пасля збянтэжаныя ўсмешкі.

Ззаду ўжо быў Зімні, акружаны машынамі і натоўпамі людзей з усяго свету. І калі з Петрапаўлаўскай грымнула гармата, нас падкінула на мастку Зімовай канаўкі.

— Ну, добра... Калі вас цікавіць блакада...— і я павярнуўся да шафёра.— Тады, калі ласка, так: праз Кіраўскі мост на Чорную рэчку — да месца дуэлі Пушкіна, потым да сената — на плошчу Дзекабрыстаў, пасля да Летняга саду і адтуль на Піскароўскія могілкі. Гэта будзе нялёгка.

Перакладчыца пераказала ім маршрут, і за маёй спіной павісла неўразумелае халоднае англійскае здзіўленне.

— Давайце пагаворым там,— сказаў я.

І мы паехалі, і ўзляцелі, і пранесліся міма цяжкіх чыгунных ліхтароў, і ён дзівіўся з усяго, што бачыў з Кіраўскага моста — увесь гэты па-руску грудасты размах Нявы з намаляванымі палацамі на ёй, алею ліпаў унізе, што клейка, ледзь распушана раскінулася перад намі.

— Гэта? Гэта помнік «Сцерагушчаму». Вайна дзевяцьсот чацвёртага-пятага года. Яны патапілі і сябе, і карабель, каб не аддаць яго.

Я ўспомніў: той зімою замест вуліцы тут чарнелася вузенькая і няўстойлівая, быццам канат, сцяжынка, пратаптаная між высокімі гурбамі. Потым, пакуль я адмаўляўся ад ягонай цыгары, памяць вярнула мне і першую восень, калі ўвесь гэты парк быў запоўнены бежанцамі, дзецьмі, палаткамі, авечкамі, калёсамі і па праспекце ішлі і ішлі маўклівыя скуластыя апалчэнцы. Ці здолее зразумець усё гэта англійскі пісьменнік?

Ззаду гучэў яго хрыплаваты голас:

— Я аб гэтым думаў. Але ці не занадта дарагое для краіны такое апалчэнне? Там жа былі вучоныя, пісьменнікі, кампазітары, артысты... Краса нацыі, розум народа... Увогуле, сэнс такі,— сказала перакладчыца.

Быў нейкі нязвыклы, пагодны маёвы дзень, чымсьці падобны на ўсмешлівую і басаногую дзяўчыну. У машыне пахла цыгарным дымам, бензінам і бэзам.

— Я вам адкажу,— сказаў я, думаючы аб тых, каго няма.— Мы дзеля таго і едзем. Я паспрабую вам адказаць.

Спачатку выйшаў я, потым яны. І мы сцішыліся, знаходзячыся ўжо ў той затоенай маўклівасці Чорнай рэчкі. Яна сапраўды была чорная. Ён чакаў.

— Ці бачыце...— пачаў я.— Пушкін быў

адным з тых паэтаў, хто пры жыцці ўжо ведаў, што ён вялікі. Вы згодны з гэтым?

— О, але! Ён меў права гэта знаць. Пушкін — так, так!

— Вось іменна,— пацвердзіў я.— Але Пушкін прыйшоў сюды, не думаючы над тым, ці можна генію станавіцца пад кулю. Ён прыйшоў. Вы мяне разумееце? А ён жа быў геній. Ды гонар быў для яго даражэйшы.

Пісьменнік іншай зямлі зірнуў на мяне ўважліва.

— Але ці меў ён рацыю перад гісторыяй? Ён мог яшчэ нямала зрабіць...

— Так было,— сказаў я.— І толькі так магло быць. Гэта характар, які прадстаўляў народ, краіну, нацыю.

Не адказваючы мне, ён паглядзеў на трамвай, на белізну новых дамоў і схаваў рукі ў кішэні кароценькага стандартнага паліто, і на твары ягоным узнікла ўсмешка.

— Гм... у мяне склалася такое ўражанне, — прамовіў ён, — быццам вы хочаце падаць мне якуюсьці думку.

— Канечне,— пацвердзіў я.— Я хачу вам растлумачыць, чаму мы перамаглі, ахвяруючы ўсім дзеля славы і свабоды Айчыны. Загадку сорак першага года...

І зноў яго жонка выпрасталася, акуратна паклала сабе бэз на калені, прыціснуўшы яго доўгімі пальцамі пальчатак, і зноў мы ехалі міма даўно затынкованых амбразур, мякка пагойдваючыся, ныраючы сярод іншых машын, слухаючы музыку, а затым і выццё паветранай трывогі, асветленыя то зарывам палаючых прадуктовых складаў, то ззяннем на рэдкасць моцнай і снежнай зімы, што шырока разлеглася сярод пустэльных вуліц, мёртвых у снарадных і бомбавых праломах, і, калі нам хацелася, мы маглі тут жа, праз шкло кабіны, пазіраць на гаманкі, запоўнены стракатай людской вірлівасцю, прыгожы і строгі мірны праспект. Уціснуўшы сябе ў кут, аб чымсьці задумаўшыся, госць нават не заўважыў, што мы спыніліся на плошчы, дзе залаты купал сабора ўсе гады вайны быў зняважаны чорнай фарбай.

— Вось,— сказаў я.— Тут іх полк утварыў карэ. Цяпер яна так і называецца: плошча Дзекабрыстаў.

Апусціўшы галаву, ён, відаць, спрабаваў уявіць сабе той даўні пецярбургскі ранак. А, можа быць, думаў пра блакаду, пра нашую снежную зіму.

— Гэта былі вельмі мужныя людзі,— падагуліў ён, сказаўшы гэта сваёй жонцы, нібы раячыся з ёй.

— Так,— пацвердзіў я.— І яны таксама прадстаўлялі нацыю, наш народ. Аднак я хацеў звярнуць вашу ўвагу на іншае. Гэта былі вельмі багатыя людзі. Амаль кожны з тых, каго мы называем дзекабрыстамі. У іх было ўсё — і ўлада, і грошы. З адных першапачатковых літар назваў маёнткаў, што належалі маці дзекабрыста Давыдава — княгіні Кацярыне Мікалаеўне, можна было б скласці фразу: «Леў любіць Кацярыну».

Вымавіўшы сваё «О!», англійскі пісьменнік і яго жонка заўсміхаліся адно аднаму.

— І якую ж цяпер вы хочаце падаць мне думку? — спытаўся ён, аднак на гэты раз зусім сур'ёзна.

— Гэта тая ж думка,— адказаў я.— Дзекабрысты не думалі аб сабе, калі выйшлі на плошчу, на немінучую гібель. Іх ідэалы былі вышэй уласнага дабрабыту.

Ён стаяў, схіліўшы галаву, і ў яго на пераноссі паволі сабраліся складкі, а твар яшчэ больш спахмурнеў.

— Але, але,— сказаў ён.— І Пушкін, і дзекабрысты, і блакада. Я пачынаю разумець...

Вецер неўзамет улёгся, ужо не зрываў капелюша са знатнага госця, і, нетаропка пераступаючы праз дзесяцігоддзі, мы, папусціўшы машыну ўперад, дабрылі да Летняга саду пеша. Яны моўчкі разглядалі перспектыву, а я зноў быў хлапчанём, што задыхаўся ад холаду, які, выскачыўшы з абледзянелай і заінелай кватэры, бег па сцяжыне між снежнымі гурбамі ў булачную па танюсенькі кавалачак хлеба, чуў над сабой гаўбічную калыханку і, калі качанеў зусім, прыпыняўся дзе-небудзь каля палаючага дома, каб пагрэцца, верачы, што выцерпець трэба да вясны, а там ужо... будуць дзьмухаўцы і трыпутнік.

Струменілася рашотка Летняга саду, урачыстая і адлітая быццам зараз, яна навявала цішыню і спакой, стаялі ля парапета рыбакі, пагойдваўся ля прычала рачны трамвай. А злева ад нас, нібы накрэсленыя на небе, падымаліся трубы «Аўроры». Угледзеўшы на рашотцы мармуровую мемарыяльную дошку, ён прыклаў да вачэй далонь.

«На гэтым месцы 4 красавіка 1866 года рэвалюцыянер Д. В. Каракозаў страляў у Аляксандра II»,— прачытаў я яму.

— Вы хочаце тут сказаць аб вашай рэвалюцыі? — спытаўся ён.

— Не, пра гэта вы добра ведаеце самі. Пра гэта ведаюць усе,— адказаў я.— Усё значна прасцей: я прывёў вас сюды, каб вы ўбачылі гэтыя алеі. І толькі.

— Не разумею,— сказаў ён.

— Гэтыя алеі перажылі блакаду,— растлумачыў я.— Нават нам, хлапчукам, той зімою не прыходзіла ў галаву, што гэтыя дрэвы — дровы, якімі можна сагрэцца. Разумееце? І што паркет у Зімнім палацы — дровы. І разбяны драўляны алтар у Петрапаўлаўскім саборы — таксама дровы. Гэта ўсё ацалела.

Паскрыпваў пад нашымі нагамі пясок, бялелі статуі, і пошум горада тут быў амаль не чуваць. У глыбіні саду весела валтузіліся птушкі, і ўжо стаяў пах вясны, і бегалі дзеці. Свяціліся над намі галіны старых ясеняў, вязаў і таполяў.

Ён доўга аглядаў помнік Крылову, а я заўважыў, што ў ім спела нейкая думка, і яна была неадчэпная і вярэдлівая.

— Скажыце,— урэшце прамовіў ён,— я разумею, што такі горад нельга было перамагчы. Але ці не небяспечны народ, які настолькі не ўмее думаць аб сабе?

Мы паглядзелі адно аднаму ў вочы.

— Небяспечны — для каго?

— Нават для сябе.

— Мне здаецца,— сказаў я,— што народ, які здзейсніў рэвалюцыю і адстаяў свабоду ў такой вайне, умее думаць аб сабе. А для ворагаў ён, можа быць, і небяспечны. Але так і павінна быць, таму што мы ўжо ведаем, як нам дасталася гэтая перамога і чым *палітая нашая зямля.*

Машына зноў з шыпеннем накручвала на колы асфальт. Вышэйшае рабілася неба. І яшчэ вышэйшае, пакуль урэшце купал яго не дасягнуў мяжы. І тады нам адкрылася горкая зеляніна памятных Піскароўскіх могілак.

Чуючы жалобную музыку, мы спускаліся па нетаропкіх гранітных сходнях да манумента Маці-Радзімы. Унізе — роўныя дарожкі і рады маўклівых цяжкіх надмагільных пліт: «1942», «1943». На белай сцяне — словы: «...тут пералічыць не зможам...» Не было іх імёнаў на камянях. Не было іх імёнаў на магілах. Іх імёны сталі нашымі...

Мы ішлі, гледзячы перад сабой. Пісьменнік зняў капялюш. Яго жонка, дакрануўшыся да маёй рукі, упершыню асцярожна ўсміхнулася мне, паказваючы на бэз.

— Пакладзіце, куды вам хочацца,— адказаў я.— Кожны сантыметр зямлі тут варты гэтага.

...Я развітваўся з імі ўжо ўночы, якая так і не пацямнела. Стоячы над Нявой, гледзячы на горад, ён сказаў, паціскаючы мне руку:

— Як вы думаеце, а ці няма ў вашым народзе... у кожным чалавеку вашага народа неўсвядомленага, а, можа быць, і ўсвядомленага адчування сваёй бессмяротнасці? Ці не ў гэтым загадка Расіі?

Я падумаў, прыгадваючы ўвесь гэты дзень.

— Гэта не мая, гэта — *ваша* думка. Але я не буду аспрэчваць яе,— і я таксама паціснуў яму руку.

Прасторна цякла Нява. Свяціліся дрэвы, і камяні, і масты, і шпілі, і Медны коннік. Крыкнула чайка. Сама вечнасць, пакінутая нам тымі, хто прайшоў тут, узнімалася над ракой. Шпіль на Адміралцействе пачынаў ужо святлець...





Маладыя хімікі камбіната—Пётр Франскевіч, Мікола Рубіс, Генадзь Ткачэнка.



# НАВАПОЛАЦК

На дзевятым кіламетры ад Полацка зялёны бор расступаецца, і пагляду адкрываецца панарама белакаменнага Наваполацка. Ён вырас, як у казцы.

Ёсць нешта сімвалічнае ў легендзе пра старажытны Полацк, у якой расказваецца, што, быццам, адзін ход з падзямелля Полацкага Сафійскага сабора ідзе пад Дзвіну і далей—далёка-далёка ў размешчаны недзе між лясоў і балот горад надзвычайнай прыгажосці, горад святла, чысціні, шчасця. І, вядома, як гэта часта бывае ў легендзе, той ход, што вядзе ў казачны горад, зможа адшукаць толькі чалавек чыстай душы...

Такімі людзьмі былі Дзмітры Піскуноў, Восіп Плоткін, Віктар Сныцін, Рыгор Барэйка і іншыя. Яны прыехалі здалёку па камсамольскіх пуцёўках, па заклiку свайго сэрца—вырашылі будаваць новы горад. Да вёскі Слабада дабіраліся на лодцы. Вылезлі на пакаты бераг. Вакол была пустэча,



Вуліца Маладзёжная.

а далей—кустоўе, палі, балотныя поймы. Навасёлы недалёка ад ракі распалілі касцёр, паставілі першую палатку... На календары значылася дата—7 чэрвеня 1958 года.

Потым прыбылі новыя энтузіясты. Сярод іх—маладыя інжынеры, якія толькі што атрымалі дыпломы і гарэлі вялікім жаданнем паспрабаваць сябе ў справе. Эдуард Шыманскі, Губерт Варанюк, Казімір Кунцэвіч, Аляксандр Кітараў і іншыя. Пазней сустракалі групу дэмабілізаваных воінаў, якія аб'ядналіся ў дзве брыгады. Адну ўзначаліў камуніст Валянцін Козел, другую—камсамолец Дзмітры Грышчанкоў.

У першапраходцаў была адна яскравая, запаветная мэта—хутчэй пабудаваць горад. Адзін з іх—Аляксандр Лешчанка—у пісьме да сябра, якое захоўваецца ў Наваполацкім музеі працоўнай славы, пісаў:

«Сярога, ты не злуй, што твой шалапутны сябар нават не зазірнуў тады, каб сказаць табе «да пабачэння». Спяшаліся хутчэй паехаць. Цяпер на поўначы Беларусі будую новы горад. Прызнаюся, што гэтая ўсесаюзная ўдарная будоўля для мяне—адкрыццё, мая душэўная патрэба.

Тут цяжкасцяў розных—процьма. Але больш за ўсё дапякае бездарожжа. Бензавозы і іншыя машыны цягаем трактарамі...

Але ты зразумей, Сярога, што ў буднях нашай будоўлі ёсць адна вызначальная рыса: тут вельмі хутка і вельмі рэзка выяўляюцца характары, тут сумленнасць і адданасць справе вывяраюцца па вышэйшай мерцы. І тых, хто на мерку «не цягне», праводзяць без жалю.

Наогул—парадак. Кожны дзень адчуваю сябе мабілізаваным па камсамольскай пуцёўцы, той самай, што атрымаў у райкоме камсамола і якая стала для мяне пуцёўкай у жыццё».

Час хутка зрываў лісткі з календара. Дзень першы... дзесяты... соты... І кожны з іх быў напоўнены гарачай ударнай працай.

Год першы—1958-мы. Будуюцца жылыя дамы, інтэрнаты і першыя будынкі вытворчай базы. 16 лістапада будаўнікі рапартавалі аб сваёй першай перамозе: здадзены навасельцам восем інтэрнатаў.

Год трэці—1961-шы. Пабудаван жылы мікрараён.

Год пяты—1963-ці. Скараснымі метадамі зманціравана першая ўстаноўка нафтаперапрацоўчага завода. 9 лютага атрыман першы беларускі бензін...

Мне давялося быць на нафтаперапрацоўчым у тую ноч, калі пускалі тэхналагічную ўстаноўку. Тады полымя ў печах распальваў старшы апаратар А. Ф. Лугавы. Таварышы па рабоце ўручылі яму палаючы факел і сказалі:

— Табе, Аляксей Фёдаравіч, давяраем, як найбольш вопытнаму...

Лугавы захваляваўся. Ён не бачыў апаратараў, будаўнікоў, якія тоўпіліся паблізу ад устаноўкі. Лічыў крокі: адзін... восем... дваццаць... І яшчэ пяць прыступак уверх. На апошняй яго нешта спыніла. Падумаў: а ці ўсё ў парадку? Вось тут ён азірнуўся і ўбачыў добра знаёмых людзей—будаўнікоў, мантажнікаў, пусканаладчыкаў... Яны як бы гаварылі: усё будзе добра!

Лугавы працягнуў руку з факелам да фарсункі. Полымя ўспыхнула і, разліўшыся па ўсяму днішчу, загуло ў печах. На нейкае імгненне наступіла напружаная цішыня. Складаны тэхналагічны працэс нараджэння бензіну схаван ад людскіх вачэй. І ўсё ж, здавалася, людзі адчувалі, як ён нараджаецца ў трубах і калонах—адчувалі яго пульсацыю, як біццё ўласнага сэрца. Нарэшце з апаратарнай крыкнулі: «*Пайшоў бензін, пайшоў!..*»

Уверх паляцелі шапкі. Людзі смяяліся, абдымаліся, а хтосьці з хлопцаў кінуўся цалаваць незнаёмую дзяўчыну, што стаяла побач. Радасць перапаўняла сэрцы.

На світанні вестка аб вялікай працоўнай перамозе з першым аўтобусам уварвалася ў рабочы пасёлак. Ранкам шклянкі з бензінам былі на стале ў сакратара гаркома партыі, на акне ў рэстаране, у дзяжурнай па гасцініцы...

Год дзесяты—1968-мы. 4 лютага атрыман першы беларускі поліэтылен.

Сярэдняя школа № 5.



Год трынаццаты—1971-шы. Нарадзіўся пяцідзесяцітысячны навапалачанін.

Год чатырнаццаты—1972-гі. На хімкамбінаце ўступілі ў строй новыя хімічныя магутнасці. Ёсць беларускі нітрон—паўнацэнны замяняльнік тонкарунай воўны.

Цяпер мы кажам: на беразе Заходняй Дзвіны пабудаваны вялікі, прыгожы горад. І нават не можам спакойна сабе ўявіць, які вялікі працоўны подзвіг здзейснілі навапалачане.

Напрыклад, для таго, каб пабудаваць толькі адзін нафтаперапрацоўчы завод, будаўнікам і мантажнікам давялося перамагчы балота з бясконцым плывуном, выняць і ўкласці больш як 200 мільёнаў кубаметраў грунту і бетону, змантыраваць сотні чыгуначных саставаў рознага тэхналагічнага абсталявання. Трубаправодаў працягнута столькі, што складзі іх у адну нітку—хопіць ад Наваполацка да Уладзівастока.

У першыя месяцы на будоўлі быў толькі адзін электразваршчык—армянін Віктар Хандакар'ян. Між тым, трэба было ў самым тэрміновым парадку пракладваць цеплатрасу. І ён часта працаваў суткі навылёт. А калі таварышы гаварылі Віктару, каб ён ішоў адпачываць, то жартаваў:

— Адасплюся, калі завод пабудуем...

Такім жа запалам у рабоце вызначаліся і маладзёжныя брыгады муляраў, мантажнікаў, тынкоўшчыкаў...

Цяпер Наваполацку газеты часта прысвячаюць палосы, тэлебачанне і радыё—спецыяльныя перадачы, а кінастудыя «Беларусьфільм» аб ім зняла не адзін кінафільм. Чым жа так папулярны ён? Можа, тым, што тут буйныя прадпрыемствы? Возьмем ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга нафтаперапрацоўчы завод. Гэтаму прадпрыемству няма роўных у Саюзе і Еўропе як па магутнасці, так і па аўтаматызацыі тэхналагічных працэсаў. За дзесяць гадоў свайго існавання прадпрыемства перакрыла праектную перапрацоўку нафты амаль у дванаццаць разоў. Дасягнута самая высокая эфектыўнасць вытворчасці за кошт значнага росту прадукцыйнасці працы, самая высокая выпрацоўка на аднаго рабочага сярод аднатыпных прадпрыемстваў краіны.

АТ-6—буйнейшая ў Еўропе ўстаноўка пярвічнай перапрацоўкі нафты. Раней лічылася, што самая магутная атмасферная трубчатка можа перапрацоўваць 2 мільёны тон нафты ў год. А то ж—6 мільёнаў! І мантаж у Наваполацку такога грандыёзнага нафтахімічнага збудавання можна з упэўненасцю назваць смелым эксперыментам.

Не выпадкова групе спецыялістаў, якія прымалі ўдзел у стварэнні і прамысловым укараненні АТ-6, пастановай Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савета Міністраў СССР прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1970 года...

А Наваполацкі хімкамбінат імя 50-годдзя Беларускай ССР... Гэта—складаны гіганцкі комплекс. У адным толькі корпусе цэха змешвання і апрацоўкі поліэтылену свабодна могуць умясціцца восем 90-кватэрных дамоў. У 1968 годзе тут былі атрыманы першыя гранулы поліэтылену. І датэрмінова дасягнуты рубеж праектнай магутнасці. Гэта дало дзяржаве больш як сем мільёнаў рублёў эканоміі.

На хімкамбінаце асвоена і выпускаецца больш як 100 марак і кампазіцый поліэтылену—універсальнага матэрыялу, без якога не могуць абысціся ні радыёэлектроніка, ні касмічныя караблі і які можа замяніць метал і драўніну, шкло і тканіну...

Гасцей здзіўляе, што за параўнаўча невялікі тэрмін узведзен сучасны горад больш чым з 55-тысячным насельніцтвам, буйнейшы ў рэспубліцы нафтахімічны прамысловы вузел. Яны часта пытаюцца: якая сіла змагла стварыць такое? Кожны, бадай, мог бы адказаць словамі аднаго з першых будаўнікоў—інжынера Рамана Осіпава: «Я ведаю тры будаўнічыя матэрыялы, з якіх такімі казачнымі тэмпамі ўзведзен нафтагігант і горад: гэта—метал, бетон і дружба. Апошні самы моцны».

Сапраўды, дружбай можа пахваліцца Наваполацк, горад інтэрнацыянальны. Калі хто-небудзь з вас будзе ў гэтым горадзе, то не здзіўляйцеся, калі вас тут пачастуюць украінскімі галушкамі або башкірскім бешбармакам. У горадзе жывуць і працуюць пасланцы сарака сямі нацыянальнас-





На месцы былых балотаў.

цяў. Знайшлі другую радзіму і зарэкамендавалі сябе вопытнымі спецыялістамі украінец Багдан Труш, башкірка Даміра Рангулава, узбек Султан Раджапаў, азербайджанец Зейнал Агасадык аглы Шадгіеў, стварылі моцныя інтэрнацыянальныя сем'і ўзбек Аляксандр Каўрузаў і беларуска Людміла Лешчанка, татарын Сяргей Аджырыдзінаў і руская Любоў Мішуткіна, беларус Уладзімір Фіялка і ўкраінка Раіса Волкава...

У «сталіцы» беларускай хіміі жыве шмат цудоўных людзей.

І першым, пра каго расказваюць прыезджым,—Пётр Блахін, чыім імем названа адна з вуліц. Камсамолец Пётр Блахін гарэў на рабоце. Працаваў без стомы, не цураўся ўсякай работы, самае цяжкае браў на свае плечы. Хутка Блахіна выбралі сакратаром камітэта камсамола будоўлі. Хлопец паспяваў усюды, забываючыся на межы дня і ночы. Умеў надаць людзям упэўненасці, яго слова падымала людзей у хвіліны стомленасці. Смерць, раптоўная і нечаканая, абарвала жыццё Пятра Блахіна на баявым камсамольскім пасту.

Лёс прараба будупраўлення № 124 трэста № 16 «Нафтабуд» Ф. С. Куралёнка—гэта своеасаблівая гісторыя Навапалацка. З першых дзён будуе ён горад. Тут стаў знатным чалавекам. Ён—дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У Героя Сацыялістычнай Працы А. С. Крэменя шлях да працоўнай славы—шлях многіх нашых сучаснікаў. Школа ФЗН, пасля курсы экскаватаршчыкаў, будаўніцтва мінскіх аўтамабільнага і трактарнага заводаў, новабудоўлі ў Барысаве, Магілёве, Віцебску і, нарэшце, у Навапалацку. Усюды працаваў сумленна, мільёны кубаметраў грунту перавярнуў, па дзве-тры нормы выконваў за змену. І слава аб маладым экскаватаршчыку пайшла далёка за межы Навапалацка. Яго выбіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, ён быў дэлегатам XXIII з'езда КПСС, удзельнічаў у гістарычным урачыстым пасяджэнні ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна...

Навапалацк—горад высокай культуры. Тут больш як 30 працэнтаў жыхароў маюць вышэйшую адукацыю і амаль кожны трэці вучыцца ў тэхнікуме, вячэрняй школе, філіяле тэхналагічнага інстытута і іншых ВНУ. Актыўна дзейнічаюць калектывы мастацкай самадзейнасці пры двух Палацах культуры, на прадпрыемствах і ў арганізацыях горада. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца эстрадны аркестр «Гусляры» з філіяла тэхналагічнага інстытута, гарадскі акадэмічны хор, харэаграфічны ансамбль народнага танца «Дзвінскія зоры», народны дзіцячы ансамбль песні і танца «Камарыкі». Самадзейнікі неаднаразова ўдзельнічалі ў абласных, рэспубліканскіх і саюзных конкурсах.

Кажуць, каб зразумець людзей, трэба ўбачыць іх святы. У навапалачан яны праходзяць па-свойму. Побач з канцэртамі калектываў мастацкай самадзейнасці, як правіла, у праграму свят абавязкова ўваходзіць карнавал. Гэта ўсё-такі здорава, калі пад'ёмны кран, аўтакар або самазвал у дні свята раптам ператвараюцца ў дыназаўра, забаўнага зялёнага кракадзіла або Змея Гарынавіча і ўсе яны ідуць па вуліцах, раскідваючы іскры бенгальскіх агнёў...

Прыгожы Навапалацк увечары. Калі вялікі «незгараючы сафіт»—сонца, добра напрацаваўшыся за дзень, пачынае пакрысе згасаць і апускацца за далягляд, горад прымае абрысы, якія складаюцца ўжо не з аб'ёмаў і ліній, як удзень, а сатканы з тысяч дзівосных узораў асветленых вокнаў, вісячых гірлянд нафтахімічных установак. У Навапалацка ёсць свая светлавая мелодыя, свой музычны рытм. Яго можна слухаць, як музыку!..

Горад расце. Навапалачане жартуюць: «Раніцай паедзеш з дому, а вяртаешся і не пазнаеш яго». Цяперашняя манатоннасць забудовы Навапалацка ўжо разбіваецца высотнымі будынкамі, плошчамі рознай формы, помнікамі. Хутка пачнецца забудова правага боку ракі, і Навапалацк рушыць далей, на стрэчу са старажытным Полацкам.

Неўзабаве скарасная трамвайная лінія звяжа горад з прамысловай зонай...

Новы горад нарадзіўся, як у казцы, як працяг той легенды, што жыве з даўніны, ад часоў сівога Полацка. І яго кожны дзень— крок у будучыню, да новай славы.

**Рыгор КАДЗЕТ.**

Фота **аўтара і У. Мяжэвіча.**





# ГАРТАВАНЫЯ Ў ЗМАГАННІ

Цяпер, бадай, не кожны з людзей маладых, камсамольцаў ведае, што амаль палова Беларускай ССР (Брэсцкая і Гродзенская вобласці, паўночна-заходнія раёны Міншчыны і Віцебшчыны) ў 1920 годзе была захоплена буржуазна-памешчыцкай Польшчай і знаходзілася пад яе панаваннем да вызвалення Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года. Амаль два дзесяцігоддзі нашы адзінакроўныя браты пакутавалі ў няволі.

Польскія капіталісты і памешчыкі на захопленых заходнебеларускіх землях устанавілі суровы акупацыйны рэжым, паўсюдна пасялілі асаднікаў, праводзілі палітыку грабяжу, жорсткай эксплуатацыі рабочых і сялян, нацыянальнага заняволення беларусаў і іншых нацыянальных меншасцяў, бязлітасна рабавалі прыродныя багацці краю.

Асабліва ў цяжкім, пакутлівым і безнадзейным становішчы знаходзілася моладзь. Беларускія школы былі закрыты. Паступіць у польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы ніхто з паднявольнай моладзі не меў магчымасці. Беспрацоўе, голад, галеча былі пастаяннымі яе спадарожнікамі. Польскія ўлады бессаромна называлі моладзь «лішнім і непатрэбным пакаленнем»...

Працоўныя Заходняй Беларусі, іх сыны і дочкі не скарыліся сваім прыгнятальнікам. Яны разам з працоўнымі Заходняй Украіны і Польшчы вялі ўпартую барацьбу, якая не спынялася аж да вызвалення Заходняй Беларусі.

Рэвалюцыйнай барацьбой народных мас кіравала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, якая працавала ў выключна цяжкіх умовах рэпрэсій і жорсткага тэрору.

Баявым памочнікам КПЗБ, натхніцелем, арганізатарам моладзі ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР быў Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі, народжаны ў гарніле рэвалюцыйнага змагання.

Як і камуністы, камсамольцы дзейнічалі нелегальна і, нягледзячы на жорсткасць польскіх улад, не спынялі барацьбы ні на адзін дзень. Яны сваёй самаадданасцю, мужнасцю заваявалі ў народзе ўсеагульную пашану і любоў.

Першыя камсамольскія арганізацыі ў Заходняй Беларусі пачалі дзейнічаць у 1920 годзе.

У кастрычніку 1923 года ў Вільні на нелегальнай канферэнцыі прадстаўнікоў ад камуністычных арганізацый, якія дзейнічалі тады на тэрыторыі Заходняй Беларусі, было абвешчана ўтварэнне Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Гэта паскорыла стварэнне Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі. Камсамольцаў у той час налічвалася: у Вільні—90, Беластоку—80, Гродне—20, Брэсце—45, Слоніме—20, Пінску—22, Сувалках—12, Крынках—7 і г. д.

У студзені 1924 года ў Вільні адбылася 1-я нелегальная канферэнцыя камсамольцаў Заходняй Беларусі. У сувязі з хваляй масавых арыштаў, якая пракацілася, на канферэнцыю прыбылі дэлегаты толькі ад Вільні, Беластока, Гродна, Брэста і Пінска. Прадстаўлялі яны больш як 120 членаў КСМ, што знаходзіліся на волі, і значную частку пасаджаных у турмы.

Канферэнцыя прыняла пастанову аб стварэнні Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі як самастойнай аўтаномна-тэрытарыяльнай арганізацыі моладзі, што ўваходзіць у склад КСМ Польшчы і працуе пад кіраўніцтвам КПЗБ. Удзельнікі яе абмяняліся вопытам работы, абмеркавалі мерапрыемствы па арганізацыйнаму афармленню нізавых камсамольскіх арганізацый, стварэнню камітэтаў камсамола, выбралі ЦК ЛКСМЗБ. У яго ўвайшлі: М. Лабок, І. Падбярэзскі, Н. Генс (Міхайлоўскі), Т. Гелер і іншыя. ЦК КСМЗБ узначаліў прадстаўнік ЦК КСМ Польшчы І. Унгер (Роланд). У лютым 1924 года ЦК КПЗБ накіраваў на работу ў камсамол Заходняй Беларусі Веру Харужую, якая ўвайшла ў склад ЦК КСМЗБ, а к сярэдзіне 1924 года ўзначаліла яго.

ЦК КСМЗБ разгарнуў энергічную арганізатарскую і агітацыйную дзейнасць сярод моладзі, стварыў акруговыя, гарадскія і раённыя камітэты камсамола. Пачаўся шпаркі рост пярвічных арганізацый, асабліва ў вёсцы. «Пачаць работу ў вёсках нам удалося параўнаўча нядаўна,—пісала ў адным са сваіх артыкулаў Вера Харужая ў часопісе «Мировой комсомол»,—але ўжо гэты перыяд часу даў нам больш як 40 вясковых ячэек».

З лістапада 1924 года ЦК КСМЗБ пачаў выдаваць сваю нелегальную газету «Малады камуніст». У першым нумары газета пісала: «...Праследуемы і загнаны ў падполле камсамол Заходняй Беларусі пры дапамозе свайго друкаванага органа здолее яшчэ цясней звязацца з рабоча-сялянскай моладдзю, аб'ядноўваць і ўзнімаць яе на барацьбу супраць буржуазіі і памешчыкаў, за вызваленне Заходняй Беларусі з-пад прыгнёту акупантаў і ўз'яднанне з працоўнымі Савецкай Беларусі, што пойдзе па шляху, указаным вялікім Леніным».

Камсамолія Савецкай Беларусі горача вітала выданне «Маладога камуніста».

Імкнучыся прыпыніць рост палітычнага ўплыву камсамола, паліцыя пачала масавыя арышты моладзі. Напярэдадні 1 мая 1924 года ў Вільні схапілі некалькі соцень чалавек, сярод іх былі і члены ЦК КСМЗБ—М. Лабок, Н. Генс і А. Цукерман. Масавыя арышты віленскіх камсамольцаў у 1924 годзе завяршыліся судова-палітычным «працэсам 94» у Вільні. Гэта быў адзін з найбольш буйных і агідных судовых працэсаў у Заходняй Беларусі ў сярэдзіне 20-х гадоў. Акупацыйныя ўлады прыкладалі ўсе старанні, каб проціпаставіць камсамол рабочай моладзі, зганьбіць, абылгаць яго. Але дарэмныя былі іх намаганні.

У чэрвені 1925 года ў Вільні нелегальна адбылася ІІ-я канферэнцыя КСМЗБ. У рабоце яе ўдзельнічалі дэлегаты з усіх акруг, і прадстаўлялі яны 1200 членаў КСМ на волі і вялікую колькасць—у турме.

ІІ-я канферэнцыя абмеркавала даклад сакратара ЦК Веры Харужай аб арганізацыйных задачах КСМЗБ, а таксама даклады членаў сакратарыята аб рабоце ў прафсаюзах, аб задачах у правядзенні палітыка-асветніцкай работы. Даклады і выступленні дэлегатаў былі насычаны яркімі прыкладамі мужнасці і геройства юных падпольшчыкаў. За час ад першай да другой канферэнцыі, напрыклад, двойчы была разгромлена Віленская арганізацыя КСМ. Некалькі разоў падвяргаліся частковаму разгрому камсамольскія арганізацыя ў Беластоку, Брэсце, Гродне, Баранавічах, Пінску, Слоніме. 130 членаў акруговых, гарадскіх і раённых камітэтаў камсамола былі арыштаваны і асуджаны на доўгія гады турэмнага зняволення. У турму былі кінуты члены ЦК КСМЗБ пяці саставаў. Выратавацца ад арыштаў удалося толькі тром членам ЦК КСМЗБ. Але барацьба не спынялася ні на дзень, у яе ўступалі ўсё новыя маладыя змагары.

У звароце да моладзі, які быў прыняты на канферэнцыі, гаварылася, што за паўтарагадовы перыяд камсамол увабраў у сябе лепшых прадстаўнікоў працоўнай моладзі і выстаяў перад пагражаўшай яму смяротнай небяспекай. «На фабрыкі!.. Заводы!.. Уцягнуць усю рабочую і батрацкую моладзь у прафсаюзы!.. Узмацніць барацьбу за адзінства прафсаюзнага руху!»—заклікала канферэнцыя камсамольцаў Заходняй Беларусі.

Высока ацаніла дзейнасць камсамола Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. «КСМЗБ стаў уплывовай, актыўнай арганізацыяй моладзі. Ён заваяваў велізарную папулярнасць у рабочай, сялянскай моладзі і з'яўляецца прызнаным яе правадыром і кіраўніком,—пісала газета «Чырвоны сцяг», орган ЦК КПЗБ, у артыкуле, які быў прысвечаны вынікам ІІ-й канферэнцыі КСМЗБ.—КСМЗБ на справе даказаў, што стаў дастойнай зменай КПЗБ, добрым баявым і верным яе памочнікам».

За дзейнасцю КСМЗБ уважліва сачылі камсамольцы Савецкай Беларусі. Яны былі глыбока занепакоены горкім лёсам працоўнай моладзі і з болем у сэрцы ўспрымалі кожную вестку аб самавольстве паліцыі, аб зверствах, якія яна чыніла на заходнебеларускіх землях. Узаемнае імкненне і ўмацаванне сувязі двух саюзаў з пачатку 1925 года набыло форму цеснага брацкага супрацоўніцтва: ЦК ЛКСМБ узяў шэфства над камсамолам Заходняй Беларусі, Мінская камсамольская арганізацыя—над Віленскай, Бабруйская—над Лідскай, Мазырская—над Пінскай, Калінінская—над Брэсцкай, Слуцкая—над Баранавіцкай, Аршанская—над Гродзенскай.

Сувязь, якая ўстанавілася, пастаянная перапіска кіраўнікоў ЛКСМБ і КСМЗБ мелі велізарнае палітычнае і выхаваўчае значэнне. Кожны ліст, паведамленне, данясенне КСМЗБ гучным рэхам адклікалася ў сэрцах камсамоліі Савецкай Беларусі. «Мы ведаем, у якіх цяжкіх умовах вы жывяце і змагаецеся,—пісалі вясной 1925 года камсамольцы горада Барысава сваім падшэфным таварышам.—Але мы глыбока ўпэўнены, што ніякія нагайкі, ніякія турмы і расстрэлы не змогуць задушыць вашай дзейнасці, якая ўзмацняецца, і ўзрастаючага рэвалюцыйнага руху. Мы заяўляем вам, што гатовы ў кожную мінуту змагацца разам з вамі на барыкадах супраць нашага агульнага ворага».

Камсамольцы Савецкай Беларусі лічылі сваёй кроўнай справай дапамагаць равеснікам з Заходняй Беларусі. Для сваіх падшэфных арганізацый яны збіралі грошы, пасылалі літаратуру, пісалі пісьмы. Частка такіх пісьмаў друкавалася ў газеце «Малады камуніст».

1925 год быў выключна цяжкім для камсамола Заходняй Беларусі, годам вялікіх выпрабаванняў.

Урад буржуазна-памешчыцкай Польшчы, імкнучыся задушыць супраціўленне працоўных мас, якія рашуча выступалі супраць яго палітыкі разбою, грабяжу і бяспраўя, абблытаў краіну сеткай правакацый. Засылаючы сваіх агентаў у Кампартыю і камсамол Польшчы, праводзячы масавыя арышты, паліцыя імкнулася разграміць гэтыя баявыя пралетарскія арганізацыі, а там, дзе гэта ёй не ўдавалася,—унесці раскол, пасеяць недавер'е. Натуральна, партыя і камсамол вялі рашучую барацьбу з правакатарамі, нягледзячы на тое, што кожны выпадак расправы з правакатарамі ўлады тлумачылі як акт тэрору камуністаў і камсамольцаў і бязлітасна ім помсцілі.

У Заходняй Беларусі праводзіліся шматлікія сходы, масоўкі, мітынгі моладзі, выдаваліся лістоўкі, вывешваліся

транспаранты, сцягі з пратэстамі супраць расправы буржуазіі над мужнымі змагарамі за справу працоўнага народа.

Кіруючая кліка Польшчы 20 жніўня 1925 года наладжвае судзілішча над Гібнерам, Руткоўскім і Кнеўскім. 21 жніўня яны былі расстраляны. Пачалася паласа масавых арыштаў у Заходняй Беларусі.

Польскія ўлады ўзялі курс на разгром КПЗБ і камсамола Заходняй Беларусі. З гэтай мэтай яны стварылі ў Бельску, Петрашах каля Беластока і Лендвараве—прыгарадзе Вільні спецыяльныя лагеры катаванняў. Усюды пачаліся павальныя арышты. Колькасць арыштаваных вылічалася тысячамі. У адным толькі Беластоку было арыштавана больш як 400 чалавек. 15 верасня 1925 года паліцыя схапіла ў Беластоку сакратара ЦК КСМЗБ Веру Харужую.

Тады народы яшчэ не ведалі канцэнтрацыйных лагераў Картуз-Бярозы, Асвенціма, Майданака, Трасцянца. Але каты з лагераў катаванняў Бельска, Петрашаў і Лендварава ў многім апярэдзілі фашысцкіх варвараў. Яны заганялі арыштаваным іголкі пад пазногці, білі палкамі па пятках, падвешвалі ўніз галавой, улівалі ваду ў нос, палілі жгуты ваты ў носе і ў вушах, секлі розгамі, шампаламі, распаленым жалезам прыпальвалі пяткі, закладваючы паміж дзвярыма, ламалі пальцы, прыпальвалі губы агнём папярос...

Для аказання пасільнай дапамогі арыштаваным і з мэтай абароны іх КПЗБ накіравала ў Беласток паслоў сейма Баліна і Тарашкевіча.

18 верасня 1925 года Балін звярнуўся да пракурора ў Беластоку з просьбай забараніць катаванні арыштаваных у Бельску. Пракурор пусціў у ход усё сваё красамоўства і імкнуўся даказаць, што яго, Баліна, пасла польскага сейма, увялі ў зман, скаргі на катаванні няправільныя...

Іншага абароту спраў паслы, вядома, і не чакалі. Таму ролі паміж сабой яны загадзя размеркавалі—і ў той час, як Балін выслухоўваў красамоўныя запэўненні пракурора аб тым, што скаргі на катаванні—выдумка, пасол Тарашкевіч пры садзейнічанні радыкальна настроеных адвакатаў збіраў рэчавыя доказы аб катаваннях.

21 верасня 1925 года Тарашкевіч звярнуўся да пракурора з просьбай дазволіць яму і доктару спатканне з арыштаванымі. Пры сабе ён меў паказанні, падпісаныя 18 арыштаванымі, старэйшы з якіх быў ва ўзросце 23 гадоў, а наймалодшай—дзяўчынка 14 гадоў. Усе яны настойліва сцвярджалі, што іх, кожнага паасобку, закаваных па руках і нагах, падвешвалі ўніз галавой і лілі ў нос ваду, секлі розгамі і шампаламі, білі прыкладамі вінтовак, гумовымі палкамі. Калі хто траціў прытомнасць, яго аблівалі халоднай вадой, а потым зноў пачыналі біць і патрабаваць падпісаць паказанні, патрэбныя дэфензіве... Пракурор і на гэты раз адмовіў у просьбе.



**Акно камеры Беластоцкай турмы, у якой сядзела Вера Харужая ў 1925—28 гг.**

Тады беларускія паслы Балін і Тарашкевіч адправіліся ў Бельск у надзеі, што там на месцы больш даведаюцца аб сапраўдным становішчы арыштаваных. Але паліцыя, якая ахоўвала лагер, не дазволіла ім наблізіцца да месца зняволення. На наступны дзень паслы папрасіліся на прыём да беластоцкага ваяводы з просьбай дазволіць ім і доктару наведаць арыштаваных, абяцаючы выступіць у друку з абвяржэннем, калі матэрыялы аб катаваннях не пацвердзяцца. Ваявода, таксама як і пракурор, запэўніў іх, што ў лагеры нікога не катуюць, але наадрэз адмовіў даць спатканне з арыштаванымі.

Паслы вярнуліся ў Варшаву. «Наша знаходжанне ў Беластоку,—пісалі яны ў сваёй справаздачы, апублікаванай 7 кастрычніка 1925 года ў газеце «Молат»,—папоўніла вялікі запас наяўных у нас фактаў жорсткай расправы польскіх уладаў з рабочымі і сялянамі. У святле абсалютнай беспакаранасці ўсіх выканаўцаў зробленых злачынстваў беластоцкая практыка з'яўляецца толькі звяном сістэмы, пры дапамозе якой капіталісты і памешчыкі хочуць задушыць вызваленчы рух рабочых і сялян. Такім самым звяном гэтай сістэмы было забойства літоўцаў у Мартыканскай гміне, Глебавіча ў Сядлецкай гміне, Вайтовіча ў Красным, катаванні сялян у Лідскім павеце і на Піншчыне...»

Буржуазныя газеты, замоўчваючы катаванні, на ўсе лады пісалі аб ліквідацыі камсамольскіх арганізацый. У сувязі з гэтым у вераснёўскім нумары газеты «Малады камуніст» 1925 года была надрукавана карэспандэнцыя, падпісаная «Беластоцкім камсамольцам», у якой гаварылася: «...Мы выраслі сярод праследаванняў, арыштаў і пабояў. У турмах і засценках дэфензівы мы сталі больш загартаванымі, бясстрашнымі камсамольцамі... Паны з буржуазных газет паспяшаліся апавясціць, што камсамол у Беластоцкай акрузе ўжо ліквідаваны. Хлусня! Суцэльная хлусня!.. Камсамол на Беласточчыне існуе, працягвае змагацца, хоць умовы для гэтага неймаверна цяжкія... Але мы жывём!.. Жыць будзем! Нас не знішчыш!..»

— Нас не знішчыш!—у тыя трагічныя дні стала баявым дэвізам камсамольцаў Заходняй Беларусі.

— Мы жывём! Жыць будзем! Нас не знішчыш!—гучала і як пратэст супраць катаванняў, здзекаў, і як заклік да барацьбы. Юныя падпольшчыкі свята верылі ў правату сваёй справы, верылі ў перамогу і былі цвёрда перакананы, што ў сваёй свяшчэннай барацьбе яны не адзінокія. Яны былі таксама глыбока перакананы, што на месца кожнага арыштаванага юнака стануць дзесяткі, сотні новых барацьбітоў.

19 верасня 1925 года газета «Молат»



**Дэманстрацыя працоўных у Гродне 1 Мая 1936 года.**

апублікавала пісьмо ЦК камсамола Заходняй Беларусі камсамольцам Савецкай Беларусі. «...Вось ужо месяц,—гаварылася ў пісьме,—як паліцыя граміць адзін раён за другім, арыштоўвае не толькі камуністаў і камсамольцаў, але і сотні беспартыйнай моладзі. Кожны дзень з Беластока, Заблудава, Свіслачы, Міхалова, Супраслі і дзесяткаў іншых мястэчак і вёсак прывозяць у Бельск усё новыя і новыя партыі арыштаваных. У Бельску цяпер ужо ёсць каля 700 арыштаваных...»

Бураю гневу і абурэння адказала моладзь Савецкай Беларусі на гэта пісьмо. Склікаліся сходы, мітынгі, дэманстрацыі, на якіх юнакі і дзяўчаты пратэставалі супраць разгулу белага тэрору ў Польшчы. 21 верасня 1925 года ЦК ЛКСМБ звярнуўся да працоўнай моладзі рэспублікі з заклікам стварыць фонд дапамогі камсамолу Заходняй Беларусі ў Польшчы.

Нягледзячы на масавыя арышты летам 1925 года, у лістападзе таго ж года ў шэрагах КСМЗБ ужо налічвалася 1600 чалавек. Нязгасная любоў да свабоды, да роднай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў сэрцах юных змагароў разгаралася з новай сілай.

Застаючыся верным баявым традыцыям Камуністычнай партыі бальшавікоў і Ленінскага камсамола, КСМЗБ актывізаваў свой удзел у барацьбе, усямерна садзейнічаў росту і пашырэнню рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху на заходнебеларускай зямлі. Камсамольцы стварылі юнацкія секцыі і гурткі самадзейнасці, культурна-асветныя гурткі ў вёсках пры Грамадзе, распаўсюджвалі легальную літаратуру Грамады, праводзілі вялікую масавую работу па растлумачэнню задач, што стаялі перад Грамадой як легальнай, масавай нацыянальна-вызваленчай арганізацыяй. У верасні 1926 года—напярэдадні і ў дзень МЮДа камсамольцы ўзначалілі масавыя выступленні моладзі ў гарадах, мястэчках і сёлах з патрабаваннямі: «Хлеба! Работы! Школу на роднай мове! Самавызначэнне Заходняй Беларусі аж да аддзялення ад Польшчы і далучэння яе да Савецкай Беларусі».

Урад Пілсудскага зноў узмацніў рэпрэсіі і праследаванні супраць камуністаў і камсамольцаў. На гэты раз ён узяў курс на разгром нацыянальна-вызваленчых арганізацый. У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 года паліцыя прыступіла да масавых арыштаў грамадоўскага актыву. У сакавіку 1927 года Грамада была аб'яўлена нелегальнай арганізацыяй. Над камуністамі і камсамольцамі адзін за адным наладжваліся палітычныя працэсы. У студзені 1927 года адбыўся «працэс 31» у Брэсце, на якім судзілі Веру Харужую. Вясной 1928 года ў Беластоку—«працэс 133», потым «працэс 46» у Брэсце, «працэс 75» у Гродне і г. д. Фашысцкія суды жорстка распраўляліся з камсамольцамі.

Разгром Грамады выклікаў абурэнне працоўных. Камсамольцы пад кіраўніцтвам камуністаў арганізоўвалі мітынгі, дэманстрацыі пратэстаў, склікалі сходы, патрабавалі вызваліць арыштаваных грамадоўцаў. З вялікім уздымам маладыя камуністы Заходняй Беларусі святкавалі ў 1927 годзе МЮД і Міжнародны Дзіцячы Тыдзень. Ствараліся новыя камсамольскія арганізацыі і камуністычныя дзіцячыя групы, якія потым былі рэарганізаваны ў піянерскія атрады. Каля 80 працэнтаў рабочай моладзі Вільні ў дзень МЮДа баставала. Не працавала ў гэты дзень таксама моладзь на многіх фабрыках у Беластоку. Ва ўсіх юнацкіх секцыях пры прафсаюзах адбыліся сходы. У Вільні, Беластоку, Брэсце, Гродне, Пінску і іншых гарадах і мястэчках моладзь выйшла на дэманстрацыі з пратэстамі супраць разгрому Грамады, разгулу белага тэрору, падрыхтоўкі новай вайны, у абарону СССР.

У імкненні задушыць нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі акупацыйныя ўлады пасля разгрому Грамады ўзмацнілі націск на Таварыства Беларускай Школы (ТБШ). У снежні 1928 года яны забаранілі з'езд ТБШ. Фактычна гэта была спроба пілсудчыкаў разграміць Таварыства. Камсамольцы актыўна ўключыліся ў барацьбу за выратаванне ТБШ. У вёсках склікаліся сходы, арганізоўваліся мітынгі, масоўкі, на якіх прымаліся пастановы з патрабаваннем зняць забарону і дазволіць Таварыству Беларускай Школы правесці з'езд...

У другой палове 1929 года ў Польшчы выбухнуў глыбокі эканамічны крызіс. Адным з асноўных фактараў, якія вызначалі глыбіню і вастрыню эканамічнага крызісу, з'яўлялася беспрацоўе, якое прыняло катастрафічныя памеры. Калі ў лістападзе 1928 года, паводле афіцыйных звестак, у Польшчы было 78 тысяч





А. ЯКАЎЛЕЎ. **Маці.**
Ленінград.



Д. БЕКАРАН. **Ільвіны мосцік.**
Ленінград.

Д. БЕКАРАН. **Аўтапартрэт.**



В. ЦЮЛЕНЕЎ. **Вечар.**
Ленінград.

беспрацоўных, то ў сакавіку 1929 года— 184 тысячы, а к вясне 1931 года гэта лічба дасягнула 380 тысяч.

У выключна цяжкіх умовах апынулася працоўная моладзь. У Беластоку, напрыклад, дзе было занята на тэкстыльных фабрыках каля 400 маладых рабочых, усе яны аказаліся выкінутымі на вуліцу. У першую чаргу звальнялі маладых з дзяржаўных прадпрыемстваў, чыгункі, з прадпрыемстваў, якія працавалі на ваенныя патрэбы.

Газета «Чырвоная змена» ў артыкуле «У ціскax голаду і эксплуатацыі» 9 чэрвеня 1931 года ў сувязі з гэтым пісала: «...Становішча рабочай моладзі жудаснае. Заработкі мізэрныя. Моладзь вымушана працаваць па 10—12 гадзін у дзень, пераважная яе частка ў бальнічныя касы не запісана, лекавай дапамогі не мае...»

У гады крызісу яшчэ больш узрос уплыў і актыўнасць камсамола, які згуртоўваў рабоча-сялянскую моладзь пад сцягам Камуністычнай партыі. Пад кіраўніцтвам камсамола Заходняй Беларусі праходзілі шматлікія выступленні моладзі, дэманстрацыі і мітынгі. Нярэдка камсамольцы выступалі кіраўнікамі забастовак. Напрыклад, у сакавіку 1931 года камсамольцы ўзначалілі паўтарытысячнае выступленне моладзі, батракоў і сялян Кобрынскага раёна супраць бяспраўя моладзі, зямельнага голаду і палітыкі грабяжу сялян. Летам 1931 года з 16 забастовак сезонных рабочых у Брэсцкім павеце 10 праходзіла пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле КСМЗБ.

Разам з партыяй і пад яе кіраўніцтвам камсамол вёў рашучую барацьбу з маладзёжнымі буржуазнымі арганізацыямі тыпу «Стралец». Не рэдкімі былі выпадкі, калі пад уплывам агітацыі камсамольцаў з рэакцыйных маладзёжных арганізацый дэманстратыўна выходзілі цэлыя групы па 20—30 чалавек. Так было ў Камянцы, Вішневе, Вітыні, у Віленскай рамесніцкай школе і г. д.

Дзейнасць камсамола Заходняй Беларусі высока была ацэнена выканкомам КІМа. 11 чэрвеня 1930 года Вера Харужая была ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. «У асобе тав. Веры Харужай узнагароджана ўся рэвалюцыйная моладзь Заходняй Беларусі, усе працоўныя, якія вядуць упартую барацьбу супраць фашысцкай акупацыі, за самавызначэнне Заходняй Беларусі аж да аддзялення і аб'яднання са свабоднай Савецкай Беларуссю»,—пісала ў сувязі з гэтым газета «Чырвоны Сцяг», орган ЦК КПЗБ.

У сакавіку 1931 года ў Сляпянцы пад Мінскам адбыўся І-шы з'езд Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі, які адыграў важную ролю ў жыцці і дзейнасці заходнебеларускай моладзі. У яго рабоце ўдзельнічалі 22 дэлегаты і прадстаўлялі яны 1150 членаў КСМ, якія знаходзіліся на волі.

Нялёгкімі дарогамі прабіраліся дэлегаты на з'езд. З падробленымі дакументамі трэба было абысці ўсе паліцэйскія пагранічныя заставы. Для многіх дарога ў Мінск праходзіла цераз Літву і Латвію, а сяму-таму давялося ехаць праз Германію, затым параходам дабірацца да Ленінграда.

На І-м з'ездзе ЛКСМЗБ прысутнічалі кіраўнікі ЦК КПП, ЦК КПЗБ, ЦК КСМ Польшчы, ЦК ЛКСМБ. З велізарнай увагай дэлегаты заслухалі прывітанне ад ЦК КПП, ЦК КПЗБ і ЦК КСМ Польшчы.

Са справаздачным дакладам аб дзейнасці ЦК КСМЗБ выступіў сакратар ЦК КСМЗБ М. Маслоўскі. З'езд падагуліў вынікі дзейнасці КСМЗБ і распрацаваў палітычную і тактычную лінію ва ўмовах абвастрэння эканамічнага крызісу і ўзмацнення наступлення капіталу на правы працоўных. І-шы з'езд КСМЗБ настойліва рэкамендаваў нізавым арганізацыям узмацніць масавую работу сярод працоўнай моладзі за задавальненне яе надзённых задач і заклікаў іх смялей выкарыстоўваць для гэтай мэты легальныя і паўлегальныя магчымасці, культурна-асветніцкія, спартыўныя і іншыя маладзёжныя арганізацыі.

Дэлегаты з'езда прынялі рэзалюцыі па пытаннях антымілітарысцкай работы камсамола ў барацьбе з падрыхтоўкай інтэрвенцыі супраць СССР, аб прафсаюзнай і масавай рабоце камсамола сярод рабочай моладзі, аб рабоце ў вёсцы і аб кіраўніцтве нелегальнай піянерскай арганізацыяй. У прынятым Маніфесце КСМЗБ з'езд заклікаў юнакоў і дзяўчат Заходняй Беларусі разам з працоўнымі Польшчы змагацца за звяржэнне фашысцкай улады ў Польшчы, за рабоча-сялянскі ўрад, за самавызначэнне Заходняй Беларусі аж да аддзялення ад Польшчы і ўз'яднанне з БССР.

Пасля з'езда асаблівую ўвагу КСМЗБ

звярнуў на нелегальны камсамольскі друк. Апрача газеты «Малады камуніст», ЦК КСМЗБ прыступіў да выдання раду нелегальных маладзёжных газет—у прыватнасці, пачалі выходзіць «Малады змагар», «Млоды боёвік», «Дэр юнгер кемпфер», «Сцяг піянера» і інш. Акруговы камітэт камсамола Вільні пачаў выдаваць нелегальную газету «Пралом», у Беластоку пачала рэгулярна выходзіць газета «Беластоцкі камсамолец», з'явіліся нелегальныя газеты, якія выдаваліся камсамольцамі ў Слоніме, Брэсце, Навагрудку. Усё гэта садзейнічала яшчэ большай актывізацыі камсамола.

У ліпені 1932 года ў ваколіцах Мінска адбылася III канферэнцыя КСМЗБ. У яе рабоце прынялі ўдзел 19 дэлегатаў і прадстаўлялі яны 3400 членаў КСМЗБ, якія знаходзіліся на волі. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі ад ЦК КПП, ЦК КПЗБ, Выканкома КІМа, ЦК КСМ Польшчы, ЦК КСМ Заходняй Украіны і ЦК ЛКСМБ.

III канферэнцыя КСМЗБ была прысвечана антываеннай рабоце і барацьбе камсамола за моладзь, якая знаходзілася ў варожых маладзёжных арганізацыях. Яна распрацавала праграму баявых дзеянняў камсамола па стварэнні адзінага фронту рабочай моладзі і шырокага антыфашысцкага народнага фронту працоўнай моладзі супраць імперыялістычнай вайны, разгулу белага тэрору, за дэмакратычныя свабоды і правы моладзі, у абарону СССР. Дэлегаты канферэнцыі ў сваіх выступленнях асаблівую ўвагу звярнулі на арганізацыю работы сярод салдатаў польскай арміі і дапрызыўнікаў.

Пасля канферэнцыі пачала выходзіць нелегальная газета «Дапрызыўнік» («Поборовец»—на польскай мове), выдавалася вялікая колькасць адозваў, лістовак да салдатаў польскай арміі і навабранцаў, у якіх растлумачвалася, чаму трэба і як трэба абараняць СССР, як змагацца супраць прыгнятальнікаў працоўнага народа. Сумесна з рэвалюцыйна настроенымі салдатамі і дапрызыўнікамі камсамол распрацаваў прысягу дапрызыўніка, які ішоў у польскую армію.

Провады навабранцаў у польскую армію, як правіла, ператвараліся ў маніфестацыю дружбы з савецкім народам. Звычайна напярэдадні провадаў арганізоўваліся масоўкі, сходы, мітынгі, на якіх навабранцы выступалі з гнеўнымі пратэстамі супраць праводзімых польскім урадам пацыфікацый, падатковага грабяжу, падрыхтоўкі імперыялістычнай вайны і прысягалі быць вернымі справе працоўнага народа.

Актывізаваліся, набывалі новы размах класавыя баі працоўных. Пры самым непасрэдным і актыўным удзеле камсамола пачалі 15 кастрычніка 1932 года сваю забастоўку рабочыя лясных промыслаў Белавежскай пушчы і возчыкі 56 вёсак з патрабаваннем павысіць заработную плату на 30 працэнтаў. Неўзабаве да іх далучыліся возчыкі 50 вёсак Пружаншчыны. Сярод бастуючых, асабліва на Пружаншчыне, было многа моладзі. У кожным забастовачным камітэце быў прадстаўнік моладзі. Пікеты самаабароны і чырвоныя ганцы складаліся ў асноўным з моладзі.

Зімой 1933—1934 года зноў успыхнула забастоўка лясных рабочых і возчыкаў. Баставалі 12 лясніцтваў і 130 вёсак Беласточчыны, Гродзеншчыны і Палесся. Кіравалі ёю прафсаюз рабочых лясной прамысловасці, які знаходзіўся пад уплывам КПЗБ, і 32 створаныя забастовачныя камітэты. Камсамольцы і ў гэтай забастоўцы прымалі актыўны ўдзел. Дзякуючы арганізаванасці і стойкасці, бастуючыя 12 лютага 1934 года паспяхова закончылі сваю барацьбу і прыступілі да работы.

Вялікі гераізм і мужнасць праявілі камсамольцы ў часе трохмесячнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў Беластоцкага прамысловага раёна ў 1933 годзе. Чатыры саставы гарадскога камітэта камсамола горада Беластока было кінута паліцыяй у турму. Але кожны раз арыштаваных камсамольскіх актывістаў замянялі новыя таварышы. У часе вулічных баёў на Выгадзе ў Беластоку і ў Супраслі камсамольцы і маладыя рабочыя-тэкстыльшчыкі былі ў першых шарэнгах.

Выключна важную ролю адыгралі камсамольцы ў часе масавага выступлення сялян вёскі Асташына на Навагрудчыне вясной 1932 года. Яны бясстрашна ўдзельнічалі ва ўзброеных сутычках з паліцэйскімі. Многіх юнакоў суд прыгаварыў потым да пажыццёвага турэмнага зняволення, а чатырох і між іх Мальца Аляксандра—сакратара Навагрудскага

**Палітычныя вязні з Беластоцкай турмы. 1939 год.**



акруговага камітэта камсамола да пакарання смерцю. Нягледзячы на гэта, моладзь працягвала змагацца.

23 сакавіка 1934 года КСМЗБ арганізаваў аднадзённую забастоўку школьнікаў і масавыя выступленні моладзі за школу на роднай мове. К гэтаму дню былі выдадзены спецыяльныя лістоўкі, адозвы і газеты. Напярэдадні і ў дзень 23 сакавіка на вуліцах многіх гарадоў, мястэчак і вёсак вывешваліся транспаранты; на сценах дамоў і грамадскіх будынкаў пісаліся патрабаванні адкрыць школы на роднай беларускай мове.

У дні масавых выступленняў у шэрагу вёсак на Слонімшчыне, Навагрудчыне, Гродзеншчыне, Брэстчыне, у Вільні і Беластоку ўзніклі новыя піянерскія атрады, існуючыя атрады таксама значна выраслі. Каля 300 піянераў былі прыняты ў камсамол.

Вялікую ініцыятыву праявілі камсамольцы ў барацьбе па стварэнні адзінага рабочага і шырокага народнага фронту моладзі. Пад уплывам камсамола ў Беластоку і Вільні былі створаны адзінафрантавыя камітэты моладзі па барацьбе супраць фашысцкай канстытуцыі і новага выбарчага закона.

Восенню 1932 года пры непасрэдным удзеле і дапамозе ЦК КСМЗБ была створана легальная арганізацыя яўрэйскіх студэнтаў «Функ», а затым з ліку радыкальна настроенай часткі польскіх студэнтаў—«Фронт». Яны вялі супольную работу ў масах моладзі.

Кіраўнікі гэтай арганізацыі Г. Дэнбінскі, С. Ендрыхоўскі, Е. Путрамент, К. Петрусевіч, М. Казлоўскі, Я. Капала, М. Дзявіцкая і інш. вялі вялікую работу сярод студэнтаў і навучэнцаў, рэзка асуджалі палітыку польскага ўрада на «крэсах усходніх». У 1934 годзе яны пачалі выдаваць легальную газету «Разэм», а пасля яе закрыцця, са жніўня 1935 года,—двухтыднёвік «Папросту». «Папросту» карыстаўся вялікай папулярнасцю не толькі ў Заходняй Беларусі, а і за яе межамі. На яго старонках друкаваліся творы беларускіх паэтаў. Адным з супрацоўнікаў «Папросту» быў тады камсамолец Максім Танк.

У сакавіку 1936 года ўлады забаранілі выданне «Папросту». Але кіраўніцтва арганізацыі «Фронт» неадкладна прыступіла да выдання газеты «Карта», якая працягвала баявыя традыцыі «Разэм» і «Папросту». «Карта» пасля выхаду трох нумароў была закрыта, а кіраўніцтва арганізацыі «Фронт» арыштавана.

**Старэйшыя члены Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і рабочага руху, якія адбывалі турэмнае зняволенне ў Бяроза-Картузскай турме, сустрэліся на месцы былой турмы. 1967 год.**

Арганізацыя «Фронт» перайшла на нелегальнае становішча.

Тым часам антыкамуністычная кампанія і рэпрэсіі абвастрыліся. У канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза без суда і следства адпраўлялі ўсіх, хто здаваўся падазроным акупацыйным уладам. Аднак забастовачная хваля шырылася, масавыя выступленні сялян раслі, усюды праходзілі мітынгі пратэсту, сходы, масоўкі.

Польскія ўлады жорстка помсцілі камсамолу Заходняй Беларусі за яго рэвалюцыйную дзейнасць, уменне арганізаваць і ўзначаліць барацьбу моладзі. Суды прыгаворвалі камсамольцаў на «крэсах усходніх» на большыя тэрміны зняволення, чым у карэннай Польшчы. У Заходняй Беларусі, раней чым дзе-небудзь, пачалі прымяняць пакаранне смерцю да моладзі не толькі 20—18, але нават і 17 гадоў. У засценках дэфензівы і турэмных казематах былі замучаны многія лепшыя маладыя падпольшчыкі.

Каб дэмаралізаваць камсамол знутры, пасеяць паніку, выклікаць замяшанне, паліцыя нярэдка засылала ў КСМЗБ сваіх платных тайных агентаў, вербавала з ліку няўстойлівых членаў КСМ правакатараў. Але маладыя змаганцы выкрывалі подлых здраднікаў і рашуча распраўляліся з імі. У прыватнасці, быў раскрыты і тайны агент паліцыі кулацкі сын Я. Стральчук, які дзейнічаў у камсамоле Заходняй Беларусі ў трыццатыя гады як сакратар акруговага камітэта камсамола, а затым інструктар ЦК КСМЗБ. Рашэнне кіраўніцтва партыі і камсамола было строгае—ліквідаваць правакатара. Зрабіць гэта ўзяўся адважны юнак, актыўны работнік КСМЗБ Сяргей Прытыцкі. 27 студзеня 1936 года ён пранікнуў у залу пасяджэнняў Віленскага акруговага суда. Дачакаўшыся, калі правакатар пачне даваць свае паказанні, Прытыцкі стрэліў у яго некалькі разоў. Выбрацца з будынка суда Сяргею Прытыцкаму не ўдалося. Ён быў цяжка паранены і схоплены. У чэрвені 1936 года фашысцкі суд прыгаварыў С. Прытыцкага да пакарання смерцю.





Барацьба за жыццё Сяргея Прытыцкага вылілася ў магутны народны рух, які ўзначалілі КПП і КПЗБ. Быў створаны спецыяльны Камітэт абароны Сяргея Прытыцкага. У барацьбу за жыццё камсамольца ўключыліся працоўныя Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі, Англіі, ЗША. Ленінскі камсамол у Савецкім Саюзе на масавых мітынгах, сходах патрабаваў адмены смяротнага прыгавору Прытыцкаму і яго вызвалення. І польскі ўрад вымушаны быў смяротны прыгавор замяніць пажыццёвым турэмным зняволеннем.

Дзейнічаючы ў глыбокім падполлі, ва ўмовах нечуванага тэрору, КСМЗБ захоўваў вернасць трыдцыцям слаўнай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Камуністычнай партыі Савецкай Беларусі. Ён пастаянна знаходзіўся ў цесным кантакце з ЛКСМБ і ВЛКСМ.

У дні грамадзянскай вайны ў Іспаніі КСМЗБ адным з першых у Польшчы адгукнуўся на заклік Выканкома Камінтэрна аб дапамозе іспанскаму народу.

Сярод слаўных імён тых, хто пакінуў памятны след у гісторыі заходнебеларускага камсамола ў перыяд 1935—1937 гадоў,—Мікалай Дворнікаў, першы сакратар ЦК КСМЗБ. У 1937 годзе ён разам з членам сакратарыята ЦК КСМЗБ В. Розенштэйнам узначаліў групу камсамольцаў-добраахвотнікаў, якія нелегальна адправіліся ў Іспанію змагацца з фашызмам. На долю М. Дворнікава выпаў высокі гонар—быць камісарам

танкавага батальёна імя Палафокса, а затым камандаваць ротай імя Шаўчэнкі. У баях ён і загінуў.

Камсамольцы-добраахвотнікі Заходняй Беларусі складалі баявое ядро інтэрнацыянальнай брыгады імя Дамброўскага. Сваю самаадданую барацьбу ў Іспаніі яны разглядалі як уклад працоўных Заходняй Беларусі ў справу міжнароднай салідарнасці з іспанскім народам, у барацьбу з самым лютым ворагам чалавецтва—фашызмам.

У 1938 годзе КПП, а заадно КПЗБ і КПЗУ, якія ўваходзілі ў яе, былі распушчаны. Спыніў сваё існаванне і КСМЗБ. Аднак і пасля роспуску камсамольцы Заходняй Беларусі па-ранейшаму жылі баявымі традыцыямі, працягвалі актыўную рэвалюцыйную дзейнасць.

1-га верасня 1939 года гітлераўская Германія напала на Польшчу, і з'явілася небяспека захопу фашыстамі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія ўступіла на тэрыторыю Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі і ўзяла пад абарону насельніцтва і маёмасць гэтых зямель.

З велізарным пачуццём удзячнасці, са слязьмі радасці сустракалі савецкіх воінаў-вызваліцеляў працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

— Мы змагаліся і верылі ў тое, што настане дзень, калі братнія народы Савецкага Саюза прыйдуць к нам на дапамогу, працягнуць сваю братнюю руку і дапамогуць нам вызваліцца з-пад ярма капіталістаў і памешчыкаў,—заявіў у сваім выступленні на нечарговай трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 13 лістапада 1939 года член Паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі ў Мінску Сяргей Прытыцкі, якога Чырвоная Армія вызваліла з турмы.

Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна ўз'ядналіся з адзінакроўнымі братамі. 2 лістапада 1939 года нечарговая V сесія Вярхоўнага Савета СССР, заслухаўшы заяву паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі, прыняла Закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і ўз'яднанні з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай.

У кастрычніку 1939 года ЦК ЛКСМБ накіраваў у заходнія вобласці 6 тысяч камсамольцаў-актывістаў. У ліку іх былі вопытныя арганізатары моладзі К. Мазураў, Я. Бугаёў, В. Сысоева, Ф. Рома і многія іншыя. На працягу года было створана звыш тысячы пярвічных камсамольскіх арганізацый і прынята ў камсамол каля 10 тысяч юнакоў і дзяўчат. На 1 верасня 1940 года ў заходніх абласцях Беларусі налічвалася звыш 23 тысяч камсамольцаў і 22 тысячы піянераў. Камсамольскія арганізацыі дапамаглі партыі падабраць з моладзі работнікаў для органаў Савецкай улады, грамадскіх арганізацый і культурных устаноў, школ, клубаў і г. д. У вызваленым краі разгарнулася шпаркае сацыялістычнае будаўніцтва.

Калі над Савецкай краінай зашугала полымя Вялікай Айчыннай вайны, былыя камсамольцы Заходняй Беларусі сталі ў шэрагі абаронцаў сваёй Сацыялістычнай Айчыны. Сяргей Прытыцкі з першых дзён вайны знаходзіўся ў Чырвонай Арміі. Затым быў абраны другім сакратаром ЦК ЛКСМБ, а з вясны 1944 года працаваў намеснікам начальніка Польскага штаба партызанскага руху. Былы член ЦК КСМЗБ, дэлегат II з'езда КПЗБ Іван Дабрыян стаў камісарам партызанскага атрада імя Дзяржынскага. Вялікую і адказную работу выконваў па заданні штаба партызанскага руху Васіль Ласковіч. Многія былыя заходнебеларускія камсамольцы, змагаючыся на франтах Вялікай Айчыннай вайны, загінулі смерцю герояў.

Імклівa ляціць час. Тыя далёкія гады сталі гісторыяй. Але ў памяці народнай жывуць баявыя традыцыі КПЗБ, незабыўныя подзвігі нашых мужных барацьбітоў.

Слаўны шлях камсамола Заходняй Беларусі, 50-годдзе якога мы адзначаем, поўны выпрабаванняў і мужнасці ў барацьбе за свабоду і шчасце свайго народа, прыклад адданасці і вернасці марксізму-ленінізму, пралетарскаму інтэрнацыяналізму. Слава і традыцыі камсамоліі былой Заходняй Беларусі жывуць і будуць жыць у справах нашай моладзі, якая беражэ і шануе подзвіг і мужнасць сваіх палымяных папярэднікаў.

**Сяргей АНІСАЎ,**
**былы сакратар ЦК КСМЗБ.**



## ЦІ ПОМНІМ МЫ ЎСЁ?



### 1974 ЛЮТЫ

**1**
70 гадоў з дня нараджэння Р. А. Качаткова (1904—1968), народнага артыста Узбекскай ССР і БССР.

**2**
90 гадоў з дня нараджэння Я. К. Аляксеева (1884—1972), вучонага-агранома, акадэміка Акадэміі навук БССР.
60 гадоў з дня нараджэння (1914) С. Г. Нісневіч, беларускай музыказнаўцы.

**2—3**
55 гадоў назад (1919) адбыўся I з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў БССР. З'езд прыняў першую Канстытуцыю БССР.

**5—16**
45 гадоў назад (1929) праходзіў XII з'езд КП(б) Беларусі.

**6**
60 гадоў з дня нараджэння (1914) А. А. Куляшова, народнага паэта БССР.

**7—12**
35 гадоў назад (1939) праходзіў XIII з'езд ЛКСМ Беларусі.

**8**
70 гадоў з дня нараджэння (1904) А. І. Лапо, вучонага ў галіне селекцыі і раслінаводства, акадэміка Акадэміі навук БССР.
60 гадоў з дня нараджэння В. П. Таўлая (1914—1947), беларускага паэта.

**9**
75 гадоў з дня нараджэння (1899) І. Д. Мішэніна, вучонага-медыка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**10—12**
25 гадоў назад (1949) праходзіў XVI з'езд ЛКСМ Беларусі.

**10—13**
20 гадоў назад (1954) праходзіў XXI з'езд КП Беларусі.

**12**
15 гадоў назад (1959) адкрыўся IV з'езд пісьменнікаў БССР.

**14**
60 гадоў з дня нараджэння (1914) П. В. Масленікава, мастака тэатра, пейзажыста, мастацтвазнаўцы і педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**15**
70 гадоў з дня нараджэння (1904) Л. П. Александроўскай, народнай артысткі СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР.

**15—18**
25 гадоў назад (1949) праходзіў XIX з'езд КП(б) Беларусі.

**16**
50 гадоў з дня нараджэння (1924) А. М. Заспіцкага, беларускага скульптара.

**20**
50 гадоў з дня нараджэння (1924) В. З. Ражкова, беларускага мастака прыкладнога мастацтва.

**23**
**Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.**

**28**
60 гадоў з дня нараджэння (1914) М. І. Арынчына, вучонага ў галіне фізіялогіі чалавека і жывёл, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

Аляксандр СВАБОДЗІН

# ТАЎСТАНОГАЎ. УРАЖАННЕ

Спрабуючы «схапіць» яго асобу ў руху, выразна разумею, што і мой пункт назірання таксама нібыта рухомы: гэта вынік адноснасці многіх адначасовых рухаў—гадоў, людзей, мастацтва. Адзіны клопат—засцерагчыся б ад мудрасці і, як кажуць, заднім днём.

Сілуэт ствараецца па-рознаму. Лёгкім штрыхом, чорнаю лініяй на белым. Можна абвесці цень на сцяне. А можна выразаць з паперы—і профіль аточацца пустою прастораю. Потым, калі хочаце, падкладзіце ружовае, зялёнае альбо залата—каму што падабаецца. Але навошта прыспешваць час і адымаць права на адкрыцці ў будучых гісторыкаў тэатра!

Аднойчы ён здзівіўся:

— Ведаеце, я—нейкая легенда! У перыферыйных тэатрах гавораць: вось Таўстаногаў, у яго тое, у яго гэта... Кажуць нават тыя, хто не бачыў маіх спектакляў. Верацъ, што ёсць недзе Таўстаногаў, ён ведае сакрэт. Я глядзеў на ўсё гэта збоку, але ў апошні час думаю: можа быць, так ім лягчэй працаваць? Дзіўна, ці не праўда?

Гэтыя легенды—глыбока ўкаранёная і, па-сутнасці, патрэбная, а часам і выратавальная асаблівасць тэатральнага побыту. І крыніца іх—абавязкова з'ява вялікая, выдатная. Яны даюць сілы не расчаравацца ў прафесіі, падымаюць жыццёвы тонус, нават калі сам ты, рэжысёр ці акцёр, знаходзішся ў цяжкім становішчы, пакрыўджаны абставінамі.

Многа гадоў бачу, як з дня ў дзень, зрываючыся і зноў беручыся за справу, ён імкнецца дацягнуцца да гэтай легенды, дацягнуцца да... Таўстаногава. Самаразбурэнне—гэта таксама магчымасць самааддачы ў мастацтве, асабліва ў тэатры. Яму бліжэй самаўдасканаленне. Ён—прыклад прадуманага стварэння сваёй асобы мастака. Некалі прафесар Бяркоўскі назваў Інакенція Смактуноўскага, які толькі што стварыў Мышкіна, акцёрам абдуманага натхнення. Рэжысёрам абдуманага натхнення можна назваць Таўстаногава, які запрасіў Смактуноўскага на гэтую ролю.

Але рэжысёр—гэта яшчэ не ўсё. Ён—г а л о ў н ы рэжысёр, а гэта другая тэатральная прафесія. Існуе нікім не запісаны, але, дальбог, цікавы мартыралаг існых пастаноўшчыкаў нядрэнных, а то і проста таленавітых спектакляў, якія загінулі ад гэтага малога, усяго ў сем літар, слова, якое ў адну трагічна-сонечную раніцу па волі лёсу паставіла іх перад явою прафесіі, што яшчэ ўчора здавалася такой неадчужанаю, натуральнаю. І на многа гадоў, а здаецца—і назаўсёды гэтыя пакутнікі губяць даручаную ім трупу.





На рэжысёра вучацца, маючы да гэтага здольнасці. Галоўным трэба быць ад пачатку, трэба мець пастаўлены прыродаю характар. Як і слых.

У сучасным разуменні спектакль—мадэль чалавечага жыцця. Тэатр, такім чынам, прыпадабняецца да мадэлі свету (касмаганічнае разуменне тэатра прыйшло да нас з даўніх часоў). Стварэнне тэатра—праца Творцы. Творцы—не дыктатара, як думаюць некаторыя рэжысёры ў сваёй прастадушнасці і, надрываючы галасавыя звязкі на рэпетыцыях і ў прамежках між імі, паспяхова праходзяць курс уніжэння акцёра.

Не, тут іншае: тут—свае сем дзён тварэння, толькі ўсё тут пачынаецца з чалавека....

Дык вось—пра сілуэт. Калі ўявіць сабе месца не запоўненым, калі зірнуць у абведзеную далечыню яго сілуэта, які так любяць выяўляць аўтары шаржаў...

Бачу яго сярод кніг, карцін, магнітафонных запісаў. Не бяруся меркаваць, як гэта ў яго пачалося, толькі, думаю—не ад стандартных уяўленняў аб інтэлектуальным камфорце, калі ёсць усё, апроч жадання да ўсяго гэтага дакрануцца.

Ён пачаўся, калі тэатр у нас не быў яшчэ «адной са з'яў ш т о д з ё н н а г а ўжытку тыпу...» (тут сучасны чалавек лёгка ўяўляе тэлебачанне, кінематограф, спорт, турызм... Гэта толькі канстатацыя факта—не асуджэнне).

Ён пачаўся, калі Мастацкі тэатр яшчэ параўноўвалі з храмам Васілія Блажэннага, Траццякоўскай галерэяй... Яго паўсядзённыя сувязі з тым, што называецца сховішчамі духоўнага пачатку, выяўляюць тое дзіцячае здзіўленне перад культураю, якое прыходзіць аднойчы і не пакідае ўжо да канца дзён.

Яго паступова ўцягвае бязмежнае багацце чалавечай культуры, калі з'яўляецца нястрымная патрэба ўвабраць у сябе ўсё, даведацца, паглядзець, прачытаць, прывесці ў сістэму. Але, мала таго,—калі з'яўляецца нечаканае пачуццё куль-

турнай настальгіі, калі высвятляецца, што мастаку, прыхільніку штовячэрняга наватарства, знаёмы і неабходны шчымлівы сум па формах жыцця і мастацтва, якія праходзяць. Нават калі праходзяць яны ў поўнай згодзе з незваротнымі законамі быцця.

Тут, у гэтым пачуцці—вытокі даўняга яго жадання зрабіць спектакль, гэтае зыбкае штовячэрняе з'яднанне тысяч зыбкіх элементаў, прыналежнасцю вечнай культуры.

Адсюль, думаецца мне, бярэ пачатак і яго імкненне да завершанасці спектакля ва ўсіх яго элементах, нават самых другарадных, каб ніякая нацягнутасць не абурала гледача. Адчуванне створанай рэчы—вось што яму трэба! Таму культура ў Вялікім драматычным тэатры, у тым ліку і вытворчая—служыць эталонам для тэатраў краіны.

Пры сустрэчы, замест стандартнага рэжысёрскага прывітання: «Ці чыталі вы гэту п'есу?»—ён пытаецца: «Ці чыталі вы гэту кнігу?» («Вы не чыталі «Чарадзейнай гары» Томаса Мана? Ну, я вам зайздрошчу—вас чакае вялікая асалода!» «Раю, абавязкова прачытайце гэты раман Цендракова—гэта адзін з самых сур'ёзных твораў пра наш час!»).

Ён «усё» чытаў, бачыў, непакоіцца, калі нешта недзе адбылося, пастаўлена, знята—у любым пункце планеты, а ён яшчэ не чытаў, не бачыў, не мае пра гэта хоць бы надзейнай інфармацыі.

Ён усё скарачае і скарачае свой тэатральны кругаварот, такі прыгожы і рамантычны для тых, хто не ведае, што гэта такое, каб мецъ час на абавязковы туалет культурнага чалавека: чытанне, паездкі, роздум у адзіноце...

Ён не імкнецца зрабіць уражанне тэатральнага чалавека: часам нават здаецца, што ён не хоча, каб яму напаміналі пра тэатр. Як добры хірург—адключаецца ад свайго аперацыйнага стала і робіцца чалавекам грамадства. Ведае: паўната жыцця, інтэнсіўнасць сувязі з рознабаковай сапраўднасцю—адначасова і яго праца чалавекам грамадства. Ведае: паўната для яго—не другасная ява.

Ён гаворыць пра кнігу, пра п'есу, радуецца нейкай рэчы, слухае музыку, расказвае камусьці якуюсьці гісторыю, бясконца перарабляе інтэр'ер свайго пакоя, займаецца з тэатральным мастаком, захапляецца ювелірнай апрацоўкай макета, нарэшце, абмяркоўвае палітычныя структуры дня, падрабязна аналізуючы інфармацыю,—заўсёды ён як бы с т а в і ц ь гэты працэс пражыцця, у якім удзельнічае сам, як бы мізансцэнуе яго, напаўняе слоўным дзеяннем, сочыць за даўжынёю, гармоніяй частак, яснасцю думак, танальнасцю гучання, адным словам,—за эстэтыкай нейкага канкрэтнага адрэзка жыцця. І робіць гэта падсвядома. Калі сказаць яму,—напэўна, нават здзівіцца.

Гэта—яго натура, а натура яго тэатральная. Таму свята тэатра заўсёды з ім...

Яго прыродная прыналежнасць да ўнікальнай перш за ўсё сваёй беспрэцэдэнтнай універсальнасцю прафесіі рэжысёра—неаспрэчная. Таму, відаць, ён—адзін з самых культурных рэжысёраў краіны, якія сваю адукаванасць і эрудыцыю зрабілі інструментам сваіх мастацкіх ідэй.

Захапляючыся чужой таленавітасцю, з цяжкасцю (так і трэба мастаку) прымаючы—калі прымае—цэласнасць і эфектыўнасць чужых рашэнняў, ён з пагардлівай іроніяй адносіцца да спадзяванняў на «нутро», падсмейваецца над наіўнаю прапагандаю, якая мае ўсё яшчэ месца ў тэатральным асяроддзі, гэткага «пупкізму».

Лічачы рэжысёрскае слованестрыманне вынікам няўмення выпрацаваць неабходны ўмоўны стыль, алгарытм прафесіі, зразумелы ў тэатры адной веры, ён не цэрпіць тэатральнага і іншага жаргону і сцвярджае, што дэманстрацыйнае няўменне гаварыць на роднай, правільнай мове не да твару сапраўднаму таленту.

Калі зірнуць на далёкія абрысы яго сілуэта...

Ён яшчэ раз даказвае тое, што рэжысура—прафесія высокакультурных людзей («Ёсць недзе Таўстаногаў. Ён ведае сакрэт...» Ды не—тут іншае: ён проста в е д а е!). Персаніфікаваны доказ гэтай, нібыта відавочнай, ісціны неабходны нашаму тэатру штодзённа і нават болей, чым можна сабе ўявіць.

Акно яго пакоя—ад падлогі да столі. Ніжнюю чвэрць яго запаўняюць кроны высокіх дрэў, якія атачаюць Домік Пятра на набярэжнай. Вышэй, у дзве аконных чвэрці, Нява—халодная неспакойная прастора. Яшчэ вышэй, за Нявою, на тым баку—набярэжная з палацамі. А над імі—неба...

Размовы пра яго магчымы пераезд у Маскву (час ад часу праносіцца па тэатральным свеце такая навіна). Прычыны яго нязгоды шматгранныя, разнастайныя.

Памаўчалі. Потым ён зірнуў на акно і сказаў:

— Хіба можна з гэтым развітацца!

Сказаў з гордасцю, нібыта ўсю гэтую прыгажосць стварыў ён сам.

Тбілісец па нараджэнні, масквіч—па тэатральным паходжанні, ён стаў Таўстаногавым, зліўшыся з ленінградскаю галіною нашай культуры. Не з «ленінградскаю школаю»—гэтае паняцце асабліва і прафесійна вызначанае, але з вельмі складанай маральнай субстанцыяй, якую цяжка абазначыць тэрмінамі сацыялогіі, але якую п а с т а я н н а а д ч у в а е ш і характэрнаю рысаю якой з'яўляецца няспешная ўстойлівасць ды яшчэ, можа быць, нейкае фізіялагічнае адчуванне прысутнасці ранейшых, даўніх эпох.

Жывучы ў сваёй працы, навуковых гарызонтах, тэхнічных вырабах з атрыбутамі дваццаць першага стагоддзя, ленінградзец больш, чым жыхар іншых гарадоў, другою рукою сціскае далонь чалавека з дзевятнаццатага. Спакойнае адчуванне жывой сувязі часоў, бытавое і надбытавое. Не правінцыяльная экзальтацыя, не прэтэнзія на нейкую выключнасць, а бесперапыннае і разам з тым будзённа незаўважнае разуменне таго, што чалавецтва не толькі што нарадзілася і не паслязаўтра знікне: усе мы—у адной прасторы.

Навошта прыспешваць вывады тэатральнага гісторыка будучыні, але і сёння мы ўжо можам па-свойму зірнуць на тэатр пятнаццацігадовай, а то і нават дзесяцігадовай даўнасці. Час бяжыць, тэатральны час—асабліва.

Зараз ужо яскрава, нібы ў падручніку, відно: у тыя часы ва ўсім савецкім тэатры змяніліся погляды на класіку, на магчымасці яе жывога кантакту з глядзельнаю залаю. І ў гэтай змене ён адыграў вялікую ролю. Наўрад ці ўдалося б гэта яму, калі б ён не ўвабраў так усеабдымна і непаспешліва зайздросную мудрасць ленінградскага пачатку.

Для таго, каб акцёр сказаў са сцэны «Служить бы рад, прислуживаться тошно» так, каб гэта не гучала вельмі ж ужо знаёмаю фразаю накшталт «Два детских, один взрослый», «Спокойной ночи, малыши» ці яшчэ што-кольвек з тых фраз, у сэнс якіх асабліва не ўдумваюцца, як не ўдумваюцца ў дарожны ўказальнік, для таго, каб акцёр сказаў гэта, як горкі вынік свайго роздуму,—павінна была змяніцца тэатральная эпоха.

...Лічылася, што класіку мала хто глядзіць, што п'есы Горкага—«размоўная» драматургія, хутчэй для чытання, чым для сцэны; што п'есы Чэхава з іх абавязковымі паўзамі і адсутнасцю дынамічнага сюжэта зараз зусім не трэба тэатру—на іх ніхто не пойдзе.

Стварaўся зачараваны круг: тэатр спасылаўся на гледача, а глядач нібыта і пацвярджаў асцярогу тэатра.

Ах, гэтыя мілыя размовы вакол «непаўнацэннасці» Горкага і Чэхава як сцэнічных пісьменнікаў! Памятаю іх прыгожа-закулісны жаргон, вінаватыя ўсмешкі: «Што, маўляў, зробіш, мы б і самі рады былі, і для прыстойнасці паставім, але не ходзяць, не ходзяць! А тэатр, ведаеце, дарагі вы наш,—для публікі!..»

Жыў я тады ў абласным горадзе, пісаў артыкулы для абласной газеты пра спектаклі абласнога тэатра, хадзіў на пасяджэнні яго мастацкага савета і ўсё слухаў і слухаў гэтыя размовы, гэтыя сентэнцыі...

Але засцерагчыся б ад мудрасці заднім днём! Відаць, былі сур'ёзныя сацыяльныя прычыны такога кірунку «ўнутрытэатральных» разважанняў. Здараліся, вядома, і тады спектаклі вялікай сілы, у іх ігралі таленавітыя майстры—глядач іх прымаў. Але агульная думка не была абнадзейваючая.

Яго погляд на класіку—у адной рабочай формуле:

«Класічная п'еса—гэта п'еса пра мінулае, напісаная сёння».

П'еса пра мінулае. Любоўная, педантычная ўвага да аўтара, да яго мастацкасці, да задумы, ідэі прыгажосці, якую ён уяўляе сабою.

Напісаная сёння. Значыць,—гэта і нашы клопаты, нашы хваляванні. Наша з вамі жыццё,—не суседзяў, а наша!

На сцэне д в у х а д з і н с т в а, вернасць дзвюм эпохам. Той, калі была створана п'еса, і той, у якую яе ставяць—як паказвае тэатральны вопыт, двухадзінства гэта лёгка дэклараваць, але цяжка знайсці сродкі яго сцэнічнага выражэння, знайсці гармонію.

Азірнемся навокал, убачым сябе, прызнаемся ў тым, у чым нікому да гэтага не прызнаваліся. Як мы ходзім, жэстыкулюем, апранаемся. Як выражаем свае думкі. Які ён для нас, паўсядзённы эталон маладога чалавека, да якога мы прыглядаемся на працы, у інстытуце, на ву-

ліцы. Ён хвалюе нас і засмучае, ён засяроджанне нашых пошукаў. Усяляякі час, нават мікрачас, мае свой тып (сацыёлагі кажуць, сваю генерацыю).

Але ж і Грыбаедаў для сваёй п'есы ўзяў такую актуальную ў яго час «генерацыю». П'еса пра мінулае? Вядома. Але—убачаная вачыма сённяшніх гледачоў. І роля Чацкага аддаецца маладому акцёру, заўважанаму ім яшчэ ў тэатральным інстытуце.

Прызначэнне на ролю мяняе тэатральную эпоху? А, ведаеце,—так! Бо прызначэнне на ролю—найвялікшая падзея ў тэатры, своеасаблівы ньютанаў яблык. З тою толькі розніцаю, што спачатку закон тэатральнага прыцягнення адкрываецца ў галаве рэжысёра, а потым яблыку даюць упасці. Дарэчы, як мы ведаем, і ў Ньютана ўсё адбылося якраз у такой паслядоўнасці.

Адкрыццё набывае форму маленькага лісточка з размеркаваннем роляў на дошцы для аб'яў.

Дзевяцьсот дзевяноста дзевяць з тысячы рэжысёраў не аддалі б ролю Чацкага таму, каму аддаў ён. Так у свой час зрабіў Станіслаўскі, які прызначыў у першым спектаклі Мастацкага тэатра на галоўную ролю цара Фёдара Іаанавіча дваццацічатырохгадовага Масквіна. Ну што ж, ён—паслядоўнік Станіслаўскага, але з тых, каму Станіслаўскі адкрыўся (вучацца ж у яго ўсе, яшчэ болей гавораць, што вучацца, але навучаюцца адзінкі!)

Калі ў тэатры збіраюцца ставіць класічную п'есу, звычайна пытаюцца ў сябе: «А Атэла ў нас ёсць? А Чацкі ў нас ёсць?» Пытанне зразумелае, але ён апярэдзіў яго іншым: «А што такое Чацкі для нас сёння?»

Пасля сенсацыйнага поспеху «Гора ад розуму» ў Вялікім драматычным (не варта надаваць паняццю «сенсацыя» толькі іранічна-заганнае тлумачэнне, як гэта робіцца часам у крытычных артыкулах: сенсацыя бывае і здаровaю!) пайшоў па тэатрах новы павеў моды. Маладзенькім акцёрам, якія яшчэ ўчора ігралі героя вясёлай мітусні ў дзевятым «а» класе, смела даручалі ўвасабляць Аляксандра Андрэевіча, Гамлета, Пратасава... Рэжысёры, якія заносліва абвясцілі сябе яго вучнямі на той толькі аснове, што двойчы пабывалі ў яго на рэпетыцыі, смела дзейнічалі «па Таўстаногаву». Яму не ўдалося ўнікнуць не думаючых аднадумцаў—гэтага няшчасця мастацтва (ды хіба аднаго толькі мастацтва!)

Але сам ён ніколі не ідзе ад «рашэння», заўсёды—ад думкі. Ён прызначыў на ролю Чацкага маладога інтэлігентнага акцёра, які ад самага свайго пачатку належаў ленінградскай галіне нашай культуры. Яблык упаў па раней абдуманым законе...

Не варта думаць, што ў гэтым эпізодзе і схавана якраз тое новае, што можна назваць свежым (хочацца сказаць—чалавечым) падыходам да класічнай п'есы. Гэта адна толькі крупінка. Але вельмі важная.

Паміж прынцыпамі і закончаным спектаклем знаходзіцца галоўнае: густ, талстоўскае «ледзь-ледзь», схаванае ў асобе творцы. Таму так многа ў мастацтве людзей, якія ведаюць прынцыпы, і так мала стваральнікаў вялікіх твораў, што адкрываюць новыя небасхілы...

...Калі яўвіць сабе яго месца незапоўненым, угледзецца ў акрэсленую далячынь сілуэта...

Спектаклі, каштоўнасць якіх вечная. Гледачы іх не забудуць: яны ўплывалі на іх духоўны стан, на маральнае развіццё пакалення. Яны ўплывалі нават на тых, хто ніколі іх не бачыў, як уплывае на агульную танальнасць культуры народа тое, што знаходзіцца ў яго кнігах і музеях. «Аптымістычная трагедыя» ў Пушкінскім тэатры, «Варвары», «Гора ад розуму», «Ідыёт», «Тры сястры», «Мяшчане», «Ліса і вінаград», «Узнятая цаліна», «Цана», «Генрых IV» і «Рэвізор», дыскусіі пра якія толькі разгараюцца; называю не па храналогіі—проста так успомнілася...

Тэатр на дзіва беражэ свае каштоўнасці; спектакль адыходзіць, але не памірае, ён нібыта разыходзіцца ў атмасферы тэатральнага свету, ствараючы яе чысты азон, складаючы рабочы вопыт і ператвараючыся ў крыніцу паэзіі вельмі патрэбных яму легенд.

«П'еса пра мінулае, напісаная сёння». Мне здаецца, што гэта формула дзейнічае ў яго і тады, калі ён ставіць спектаклі пра нашы дні. Вядома, у іншай транскрыпцыі. Можа, яна тады выглядае так: «П'еса пра сённяшняе, пастаўленая як бы заўтра».

Яму неабходны высокі пункт агляду, яго займае чалавек не ў клопатах аднаго дня, а ў часе, а таму, ставячы творы пра сённяшні дзень, ён заўсёды ўяўляе гэтую дыстанцыю часу. Ленінградская традыцыя схіляе мастака да філасафічнасці...

Ён не заўсёды дамагаецца поспеху, ён ведае няўдачы і напаўдачы, але ўвесь час дамагаецца свайго. Але ўжо калі да яго прыходзіць поспех, спектаклі становяцца ў адзін шэраг з тымі, якія мы назвалі. Тады прастадушная песня з «Пяці вечароў»—«Міленькі ты мой, вазьмі мяне з сабой...» гучыць як марш духавога аркестра з «Трох сёстраў», як развітальны вальс матроскага балю з «Аптымістычнай», як экзерсіс у чатыры рукі мужа і жонкі Паляжаевых з «Неспакойнай старасці». Тады «Старэйшая сястра», і «Акіян», і «Іркуцкая гісторыя» патрабуюць ад гледача ўсведамлення сябе не ў зале тэатра, а ў зменлівым свеце, што і робіць спектакль значнаю падзеяю.

Спектаклі яго выклікалі вялікую аналітычную літаратуру. Да яе заслужана можна аднесці і тую неабсяжную друкаваную прадукцыю пра яго слынных акцёраў, з якіх кожны зрабіўся быццам бы цэлым тэатрам, але ўсё яшчэ складае, як і раней, тое звонкае паняцце, якое мае імя—«таўстаногаўцы».

Яго спектаклі зрабіліся цікавым аргументам у бясконцым дыспуце пра жыццё і культуру, і аргумент гэты не замкнёны ў адных межах: «таўстаногаўскае» бярэ ўдзел у сцэнічным руху розных кантынентаў.

...Ён мне ўяўляецца стаерам на доўгай дыстанцыі жыцця ў тэатры. Ён разважлівы стаер, беражэ сілы на ўсю дыстанцыю, беражэ для рашучых рыўкоў, адпачывае на нязначных адрэзках,—і зноў выходзіць наперад, прапаноўваючы свой тэмп. Яго тактыка і стратэгія павучальныя. Быць самім сабою робіцца ўсё цяжэй: крытыка сочыць за ім так, як, можа быць, ні за кім іншым, і не даруе яму нічога—ні памылак сапраўдных, ні памылак уяўных. Крытыка гэтая таксама не безаблічная—у кожнага з яе прадстаўнікоў свае характары: адны трацяць сваё жыццё на ўважлівае назіранне за яго працаю, іншыя крытыкуюць «пры выпадку». Але так ці інакш абмеркаванне яго спектакляў і спраў робіцца чымсьці накшталт грамадскай плыні, ва ўсялякім выпадку—грамадскім побытам.

Такая яго прафесія.

Дзе пачынаецца і дзе заканчваецца вялікі мастак, рэжысёр, кіраўнік і стваральнік тэатра?

«Тэатр—гэта кампраміс»,—казаў Немiровіч-Данчанка, які дзесяткі гадоў таленавіта вёў карабель маскоўскага мастацтва. Ён меў на ўвазе, відаць, тое, што тэатр—раўнадзейная многіх абставін, магчымасцяў, жаданняў. Тут злучаецца ўсё: якасць п'есы і якасць акцёра, яго жаданне і ўмовы тэатра, патрэба дня і патрэба часу.

Тэатр перамагае, калі гэты кампраміс робіцца для яго супрацоўнікаў усвядомленай неабходнасцю і на самой справе адчуваецца ўсімі, нават самымі маладымі, якія толькі што прыйшлі ў калектыў,—як творчая воля, радасная і адзіная. Для таго, каб гэтае пажадлівае імкненне наступіла, кіраўніку тэатра, яго сэрцу і мозгу, неабходна беспамылковае адчуванне свайго мастацкага першародства, свайго лютэраўскага: «Тут я стаю і не магу інакш!»

На складанай і нялёгкай дарозе яго тэатра, яго дарозе, ён ведае, дзе пачынаецца і дзе знікае «таўстаногаўскае». І пакуль ён гэта ведае, ён астаецца Таўстаногавым.

■

# УРОКІ ДРУГОЙ КНІГІ










Не мною прыкмечана своеасаблівасць прыходу ў нашу літаратуру маладых сіл. Звычайна яны ўліваюцца праз нейкія амаль роўныя адрэзкі часу—праз дзесяцігоддзі, і не па адным, а цэлай плынню, свежай і напорыстай. Так было ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў. Нешта падобнае назіраецца і зараз. І радуе тое, што творчая хваля (маю на ўвазе толькі паэтычную) набліжаецца да папярэдняй, напамінаючы пра сябе настойліва і неадступна.

У маладзейшага пакалення нараджэння гадоў вайны і пасляваенных набіраецца добрая абойма паэтаў «харошых і розных», якім ёсць што сказаць пра час і пра сябе. Чытачы і крытыка ўжо звярнулі ўвагу на такіх здольных і непадобных аўтараў, як М. Маляўка, Р. Семашкевіч, К. Камейша, Л. Дайнека, В. Іпатава, М. Федзюковіч, С. Панізнік, Ю. Голуб, А. Разанаў, Я. Янішчыц і іншыя.

Пра здабыткі некаторых з іх мне хочацца падзяліцца сваімі думкамі. Тым больш, што для гэтага з'явілася добрая магчымасць—выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў 1973 годзе другія паэтычныя кнігі Р. Семашкевіча, В. Іпатавай і Ю. Голуба.

Яны амаль што ў адзін год выдалі свае першыя кнігі лірыкі. Аднолькава набіраюць разбег, каб наблізіцца не толькі да ўзроставай сталасці, але і да паэтычнай—сталасці думак і пачуццяў.

В. Іпатава гаворыць ад імя тых, у каго «матчына цяпло з дзяцінства адабрала вайна». Гэты шчымлівы матыў выразна прагучаў у першым зборніку маладой паэтэсы «Раніца». І, як паказвае час, з гадамі яна больш грунтоўна і пераканаўча піша пра думкі дзяцей, якія ў грозныя гады засталіся сіротамі.



Уражвае верш «Жыве ў Светлагорску Жэнька».

Савецкі сержант Кузьма знайшоў на чужой зямлі дзяўчынку каля забітай маці. І не пакінуў, а прывёз у наш дзіцячы дом. Яе выхавалі добрыя людзі. Верш нагадвае суровую праўдзівую баладу:

...Жыве ў Светлагорску Жэнька,
Па прозвішчы Кузьміна.
А можа, яна Бажэна,
А можа, Грэтхен яна?

У актыў В. Іпатавай ідзе і «Маналог Людмілы Сечкі, разведчыцы атрада імя Катоўскага». Гэты маналог можна назваць паэмкай пра мужную маладую партызанку, якая «засталася ў любчанскіх барах». Паэтэса ўдала выкарыстала ў «Маналогу» матывы народнай творчасці—зварот да маці, зямлі, каханага, ветру, зязюлі. Блізка да «Маналогу» стаіць і разгорнуты верш, верш-размова «Сказ пра маці». Запамінаюцца ў ім строфы пра малых: Дзімку і Ленку.

Удаюцца В. Іпатавай і вершы лірычныя. У іх адчуваецца жыццёвая аснова, яе радкі нявыдуманыя, яны выпакутаваныя чулым жаночым сэрцам. Перш за ўсё мне хочацца назваць верш «...Вы думаеце, я не сплю начэй?» Тут паэтэса нетрадыцыйна вырашае «любоўны» канфлікт. Як непадробна, натуральна і псіхалагічна апраўдана гучыць заключная страфа:

Не дапускаю да сябе нуды:
Ад спраў, званкоў і тлуму ледзь
жывая!
Праходзяць месяцы.
Ідуць гады,
А я ўсё забываю,
забываю.

Бачыце, не забываючы, забывае. Паэтэса хаця адкрыта і не гаворыць, але дае зразумець, што яе гераіня яшчэ кахае. У такім удумлівым душэўным нешматслоўі—сапраўдная сіла паэзіі. Да адзначанага верша горнуцца «Як здорава, што мне жыццё дае...», «Не хапае галоднаму кавалка хлеба...», «І я на спатканне бегла...» Нядрэнна зроблены і вершы на гістарычную тэму: «Усяслаў», «Здрада», «Ім». Пранікнёныя радкі прысвяціла В. Іпатава Міхасю Васільку.

У сваіх творчых пошуках В. Іпатава жадае дамагчыся большага, значнага. Характэрны ў гэтых адносінах верш «Пошук», дзе маладая паэтэса гаворыць, што яна «шукае сэнс жыцця даўно», што ў яе «ападаюць кніжныя ўяўленні», што яна прагне «неадкрытыя шукаць крыніцы». Лірычная гераіня яе вершаў усё часцей і часцей шкадуе: «Задоўга не раблюся я дарослай, ва ўсіх учынках халадна-цвярозай», «Ідзеш, ідзеш, шукаючы пазнання, якое прыйдзе, пэўна, праз гады».

Такая думка больш удумлівага погляду на з'явы, рэчы, людзей у В. Іпатавай сустракаецца вельмі часта. І трывога замаруджанага росту надакучвае. Заўважаецца нібыта любаванне сваім таптаннем на адным месцы. У вершах такога плану паэтэса стаіць на мяжы старога і новага:

Прайшлі ўжо, кажуць мне, твае гады,
Каб бачыць свет скрозь шкельцаў
каляровасць.

«Сталасць лістом кляновым ападае ціха ля ног...»

Нельга абысці і такія пралікі В. Іпатавай, як недакладнае часам параўнанне, надуманы вобраз, сінтаксічная неадпаведнасць: «**Па зямлі**», якою ты яшчэ не крочыш, наліліся зернем каласы», «Яны (хлопцы—**Ю. С.**) ужо, **раскрываючы раты**, збіраліся за ёй абы-куды» і г. д.

Нязвыкла чытаць радкі, у якіх скажаюцца словы з нязменным, прыроджаным націскам: бацькаўшчына, капыты, вузкі. На жаль, у зборнік «Ліпеньскія навальніцы» трапілі і творы неакрэсленыя, без пачуцця і думкі. Прачытаўшы іх, не скажаш, што хвалявала аўтара, што паэтэса хацела імі сказаць. Гэта вершы «Фарэль», «Колькі было спатканняў...», «Жораў махне развітальна крылом...», «Водгук рэха, як рык ласіны...», «Дрэва здрыганулася ад ветру...» Яны не праявіліся ў душы, у паэтэсы было жаданне сказаць нешта сваё, адметнае, але яму не суджана было здзейсніцца.

Паэзія Р. Семашкевіча (гэта бачна і ў другой яго кнізе «Субота»)—у асноўным інтымная, не крыклівая. Я радуюся разам з паэтам тады, калі ён адыходзіць ад неакрэсленага мроіва, невыразнасці, а ўвесь паварочваецца да жыцця, па-грамадзянску заклапочана гаворыць пра складаныя і важныя праблемы часу. Тады разам з ім хочацца шукаць адказ на нялёгкія пытанні, што задае жыццё.

Усхвалявана і глыбока піша Р. Семашкевіч аб прыродзе. Але яго вершы—не пейзажныя нейтральныя замалёўкі. Яны—роздум пра нашы рэкі, лясы, крыніцы «ля апошняй чвэрці стагоддзя». Хочацца звярнуць увагу на разгорнутыя вершы «Ліпа», «Трыпціх», «Бяроза». Задума іх высвечана сэрцам. «Размова» з дрэвамі адбылася і запомнілася. Яна нагадвае песню вечназялёнаму дрэву жыцця, якое прыносіць радасць і асалоду чалавеку, асвятляе яго дні і будучыню.

Толькі пах твой мядовы і цвет
Даплывуць, далятуць да нашчадкаў.
Ну, а горыч і поскрып лапцей
Стануць з часам, магчыма, загадкай.
(«Ліпа».)

Апошнім часам у многіх вершах малюецца невясёлая карціна блізкай будучыні, калі наша зялёная крынічная зямля не будзе такой, якой мы бачым яе сёння. Трывога недарэмная, але яна больш для таго, каб своечасова стаць на абарону зялёнага друга. Наіўна гучаць радкі Р. Семашкевіча, калі ён піша, што звапіцы патрэбны, каб напамінаць пра гвалтоўнае знішчэнне прыроды.

Багі знікаюць,
Толькі ўсе званіцы
Хай будуць, каб у грозны час адзін
Склікаць народ усцерагчы крыніцы
Гаючыя...

Дарэчы, Р. Семашкевіч у некаторыя свае вершы залішне ўводзіць словы рэлігійнай лексікі. Яны крыху захмарваюць сучасны далягляд яго паэзіі.

Імкненне карыстацца толькі сваім вопытам прыводзіць нярэдка да камернасці. Аўтар у такіх выпадках застаецца зразумелым самому сабе або вузкаму колу чытачоў. А ці знойдзецца паэт, які не хацеў бы, каб яго слухала і разумела як мага большая аўдыторыя? Шкада толькі, што не ўсім удаецца сабраць яе. Ды ці будзе ўважліва слухаць паэта той, у каго свой, іншы клопат, радасць, спадзяванне?.. Да шырокага гучання не ўздымаюцца вершы Р. Семашкевіча «Лепш бязбожна адхрысціся...», «Лебядзёўскай пошце», «Любіце на вокладках даты...», «А як біліся паны...», «Золата саломы». Дарэчы, апошні верш разам з «Каляровымі снамі» перанесены чамусьці з першага зборніка.

А сам паэт у 1972 годзе так выказваўся на старонках часопіса «Дружба народов»: «Празмернае захапленне інтымным светам павяло за сабой паслабленне грамадзянскага гучання верша. Не хапае грамадзянскасці, маладыя паэты не знайшлі яшчэ свайго погляду на свет, без чаго няма творчай індывідуальнасці». Сказана даволі катэгарычна і, відаць, невыпадкова.

Не будзем аднак адчайвацца і закрэсліваць тое, што ўжо ёсць у равеснікаў Р. Семашкевіча і яго самога. У паэтаў, пра якіх я гавару, вызначылася свая «творчая індывідуальнасць». Я не зблытаю лепшыя вершы Р. Семашкевіча з творамі Ю. Голуба і В. Іпатавай. Пра сваіх аднагодкаў Р. Семашкевіч пісаў: «На вопыце папярэдняга пакалення (нараджэння 30-х гадоў—**Ю. С.**) маладыя паэты ўсвядомілі, што тэматычная ўсеяднасць можа прывесці да простага слізгання па паверхні. Адсюль заглыбленасць у сябе, большая ўвага да духоўнага свету чалавека, амаль поўная адсутнасць рыторыкі».

Сапраўды, рыторыка не ўпрыгожвае ні маладога, ні вядомага паэта. Аднак кожны ведае, што невыразнаю скарагаворкаю не выкажаш усхваляваны настрой. Грамадзянскі голас заўсёды адкрыты, страсны. А «заглыбленасць у сябе», хаця яна нярэдка і бывае мудрай, часцей закрывае выхад да чытача. Лепшыя з паэтаў нараджэння трыццатых гадоў не слізгацелі і пакуль што не слізгаюць па паверхні. Што гэта так, гаворыць творчасць Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, П. Макаля, Г. Бураўкіна і іншых.

І як бы там ні было, але найбольшае ўражанне ў зборніку «Субота» пакідаюць якраз тыя вершы, дзе аўтар піша пра наша неспакойнае жыццё, пра сённяшнія думкі людзей. Гэта вершы пра сучаснае і незабыўнае мінулае. Я з радасцю выстройваю іх на паверку: «Шкляр», «Мой родны дом», «Пясок», «Гестапаўцы гулялі ў баскетбол...», «Францішак Багушэвіч», «Кастусь Каліноўскі», «Вось ён узняўся, мужык-крутадух...», «Субота», «Вайсковыя могілкі Мінска...», «Інтэрнат», «Полька ў вёсцы Пяцігхатка». У пералічаных творах у мастацкай згодзе думка, настрой, слова.

Але трапілі ў новую кніжку Р. Семашкевіча і вершы проста нязначныя, павярхоўныя. Так, у адным з іх «Не ад'язджай, прашу цябе, ў Капыль...» аўтар палохае каханую тым, што ў гэтым гарадку «каты, сабакі бегаюць на пляцы», што адтуль выйшла «шмат вядомых дзеячоў, паэтаў». Першую перасцярогу можна развеяць довадам, што і ў гарадах большага «памеру» таксама жывуць «меншыя браты» чалавека. А як быць з другою перасцярогаю?..

У вершы «Здзівіся, друг мой...» паэт радасна захапляецца, што «такія паўзрасталі **дзеўкі** (падкрэслена мной.—**Ю. С.**) у нашай роднай старане»,

Раптоўна так парасцвіталі—
**Аж гай шуміць без вецяркоў.**
Вяснее цнота стромкіх талій—
І вечны май **там вечарком...**

Бо паглядзі—**не праганяюць,**
З другімі ідучы дамоў,
А так—паціху выжываюць
Нас з лавак нашых і **кустоў.**

Пакуль што не падушкі—пер'е
Збіраецца як незнарок,
Пакуль у хату не **наперла**
Ганцоў здалёк ці нездалёк...

Радкі верша выклікаюць пытанні не столькі сваёй манернасцю, колькі недарэчнасцю. Якія «вецяркі»? Чаму «вечны май там вечарком»?.. Гэта засмучае, тым больш, што наогул Р. Семашкевіч добра адчувае слова.

Ю. Голуб другім зборнікам «Дрэва навальніцы» пацвердзіў, што ў яго свая манера пісьма, сваё бачанне свету. «Маладому паэту,—як адзначаў А. Лойка.—уласцівы напружаны своеасаблівы рытм, кароткі, надзвычай экспрэсіўны радок, каларытны слоўнік, віртуозная паўнагучная рыфма...» З такім вызначэннем нельга не пагадзіцца. Трэба толькі дадаць, што творчасць Ю. Голуба жывая, жыццярадасная. За яго радкамі адчуваецца натура непаседлівая, уражлівая.

Ю. Голуб можа здзівіць і зачараваць свежым словам, яго свячэннем і гукам, паваротам думкі: «У зеляніне слоў юнее кожны лісцік», «У Гжаці святла каменьчык паразвоньваецца на дне», «Як сэрца, б'ецца слаба падлёдная вада», «І недзе адплыву ў тваіх далонях чоўне»...

У сваёй большасці вершы маладога паэта пазбаўлены агульных слоў. Амаль кожны яго твор адшліфаваны. Тут трэба адзначыць плённую вучобу Ю. Голуба (і Р. Семашкевіча) у нашых лепшых майстроў паэтычнага слова і ў першую чаргу—у А. Вялюгіна.

Нельга не заўважыць, што верш Ю. Голуба іскрыцца сваёю чаканкай, але не заўсёды можа пахваліцца глыбокім зместам і думкай. Жыццёвая аснова некаторых твораў маладога паэта нязначная. І поспеху ён дамагаецца там, дзе яму ёсць што сказаць свайму чытачу. Так, як было ў вершах «Лянснік і лесніччыха», «Намаляваў прагноз...», «Пах травы», «Юрыю Гагарыну», «Цагельня», «У млынара ў запасе развага...», «На дзіва маладыя дні», «Стары ляснік», «А нас ад злога вока...». У кожным з іх—кавалачак нашага жыцця, славы, імкненняў.

Хораша Ю. Голуб піша пра лес, пра людзей, якія стаяць на яго ахове. Глядзіце, як яму ўдалося перадаць спакой і ўпэўненасць лесніка і лесніч́ыхі. Нечым казачным вее, калі чытаю:

Ім слухаць смутны гул
Смалы, як перламутра.
На плечы, бы вагу,
Кладзецца эпас мудры.

Другі верш, «Цагельня», вядзе ў новую вёску, якая скідае старыя стрэхі і ўзводзіць цагляныя дамы.

Мы хату пабудуем
І здзівімся—ого!
Цяпер мы не бядуем—
Ёсць чым. І ёсць з чаго.

Прыкметна вылучаюцца ў «Дрэве навальніцы» вершы аб граніцы, дзе, як прызнаецца паэт, «на пару з аўтарам служыць радку прызначана загадам». Пяць вершаў пра будні пагранічнікаў—«Даруй жа, восень...», «Цішыня», «Трывога», «Шлях» і «Песня»—канкрэтныя, змястоўныя—як найлепш пацвярджаюць думку пра тое, што жыццё кіруе натхненнем. Вось строфы аб трывожнай граніцы. Іх нельга было б напісаць, не пабыўшы там.

Вочы неба зацяклі крывёй.
Разарвана цемра над граніцай.
Падае ракета па крывой,
Нібы перабіта ў паясніцы.

Радкі пакладзены ў страфу дакладна, мускулістa, зрокава. Яны падагнаны, як патроны ў абойме.

Лірычны маналог «Імгненне» — удалы подступ Ю. Голуба да новага для яго жанру. Гэта як бы першы крок да паэмы, шчырае прызнанне ў любові сваёй роднай зямлі, каханню, імкліваму часу. Гэта — маладая радасць жыцця і ўзлётаў таго пакалення, якое не помніць ужо вайны.

Нам выпала шчасце жыць
І дзякаваць дню і зорам.

Ю. Голуб часта звяртаецца да сваёй каханай. У гэтым нічога дрэннага няма. Насцярожвае ж тое, што яго лірычны герой занадта «пакаёвы». Ён толькі тым і жыве, што цешыцца сваім маленькім шчасцем, якое недалёка ад мяшчанскай утульнасці і заспакоенасці. Вось у чым яго патаемная радасць: «Нам цешыцца, як дзецям. Світальна сумаваць», «Тулю таемны твар. Цалую лёгкі локан», «Шчакою шчаку дастаць, нічога нам больш не трэба», «Адны з табою мы, нам ціха, ціха, ціха», «Ты заснула ўжо ці не? Што табе, дарагая, сніцца?..» З пяці вершаў прыведзены радкі, а сэнс іх скіраваны да аднаго — альбомных прызнанняў.

У сваім першым зборніку Ю. Голуб пісаў: «А вы душой не пакрывілі? Не праклінлі рамяство?..» Слушнае і неабходнае запытанне ў творчай рабоце для паэтаў усіх пакаленняў. І як бы ні шліфаваў малады паэт свой радок, яго падводзіць рамяство.

Кажух дублёны ці рыбак?
На азярыне **стогне доўбня.**
І да таго усё падобна,
Што **рыбе прыйдзецца рыдаць.**

Колькі тут дарэмных пакут: стогне доўбня, рыдае рыба. Маладому паэту, відаць, да спадобы рыбацкія матывы, бо ён яшчэ раз зазначае ў другім вершы:

На азёрнай тоні
Рыба гайдае баркас
І ад тлушчу стогне.

Вершы Ю. Голуба часта нагадваюць лірычныя накіды. Ён не бярэ прадмет свайго даследавання аб'ёмна, а падыходзіць да яго неаднаразова, каб пакінуць яшчэ адну адметную рысу. Да таго ж малады паэт піша амаль у адным метрычным ключы, што збядняе мажлівасці верша, робіць яго аднастайным.

Хочацца па-сяброўску таксама напомніць, што рост майстэрства паэта — гэта і рост яго як асобы. Для тэхнікі патрэбны матэрыял, а для паэзіі — душа, лёс, жывая думка.

Некалькі слоў аб перайманні ў творчасці маладзейшых паэтаў. Чытаючы іх некаторыя вершы, знаходзіш блізкасць з творамі іншых аўтараў. Так, з радкоў Р. Семашкевіча «Прыгажуня, добры вечар...» усплывае ў памяці верш Р. Бёрнса «Начлег у дарозе». З творам вялікага шатландца «Джон Ячменнае Зерне» пераклікаецца верш Ю. Голуба «Сказ пра піва». У гэтага ж аўтара ў творы «Цагельня» ёсць такія радкі:

Мы радыя, і вельмі —
Спрыцён стаіць дамок.
Над ім, як над цагельняй,
Аднолькавы дымок.

Як гэта падобна да куляшоўскага «Дому». А такі сказ Ю. Голуба «А закінь галаву — сінь у вочы заколе» адразу нагадвае маладога Ясеніна: «Не видать конца и края — только синь сосёт глаза». В. Іпатава радком «У краіне, дзе паліцэйскі на кожную чалавечую душу» падпявае Р. Семашкевічу, які сказаў у вершы «Францішак Багушэвіч»: «На ўсю Беларусь мільён пракурораў, і толькі адзін, толькі ён адвакат»...

Я пазнаёміўся з трыма цікавымі, таленавітымі паэтамі — Р. Семашкевічам, В. Іпатавай, Ю. Голубам. У такой жа паслядоўнасці хочацца пажадаць кожнаму лаканічнасці і выразнасці, тонкага адчування слова і глыбіні, змястоўнасці і паэтычнага размаху.

Сваю гаворку заканчваю спадзяваннем на большую яркасць іх зоркі. Свае новыя здабыткі яны знойдуць на жыццёвых шляхах, там, дзе іх сучаснікі ўзводзяць гарады і заводы, абнаўляюць аблічча зямлі, штурмуюць вышыні навукі, пільна стаяць на ахове рубяжоў Айчыны...

Тут дарэчы будзе прызнанне Р. Семашкевіча:

На неразменцы пакаленняў
Падкажа дзіўнае чуццё
Шаптаць сабе, нібы маленне:
— Ты ўсё ж цудоўнае, жыццё.

**Юрась СВІРКА.**



# ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ

**«У ГРОЗНЫЯ ГАДЫ».** Аўтары гэтай кнігі — удзельнікі гераічнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Гомельскай і былой Палескай абласцей. Аб суровых днях абароны Гомеля расказвае генерал-палкоўнік у адстаўцы Л. Сандалаў, часці якога *абаранялі горад*, і многія ўдзельнікі гэтай абароны. Разгортванню ўсенароднай барацьбы супраць акупантаў на Палессі прысвечаны расказы славутых партызанскіх важакоў Івана Кожара і Ціхана Бумажкова, успаміны сакратара Палескага падпольнага абкома партыі П. Ляўвіцкага, сакратароў падпольных райкомаў З. Чарнаглаза, П. Дзедзіка, С. Свярдлова, камандзіраў атрадаў, народных мсціўцаў. Бітвы за вызваленне Гомельшчыны ад фашысцкага нашэсця прыгадваюць маршал Савецкага Саюза К. Ракасоўскі, генерал арміі П. Батаў, камандзіры, палітработнікі, байцы.

Кніга падрыхтавана да друку Гомельскім абкомам КПБ, Інстытутам гісторыі АН БССР і Гомельскім абласным саветам ветэранаў вайны. У ёй багата неапублікаваных або недастаткова асветленых раней фактаў. Змешчаны здымкі і кароткія біяграфічныя даведкі пра аўтараў. Прадмова доктара гістарычных навук А. Залескага.

Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1973 г. На рускай мове.

**«ДУХАМ УЗМУЖНЕЎШЫ У БАРАЦЬБЕ»** — дакументальны нарыс пра баявую дзейнасць камсамольцаў і моладзі падпольнай групы «Андруша», што дзейнічала ў акупаваным ворагамі Мінску. Арганізатарам і важаком гэтай групы быў легендарны мінскі падпольшчык Міколай Кедышка, няўлоўны «атаман Кеда», які дзёрзкімі аперацыямі і налётамі прыводзіў у ярасць фашыстаў. Радзіма высока адзначыла яго подзвіг — яму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Аўтар нарыса, уласны карэспандэнт «Огонька» па Беларускай ССР А. Шчарбакоў, ярка і праўдзіва ўзнаўляе староні нядоўгага, але сапраўды гераічнага жыцця М. Кедышкі і яго таварышаў па падпольным змаганні.

«Политиздат», Масква, 1973 г. На рускай мове.

**«ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ У ДВУХ ТАМАХ»** — плён літаратурнай творчасці Васіля Віткі, аднаго са старэйшых майстроў роднага слова.

Першы том склалі вершы розных гадоў, паэмы «Поўдзень», «Беларуская калыханка», эпіграмы. Асобным раздзелам ідуць творы, прысвечаныя дзецям. Тут пацешкі, скорагаворкі, гульні, загадкі, усім вядомая «Азбука Васі Вясёлкіна», а таксама цудоўная «Казка пра цара Зубра», «Дударык» і інш.

У другі том уключаны апавяданні, п'есы, артыкулы. Чытач знойдзе тут цікавыя староні, прысвечаныя жыццю і творчасці Я. Купалы, К. Чорнага, М. Лынькова, П. Глебкі, У. Дубоўкі, І. Мележа, М. Танка, М. Лобана і іншых пісьменнікаў.

Прадмову да «Выбраных твораў» В. Віткі напісаў Янка Брыль.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.

**«РОСЫ НА КОЛАСЕ».** Новы паэтычны зборнік Максіма Лужаніна склалі некалькі цыклаў вершаў: «Няблізкая вандроўка» (напісаны пасля паездкі ў Злучаныя Штаты на Генеральную Асамблею ААН), «Па дарогах Купалы», «Праз вайну» (фрагменты з дзённіка), «Даўнія прыгадкі». Яны глыбока лірычныя і патрыятычныя, «прайшлі скрозь сэрца» паэта, які шмат перажыў і многае пабачыў.

У кнігу ўключаны таксама паэмы «Матчын дом» і «Сілівонавы прыгоды» — паэма з усмешкай, як называе яе аўтар.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.

**«РАДАСЦЬ СУСТРЭЧ».** Нямала сардэчных, поўных сыноўняй ласкі і любові радкоў прысвяціў Беларусі вядомы татарскі паэт Закі Нуры. Яны — як водгулле далёкіх дзён, як сведчанне дружбы, змацаванай крывёю, — у гады Айчыннай вайны Закі Нуры, партызанскі разведчык брыгады Канстанціна Заслонава, разам з братамі-беларусамі дзяліў і нягоды ляснога жыцця, і радасць перамог...

У зборніку змешчаны лепшыя вершы, паэма «Ліст да незнаёмай». Іх любоўна пераклалі на беларускую мову М. Аўрамчык, В. Зуёнак, Ю. Свірка, У. Паўлаў, К. Камейша, М. Маляўка і іншыя нашы паэты.

Укладальнік І. Калеснік.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.




**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**
**«АД АГНЮ І МЯЧА».**
**Аповесць і апавяданні.**
**Выдавецтва «Мастацкая літаратура».**
**Мінск, 1973 г.**

# ПАЭТ ПІША ПРОЗУ...

Сёння ўжо стала звычайным, калі крытык піша раман, празаік выдае зборнік вершаў, а паэт настойліва шукае ў прозе. Але ўсё роўна такія пераходы з аднаго жанру ў другі сустракаюцца з цікавасцю.

Першую аповесць Уладзіміра Паўлава, паэта цікавага і ўдумлівага, і чытачы і крытыкі сустрэлі даволі прыхільна. «Ляжэліха» расказвала пра жанчыну, якая засталася ў вайну з чатырма дзецьмі, і гэты расказ ператвараўся ў своеасаблівы летапіс змагання народнага, за адным лёсам убачылася ўся Радзіма, увесь народ. Адчувалася, што гэты твор—не проста імкненне пісьменніка паспрабаваць свае сілы ў новым жанры, а душэўная патрэба выказацца ад імя пакалення, якое ў маленстве спазнала вайну, пакалення, многія прадстаўнікі якога засталіся сіротамі...

І Яжэліха, і Улляна—гераіня другой аповесці «Спелыя травы», якая была надрукавана крыху пазней, пасталі перад намі ва ўсёй сваёй жаночай прывабнасці, чалавечай прыгажосці, сялянскай дабрыні.

Новая аповесць У. Паўлава «Нас поле не насеяна», якая ўвайшла ў кнігу «Ад агню і мяча», таксама пра вайну. «Які ён, яго бацька, Віця лічы што і не помніць. Толькі калі пачынае расказваць баба, седзячы вечарамі з ім удваіх ля коміна ў цёмнай хаце, што маці Віцева памерла, парадзіўшы яго, а «бацька прывёз малюпасенькага цябе—аж страшна падступіцца было—на мае рукі», ён нібы згадвае бацьку».

Бацька Віці ваюе на фронце, а сам хлопчык жыве з бабай Васілісай, ці проста Кастыніхай, як называюць яе ўсе ў вёсцы. Ідзе вайна, хлопчык не ўсё яшчэ разумее з таго, што адбываецца побач, перад ім як не штодня паўстаюць такія пытанні, на якія не вельмі проста знайсці адказ. Не можа зразумець Віця, чаму дзядзька Платон, той самы дзядзька, які пашыў яму з бацькавых ботаў чаравікі, калі забіраюць яго карову, крычыць: «Ты не бярэш... не бярэш, у каго трэба. Вунь краснага камандзіра хлеў!». Гэтак сама нечаканае для яго з'яўленне ў хаце паліцая, які адбіраў Платонаву карову, а цяпер паказвае на картку бацькі і кажа, каб яе схавалі.

Жыццё з усімі яго складанасцямі, няпростае і нялёгкае жыццё ваенных гадоў бурліць вакол хлопчыка. У гэтым жыцці раней часу сталее сам Віця, сталеюць яго равеснікі. У аповесці «Нас поле не насеяна», як і ў папярэдніх творах, У. Паўлаў прасочвае шлях свайго пакалення, пакалення тых, каму сёння ўжо недзе ля сарака і хто духоўна, магчыма, значна сталейшы свайго ўзросту, бо перажыў вайну, якая не магла не пакласці свайго адбітку на фармаванне чалавечых характараў. Аднак пры пэўнай агульнасці сюжэтных хадоў новы твор усётакі прыкметна адрозніваецца ад папярэдніх. Калі ў «Яжэлісе» і ў «Спелых травах» вобразы дзяцей як дзейных асоб толькі вырысоўваюцца, то аповесць «Нас поле не насеяна»—перш за ўсё жыццяпіс спачатку хлапчука, потым падлетка і, нарэшце, журналіста. На навакольны свет аўтар глядзіць вачыма галоўнага героя, Віці Аляшкевіча. І яшчэ—бабкі Васілісы, якой у кнізе прысвечаны, бадай, самыя лепшыя старонкі.

Пісьменнік асаблівую ўвагу звяртае на псіхалагічную матывіроўку ўчынкаў сваіх герояў. Сталенне Віктара Аляшкевіча—не столькі ўзроставы, знешні працэс, колькі працэс унутраны. Хлопец прыглядаецца да людзей, спазнае свет, а, спазнаючы свет, панова му акрэслівае і свае адносіны да іншых.

Аповесць «Нас поле не насеяна»—у пэўнай ступені аўтабіяграфічная. У ёй хораша расказана пра тое, што пабачана і перажыта аўтарам—пісьменнікам і журналістам. Героі твора—жывыя, паўнакроўныя натуры і характары, узятыя з самой глыбіні жыцця. Паказ паўсядзённага побыту дабрынёўцаў, свету, што палоніць іх думкі, жаданні,—безумоўная творчая ўдача празаіка.

Аповесць кампактная, сюжэтныя хады добра прадуманы і псіхалагічна апраўданы. Паўлаў-паэт добра дапаўняе Паўлава-празаіка. Яго вобразы паэтычныя і адразу запамінаюцца, уражваюць сваёй непасрэднасцю. Згадаем, як у аповесці «Яжэліха» сямігадовы хлопчык прачнуўся ноччу ад стрэлаў і не можа зразумець, ці бачыў ён гэта ў сне, ці проста яму ўспомнілася: «Тата купіў нізанку абаранкаў і, калі падаваў мне іх на печ, матуз парваўся, і абаранкі пасыпаліся на падлогу. Коцяцца, падскокваюць і ніяк не могуць упасці».

Удаліся У. Паўлаву і бытавыя сцэны. «Хлеб у Дабрынях—калі было з чаго,—саджалі на лапатах на чыста вымецены, раскалены да белага под печы. Зачынялі юшку, прыстаўлялі чым-небудзь засланку, каб не выходзіла цяпло. Але хіба ўтрымаеш чым-небудзь хлебны пах!.. Недзе пад час абеду хлеб вымалі. Гарачыя скарынкі мазалі яечным жаўтком або заварaным загадзя крухмалам. Каб кулідкі блішчэлі, аж ясніліся! Каб хлеб у рот прасіўся. Сіняватага крухмалу на далонь—і па скарынцы: шторх-шорх-шорх. Ах, горача! Ах, яшчэ тры перапечкі засталося... Дзве... Адна... Усе! Тады за хлеб—ды за дзверы, у камору. Няхай стыне... З гэтай нагоды ўсе сенцы ў Дабрынях—да каго ні зайдзі!—аж распірае ад хлебнага паху».

Аднак у аповесці відаць і пэўныя пралікі. Твор чытаецца з пэўнымі «перападамі». Падрабязна, да прыкладу, расказваецца пра жыццё Віці ў гады вайны, потым рэзкі пераход, і гаворка ўжо ідзе пра вучобу ў школе, першыя селькораўскія допісы, першае каханне да суседскай дзяўчыны Тані, спроба паступіць ва ўніверсітэт... Пра ўсё гэта гаворыцца мімаходзь.

Кніга знаёміць нас і з Паўлавым-апавядальнікам. Дарэчы, за апавяданне «Бацечка» некалькі гадоў таму назад на рэспубліканскім конкурсе ён атрымаў першую прэмію. Яно таксама пра вайну, а дакладней—пра чалавека на вайне.

Падрабязна, часам залішне скрупулёзна прасочвае У. Паўлаў жыццё свайго героя. Перагортваеш старонку за старонкай—і нібы сам праходзіш нялёгкімі Тамашовымі пуцявінамі-дарогамі.

У творах У. Паўлава існуе нябачная сувязь паміж героямі. Усе яны—і тыя, што насялілі старонкі аповесці «Нас поле не насеяна», і што жывуць у апавяданні «Бацечка», а таксама ранейшыя,—нібы з адной сям'і. У вобразе бабы Васілісы ўгадваюцца пасталелыя Улляна і Яжэліха. Тамашоў Васілька—акурат малодшы брат Віці Аляшкевіча. Гэта добрае «сваяцтва», і мацуецца яно на любові да роднай зямлі, на адданасці ёй.

Кніга «Ад агню і мяча»—яшчэ адзін напамінак пра мінулую вайну. Напамінак сур'ёзны і таленавіты. Споведзь пакалення, пра сталенне якога расказаў Уладзімір Паўлаў, прымушае задумацца і над днём сённяшнім, больш даражыць нашым мірным жыццём.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**





# БУДУЧАЕ = СУЧАСНАЕ + МІНУЛАЕ

Пачуўшы, што я збіраюся пісаць артыкул пра мінскае «Тарпеда», некаторыя мае калегі безнадзейна махалі рукой. Маўляў, знайшоў, пра што пісаць! Пішы пра што хочаш, *толькі не пра наш хакей. У Беларусі во каторы год запар* зімы, можна сказаць, няма, адкуль быць хакею? Не было яго ў нас і не будзе!..

Сапраўды, зіма наша сапсавалася, не зіма, а золкая восень на паўгода, а пляцовак са штучным лёдам толькі дзве, ды і на іх лёд—з'ява эпізадычная. З Палаца спорту часцей чуюцца *галасы спевакоў, чым воклічы балельшчыкаў...*

Але тым больш цікава разабрацца, што ж гэта такое—мінскае «Тарпеда», прыгадаць, як нарадзілася каманда, паглядзець, як і чым яна жыве сёння, і, вядома ж, падумаць, якой яна будзе ці, прынамсі, можа быць заўтра...

## СВЯТЛО І ЦЕНІ «ЗОРАК»

Палац спорту
Хакей
Вышэйшая ліга
ЦСКА—«Тарпеда» (Мінск)
(З афішы 1966—1967 гг.)

Значыць, вышэйшая ліга. Усе «зоркі» ў госці да нас. Праўда, яны пакідалі гаспадарам вельмі мала ачкоў, але ўсё-такі Мінск стаў хакейным горадам. Як жа ў «нехакейнай» рэспубліцы паявілася класная каманда?

Шлях «Тарпеда» ў вышэйшую лігу быў самы што ні ёсць звычайны—клас «Б», другая група класа «А», перамога ў першай групе, а затым і вышэйшая ліга. Усё было ў адпаведнасці з палажэннем аб розыгрышы першынства краіны. Ніякіх авансаў камандзе ніхто не даваў. Усё было заваявана на полі бою.

Але не будзем грахоў утойваць—гулялі ў камандзе не выхаванцы беларускіх школ хакея—іх проста не было ў нас. І стрыжань каманды, і рэзерв склалі ха-

кеісты, што прыехалі з іншых гарадоў краіны. Для адных наш Мінск стаў сапраўды родным, іншыя глядзелі на яго, як на паўстанак, што стрэўся на шляху. Але як бы там ні было, мінскае «Тарпеда» ў 1966 годзе трапіла ў кампанію мацнейшых каманд краіны. Гэта была вялікая перамога маладой каманды і—яшчэ большая адказнасць.

Вось склад «Тарпеда» ўзору 1965—66 гадоў: варатар Ніканаў, абаронцы Дужы і Ржаннікаў, Міцюгін і Малкаў, нападаючыя Грымякін—Яраслаўцаў—Шыткоўскі, Гусеў—Булатаў—Какорын, Чупроў—Юфа—Кротаў, трэнеры каманды Баранаў і Мураўёў.

Як бачна, у камандзе было толькі дзве пары абаронцаў, а трэцяя тройка нападзення, на жаль, існавала больш у пратаколах. Па сутнасці, каманда гуляла ў дзве пяцёркі. І «Тарпеда» выйграе першую групу класа «А»! Гэта быў сур'ёзны поспех, дзеля якога каманда аддала ўсе сілы, майстэрства і волю.

Безумоўна, самым моцным звяном была першая тройка.

Цэнтрфорвард Валеры Яраслаўцаў цудоўна разумеў усю складанасць сітуацый на полі і ўмеў імгненна прыняць правільнае рашэнне. Здавалася, што ён ведаў у хакеі ўсё—настолькі рацыянальнай і змястоўнай была яго гульня. Ён мог дакладна і, галоўнае, своечасова зрабіць востры пас, вывесці на ўдар сваіх партнёраў, а яны завяршалі яго задумы.

Сяргея Шыткоўскага мы і сёння бачым на пляцоўцы. Невысокага росту, моцны, Сяргей валодае здзіўляючым «нюхам» на гол, у яго, можна сказаць, своеасаблівы «галявы» талент. Адчуванне гола дапамагае яму знайсці тое адзінае месца каля варот праціўніка, адкуль ён можа забіць гол. І ён яго забівае.

Як бы дапаўняючы Шыткоўскага, якому даводзілася зусім нялёгка сярод больш рослых абаронцаў праціўніка, Уладзімір Грымякін валодаў велізарным запасам сілы і напорыстасці. Ён, як таран, укліньваўся ў абарону праціўніка, не бянтэжачыся, што там шмат абаронцаў, не зважаючы на іх рост і вагу. Прарвацца, прабіцца праз абаронцаў было яго стыхіяй.

Усе яны, дапаўняючы і падтрымліваючы адзін аднаго, утварылі звяно, якое было амаль немагчыма стрымаць у атацы. Дарэчы, Сяргей Шыткоўскі—адзін з самых рэзультатыўных ігракоў савецкага хакея.

Другая тройка (Гусеў—Булатаў—Какорын) хоць і ўступала першай па рэзультатыўнасці, аднак гуляла надзейна, асабліва калі каманда заставалася ў меншасці.

Надзейна гулялі абедзве пары абаронцаў і варатар Ніканаў, але ж, на жаль, гэта былі, паўтараю, усяго дзве «пяцёркі». Зразумела, што з такім складам у вышэйшай лізе няма чаго рабіць.

Па той прычыне, што замены ў камандзе не было (і яна не магла вырасці за такі кароткі час), давялося зноў звяртацца за дапамогай да «варагаў». Яны прыехалі. Аднак, як выявілася, не для таго, для чаго іх запрасілі. У камандзе сталі надарацца і парушэнні спартыўнага рэжыму, і пачасціліся сваркі-нелады. «Варагі» хоць і былі майстрамі хакея, але гулялі без душы, толькі адбывалі на полі патрэбныя мінуты. Іх мала турбаваў лёс мінскага «Тарпеда», ды і ўсяго нашага хакея. І таму каманды, як зладжанага, маналітнага калектыву, не атрымалася. У выніку цяжар барацьбы зноў лёг на тых ігракоў, якія на сезон раней завяявалі пуцёўку ў вышэйшую лігу. Не трэба быць вялікім тэарэтыкам, каб зразумець, што ў параўнанні з асамі вышэйшай лігі тарпедаўцы выглядалі значна слабейшымі.

З вышэйшай лігай давялося развітацца. «Варагі» тут жа пабеглі шукаць для сябе іншыя клубы, а ў «Тарпеда» засталіся тыя ж, хто быў у камандзе год назад.

## НА ДАБРО ЦІ НА БЯДУ?

Азіраючыся на мінулае, ведаючы далейшы спартыўны лёс «Тарпеда», міжволі задаеш сабе пытанне: «Чаго ж больш прынёс сезон выступленняў у вышэйшай лізе беларускаму хакею—карысці ці шкоды?» Вядома, у 1966—67 гадах мінчане



былі на ўздлёце, але трэба шчыра сказаць, што поспех гэты быў знешні. Так, яны былі сярод мацнейшых, аднак як гэта адбілася на развіцці хакея ў рэспубліцы?

З аднаго боку, каманда прагрэсіравала ад сезона да сезона і дасягнула вышэйшай лігі, з другога, прыйшла яна туды зусім непадрыхтаванай, у яе не было не толькі рэзерваў, а нават найгранага асноўнага складу. І ўвесь сезон ніхто не думаў пра рэзервы, гэта значыць, пра будучыню каманды—трэба было спрабаваць замацавацца ў вышэйшай лізе. Гэта была добрая мэта, і яе можна было б толькі вітаць, калі б яна дасягалася адпаведнымі сродкамі. Пасля поспехаў у другой і першай групах класа «А» пара было падумаць аб тым, што таленавітыя хакеісты, якія сёння выйграюць матч за матчам, вечна гуляць не будуць, што ім патрэбна замена. А думалі пра гэта якраз вельмі мала. Думалі больш аб ачках, падпісваючы тым самым камандзе суровы прысуд. І час бязлітасна выявіў памылковасць такога «матылькаватага» падыходу да лёсу беларускага хакея.

Каманда яшчэ два сезоны гуляла нібыта па інерцыі—нават дамаглася права на пераходныя гульні з «Сібірру», аднак на гэты раз сібіракі пераступілі мінчанам дарогу ў вышэйшую лігу. Гэта было ў 1970 годзе. Менавіта тады паўстала няўмольнае пытанне аб узросце ігракоў. Той сезон стаў пераломным для «Тарпеда». Ветэраны, а іх аказалася многа, здалі пазіцыі, а раўназначнай замены тарпедаўцы не мелі. Не было таго сплаву, што ёсць ва ўсіх мацнейшых камандах свету,— сталы вопыт і малады спрыт. У «Тарпеда» быў толькі вопыт.

Пачаўся спад. Хоць у наступных сезонах у «Тарпеда» і паявіліся маладыя, здольныя ігракі—Крываносаў, Талкачоў, Гацуля, Звераў, Сямёнаў,—аднак моладзь заявіла аб сабе нясмела і няўпэўнена. Славутага сплаву не атрымалася. Занадта мала было часу для таго, каб маладыя сталі не проста здольнымі хакеістамі, а ігракамі «Тарпеда», прадаўжальнікамі яго традыцый. Вельмі ўжо яны былі «самі па сабе». Нібыта многае і ўмелі, а вось гульня ў іх не «ішла». Здаецца, хлопец і на каньках моцна стаіць, і з шайбай пакруціцца можа, і кінуць яе, а варта выйсці яму на лёд у часе гульні, дык дзіву даешся—не той гэта хакеіст, якога раніцой бачыў на трэніроўцы! Дзе яго дрыблінг, дзе моцныя кідкі? І чаму ён увесь час падае?..

Часам сярод знаўцаў хакея, ды і сярод саміх хакеістаў, бытуе думка, што не трэба вынаходзіць веласіпед, а ўзяць за аснову трэнерскую методыку і стыль якой-небудзь вядучай нашай каманды, напрыклад, ЦСКА, і па яе ўзору стварыць каманду. Такі пункт погляду далёка не бяскрыўдны, як можа здацца на першы погляд. Не кажучы ўжо, што памылковы. Па-першае, таму, што ніколі і нідзе сляпое пераймання не прыносіла бліскучых вынікаў. Па-другое, пераймаць стыль ЦСКА альбо «Спартака» немагчыма. Маючы пэўныя магчымасці, рэсурсы і тэхнічныя схемы, гэтыя клубы будуюць сваю стратэгію на сваім матэрыяле—спартакаўскім ці армейскім. І які сэнс пераймаць армейскую сістэму абароны, калі ў мінскім «Тарпеда» няма ігракоў, якія ўпісваліся б у гэтую сістэму?

У стварэнні сваёй, тарпедаўскай сістэмы гульні, уласцівай толькі нашай камандзе, і заключаецца, на мой погляд, самая важная і, відаць, самая цяжкая задача трэнераў. На самой справе, малады ігрок, які яшчэ сам толкам не разабраўся ў сваім патэнцыяле, выказвае жаданне гуляць так, як Фірсаў. А трэнер не без падстаў мяркуе, што гэтаму іграку трэба меней фінціць, а часцей спрабаваць на хуткасці ўваходзіць у зону з разлікам на пас з-за варот. Гэты варыянт трэнеры лічаць больш перспектыўным для каманды, таму што для гэтага ёсць умовы. І ігрок, калі ён сапраўды адданы свайму клубу, павінен падпарадкавацца. Толькі тады выпрацуецца свой стыль, свая манера.

Дарэчы, такія прыклады ў нашым хакеі ёсць. Узяць хоць бы «Хіміка» альбо рыжскае «Дынама». Трэнеры стварылі непаўторныя почыркі сваіх каманд, і хто скажа, што гэта кепска? Паспрабуй расфарміраваць, напрыклад, рыжскае «Дынама», дык наўрад ці заўважым мы ў іншых камандах яго ігракоў. Кожны паасобку яны далёка не «зоркі», але калі яны гуляюць «у свой хакей»—гэта вялікая сіла. Вядучыя каманды таксама моцныя тым, што гуляюць у той хакей, які ім больш за ўсё падыходзіць.

Неабходна, каб і ігракі «Тарпеда» адчулі неабходнасць стварэння «сваёй» гульні. Толькі тады каманда зможа зрабіць крок наперад.

## УМЕЦЬ І НЕ ЎМЕЦЬ

Можна нагадаць нямала прычын таго, чаму моладзь з цяжкасцю ўваходзіла ў асноўны склад. У кожнага з хакеістаў яны былі выключна індывідуальныя. Аднак адна прычына аб'ядноўвала ўсіх—адсутнасць школы. Так, самай звычайнай, пачатковай школы хакея. Усе яны былі здольныя, нават таленавітыя спартсмены, але гулялі, кіруючыся толькі натхненнем. Гэта добра на трэніроўцы, у таварыскім матчы альбо ў гульні са слабым супернікам. Але калі на пляцоўцы сапраўдная гульня мужчын—жорсткая, хуткая, якая не дае часу на роздум, тады і выяўляецца недахоп школы. Тарпедаўцам давялося і многаму перавучвацца, і вучыцца нанова. Гэты складаны працэс вымагаў часу, а яго зноў не было: трэба было гуляць і вучыцца ў барацьбе з супернікамі.

Час бег, і каманда паволі здавала свае пазіцыі. Мінулагодні сезон стаў асабліва горкім—тарпедаўцы выбылі з першай групы класа «А». У пачатку сезона з каманды па розных прычынах пайшло некалькі ігракоў. Гэта яшчэ больш аслабіла каманду, якая і так перажывала балючы працэс амаладжэння. Нельга сказаць, што каманду пакінулі мацнейшыя. Лепшыя якраз засталіся, але кожны з іх стаў незамененым, і гэтая акалічнасць паўплывала на баявы дух «Тарпеда». Трэнеры Мураўёў і Какорын апынуліся ў складаным становішчы—як бы кепска, нават безадказна ні згуляў той ці іншы ігрок, яны не маглі яго пасадзіць на лаўку запасных, даць магчымасць абдумаць свае ўчынкі—у камандзе не было адпаведнай замены.

Славуты канадскі прафесіянал Морыс Рышар, «суперзорка» канадскага хакея, пісаў неяк аб тым, што, калі малады хакеіст у Канадзе прыходзіць у каманду юніёраў, трэнер ужо не вучыць яго бегаць на каньках, валодаць клюшкай, весці сілавую барацьбу. Гэта ён умее. Задачы трэнера зводзяцца да таго, каб навучыць яго гуляць, гэта значыць, тактычнаму мысленню, уменню ацаніць сітуацыю. Гэта ўжо вышэйшая школа, і трэнер зусім не задумваецца над такімі праблемамі, як пытанні тэхнікі ці фізічнай падрыхтоўкі. Кожны малады хакеіст, калі ён сапраўды любіць хакей і хоча стаць майстрам, сам павінен нястомна ўдасканальваць сваё асабістае майстэрства.

Як ні сумна гэта прызнаваць, але трэнеры «Тарпеда» больш часу адводзяць на вывучэнне прыёмаў тэхнічных, чым тактычных. Аб якой тактыцы можа ісці гаворка, калі ігрок не можа выканаць тую ці іншую задачу толькі таму, напрыклад, што кепска валодае абводкай альбо не ўмее весці сілавой барацьбы. Справа часам даходзіць да кур'ёзаў—хакеіст прыходзіць у каманду і не ўмее трымаць... клюшку.

Але сам факт з'яўлення ў камандзе моладзі радуе і абнадзейвае. Больш таго, ёсць ужо ў ёй свае хакеісты нашай, мінскай «гадоўлі». Не першы сезон гуляе А. Левенштэйн, сёлета ў абароне пачаў выступаць яго брат В. Левенштэйн. Акрамя іх, можна назваць і іншых перспектыўных маладых ігракоў-мінчан—Козела, Ясінскага, Варывончыка, Гурыновіча. Зараз у камандзе здаровая канкурэнцыя за месца ў асноўным складзе. Менавіта гэтага нехапала ў мінулым, «чорным» для каманды сезоне...

## «У ХАКЕЙ ГУЛЯЮЦЬ САПРАЎДНЫЯ МУЖЧЫНЫ...»

Хакей—гульня куды больш цяжкая, чым гэта ўяўляюць балельшчыкі. Гул захаплення праносіцца па трыбунах, калі хто-небудзь з ігракоў удала прымяняе сілавы прыём, але наўрад ці хто з гледачоў думае аб тым, наколькі «соладка» таму хакеісту, супраць якога гэты прыём быў прыменены. А колькі непрыкметных для балельшчыкаў вялікіх і малых сутыкненняў адбываецца на пляцоўцы! А калі гульня адбываецца на адкрытай пляцоўцы, дзе лёд мяккі, дзе шайба раптам цяжэе, дзе хакеіст за адну змену «выкладваецца» больш, чым за цэлы перыяд у закрытым памяшканні... Усё гэта застаецца для балельшчыка, як кажуць, за кадрам. Затое ўсё гэта добра вядома ігракам і трэнерам. Ці спрабаваў хто-небудзь з балельшчыкаў хоць бы аднойчы прыняць на сябе шайбу? А хакеіст прымае на сябе гумавы дыск вагой 200 грамаў, які ляціць з хуткасцю 100 кіламетраў у гадзіну, не раз і не два за гульню. І не пакідае пляцоўкі. Не пакідае не таму, што яму не баліць, а таму, што трэба гуляць. Ёсць жалезнае правіла: выйшаў на лёд—трэба гуляць.

Перад пачаткам сезона я быў відавочцам цікавага выпадку. Трэнеры «Тарпеда» ўгаворвалі аднаго маладога чалавека гуляць у камандзе майстроў. Угаворвалі, упрошвалі, а ён крыўляўся, нешта мямліў і ўрэшце адмовіўся. У хлопца немалыя здольнасці, можа, нават талент, але няма жадання працаваць. Пагуляць ён не супраць, пакрасавацца перад публікай, паказаць сябе, аднак пабываў на зборах «Тарпеда», зведаў салёны смак поту на трэніроўках і—вырашыў адмовіцца. Я не бяруся асуджаць яго за гэтую слабасць, аднак здаецца ўсё ж, што пры ўсім ягоным таленце хлопец наўрад ці стане сапраўдным майстрам. Для гэтага адных здольнасцяў мала. Як спяваецца ў папулярнай песеньцы: «У хакей гуляюць сапраўдныя мужчыны...» А калі ты сапраўдны мужчына, дык і любіць павінен памужчынску, не баяцца, што будзе цяжка, мо, нават, невыносна цяжка. Толькі тады любоў твая знойдзе водгук.

У мінскае «Тарпеда» не так даўно прыйшоў быў з рыжскага «Дынама» Уласюк, хакеіст з вялікімі магчымасцямі і з вопытам. Але на старце сезона ў спісе ігракоў «Тарпеда» яго не было. Справа ўся ў тым, што Уласюк хацеў гуляць толькі тады, калі яму гэтага хацелася, трэніравацца таксама прыходзіў тады, калі надумаецца. З ім давялося развітацца.

Нагадаць гэты факт варта вось чаму. Зараз без перабольшання можна сказаць, што каманда пачынае новае жыццё, і ў гэтым жыцці няма месца такім ігракам, як Уласюк. Адбор у каманду ідзе не толькі па прынцыпе, што ты ўмееш рабіць, а—ці любіш ты хакей, ці хочаш ты гуляць.

Праўда, многія маладыя ігракі сёння пакуль што ўступаюць таму ж Уласюку ў майстэрстве. А заўтра? Гэта вырашаць яны самі.

## ШТО НАПЕРАДЗЕ?

Я ўсё-такі веру ў заўтрашні дзень «Тарпеда». І для гэтага ёсць усе падставы. Каманда няблага выглядала на турніры «Савецкага спорту», ва Уфе, дзе разыгрываўся прыз імя Салавата Юлаева, у польскім горадзе Катовіцы. Мінчане ўпэўнена перайгравалі не толькі сваіх будучых супернікаў па другой групе, але і перамаглі каманды, якія летась прыязджалі ў Мінск, як на лёгкую прагулку. У каманды паявіўся запал, нават якаясьці задзірлівасць. Ігракі ірвуцца на лёд, у бой, але...

Вось тут і трэба яшчэ раз пагаварыць пра тое, пра што я ўжо казаў у пачатку. Для таго, каб зноў не забывацца на будучыню беларускага хакея. Камандзе неабходны дапамога і ўвага з боку ўсіх арганізацый, што маюць адносіны да спорту. Напрыклад, даўно пара падумаць, што тарпедаўцам патрэбна спартыўная база, што камандзе трэба было б мець хоць маленькую, але сваю спартыўную залу. А яшчэ ёй патрэбен лёд.

Да гэтага часу тарпедаўцы сядзяць на галодным лёдавым пайку. Лёд яны атрымліваюць, як падарунак, а не як месца для трэніровак і гульняў. У мінулым сезоне яны правялі пад дахам толькі дзесяць гульняў. Увесь астатні трэніровачны і гульнявы час праходзіў на адкрытай пляцоўцы. А яна адкрыта і снегу, і дажджу, і пылу. На трэніроўцы праз 10—15 мінут хакеісты баяцца тармазіць, бо пыл «з'ядае» лязо канькоў, нібы наждак. У перапынках паміж перыядамі даводзіцца заточваць канькі.

Аднак праблема лёду стаіць не толькі перад камандай майстроў. Лёд, як паветра, патрэбен і ўсім астатнім камандам рэспублікі, у якіх расце папаўненне для каманды майстроў.

Мне неаднойчы даводзілася бачыць такое. На адкрытай пляцоўцы займалася—недзе каля дзесяці-адзінаццаці гадзін вечара—добрая сотня падлеткаў. Так, не група, а натоўп. Хлапчукі вадзілі шайбу, кідалі яе, рабілі паскарэнні, але найчасцей усё гэта рабілі самі па сабе, бо трэнеры проста не маглі прасачыць за кожным, памагчы яму выправіць памылку: выхаванцаў занадта шмат. Прычына? Тая ж самая: лёд. Ён патрэбен і тарпедаўцам, і хакеістам каманд класа «Б», і гэтым самым хлапчукам. Можа быць, ім у самую першую чаргу, таму што яны—будучыня нашага хакея. А трэніравацца ім даводзіцца ледзь не ўначы: раней пляцоўка занята.

І яшчэ адна немалаважная акалічнасць. У Мінску ёсць розныя спецыялізаваныя спартыўныя дзіцячыя і юначыя школы. Падрастаюць у іх будучыя легкаатлеты, плыўцы, барцы, баскетбалісты, але—не хакеісты. Вядома, школу стварыць нялёгка, але ж калі-небудзь трэба пачынаць. Чым раней гэта адбудзецца, тым больш карысці будзе для нашага хакея. Хто ведае, магчыма, менавіта ў дварах Мінска бяруць у рукі клюшкі і ігракі зборнай СССР 1985 года. І вельмі важна сёння дапамагчы ім. Тады цяжкая, няхай сабе часам нават няўдзячная чарнавая работа сёння павернецца заўтра ззяючай зоркай удачы.

Калі выйдзе з друку гэты нумар часопіса, чарговы хакейны сезон для каманд другой групы «А» будзе ў самым разгары. Трэба сказаць, што «Тарпеда» заўсёды няблага стартавала, а затым назіраўся спад. Выклікаўся ён многімі прычынамі, пра якія мы ўжо гаварылі. Але аб адной варта сказаць яшчэ раз. Зноў—лёд. Перадсезонне каманда праводзіць часткова дома, а часткова ў гасцях, там, дзе хакей любяць больш, чым у Мінску, і даюць лёд не толькі сваім выхаванцам, але і гасцям. А з пачаткам сезона такіх магчымасцяў каманда ўжо не мае, і гэта ў значнай ступені зніжае яе баяздольнасць.

У той час, калі будуць чытацца гэтыя нататкі, можна будзе праверыць, наколькі слушныя мае высновы і прапановы. Хачу спадзявацца, што лепшыя словы, сказаныя пра «Тарпеда» 1973—74 гадоў, будуць справядлівыя, што гэты сезон стане вяхой на шляху да адраджэння каманды—флагмана маладога беларускага хакея.

**Віктар ЛЕДЗЕНЕЎ.**
Фота **У. Мяжэвіча** і **Р. Кракава.**



# АФАРЫЗМЫ

## Марцін КОЎЗКІ

Каб усё скрозь бачыць, трэба ўсё наскрозь бачыць.
Схібіць можа кожны, але некаторыя гэта робяць без памылак.
— Хай пераможа дружба,—сказаў слабы.
— Прадаюць з малатка, — праскрыпеў цвік. І знік...
Скапаў гару — пашыраў нару.
Якая тонкая ў зайца скура, даведаешся, зняўшы з яго шкуру.
Вышэйшым дасягненнем тэлепатыі трэба лічыць перадачу бяссэнсіцы на адлегласць.
Каб з'явіўся між нас заўтра Гулівер, дзе мы знайшлі б яму ліліпутаў!
Чаму гэта засынаеш не тады, калі хочаш заснуць, а тады, калі спаць хочацца?
Каб ведаў, як пачаць, шмат бы што скончыў.
Не хапіла слоў даказаць, што не хапае слоў.
Назваў разумнікам! Што ён, прымае мяне за дурня!
Крымінал: у літару закона ўкралася памылка друку.
Найвышэйшая столь у таго, хто ўтуляе галаву ў плечы.

## Павел ШЫБУТ

Ён лічыў сябе сярэднім класікам.
Праварон іць можа і курыца.
Прасіў творчую камандзіроўку на Парнас.
Няма ліха без дабра: пры няўдалым шлюбе быў удалы развод.
Надзеўшы мундзір, не забывайся, што ты быў калісьці ў пялёнках.
Гультай не вінаваты, што іншыя працуюць.
Цікава, чаму яшчэ буслы і аліментаў на плоцяць.
Ваўкі перавяліся! Можна хадзіць у лес.
Браканьеры не маманты — не выміраюць.
Муж і жонка ніяк не маглі падзяліць сваё каханне. Давялося дзяліць маёмасць.

**БУРАЎКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Расоншчыне. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», на Беларускім радыё, намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва», карэспандэнтам «Правды» па Беларусі. Зараз галоўны рэдактар часопіса «Маладосць». Аўтар паэтычных кніг «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выбранае», а таксама аповесці «Тры старонкі з легенды». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**ДУДЗІН Міхаіл** нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Клеўнева Іванаўскай вобласці. Друкавацца пачаў у 1934 годзе. З таго часу выйшла больш за два з паловай дзесяткі ягоных паэтычных зборнікаў. Удзельнік легендарнай абароны Ханка. Вядомы грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР у галіне паэзіі.

**ДАЛІДОВІЧ Генрых** нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янковічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў настаўнікам на Барысаўшчыне. Цяпер літсупрацоўнік часопіса «Полымя».

**ГАРБОЎСКІ Глеб** нарадзіўся ў 1931 годзе, ленінградзец. Шмат ездзіў па краіне. Працаваў падрыўніком на Сахаліне, быў грузчыкам, слесарам, служыў у Савецкай Арміі. Выйшла шэсць ягоных паэтычных зборнікаў.

**МАРОЗАВА Вольга** нарадзілася яшчэ ў мінулым стагоддзі. Дачка славутага рускага вучонага-лесавода Г. Ф. Марозава. У часе Вялікай Айчыннай вайны змагалася за свой родны Ленінград. Аўтабіяграфічная аповесць В. Марозавай «Адзін лёс» была надрукавана ў часопісе «Новый мир».

**МАКСІМАЎ Віктар** нарадзіўся ў 1942 годзе ў Іванаве. Аўтар паэтычных кніг «Открытие», «Встреча», «Жители земли». Лаўрэат прэміі ленінградскага камсамола.

**ГАРЫШЫН Глеб** нарадзіўся ў 1931 годзе. Скончыў філфак Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў журналістам у Барнауле. Цяпер загадвае аддзелам прозы ў часопісе «Аврора». Аўтар больш як дзесяці празаічных зборнікаў.

**ТАРАПЫГІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1928 годзе ў Ленінградзе. Выпускнік Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар дванаццаці кніг паэзіі і прозы. Працуе галоўным рэдактарам часопіса «Аврора».

**КУДРАВЕЦ Анатоль** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна. Скончыў педвучылішча, БДУ імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі, настаўнічаў, працаваў на Беларускім радыё, у газетах «Калгасная праўда», «Літаратура і мастацтва», у выдавецтве «Беларусь», у часопісе «Маладосць». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар кніг прозы «На зялёнай дарозе», «Раданіца».

**БУЙЛО Канстанцыя (Калечыц)** нарадзілася ў 1899 годзе ў Вільні. Скончыла Віленскія настаўніцкія курсы, працавала настаўніцай, была загадчыцай беларускай кнігарні. Друкавацца пачала ў 1910 годзе ў газеце «Наша ніва». Аўтар паэтычных кніг «Курганная кветка», «Світанне», «Выбраныя творы», «На адноўленай зямлі», «Май», «Выбранае» і інш. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 1**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-36-48 — галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 29-38-54 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92 — аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75 — фотакарэспандэнт.

АТ 08695. Здадзена ў набор 29/XI-73 г. Падпісана да друку 27/XII-73 г.
Папера 70×90 1/16. Умоўн. друк. арк. 14. Ул.-выд. арк. 14,9.
Тыраж 18 512 экз. Зак. 640. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



У. ЗУБАРАЎ.
**Дэкаратыўнае пано.**
Чаканка.